# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕСЯТЫ



ЛЮТЫ
1931



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1931

# СЛОВА ПРА ЯКУБА ШЭЛЮ

**Бруно Ясенскі**

Прадсьпеў

Ў белы ночы з іржышч і гумнаў,
Што аквечаны мохам, імжой,
Я зьбіраў словы песьні тэй сумнай
І прыношу скрываўленай, злой.

Ужо восень пахілыя вербы упарта
Расьцінае ў такт жабіных гам.
Вось з апошняй, фальшывай, чырвовай картай
Граю ў дурня са сьмерцю я сам.

Можа заўтра праедзе ўжо трактар
Па тых гонях з убогіх лат.
Прыдзе змрок—барадаты пактар—
Возьме поле у чорны пакт.

І на дзесяць, ці сто некіх міль наўкола,
Дзе лажылася жыта ў пакат,
Ўздыме места вялізнае голаў,—
Камяніцаў шумлівы сад.

І як зноў ступіць ноч на узьмежках
Ў белай туніцы месячных плям,
Зьвіснуць цяжка над польнай сьцежкай
Яблыкі электрычных лямп.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ў белы ночы, з-за купаў ажыны,
Дзе сонца хавала свой зад,
Выла песьня на месяц няўпынна,
Як сабака гадзінамі ўрад.

І сланялася ў полі, слалася пластам,
Уставала, дрыжала, як зьвялы ліст,
Калі-ж ранкам спужаў яе пастыр,
Кроплі крыві у разорах былі.

Гэта песьня нейк раз мяне высьцігла ў полі,
Паваліла, сьцяла, загадала: служы!
Адарвала язык—пустазельле так полюць—
І заместа яго уваткнула нажы.

Прышла ўзімку самлелай, скалелай: я змоўчаў!
Папрасіла: дай словаў! дай цяжкіх як сноп!
І ў грудзі ўрасла з прагавітасьцю воўчай,
Наелася сэрца, дайшла да вантроб.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калісь лета адчыніць нам дзьверы
Сэрцаў зьбітых, прыбітых на дол.
Сядзем усе за аднэй вячэрай,
Ўся зямля—за адзіны стол.

Спыніць дзень той свой лёт пераможны,
Як гукнуць яму: стой! не заходзь!
Прынясе ўсё найлепшае кожны,
Будзе сьвет весялейшы стокроць!

К тому дню, што румяны, напорны,
Што абёцаны шквaламі бур,
Сядзем ўсе—і чырвоны і чорны—
Змыем фарбы са сьцягаў і скур.

К тому дню—сёньня заўтрае ўзвысім!—
Што трапеча ў крыві, нібы карп,
Вам прыношу на глінянай місе
Злую песьню—найбольшы мой скарб!

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Танцавалі хата, стол,
Танцавалі коні, вол,
І каровы у аборах,
Як няхват было танцорак.

Танцавалі хата, зруб—
Як бяда—дык, гэй, пад шлюб!
З коньмі—вёдры, з людзьмі—кубкі
У танок ішлі залюбкі!

Танцавалі бас, клярнэт,
Белы шлях у ясны сьвет

Выкідаў бярозаў ногі
На гасьцінцы на аблогім.

Танцавалі хата, вёска—
Як бяда—дык кожны цёзка!

*

Крапаў дождж. Плакаў дождж.
Зацярушваў шыбкі.
Завадзілі, лабузілі
Ў цеснай хаце скрыпкі:

Ой, Марылька, да чагота,
Што ў вачох тваіх маркота,
Што сьляза зьбягае з вочак,
Слова вымавіць ня хочаш?

Ці ўраклі цябе, нябожа,
Ці шкадуеш сваіх ножак,
Што ня скачаш, як другая?—
Сёньня шлюб твой, маладая!

*

Крапаў дождж. Плакаў дождж.
Злосна вецер гасаў.
Задзіўляўся пруткі бас,
Мармытаў ён басам:

Ці-ж твае, Марыля,
Былі вочы ў бельмах,
Што цябе прывабіў
Гэты чорны стэльмах?

А дзе-ж ты, Марыля,
Мела вочы, бровы,
Што цябе натрапіў
На малое ўдовы?

Ці-ж твае, Марыля,
Усе сьцежкі сьцерты?—
Загубіў тры жонкі,
Згубіць і чацьверту.

Будзеш выці-плакаць,
Будзе біць бязбожнік,—

Спакусілася, Марыля,
На загон той пожні.

Марыля, Марылька,
Ці-ж табе ня люба,
Што гуду, бы ў дуду,
Што гуду так грррўба.

*

Крапаў дождж. Плакаў дождж.
Кропляй кроплю зьмётаў.
Усьміхаўся, заліваўся
Тонкі піск клярнэта:

Так, Марылька, табе збрыдла,
Што ня хочаш пасьвіць быдла,
Што ня хочаш гнаць гусей?—
Ну, дык, замуж, ну, хутчэй!

Дурань дурня не аб'едзе
Любы ўдовы?—дзецца недзе!
Ня крыўдуй, што злы, лядач—
Сама выбрала—ну й плач!

Стала з Шэлі заручонай,
Год пятнаццаць ня было на'т.
Раіў дзядзька, раіў ксёндз:
Пачакай 'шчэ, ня выходзь!

Адказаць ня мела спрыту:
Ідзі, Шэля, мне стары ты!
Маеш больш за трыццаць тры,
Іншым голавы дуры.

Крапаў дождж. Плакаў дождж.
Раўчакамі сьцёкаў.
Танцавалі цэлай вёскай—
Брыль задзёрся стрэхаў.

*

Грай-жа, Іцка, грай-жа, Бэрка!
Вось гарэлкі паўкватэрка!
Вось гарэлкі цэла кварта—
Шлюб чацьверты—выпіць варта!

Гэй, Марылька, йдзі ў таночак.
Мне тваіх ня ўкрадуць вочак,

Ўжо са мной твой кожны подых,
Ўжо мая ты назаўсёды.

Стаяць вербы паўз плот Шэлін,—
Прышлі глянуць на вясельле.
Йдзі, Марылька, кліч у хату—
Пітва-ежы ў нас дастатак.

*

Ї было-ж табе, Марылька,
Трэба урачы так,
Што магу табою толькі
Ўцішыць ненасытак.

Ї было-ж табе мне даці
Дзіўнага любістку,
Што ўва мне палае ўсенька,
Хоць нажом скрабі стуль.

Ї было-ж табе ўрасьці так
Моцна, як галінцы,
Што ўсяго, здаецца, хочаш
Выпіць па крывінцы.

Ані як цябе ня вырваць,
Хоць сячы вантробы.
Удавіўся я табою
Як асьцём нядобрым.

Без цябе мне дом ня домам
Ї няўцешна памяць—
Толькі мне зірні у вочы
Ї абві рукамі.

Агарнула хвор-нядужасьць,
Ёю дзіўна так стрыножан,
Што хацеў-бы, як зямелька,
Парасьці увесь я збожжам.

Што стаяць хацеў-бы ў садзе,
Як вулей, вулей пчаліны,
Каб гулі наўкола пчолы,
А ня гэты боль няўпынны.

Мусіць штосьць ва мне дасьпела,
Заліло, як шыр паводкі,

Што як сноп валюся сёньня
Пад сярпом тваім салодкім.

Мусіць штось ва мне бушуе.
Нібы ў піве саладзіны.
Пакаштуй яго, Марыля,
Асалі сьлязой адзінай.

Ой, ва мне, старым, распусным
Ўзбушавала дзіўна слодыч.
Што гусьцей, чым сок маліны,
І салодшая ад мёду.

І утульна-ж я атулен,
Як кажухам, тэй дабротай,
Каб магла прыгубіць к вуснам
Ты ўсяго мяне, дурноту.

Дык схіліся ты над ёю,
Пі а пі—а колькі хочаш,
А пасьля расплёскай рэштку
Праз сваволю, праз дзявочу.

Але перш мне асалоду
Вымер вуснаў меркай сьпеўнай.
Жоўты колас сьпее ў сэрцы—
Ты яго саб'еш напэўна.

*

А й дурны-ж ты, Шэля, дурня горай!
А і добры ж з цябе, Шэля, муж.
З кірмашу навёз дабра—убёраў,
Зараз гал саўешся, нібы вуж.

А й дзівак-жа ты, дзівак няшчасны!
А і дзе ты гэткі, Шэля, рос?
За пагляд вачэй Марылькі ясных
Цэлы-б рынак ёй скупіў—прывёз.

Хоць, бы яблыню, яе ўбяры ты,
Хоць сябе ты жменяй рві а рві,—
Не змагчы ніяк дабром ня бітай,
Смаглай прагі бабскае крыві.

А ня чуеш-жа ты, Шэля, плётак,
І ня бачыш, хоць 'шчэ зрок ня стух,

Што ў авёс Марыля ходзіць потай,
З ёю гнуткі Вінцусь, твой пастух.

А спытаў-бы ты хоць сена гэта
І снапы ў гуменцы з дзьвёх старон,
Колькі раз з іх сходзіла сагрэтай
Ў асьцюкох Марыля, ну, і ён.—

*

Ў карася пашчэнкі чорны
Шчупаковы—сівы.
Ня ручыла табе, Шэля,
З тым каханьнем тклівым.

*

У гумне—паўзмрок і сьвежасьць,
Сена соладка кунежыць.
У гумне на‘т жорсткі лубін
Мяккі з тым, якога любім.

„Ўкрый мяне сабой, Вінцэсік.
„Лепей сонейка, чым месік.
„Я каханьня млосьцю п‘яна,
„Ляж, як ліст, на млосьці раны.

— Дай, Марылька, дай мне бліжай
— Кратавіньне персі хіжай.
— Дай мне скібы твайго ўзлоньня
— Плугам выараць сягоньня.

*

Ці-ж зайшло за хмару сонца,
Як за дрэва дзяцел,
Што ясноту сонца гэту
Чорны цень так гаціць.

Ой, ня хмара, не аблокі,
Абляглі шырока,—
Гэта злосны Якуб Шэля
Стаў пасярод току.

*

А як выцяў Шэля раз,
Вякнуў Вінцусь, зьвіўся ў пас.

Як другі цяў Шэля коса—
Два цуркі пабеглі з носа.

Як-жа выцяў вышай броў,
З горла Вінцусь выплюў кроў.

А як цяў чацьверты проста,
Тут Вінцэсю—аман, ростань.

*

Выцер Шэля, выцер кроў:
Ну ты, шлюндра, марш дамоў!

Зашчапіў яе ў хаціне,
Ў поле вышаў млявы, сіні.

Кончыў бомкаць звон і змоўк.
Паў над полем сівы змрок.

Ў зьлітым кроўю йшоў адзеньні,
Сум па полі кідаў жменяй.

Ўстаў на небе месяц—кныш.
Калі дурань—дык цярпі-ж!

*

Як хавалі у нядзельку
Шэліных Вінцэся,
Шкадавалі ўсе на вёсцы,
Што лёс гэткі стрэўся.

Цэлай вёскай выхадзілі
Хоць з парогу, з ганку,
Толькі Шэліных ніводзін
Не падняў фіранку.

І было навошта красьці
Мёд з чужога вульля?—
Ўжо цябе зямелька толькі
Да сябе прытуліць.

І было-ж табе навошта
З чужой жонкай сорам?—
Ня скруціў-бы цябе гэтак
Нават сам аконам.

А і дзе-ж твая, Марыля,
Ці ўжо ў гэткім смутку,
Што ня вышла за труною,
Што ня відна тутка,

Што адзін, як палец, едзеш,
Што так цяжка скаран?
Ой, загінуў-жа ты, Вінцусь,!
Ой, загінуў марна.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Па-над полем узьвіхраных грыў дым
Кропіць мяжой, як з вымя, там уверсе
Мне смак перапаленай крыўды
О, зямля, малако твае персі.

Дзе напала на тлустыя скібы,
Апляла амяла цябе густа.
Накарміла-б, зямля, ты ўсіх-бы
Свае глебы разоваю лустай.

Але шалі дрыжацімуць покі
Руху к мэце стаяць перашкоды:
Вісьне двор, як павук шклянавокі,
Ў павуціне разлогаў выгоды.

Роніць чорныя сьлёзы ажына,
Плачуць гонейкі жальбаю горкай,—
Закруціліся ў нітках пуцінаў
Мухі нэндзных сялянскіх падворкаў.

Прыдзе серп, заскрыгоча саломай,
Тваіх сокаў удоем іскрыстым.
Захлынулася жытняя строма
Кропляй зерня твайго залацістай.

Зноў на сьпелую постаць ледзь золак
Вылезь з возам, з сярпом, чалавеча.
Зложыць сноп свой пакутніцкі голаў
На мужычыя рукі, на плечы.

Улетку цела счарнее, скволіць,
Ногі сьпекае прысак загонаў.
Мяккай ранаю ятрыцца поле
Здрасаванае лапай баронаў.

Ціша лубіны лушчыць з лушпінаў
І ў вантробах, зямля, табе коле.
Згоркла ў фаєках убогіх хацінак
Сыракваша твае мэлянхолі.

Ноччу вечнасьці спаляецца ў людзях,
Штось іх цягне за далі, ў імгліцы.
Сеў на месяцы д'ябал і юдзіць,
Чарвяка ўніз спускае на нітцы.

Водзіць з зазубнем ніць над зямлёю
Нізка так, што зубамі хапіў-бы.
Ў кожным з нас з глыбіні дзесь гурбою
Усплываюць бліскучыя рыбы.

Месяц гноем сьмярдзіць з абораў
Дрэмлюць коні у зацішку стаень,
Сівым лесам, вільготным борам
З кожным днём, павольней сьвітае.

Дзень паўзе з кожным днём больш аслабла...
Хутка-ж змрок і наш скон ці-ж ня бліжай?
На мільгаючай вудзе д'ябла
Сэрца ў муках зьвіваецца сьліжам.

*

Ой, нікому гэтак,
Як прыгонным людзям,—
Мусіш быць вясёлы,
Хоць смыліць у грудзях.

Ой, нікому гэтак,
А зрабі што-небудзь,—
Звозяць збожжа пану,
Нібы так і трэба.

У людзей прыгонных
Аніколі сьвята—
Што надкусіць пан той,
Скончаць панянята.

Мужыку бог шэнціць,
Няма скаргі стала—
Бацька быў хамула,
Сын—панічык зухвалы.

Улетку перад жнівам
Кожны ў карчму вінен—
Хам, як пёрка лёгкі,
Сам за ветрам плыне.

У корчмах перад жнівам
Напавер нікому,
Пан чаго ня зьесьць сам,
Кіне цюцьку тому.

Гасіць цюцька полем,
Хам пакліча:—на, цю'!
Уварве хваста ён,
Скорам мае ў хаце.

*

Лётала, крычала
Гусанька над ставам:
Вашы змовы ў корчмах, людзі,
Ня мужыча справа.

Сьцепаўся, кудахтаў
Чорны кур у градах:
Кіньце змовы вы, мужчынкі,
З іх ня будзе ладу.

Ты, гарэлка—зводнік,
Чортава спакуса,
Не наводзь ты на ліхое
Чорным хлебам кусам.

Хай табе, гарэлка,
Тых паноў расьперці.
Як захопіць нас аконам,
Дык прыб'е да сьмерці.

*

Чуць ня хочуць людзі
Той развагі словы.
У карчме прамовіў неяк
Куба з Гажаёвы:

„І чаго-ж ты, сонца,
Ходзіш, як за ценем?

Ой, відаць, забыўся нешта
Цар пра нас у Вене.

„Ці спароць нам сонца,
Ці мо' больш падперці?
Ужо, мусіць, нам, сялянам,
Толькі й ждаць, што сьмерці.

„Хто пра крыўду нашу
Там яму замовіць?—
Хіба можа пан намесьнік [1])
У высокім Львове.

На паноў ня мае
Пан намесьнік вока,
Адно й думак, каб з сялянства
Скінуць пана—цмока.

Да мужычай жальбы
Мае ён увагу,
Хай адно калі прачуе,
Дзе пад панам блага.

Як яму скуль вёска
Пашле скаргу—ліст той,
Яго зараз прачытае
Ў залі залацістa.

Толькі з поштай нешта
Ліст мужычы гіне.
Нехта свой ад цэлай гміны
З імісьці павінен.

Маем шмат мы крыўдаў,
Бы к сяўбе гароху—
Хай загад хоць нейкі выдасьць,
Каб паволіць троха.

*

Паскраблі людцы галовы.
Затаіла ціша словы.
Каго ліха пхне й чаго
У сьвет за вочы—о-го-го!

[1]) Намесьнік—начальнік краіны ў б. Аўстрыі, прыбліна як генэрал-губарнатар у б. Расіі

Як захопяць на шляху дзе,
Сьмерць таму, напэўна, будзе.
Лепш у хаце гора крыж.
Не парушыў жадны ціш.

Як праліўся цішы келіх,
З-пад сьцяны падняўся Шэля,
З плеч зваліў ён слова куль,
Ўзьняў кругі адгэтуль, стуль:

„Што-ж, паном на нас і ехаць?
Штосьці, хлопцы, ў сьвет нам нехаць?
Лепш бяды—нядолі косьць,
Чымся ўводзіць пана ў злосьць?

„Час ключы браць ад абораў.
Вока пана коні пора.
„Пад сякерай хмуры лес
У зямлю да пасу ўлез.

„Як карась купаюся ў поце,
Але пану ня стань проці.
„Гніся ў працы дзень-у-дзень
Пану зерня, нам асьцень.

„Больш клясьці за вуглам годзе—
Як ніхто, дык я йсьці згодзен!
„З вёскі ў сьвет шлях просты лёг.
Ногі звыкшы да дарог!

Вылі ў сэрцы жаль і мука,
Шоў да хаты, цяжка грукаў.
Цьвіў на небе месяц—квет
Як выходзіў быў ўжо́ сьвет.

*

Ой, бясконца далёка дарога!
Ой, ня блізка пуціна-дарожка!
Колькі верб і альшыны—нябожа,
На плячох неба цяжкая ношка.

А праз гоні бяжыш, праз чые ты,
Што цябе не засек пан дазваньня?
А і ўешся, дарога, ты сьветам,
Як бабулькі трухлявай літаньне.

На горы ўвесь у лісьці бярозак,
Покі холадам лісьце ня сьцята,
Сушыць цэркаў мужычы мозак,
Долю вёскі, як мокрую шмату.

Ой, ні выплыць, ні згінуць тэй долі,
Сінім вуснам ня змоўкнуць ад гліны,
Даўгарукі вятрак—сваволя
Разграбае нябёс шумавіны.

Не балеў мне, дарога, твой смутак,
І табе мне ўжо скардзіцца позна-ж!
Белым крыжам цярпеньня й пакуты
Залягла ты, дарога, пад воз наш.

Хай-жа больш будзе воз наш нагружан,
Сваім потам сальлем яго кола!
Ты сьлязьмі зелянкавых калюжын
Пазіраеш падсьлепа наўкола.

Ўжо цябе нам ня высьпеваць крыкам,
Лепш згандлюема боль твой ня крыты,
П'яным старцам з падсьлепаю пыкай
Валачэшся з карчмы да карчмы ты.

Сонца здасца то бутлей, то шклянкай,
Яго гоніць вятрыска-аблуда—
Падманула мяне, ашуканка,
Не вядзеш ты, дарога, нікуды.

*

Ў месьце Львове людна, клумна,
Лямп, як тых зярнят у гумнах,
Па бакох, як лялек, гмахаў,
Пасярод дарога—свахай.

Ў месьце Львове, белым месьце,
Ў кожным доме вакон з дзьвесьце,
Ў кожным з вокан краска пані,
Шыты золатам убраньні.

І як толькі вокам скінуць,
Кожны дом, як сот пчаліны:
Сам пляскаты, зьверху гладкі,
А пакоі, як шуфлядкі.

Ў месьце Львове сьцежкай чыстай
Ходзіць панства ганарыста,
А паненкі, нібы павы—
Не падымуць ножкі нават.

З вуліц люд плыве разводзьдзем
І жандар між люду ходзіць,—
Хто ісьці у такт ня згодны,
Таго зараз да халоднай.

Ў месьце Львове аднэй меры
Растуць дрэвы гнеда-шэры,
Як буслы там на пярэсьпе,
На аднэй яны назе сьпяць.

На іх лісьце—арнамэнты,
На іх жменяй—дыямэнты,
Вартаўнік стаіць пад кожным,
З іх сарваць—ані ня можна.

Ў месьце Львове ксяндзоў плойма,
Ў рад касьцёлы стаяць стойма.
У касьцёлах мша штодзенна,
Зьяньне ўбёраў неацэнна.

У касьцёл, у жар ці ў хлюпу,
Хто бяднейшы—няма ўступу.
Едзе панства—шнур карэтаў—
Як цары да Назарэту.

Сядзяць старцы пад касьцёлам,
Сядзяць, сьвецяць целам голым—
Пад рызьзём палічыш косьці,
Просяць, шэпчуць, мымраць штосьці.

З кім бяда—да іх ты проша.
Пройдзе пані—кіне грошык.
Пройдзе стражнік з тоўстай мордай—
Каму арышт, каму горай.

Ў месьце Львове—гмахаў розных:—
З боку шкляны, сам парожны,
З-за вакон шкляных тых скрынак,
Як у полі мыдляў,—шынак.

Люд з бяднейшых тут ўсялякі
Пхнецца глянуць на прысмакі,

Кожны тут палкае сьліну,
Гарляк бегае бяз спыну.

Там, дзе ежы ажно копы,
Ходзіць ноччу вёскі клопат.
Стукне ў цэглу, гляне вокал,
У палацы кіне вокам.

Раніцой на ўсіх заводах
Зык, як сотні баб пры родах,
Аж дрыжаць муры й панове
Ў белым месьце, месьце Львове.

*

Дні аскубаюць з дрэваў лісьце чыста,
Мацнейшае яшчэ ліпіць да часу,
Цікавіць львоўскіх тых канцылярыстаў,
Ці зможа ўпор мужычы перагасу.

Лягчэй той кроплі праз сьцяну пралецяць
Чым тут бяз хабару дайсьці парадку.
Што гэта за мужык праз месяц трэці
Сьцірае ва ўстановах пыл азадкам?

На двор к дурному з возам едзе шчасьце,
Ніхто ня згледзіць на‘т з якіх там весьніц
На мужыка найшоў (было-ж прыпасьці!)
Ў пакоях урадовых сам намесьнік.

На злы настрой яму—дык лепш ня лезьці,
На добры трапіш—дык адразу згода!
Сказаў намесьнік мужыку прысесьці,
Усё выслухаў: якая ў чым прыгода!

Штось доўга разважаў, нібы з амбону,
Уздымаў руку, як той артыст зацяты.
„Усё—кажа—сам разгледжу па закону,
„Махай цяпер на паншчыну дахаты.

Ледзь давалокся Шэля даваротаў.
Зірнуў на мур—збудован моцна майстрам.
Далёка ў сьвет,‘шчэ далей з паваротам
З жабрацкім медзяком у сэрца кайстры.

*

Восень ідзе ўжо з хмараў памрокай,
Усіх нас пазьметае безьліччу стрэл.
Певень бляшаны на вежы высокай
Сьпевам і лопатам крыл яе стрэў.

Збожжа гніе не агрэтае сьпёкай
І ноччу ваўкі ўжо абвылі стог.
А дождж спацелы вільготным крокам
Месіць і месіць цеста дарог.

Атручаны булкай сонца з закальцам
Здыхаюць змрокі пад лямант верб.
Дрэў схудалых касьцістыя пальцы
Асыпаў ужо вераб'іны сьверб.

Хутка ўжо, сэрца, загінуць нам трэба,
З градаў душы павыполваць дзядкі,—
Нябёскі бондар у бочку неба
Уночы зор набівае цьвікі.

Ці-ж вечна нам віцца ў турме тэй,
Жмутам скрываўленых рук і ног?
З цёплай крыві нашай болем сагрэтай
Мацу выпякае цадык—бог.

Скаргаю сьлёзнай разьліся, як ставам!
З роспачы хоць галаву растарошч!—
Змоклым крапілам панскай забавы
Збожжа згнаіў нам у полі дождж.

Модлам крывым у дзяўкох векавечыць.
Іншых, вучоных прымае як сьлед.
Толькі мужычыя ліха—галеча
З торбаю мусяць цягнуцца ў сьвет.

Лепш чымся выць і да бога скаголіць,
Лобам пакорна схіляцца ніжэй,—
Лепш зямлю, на сваё гэта поле,
Зубы зацяўшы ары і сей.

Ды хоць крывёю зямлю ты напоіш,
Потам сальлеш яе кожны кут—
Не твае ўзыдзе жыта—чужое,
Як чужынец, прыблуда з прыблуд.

Сучцы хапіла-б ганьні з аднэй вёскі,
Ёй-жа ня зьлічыш ахвяраў—згуб
Сьпіць, дрэмлюць скібы на сонцы ў роскід
Тысячай чорных саромных губ.

Дарма яе за вяскоўца пан выдаў,
Цяжка жыць далей з аднэй удвух—
Тры нямінучыя пальцы вілаў
Цэляць у панскі касьмічны трыбух.

*

Ў ахмістрыні дабра скрыні,
Дываноў, тканінаў.
Ой, вярнуўся Шэля з Львову,
Толькі дзе-ж загінуў?

Ой, загінуў, загубіўся,
Але блізка дзесьці—
Сёмы тыдзень з панскіх лёхаў
Пра яго ні весьці.

Як прылéцеў ён з усходу,
Як той сокал з далі,
Аж да чорна яго білі,
Ў ланцугі скавалі.

Ён сядзіць, вясны чакае,
Дзён прыгнуты ношай.
Еў самыі ў шчодры вечар,
Разгаўляўся вошай.

*

У садзе дрэва тоўста,
Шчэ таўсьцейша ў лесе,
З мужыка жыцьця ня выбіць,
Хай як хочуць месяць.

За гумном у полі
Гурбы сьнегу ў сьцену.
Выпушчаюць з лёхаў Шэлю.
Куды зараз дзенуць.

Кажа пан да служкі:
„Суніму раскола!

„Павядзеце мне яго вы
„На мшу да касьцёла.

„Не давайце есьці,
„Хай тры дні папосьціць,
„Каб быў пострах цэлай вёсцы
„Як зірне на косьці.

То ня змрок карчомны
Схоплен шалам полькі,
То найшло ў касьцёл народу,
Ажно дзіва колькі.

Навалiла тлуму,
Ані ўткнуць далоні.
Аж запах касьцёл галечай
Церпкай, як амоні.

Як ў дзьверы ўходзіў
Шэля з вартавымі,
Скалыхнуўся люд усенькі,
Расступіў прад імі.

Навакол тры крокі
Шлях лёг, як абрусам,
Ўсіх прыгнула наглай цішай,
Як вялізным брусам.

Стаў з парогу Шэля,
Вартаўнік пхнуў далей.
Меў сіняк страшны пад вокам,
Ледзь у твар пазналі.

Калі ксёндз пабожна
Ўзьняў угору кэліх,
Ня укленчыў ён на пліты,
На гнілую бель іх.

Высіўся над людам,
Як нязломны камень,
І ў адказ на звон касьцельны
Бразнуў ланцугамі.

Як яго на посьмех
Вяла босым варта,
Вышла вёска ўся напроці
Бяз усьмеху, жарту.

Толькі з лесу вецер
Разам з бурай рушыў.
Танцавалі ў панскім садзе,
Вывернулі грушу.

А як месяц толькі
Ўзьлез на неба гожа,
Загарэўся дворскі сьвіран
З усім панскім збожжам.

Сьнег засыпаў студні,
Ня стушыць пажару—
Тры дні сажа чорным сьнегам
Цярусіла з хмараў.

*

Нос у пана, нібы сьвечка,
Каля носу—болькі.
Не дазволіў згінуць Шэлю
Той староста[1]) толькі.

Не хацеў пан слухаць-ведаць,
Сёньня—хоць да раны:
На чацьверцы госьць высокі
Завітаў да пана.

Як вітаўся, запытаўся
Ціха і ня груба:
„А ці ёсьць у вас на вёсцы
„Гэткі Шэля Куба?

„Пан Намесьнік, у якога
„Люду, як мурашак,
„Прывітаць казаў, спытацца,
„Ці здароў ён, вашаць?

Як пусьцілі з лёхаў Шэлю,
Прывялі, як ценя,
Галавой круціў староста,
Ўспамінаў аб Вене.

Доўга лаяў па-нямецку
І па-польску чысьціў,

[1]) Староста — адміністрацыйна-паліцэйскі чын у былой Аўстра-Вэнгрыі (Галіччыне) і сучаснай Польшчы, адпавядае іспраўніку за царом у был. Расіі.

Аж дрыжалі ў доме шыбы,
Як асіны лісьце.

Як садзіўся, 'шчэ сварыўся,
Вецер зьметаў голас:
„Каб мне гэтаму вяскоўцу
„Ня упаў на‘т волас!

„Бо вам двор з зямлёй зраўнаю
„І пасыплю вапнай!“—
І ў старую шапку Шэлі
Срэбны гульдэн капнуў.

*

І куды ты, Шэля, ходзіш
Раз на тыдзень, раз на два?
Ці купіць на рынху што-дзе?
Ці што маеш прадаваць?

Не на торг па абаранкі,
Толькі, мусіць, дзесьць важней,
Бо ў карчме аж да заранкі
Вёскай ждуць цябе усей.

*

Ад Смажовы да Тарнова,
Як страла, пуціны-сьцежкі.
Там трава ўзрасла нанова,
Дзе хадзіў ты пешкі.

*

У Тарноў дарога проста.
Кажа Шэлі Брайнль-староста:
„Год за годам—мінус—плюс—
„Крыўдзе вёсак хутка шлюз.

„Пала панству думка й баста—
Хочуць зьнішчыць усіх нас тут.
Маюць пораху там з фунт—
На цара рыхтуюць бунт.

„—І які ты,—кажуць,—цар нам?
Толькі кроў з нас п‘еш пачварна.

Сёму скуру з нас-бы дзёр,
З мужыком адно дабёр.

„—Замест выбіць з хама мухі,
Толькі шырыш ты парухі.
Мужыкі ўздымаюць гам:
Тут ім крыўда, кепска там.

„—З кім дзяліць нам грош мужычы?
Правіць Польшчаю мы зычым!
Хто сялянскі муціць лоб,
Дык таго па лобе—цоп!

„Кажа цар:—мне досьць аблуды!
З імі біцца сам ня буду!
Маюць людзі на іх злосьць,
Дык няхай паўстануць вось!

„Досыць сьлёз лілі няўпынных.
Ў іхняй крыўдзе я ня вінны.
Так зраблю, каб бунт той сьціх:
Панству—скон, зямелька—іх.

„За табой ідуць сяляне.
Ты хадзіў у Львоў, мой пане.
Дык зрабі ты так і так—
Прыдзе момант—дай ім знак.

„Ў вашай жмені лёсу вобраць.
Што кажу, разваж ты добра.
Тым зямля, а тым труна.
Табе сьцежка тут адна".

Устаў Шэля—быў ён бледы:
„Зьверым вёскаю як сьлед мы
Кожны локаць, кожну чвэрць—
Каму воля, каму сьмерць".

Ідзі, Шэля, чухай карак.
Што пачуў, узваж ты зараз.
Ходзіць лесам воўк,—але
Думаць думкі ў лесе лепш.

Ноччу холад стукне, ляпне.
Пні ў сьнягу стаяць, бы ў вапне.
Ў лесе трэск, як трэск сарок.
Сьцежка—неба—сьнег і крок.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

Не ўставала сонца—квола,
Не рассыпала 'шчэ косак—
Вышаў Шэля ледзьве золак
Да суседніх вёсак.

Сеў у полі перабуцца,
Рушыў далей па аблоне,
Аж хрыстос яму насустрач
На смажоўскіх гонях.

Як пазнаў, зьдзівіўся Шэля
Схінуўся да паса:
„І куды-ж пан бог нацэліў
„Што меў тут папасак!"

То ня слова вее мёдам,
Як з капэлі флейта,
То, схіліўшыся лагодна,
Кажа Езус гэтак:

„Не змарудзела дарога,
Хоць іду я зблізка.
Ці ня чуў ты тут, нябога,
Вёска дзе Сядліска.

„Там, дзе мост мінаў праз рэчку,
З крыгаю пад мостам,
Мужыкі паноў калечаць,
Б'юць і рэжуць проста.

„Ўжо мне ў ножках тнуць бы восы,
Болькі ран цьвікі дзе,—
А крыві там аж за досыць,
Як яе абыдзеш!

„Нам дарогі бог прызначыў,
Ня йдзем імі часта—
Адкажы ты мне, бядача,
Ці пасьпею ў час там".

То ня топаль ў неба стрэліў,
То ня гук савіны,
То хрысту гаворыць Шэля
Гарда і з прыцінам:

„Добра, мусіць, хто скрывіў дзе,
Паслы шляхты знаюць,
Калі слух аб іхняй крыўдзе
Ўжо на небе маеш.

„А й вялікі з таго вецер
Дзьме, ўздымае гоман,
Што аж сам хрыстос па сьвеце
Ім бяжыць на помач.

„А не бегаў, калі нашых
Крыўд лілася кварта!
Мусіць, гарца панскай кашы
Наша кроў нявартa.

„Больш сутану падымі ты
І ступай ня хутка,
Бо крывёю нашай зьліта
Кожная тут грудка.

„Не цаніў крыві сялянскай
На шчарбаты шэляг!—
Чаму-ж тут аб крыўдзе панскай
Гэтак забалела?

„Тое станецца, што стане.
Раз хоць дзень наш вытык.
Але лепей сёньня, пане,
Не хадзі туды ты.

„І нашто з мужычым горам
Твар сустрэцца з тварам?
Сёньня там з крыві той мора
Хмельна піва вараць.

„Нам свайго ня рай ты раю,—
З нашых сьлёз ён зьлеплен!
Хай табе іх пазьбіраюць,
Каб убраўся лепей.

„Схавай рук сваіх далоні,—
Іх ня спляміў працай.
Гэткіх хлопцы вяжуць сёньня,
Толькі дзе пабачыць.

„Хутка з жальбай тут на „хама“
Зьлезуцца, як вусень.

Ты ідзі, прыладзь ім браму,
Ў рай прымі у скрусе.

„Прыгатуй ім там пачостку
І спаткай як трэба“.
Завярнуўся Шэля ў вёску
А хрыстос на неба.

*

Там на раздарожжы,
Каля валатовак,
Дамаўляліся з сабою
Хлопцы з Гожыёвы.

Быў пастух там Янка—
Ўзімку бегаў боса,
Ён сякерку меў за дзяжкай,
Падпіраўся коскай.

Як зірнулі хаты,
Што яны там недзе,
Падаткнулі лахі-сьцены
Бягучы па сьнезе.

Разагнаў вятрак іх,
Бег ён праз аблогі,
Ў нястрыманы рушыў танец,
Прыснуў дым з падлогі.

*

Танцы йшлі чатыры дні,
Ані больш, ні менш ані.
Танцавалі пяту ноч—
Рынуў двор, бы вецер зьнёс.

Танцавалі тах-тах-тох
Па дарогах, па палёх.
Танцавалі дзе хто мог,
Рыпаў, сыпаў сьнег з-пад ног.

*

Сыпаў сьнег.
                    Браў мароз.
Зьбеглы зьбег
                    Ў сьцюжу ўрос.

З вуснаў кроў—
жах, праклён.
З-пад палёў
мжа, сутон.

*

Танцавалі—ў грыву, ў хвост!—
Хто па лёдзе, хто праз мост.
Ад Сядліска да Смажовы
Шоў у скокі сук яловы.

Танцавалі з хамам пан
Скокам-бокам без заган:
Танцавалі войт, аконам,
Не марудзілі прад сконам.

Танцавалі зуб аб зуб—
Праз вакно палацу труп.
Танцавалі ў лад, бяз ладу,
Штораз нехта ў танцы падаў.

Танцавалі раз у раз.
З вёскі косы, панскі пас.
Ў агародах плытка-мелка
Кроў цякла ў рыштках гарэлкай.

Танцавалі з панам пень.
Ноч была, як белы дзень.

*

Дзе канец быў скокам—
Двор ляжаў упокат.
Паноў бралі ранкам,
Клалі перад ганкам.

А над вечар сонны
Ехаў месяц конна—
Ў срэбных ботах ногі,
Сівы пад ім вогір.

Дзе быў двор выгодзьдзе,
Папушчаў паводзьдзе.
Дзе кроў бегла спадам,
Прыдзіўляўся ладам.

*

Ой, ты, воля раскілзаная, гарачая,
воля вольная,
воля польная!

Пакацілася ты, воля, ды па полі тым,
сьнегавой прасторай, ночкай чорнаю,
куляй сьнежнаю,—нязморная.

Ты расла, дужэла на выбоінах,
ў ціхім полі ды нястрымана,
шэрым зайцам на азімінах.

Закруцілася ты птахам-бухалам,
ветрам спушчана ў пераменнасьці
на шпагаціне штодзеннасьці.

Разьлілася ты разводзьдзейкам-паводкаю,
навакол сівой адлегаю
аж па край нябёс з кунегаю.

Рушыш вышай гурбаў, завеяй навіненых,
полем тым, за вузкім, захмурым,
танцам—ламаньнем—віхурай
лавінаю!

Ох, ты, воля!

*

„Па зялёным адхонку
Агонь скача ў маёнтку.
Сыпле іскры абцасам,
„Гоп!“—пакрыквае часам.

„Ступіць ледзь па пакоце,
Дык і покатам коце,
Так і косіць ён з раду
І падсьпеўвае к ладу:

„—Ой, смажоўскія людзі
Ля агню не марудзяць—
Каб хутчэй усё згасла,
Дык затушваюць маслам.

„— Ну, а хлопцы з Сядліска
Мяне рвуцца запрыскаць—
Аж з чацьвертага броду
Возяць кошыкам воду.

*

Ці-ж то там з усходу змрок нахмурыў?
Ці курыным пер'ем сыпле з хмар?
Шлях заслалі чорныя мундыры,
Конскі тупат, грукат, вар.

То ня змрок вылазіць з верасоў там.
Не сабачы ў неба чуцен брэх.
Гэта крочыць войска ў пыле жоўтым—
Ў госьці да сялянскіх стрэх.

Не казаў шлях, скуль ён стрэў іх.
Пнямі вербаў бег усьвет, угрунь.
Пастаўлялі ў вёсцы ў козлы стрэльбы —
Новы рад шчыкецін каля пунь.

Паляцела вестка вокамгненна,
Б'ецца лапай да сялянскіх брам:
Цар прыслаў загад свой з Вены,
Каб дзяліць зямлю! Зямелька—нам!

Устаў адзін тут, пёрка—дуба,
У руках паперка: што і як.
Затрашчаў трашчоткай бубен.
Сыпле з бубна ціша—мак.

„Мы, кароль, монарха з боскай ласкі
Немцаў, вэнграў, чэхаў, палякоў,
Кажам мы сялянам кінуць фрашкі,
Ў двор ісьці на працу зноў.

„Хто-ж ня будзе слухацца загаду,
Хто падпаліць двор, сальле крывёй,
Дасьць капрал такому майстру раду,
У салдаты пойдзе той".

Доўга 'шчэ бубніў, гудзеў, як дуднік,
Доўга вецер зносіў словы гэт.
А ўжо вёскай цішай шла, як з студні,
Алавянай хмарай крыла сьвет.

*

Калі вышла з вёскі войска—
— Ёмкія хлапчыны—
Невядома, дзе зьнік Шэля,
Два дні ў прочках гінуў.

Толькі ўноч, апоўнач, цемень—
— 'Шчэ й ня ўсходзіў месяц!—
Гаварыў да дрэваў штосьці
Ў камянецкім лесе.

Як на трэці дзень вярнуўся,
Меў старэчы выраз,
Але быў зацяты моцна
І бы думна вырас.

Там на ростані, ля крыжу,
Дзе, як мак, галоваў,
Шапкай круг замёў з паўнеба,
Мовіў гэткім словам:

„Ой, дарма, вятрак махаеш
Нам рукою крылаў!
Мусіць, доля селяніна
Быць пад панскай сілай.

„Мусіць, бог ня бог яму ўжо,
І той цар—ня царам.
Не абцерці хусткай неба
Нашых сьлёзаў—хмараў.

„Царскім словам мужык верыў
Ўрос ў іх смуткаў ношай,—
Узяў ён, цар, прадаў нас панству
Ды за трыццаць грошы.

„Зараз разам з шляхтай п'е ён
На залёных Вуграх.
Хай той грэх памсьціцца сьмерцю
На яго лахудрах!

„За свае правы мы ўсталі,—
З сваім кожны стануў.
Сам той цар нас падбухторваў,
Як завёўся з панам.

„Потым пяць дзён ён гадзіўся,
Лад зрабіў з панамі:
На мужычай скуры згоду
Сьпісваць бізунамі.

„Зараз граюць, запіваюць
Новых зьдзекаў завязь.
Дарма верыць, што там нехта
Нашай крыўды ўбавіць!“

*

Годзе з панскай ласкі зла!
Не павернем ні сьцябла!
Ўсё лепш дымам пойдзе ўкруг.
Наша паша, наш і луг!

Згандляваў з панамі цар:
Панскі ёрмы, хамскі карк.
Згандляваў—ўладай і пей!
Купля лёгка, ўзяць цяжэй!

*

Хам быў хам. Гнуў ён карк.
Сёньня сам—цэпам шарх!
Бунт, дык бунт! Хочаш?—на-ж!
Возьмем грунт. Грунт той—наш!

*

Не адцьвілі кветкі
На лагу—абшары,
Як прыехалі па Шэлю
Царскія жандары.

Уцякала ночка
Ды зялёным лугам,
Як скавалі яго ручкі
Ланцугамі туга.

Як вялі Якуба
Вёскаю бядачай,
Як адзін людцы ўсе вышлі
Праваджалі з плачам.

Як вялі Якуба
Пад каштанам белым,
З неба сыпаліся зоркі,
Падалі зьнямела.

Як вялі нябогу
Тэю кладкай гнуткай,
Вышлі рыбы па-над бераг
Лавіць людзі вудкай.

У рацэ вялікі
Узьнялі тым вэрлах,
Калі сьледам, як сабакаў,
Моц іх страшна перла.

Як вялі балотам
Тым, што сьмерцю дарыць,
Ваўкі вышлі, зьелі ў лесе
Аднаго жандара.

А як з ім міналі
Ялавец сухі той,
Падганялі ўсё жандары,
Пхалі:—ну, ідзі ты.

„Ялавец, ялоўча,
Зелена убраны,
Папільнуй мне лес ты гэты,
Даглядзі старанна.

„Ой, пільнуй яго ты,
Нібы хмель той явар.
Будзе трэба 'шчэ сукоў тых,
Як дасьпее справа.

„Гэй дадому, хлопцы!
Годзе ўжо маркоты.
Прыдзе лета, толькі верце,
Будзе зноў работы.

„Выйдуць дзеўкі ў поле,
Пустазельле вырвуць.
На крыві тэй узыйдзе збожжа,
Будзе колас чырван.

„На чужым рабілі,
Мелі хлеб з мякінай.
Прыдзем збожжа жаць на ўласным,
Кожны сноп—асьміна.

„Панства, паняняты,
Дарма сны пра згоду!
Перш агонь улетку прыдзе
Піць са студні воду.,

„Каб на‘т шлях, дзе дом мой,
Стаў палеткам ворным,
Узрасьце на вас там помста,
Нібы колас чорны.

„Каб ня мог на‘т колас
Там зярнят дасьпеліць,
Не забудзе вёска-ўдоўка
Што жыў стэльмах Шэля.

„Шанцавала рунь нам,
Быў напужан лёс тым,
Вышаў у поле за абору,
Лінуў шчырым постам.

„Мясаед наш скончан.
Шчыльней шчэлім вусны!
Зьвіснуць хаму на вяроўцы
Селядцом запусным“.

Пераклаў з польскае мовы

**Ул. Жылка.**

## АДШЧАПЕНЕЦ [1])

**Тарас Гушча**

### VII

Добрыя вярсты тры прайшоў Ракоп, калі ў полі пачало сьвятлець, займацца на сьвет. Парадзеў, рассунуўся цяжкі і сьляпы змрок, выпускаючы з свае няволі тонкія празрыстыя абрысы зімняга пэйзажу, журботнага ў сваёй застылай паныласьці.

Ніякай акрэсьленай мэты ў Пракопа ня было, калі ён наважыўся на гэтае самавыгнаньне. Ён проста выказаў свой протэст, абурэньне і крыўду ў форме гэтых старых традыцыйных прочак. Але чым далей адыходзіўся ён ад свайго котлішча, тым з большаю сілаю ахаплялі і наступалі на яго гэтыя чужыя, халодныя прасторы, сярод якіх вастрэй адчувалася адзінота і сіроцтва на сьвеце, і тым ярчэй уставала ў вачох яго хата, гаспадарка, сваякі і суседзі і ўсё, з чым ён зжыўся за доўгія гады сялянскай працы.

Жаласьць да самога сябе агарнула Пракопа. Хто ён цяпер? брадзяга, жабрак, бяздомнік! Але разам з гэтым была і нейкая асалода ў той жаласьці і пакуце і ў гэтым бадзяньні яго, няясным, як і гэты змрок. Праўда, яго ніхто не выганяў, ён сам захацеў так, гэта яго добрая воля. У яго ўласнай волі вярнуцца назад. Пракоп прыпыніўся, азірнуўся. Некалькі агоньчыкаў цьмяна блішчэлі сям-там у парадзелым ранічным змроку... было кароткае змаганьне з самым сабою... Не: назад ён ня вернецца—не скарыцца перад чужою воляю! І ён моцна пратрубіў носам апошняе разьвітаньне з тым, што засталося там, і цьвёрда заківаўся далей. У яго ёсьць яшчэ сіла, ёсьць прывыкшыя, прызвычаеныя да работы рукі. З імі ён не прападзе. З гэтымі думкамі ішоў ён наперад.

Быў у Затоньні Пракоп, цяпер яго там няма. Затонская грамадзкасьць яшчэ і ня ведала аб гэтым: час быў дужа раньні, а пасьля такога важнага сходу спаць паклаліся позна. Толькі ў Пракопавай хаце сьвяціўся агонь. Тацяна і Мікіта адчувалі крыху сваю віну перад Пракопам, і ня так было-б ім цяжка, калі-б ён проста памёр, як належыць кожнаму чалавеку. А то жывы, і няма яго. Кінуў дом і пашоў, куды, невядома. Вернецца ён ці не, ці наложыць на сябе рукі,—нічога невядома. Вось гэтая невядомасьць і прыгнятала іх больш за ўсё.

---

[1]) Працяг. Гл. „Полымя“ № 11—12 за 1930 г.

— Што-ж рабіць?—поўная бездапаможнасьць чулася ў Тацянінын голасе.

Мікіта панура маўчаў, адчуваючы, што на ім цяпер ляжыць адказнасьць, бо ён адзін мужчына ў хаце, ён галава. А ў гэтай галаве і ў маладым сэрцы мітусіўся зблутаны клубок мысьляў і пачуцьцяў. З іх перапляценьня выразьней вылучаліся дзьве процілеглыя плыні: жаласьць да бацькі і абурэньне супроць яго тупой несьвядомасьці.

Накінуўшы на плечы кажушок, Тацяна ў непакою вышла на двор. Панурыя сьцены нізкіх будынкаў, белая зямля, нахмуранае цёмнае неба і халодны змрок між імі таілі ў сабе няветлую цішыню і маўклівасьць. З усходу падыхаў востры, калючы вецярок, шурхаючы па страсе сухім сьнегам, а з-пад балотца даносіўся няроўны перарывісты шум аголеных кустоў. Тацяна прыслухоўваецца да гэтых шолахаў і таемных шумаў ночы і ўглядаецца ў няясныя і зманлівыя контуры цёмных сілуэтаў, прыймаючы іх часамі за Пракопа.

І раптам яна ўся здрыганулася: каля прыгрэбніку пад чэзлаю вішняю стаіць і нехта памахвае рукою, як быццам-бы падзывае да сябе Тацяну.

— Хто там?—аклікае перапалоханая Тацяна.

Чалавек маўчыць, але рукою махаць не перастае. Яшчэ больш страх забірае Тацяну. Яна баязьліва азіраецца, як-бы мяркуючы, ці пасьпее ў часе ўцячы ў хату ў выпадку, калі гэты невядомы чалавек—а можа і Пракоп—раптам рынецца на яе. Яна ўжо хацела паваць Мікіту, але голас яе сарваўся, а ў гэты момант з-за вугла рвануўся вецер, і рука страшнага чалавека адарвалася ад яго і сама некалькі разоў закруцілася ў паветры.

— Тфу, прападзі ты!—мімавольна вырвалася ў Тацяны, і страх яе расьсеяўся, але рукі і ногі яе моцна дрыжалі.

Страшны чалавек аказаўся даволі ёмкаю плашкаю, прыслоненаю да страхі, а яго рука—кусок рызмана, што нейкім спосабам зачапіўся за вішнёвую галінку, і матляўся на ветры.

Перад Мікітавымі вачамі ўвесь час стаяў бацька ў розных постацях і момантах яшчэ так сьвежага часу. Адзін момант і адна постаць асабліва востра ўрэзаліся ў памяць: адзеты, гатовы ў дарогу, з кіем у руцэ, бяз шапкі, стаіць бацька тварам да абразоў. Мікіта сам падымае на іх вочы. Цэлы рад абразоў, крыху нахіленых. У цэнтры, скрозь слаба асьветлены змрок вісіць Мікалай Мірлікійскі. Пранізьлівыя вочы пазіраюць упарта, куды-б ты ні павярнуўся. Рука паднята, і пальцы зложаны для благаслаўленьня. З нянавісьцю і з адценьнем нейкага страху глядзіць на яго Мікіта. Яму робіцца крыўдна за бацьку, за яго пашану і веру ў гэтых ідалаў.

— Сукін ты сын!—ціха, але сярдзіта і выразна гаворыць Мікіта на сьв. Мікалая. Трошачкі счакаўшы дадае:

— Кулацкі рупар і падпявала!

У парыве злосьці зрываецца і рашуча накіроўваецца да сьвятых.

— Зьліквідаваць, як прадстаўнікоў кулацкае клясы.

У хату ўваходзіць Тацяна. Мікіта запыняецца ў сваім парыве і свой цьвёрды намер расправіцца з багамі адкладае на болей зручны час.

— Што-ж будзеш рабіць, сынок?

— Як разьвідніцца, пайду ў сельсавет. Заявіць трэба. А там відаць будзе. Выясьніцца.

Малады, а ўсё-ж такі разважае памужчынску,—сама сабе думае Тацяна і плача.

## VIII

Новае жыцьцё пачынаў Пракоп, пачынаў бадзяньнем і надзеяй на свае прывыкшыя да работы рукі.

І ня мала прабадзяўся ён па сьвеце, і ня надта соладка было яму гэтае бадзяньне. Але затое-ж Пракоп набыў пэўную жыцьцёвую практыку. Яго заскарузлы сялянскі розум змушан быў павярушыцца і пакіраваць мысьлі крыху ў іншы бок, каб лаўчэй прыстасавацца да гэтага вандроўніцкага жыцьця і ня згінуць. Яго не пакідала думка знайсьці сабе прыпынак на сьвеце, а на сваё вандроўніцтва ён глядзеў, як на часовую зьяву. Але хоць сьвет і прасторны, ды чалавеку, сарваўшыся з наседжанага месца, прастор гэты мала чаго дае. І калі Пракоп і не згортваў сваіх крыльляў, то толькі таму, што на такое бадзяньне ён наважыўся сам і зрабіў так, як знаходзіў лепш.

Шмат вёсак і гаспадароў абышоў Пракоп; але прыпынку ўсё не знаходзілася. Прыходзілася паспрабаваць і жабрацкага і батрацкага хлеба. Ды ня вельмі смачны такі хлеб і ня так ужо лёгка ён і даецца. Гэта вандроўніцтва і шуканьне прыпынку паказала Пракопу, якое вялікае значэньне для чалавека ў жыцьці мае рамяство. Калі-б ён быў шаўцом або краўцом, сталяром ці сьлёсарам, то і гора ня ведаў-бы. Але гэта ўсьведамленьне важнасьці ў жыцьці рамяства карысьці Пракопу не давала, а пры цяперашнім стане рэчаў попыту на Пракопавы „прывыкшыя да работы рукі“ сярод сялян амаль што ня было. Асабліва трудна было яму ў першыя дні, калі ён яшчэ не асвойтаўся з сваёю новаю роляю вандроўніка. Перад ім паўставаў цэлы рад новых пытаньняў, і трэба было знайсьці на іх ясныя адказы. Сялянскім нутром ён адчуваў сваё ваганьне на нейкіх крыжовых дарогах. Уся яго бяда была ў тым, што ён меркаваў замацавацца ў жыцьці на сваіх старых поглядах і на старым грунце. Тым-жа часам гэты стары грунт правальваўся пад яго нагамі. Гэта было ясна Пракопу. З кожным днём праконваўся ён у тым, што патрэбна нейкая зьмена яго курсу. І сапраўды: хто з сялян возьме яго цяпер на работу? Навошта людзям гэты клопат, каб потым яшчэ папасьціся ў бяду? І што-ж выходзіць? Пракоп, трэба прызнацца, зьбег ад калгасу, але ўсюды, куды ён ні пойдзе, калгасу ня ўнікнеш: грыміць і грыміць аб ім гутарка. Ліквідацыя дробных гаспадарак ідзе поўным

ходам. Як ні круці, як ні мяркуй, а парасткі новага жыцьця прабіваюцца буйна, густа, сакавіта.

Вандруючы ад сяла да сяла, Пракоп гэта бачыў, а свае пераходы скарачаў думкамі аб тым, што-ж рабіць яму? Праўда, людзі давалі яму часовы прыпынак, прымалі, кармілі. Былі нават і такія, што і спачувалі яму. Але-ж век так жыць ня будзеш. Тулячыся, начуючы, дзе-небудзь у кутку на саломе ці на гарошынах, гасьцінна прынесеных гаспадаром. Пракоп цэлымі гадзінамі ня спаў і разважаў, прапускаючы праз нажы самакрытыкі свае паводзіны, няяснасьць і няпэўнасьць свайго соцыяльнага стану. А да гэтага далучаліся і думкі аб пакінутай гаспадарцы, аб сям'і і доме. Шкода было старога котлішча і цесных закуткаў уласнага дворыка, дзе Пракоп так многа пакінуў свае працы, свайго жыцьця. Варочаўся Пракоп у сваім логаве сярод цемры сялянскай хаты і мернага пахрапваньня чужых людзей. Ноч, цемра, глухмень. Чуваць, як дзесь каля печы шалпочуцца ў шчылінах прусакі. Мерна і аднатонна падаюць каплі вады з акна і гулка шлёпаюць аб сырую зямлю, бясплатная музыка на сон гаспадаром хаты. А Пракопавы думкі ідуць ды ідуць, нанізваючыся адна на другую, покі, нарэшце, незаметна для Пракопа адна з іх не запыніла на сабе яго ўвагі на адным з такіх яго начлегаў.

І сапраўды, гэта ня кепская думка? Пракоп прыцішана трубіць носам і пачынае разьвіваць яе далей.

Як запраўскі філёзаф, мяняючы сваю ранейшую сыстэму сьветапогляду, прапускае яе праз сіта строгай крытыкі, так і Пракоп, лежачы на саломе, пачынае асуджаць цяпер мэтады свайго вандроўніцтва. Усе гэтыя мэтады няправільныя! Па-першае, ён часта заходзіў на хутары і наогул трымаўся больш тых элемэнтаў, што варожа настроены да калектывізацыі. Не гаворачы ўжо аб тым, што такія паводзіны яго небясьпечны, яны не даюць ніякіх вынікаў. Другая Пракопава памылка была ў тым, што ён шукаў сабе работы ў дробных гаспадарках, як-бы на сьвеце няма саўгасаў і калгасаў. І трэцяя, можна сказаць самая прыкрая яго памылка заключалася ў тым, што ён, проста сказаць, жабруе. Навошта-ж яму ўсе гэтыя прыкрасьці, калі ён можа ўзяць на сябе ролю дэлегата? Вось тая шчасьлівая думка, што запыніла на сабе Пракопаву ўвагу. Але як да яе прыступіцца? А вось як: Пракоп дужа зацікаўлен колектывізацыяй, як і ўся тая грамада, адкуль родам сам Пракоп. Але ў іх ёсьць некаторыя няпэўнасьці, няяснасьці ў сувязі з пераходам у калгас. Дык вось Пракопу і даручана абрэвізаваць ужо наладжаныя калгасы, азнаёміцца, прыглядзецца да іх, каб потым зрабіць належны даклад сваёй грамадзе... Ну, чым-жа гэта кепская думка? Пракоп цалкам захапляецца ёю. Яна суліць яму процьму выгод. Як дэлегата, яго будуць шанаваць, карміць, і жабрацтва яго адпадзе само сабою. На правох дэлегата ён можа прабыць у калгасе тыдзень, а можа і болей, гледзячы, як прымуць. А прыняць яго павінны добра. Пабудзе некаторы час і падасца ў другі, у трэці. А можа і сапраўды надарыцца яму дзе што

добрае. Ня трэба толькі спаць у шапку, трэба адпаведны спрыт і рухавасьць. І калі на справу паглядзець справядліва, то тут і машэнства няма ніякага. Бо сапраўды-ж: ці ня мог-жа ён зусім шчыра азнаёміцца з калгаснаю справаю?

Захоплены гэтаю новаю ідэяю, Пракоп доўга ня можа заснуць. Грамчэй і весялей трубіць ён носам, больш лагодна прыслухоўваецца да шалпатаньня прусакоў у шчылінах, да шлёпаньня капель з акна і ставіць гэта ў сувязь з адлігаю, што таксама яму на руку. Без вялікай злосьці чухае валасатую грудзіну, намацвае там нейкага інтэрвэнта і душыць яго заскарузлым пальцам.

А назаўтра раненька накіроўваецца на новую дарогу, а ў дарозе абмяркоўвае сваю дэлегацкую ролю.

## IX

Калгас „Хваля рэвалюцыі“ заснаваўся ня так даўно. Гады тры таму назад вярнуўся з Чырвонай арміі ў свае Клінкі Максім Шахлевіч.

Клінкі была даволі вялікая вёска, але к часу Максімавага звароту з Чырвонай арміі яна значна зьменшылася: больш заможныя гаспадаркі выбраліся на пасёлкі, на хутары. Хоць у Клінкох трохі і папрастарнела, але ўсё-ж рэшта гаспадарак, цягнучы старое ярэмца земляробскай акасьцянеласьці, жыла бедна. Пабітая на вузкія шнуркі, параскіданая па розных мясьцінах і разгароджаная межамі зямля скупа аплачвала працу на ёй. І зямля была ня роўная: жоўты пясок, камяністыя ўзгоркі, сінялес, і толькі мясцамі траляліся кавалкі добрай зямлі. Лепшыя землі захапілі пасёлкаўцы і хутаране, а яшчэ лепшая зямля была пад панскім маёнткам, дзе заснаваўся цяпер саўгас „Чырвоны Шлях“.

Беднасьць і малазямельле змушала клінкоўцаў шукаць заработкаў на старане або каля дому, калі яны траляліся. Адны ішлі на чыгунку— а яна праходзіла тут непадалёку—рамонтнымі рабочымі, другія складалі кадры батракоў і служанак у заможнікаў-кулакоў. Максім Шахлевіч з пятнаццаці гадоў служыў у батракох і толькі за год да ваеннай службы кінуў сваё батрацтва і цэлае лета хадзіў з сястрою і старшым братам капаць торф на сваім-жа балоце, заарэндаваным адным каапэрацыйным таварыствам. Гаспадарка была ў іх невялікая, і з ёю спраўляўся бацька.

Максім быў самы вясёлы і самы рухавы ня толькі ў сям'і, але і ва ўсёй вёсцы хлопец. Ні беднасьць, ні служба ў чужых людзей, ні цяжкая праца ня зьніжалі яго добрага гумару. Любіў ён і пасьпяваць, і пасьмяяцца і прыправіць жартамі сваю бойкую гутарку. За вясёлы характар і працавітасьць яго любілі і шанавалі сярод клінкоўскай беднаты. Ён скончыў пачатковую школу. Вольнаю часінаю любіў пачытаць газэту і кнігу. Наведваў сходы, уважна слухаў даклады, асабліва прыезджых таварышоў. На ваеннай службе паступіў у камсамол і палітычна

значна рავьвіўся. З Чырвонай арміі ён лёгка мог знайсьці сабе службу ў горадзе. Але ў яго былі іншыя думкі.

— Не,—казаў ён:—на службу не хачу: пайду дамоў рабіць рэвалюцыю ў Клінкох.

У Максіма быў ужо зложан шырокі плян арганізацыі калгасу ў Клінкох. Вярнуўшыся з арміі, ён зараз-жа і прыступіў да работы. Сваю работу ён пачаў з арганізацыі камсамольскай ячэйкі. Нельга сказаць, каб гэта работа давалася яму лёгка. З першых-жа дзён Максіму прышлося ваяваць з сялянскаю консэрватыўнасьцю, з неарганізованасьцю і анархічнасьцю клінкоўскіх хлопцаў. Але патроху, па-малу ён уцягнуў у работу найболей жывых і актыўных з моладзі і сярод яе пачаў прапагандаваць ідэю залажыць у Клінкох калгас, не чакаючы покі гэту работу пачнуць рабіць за іх другія. Сваімі сіламі адчынілі хату-чытальню, пачалі праводзіць сходы, рабіць даклады, выпускаць насьценную газэту, дзе асьвятлялася іх сялянскае жыцьцё, асуджаўся стары быт, прымітыўныя спосабы гаспадаркі і рэзка ставілі пытаньне аб эксплёатацыі кулакамі клінкоўскай бедняты. Ва ўсёй гэтай справе насьценгазэта адыграла вялікую ролю. Заварушыліся пасёлкаўцы і кулакі на хутарох. Першая і значная прабоіна ў закасьцянеласьці сялянскага жыцьця была зроблена. Клясавая сьвядомасьць клінкоўскай бедняты была абуджана. Яна цясьней гуртавалася навокал ідэі колектывізацыі і рашуча рыхтавалася ў паход супроць мясцовых павукоў. Калі такім парадкам была праароблена папярэдняя работа, камсамольская ячэйка склікала агульны сход сялян. На сходзе было пастаўлена пытаньне аб арганізацыі ў Клінкох колектыўнай гаспадаркі. Сход быў шумны і бурны. Сярод клінкоўскай бедняты знайшліся праціўнікі колектывізацыі. Але ўсё-ж такі пераважная большасьць клінкоўцаў пастанавіла перайсьці ў калгас.

Узрушаны і радасны Максім Шахлевіч пры гэтым сказаў:

— Т.! Пачатак зроблены. Дазвольце запэўніць вас, таварышы, што наша справа колектыўнай гаспадаркі ёсьць справа жыцьцёвая, правільная, а таму ёй належыць будучыня... Далоў усякія хістаньні! Сьмялей наперад!

На гэтым-жа сходзе было абрана і праўленьне калгасу і месца, дзе павінен быць калгасны штаб. Як асаблівасьць гэтай пастановы, трэба адзначыць, што для „штабу“ быў адведзены пустыр у полі збоку ад Клінкоў. На гэтым пустыры ў тую-ж восень перавезьлі будынкі шасьці гаспадарак. Замест шасьці клунь, шасьці хат і столькі ж усялякіх іншых будынкаў пабудавалі адну прасторную клуню, накрылі яе новаю страхою, як залатым плашчом сьвежай аржаной саломы. Выштукавалі адну абору, дзе можна было зьмясьціць ня менш, як трыццаць кароў і гэтулькі-ж цялят. Паставілі зухаваты сьвіронак, сьвінарнік і выстраілі тры дамы для шасьці сем'яў, адвеўшы месца для калгаснай канторы і для дзіцячай пляцоўкі. І ўсё гэта было зроблена сваімі сіламі, сваімі майстрамі.

На пустым месцы, у полі вырас цэлы пасёлак, першая аснова новай, цікавай і не для ўсіх яшчэ яснай формы маладога жыцьця. Гэты пасёлак вырас па ініцыятыве Клінкоўскай беднаты і складаў іх сапраўдную гордасьць. Сюды, як да вогнішча ў халодную цёмную ноч, накіроўваліся думкі, імкненьні і надзеі новых колгасьнікаў. Сюды-ж падымаліся і поўныя нянавісьці вочы хутаран і пасёлкаўцаў.

— Т.! аснова калгасу палажана,—казаў на адчыненьні пасёлку Максім:— а цяпер прыступім да справы.

Новая вясна чакае нас. У нас ёсьць час, каб сустрэць яе ў поўнай зброі, па-бальшавіцку. Нашу поўную перамогу забясьпечыць нам грамадзкая сьвядомасьць, дьсцыплінаванасьць і наша актыўная праца на фронце сацыялістычнай гаспадаркі.

Новы калгас назвалі „Хваля рэвалюцыі“.

Сюды, у гэты калгас, і дыбаў цяпер наш Пракоп Дубяга, неразумны вандроўнік, дэлегат-самазванец.

## X

Нясьмела і няўпэўнена ўваходзіў Пракоп у новы калгасны пасёлак „Хваля рэвалюцыі“.

Даволі было кінуць гаспадарскім вокам на двор, на калгасныя будынкі, каб адчуць, што справа тут пастаўлена на цьвёрды грунт, што чыясь моцная і разумная воля пракладае шырокую дарогу ў новы гаспадарскі дабрабыт.

Першае, што кінулася Пракопу ў вочы, быў узорны парадак і чыстата на двары і каля будынкаў. А гэтых будынкаў, дзервяных і мураваных, малых і вялікіх, крытых саломаю, гонтамі і чарапіцаю, было тут многа. Спрактыкаванае вока староньняга гледача заўважала, як шпарка рос гэты калгасны пасёлак, удасканальваючыся ў сваім будаўніцтве, з якою дбаласьцю, стараннасьцю і прадуманасьцю абмяркоўвалася кожная будыніна, кожная драбніца ў ёй. А гэтыя новыя мураванкі, вырасшыя за апошні год, сьведчылі аб поступу наперад калгасьнікаў, аб іх замілаваньні да новых форм жыцьця. Сьнег у тую зіму быў глыбокі, і ўжо па адных толькі сьцежках, пракіданых у сьнезе на розных кірунках прасторнага двара, па шырокіх пляцоўках, прачышчаных каля клуні і іншых будынкаў, па высокіх і роўных валах сьнегу можна было судзіць аб гэтым парадку.

Уражаны і зьдзіўлены Пракоп запыніўся, ступіўшы на тэрыторыю пасёлка, бегла акінуў поглядам калгасны двор і будынкі, як-бы разважаючы, куды накіравацца і да каго тут зьвярнуцца.

Яго старамодная сялянская постаць у саматужнай шапцы з аўчыны у доўгім памятым кажусе, зьбітая на адзін бок пасівелая і занядбалая, барада, пануры, загрубелы, абветраны твар і глыбока запаўшыя вочы, у якіх адбіваўся смутак і непакой бяздомнага бадзягі, ніяк не стаса-

валіся з агульным тонам гэтага пасёлку і яго гаспадарамі, сям-там мільгаўшымі на белым фоне ў глыбі двара і каля будынкаў.

Пракопава дэлегацкая роля крыху замітусілася, адчуўшы трывогу і страх, і ўсё ніжэй і ніжэй стала апускацца на дно. Так бывае з непапсованымі ці, справядлівей, з мала напрактыкаванымі ў дробным ашуканстве натурамі, калі яны прабуюць зьвязаць надуманы фальш з праўдаю жыцьця. Але адступаць ужо было позна, і Пракоп тарапліва рушыў да першай чалавечай постаці, што найбліжэй трапілася яму ў гэты час. Маладая зграбная жанчына ў чырвоным кажушку, шчыльна і кунежна атуляўшым яе стройную фігуру—відаць, спэцыяльна на яе пашыты кажушок,—вышла з дзьвярэй хаты і жвава падалася па сьцежцы ў бок новай будыніны.

— Пастойце!—махнуў Пракоп кіем.

Маладая жанчына спынілася, кінуўшы на Пракопа крыху зьдзіўленыя і трохі строгія шэрыя вочы. Можа-б яны былі ласкавейшыя, каб яе зачапіў не Пракоп, а хто-небудзь малады і прыгожы.

— Будзьце ласкавы, мілая. скажэце, хто тут у вас начальства і дзе яго знайсьці?—пачціва зьвярнуўся да яе Пракоп.

— Начальства ў нас няма. А калі вы хочаце пабачыць старшыню калгасу, то ён напэўна ў канторы,—адказала маладая жанчына. Але, відаць, і самой ёй паказаўся сухім яе адказ, і яна ўжо лагодней дадала:

— Кантора унь там, у мураванцы... Хадзеце за мною, пакажу,—ужо зусім мякка загаварыла маладая жанчына.

„Ці добра зрабіў, што адразу запытаў пра начальства?“ думаў Пракоп, ідучы за маладою жанчынаю: „трэба было-б трохі разглядзецца і не пароць так гарачкі“. Ён адчуў, што яго меркаваньні і пляны адносна яго дэлегацкай ролі адразу-ж разыходзяцца з практыкаю. Але многа разважаць аб гэтым ня прышлося: яны спыніліся каля дзьвярэй канторы.

— А па якой-жа вы справе?—пацікавілася на ўсякі выпадак маладая жанчына.

— Да вось хачу паглядзець ваш калгас... Ад грамады я.

Гэты адказ зусім задаволіў маладую жанчыну, а Пракоп адчуў некаторую палёгку, і ён нават асьмеліўся запытаць:

— А хто такі сам старшыня калгасу?

— А ён мой муж, калі хочаце ведаць, Максім Шахлевіч,—горда адказала маладая жанчына.

— Муж ваш!—зьдзівіўся Пракоп, зірнуў на маладую жанчыну і з дасьціпнасьцю спрытнага кавалера заўважыў:

— То добрую жонку мае старшыня вашага калгасу!

Жанчына ўсьміхнулася, а Пракоп зазначыў сам сабе, што справы ён не папсаваў, а такая разьвязнасьць дэлегацтву ня шкодзіць.

Прасторная і сьветлая кантора, куды ўвайшоў Пракоп, была галоўным дзелавым штабам калгасу. Яна ня зусім яшчэ была скончана, і пабеленыя мураваныя сьцены выступалі тысячамі цагляных рэбер. На

сьценах віселі розныя плякаты і лёзунгі адпаведна патрэбам часу. На аднэй сьцяне віселі партрэты Карла Маркса і Леніна, а насупроць іх зьмяшчаліся Сталін і Варашылаў, Чарвякоў і Галадзед. Каля сьцяны пры ўваходзе стаяла самадзельная дзеравяная канапка, невялічкі кніжны шафік для канторскіх кніг і папак, дзе хавалася розная перапіска і запісы. Два сталы, пісьменны і звычайны, таксама самадзельнай работы калгасьніцкіх майстраў, ды некалькі крэсел і складалі ўсю мэблю і абстаноўку канторы. Сама-ж кантора зьяўлялася часьцю мураванага сьвірна з прасторным ацамантованым падвалам. У гэтай будыніне хаваліся галоўныя калгасьніцкія прадукты: зярно, бульба і гародніна.

За пісьменным сталом сядзеў малады хлопец з задзёрыстым віхрастым чубам, камсамолец Грышка Гаруй. Ён быў дзелаводам і бухгальтарам. З аднаго і другога боку стала былі—старшыня калгасу Максім Шахлевіч і яго намесьнік Кандрат Ваган. Правяралі канторскія кнігі. Справа гэта для іх новая.

— А ўсё-ж такі, брат Грышка, ня шкодзіць, я думаю, пабыць табе на бухгальтарскіх курсах. Калгас наш расьце, справа ўскладняецца,— заключыў рэвізію кніг старшыня калгасу і дадаў:

— Гаруй, не гаруй!

На гэтай вясёлай і жартлівай яго прыказцы зьявіўся на парозе канторы Пракоп.

## XI

Усе трое паднялі вочы на Пракопа. У сваю чаргу Пракоп зірнуў на іх.

— Прабачайце, таварышы!—першы загаварыў Пракоп:—хто тут старшыня калгасу?

— Я!—азваўся Максім і вокам вайсковага чалавека зірнуў на Пракопа.

— А сам хто будзеш?—запытаўся і ён.

— Дубяга Пракоп, з вёскі Затоньне... Прышоў я да вас, таварышы, паглядзець, як будуеце вы калгас. У вас-жа, бачу, можна павучыцца.

— Ага!.. ну, добра... Сядайце!—паказаў старшыня Пракопу на канапку.

Пракоп сеў, зьняў шапку і павесіў яе на заціснуты між кален кій. Гэтую прывычку набыў ён за часы свайго вандроўніцтва.

— А вы самі калгасьнік?

Пракоп трохі замяўся.

— Як вам сказаць? і калгасьнік і не калгасьнік... Мы толькі нядаўна пазапісваліся, а работы, сказаць, яшчэ няма ніякай. Людзі ў нас маласьвядомыя, а справа яна цёмная,—як будзе, што будзе. Адны кажуць так, другія гэтак. Дык трэба хоць паглядзець, як людзі ў калгасах жывуць, каб ведаць, як да чаго прыступіцца.

Гаварыў Пракоп, і няёмка было яму пад поглядамі незнаёмых людзей, перад якімі, праўду сказаць, ён разыгрываў камэдыю. А гэтыя

людзі пазіралі на яго ўважна, і асабліва старшыня. І вочы ў яго вострыя і быстрыя, так, здаецца, і пранікалі ў Пракопава нутро. Але твар яго добры, лоб шырокі, адкрыты, і ўсё аблічча яго хіліла да сябе. Пракоп пераводзіў свой зрок то на смуглы твар Вагана, то на ваяцкі Грышкаў чуб, то на адкрыты вясёлы твар старшыні.

— Ну, а самі-ж вы як глядзіце на калгас?—проста запытаў старшыня.

— Па-маему, калі-б усе былі дружныя ды працавалі-б так на калгас, як працуе кожны сам на сябе, то чаму-ж? калгас—рэч добрая. Што адзін чалавек, а што грамада!

— А як вы арганізавалі свой калгас, самі ці вас хто збоку падпіхаў?—загуў басам Ваган.

— Да ўсё адно з другім злучылася. Маладыя дык тыя больш напіраюць. Вось і мой сын Мікіта, падлётак, мае да калгасу вялікую ахвоту. Другі сын, Андрэй, у Чырвонай арміі, піша, каб ня слухалі кулакоў і няпрыменна ішлі ў калгас.

— А ваш сын у Чырвонай арміі?—пацікавіўся старшыня.

— Служыць і такі ўжо заядлы калгасьнік, што сьвет гатоў перавярнуць, а калгас яму давай.

— Значыцца, маладзец ваш сын, дзядзька Пракоп,—адобрыў Грышка Гаруй.

— Ну, што-ж, таварышы, кончым канторскую работу. Паабедаем, накормім нашага госьця, няхай ён трохі адпачыне... Вы-ж ня надта сьпяшаецеся?—зьвярнуўся старшыня да Пракопа.

„Вось залаты чалавек“, падумаў Пракоп і далікатна сказаў:

— Вы аба мне ня турбуйцеся, таварыш. А сьпяшацца мне некуды так. Ды ў мяне і хлеб свой ёсьць,—Пракоп палажыў руку на пазуху.

— У парадку азнаямленьня з нашым калгасам вы павінны наведацца і ў нашу сталоўку. І месца для вас мы знойдзем.

Пракоп прагавіта глытнуў сьліну і яшчэ раз падумаў: „Золата, а не чалавек“.

Старшыня ўзяў Пракопа пад сваю апеку і павёў яго ў сталоўку.

Для сталоўкі была пастаўлена спэцыяльная хата, накрытая чарапіцаю, з двума прыгожымі ганкамі і прасторнымі верандамі і наогул мела выгляд даволі фарсістага дачнага будынку. На верандах сталаваліся летнім часам. Цяпер яны пуставалі, прыкрытыя фанераю, каб не наносіла туды сьнегу. Сама сталоўка займала палавіну дому і двума ходамі злучалася з кухняю: праз адны дзьверы несьлі страву ў сталоўку, а праз другія выносілі парожную пасуду.

На сьценах сталоўкі віселі напісы, напамінаўшыя аб гігіене: „мыйце рукі перад ядою“, „ня пеце сырой вады“, „выцірайце ногі“ і інш. У карыдорчыку стаяў бляшаны ўмывальнік, а пры ім віселі ручнікі. Каля парогу ў сталоўцы была паслана мата з саломы выціраць ногі. Адным словам, гігіена мела тут сваю адпаведную матэрыяльную базу, каб гэтыя напісы не аставаліся пустымі напамінаньнямі.

Па сярэдзіне стаяў доўгі стол на казлох. За гэтым сталом магло разьмясьціцца чалавек дваццаць, а каля сьцен, па адзін і па другі бок, малыя сталы: тры з аднаго боку і тры з другога. Такім чынам зараз у сталоўцы магло свабодна абедаць чалавек сорак, але было яшчэ шмат вольнага месца, каб пры патрэбе гэты лік можна было значна павялічыць.

Гордасьць і здаваленьне сьвяціліся на твары старшыні, калі ён паказваў Пракопу сваю калгасьніцкую сталоўку. Пракоп не знаходзіў адпаведных слоў выказаць сваё зьдзіўленьне.

— І гэта ўсё зрабілі вы самі, сваімі сіламі?—дзівіўся ён.

Старшыня весела пасьміхаўся, як-бы ведаючы ўсе Пракопавы мысьлі.

— Самі, дзядзька, самі. Трэба толькі ясным вокам убачыць новае жыцьцё ды ўсьвядоміць сабе ўсю недарэчнасьць старой дробнай гаспадаркі.

— А! брат ты мой!—ахаў Пракоп ды пачухваў патыліцу.

— Захочаш па-настаяшчаму—усё зробіш грамадою.

— Ну, як-жа вы ўсё-ж такі збудавалі гэты дом? Ды і не адзін гэты дом—у вас, бачу, шмат чаго пабудована?

— Расказваць можна тут і доўга і коротка. Я раскажу вам кароценька. Наш калгас не малы: у нас паўтары тысячы га зямлі, і народу ў нас ня мала: сем'яў каля двухсот. Чаму пашлі мы ў калгас? Таму, што зусім ясна ўсьведамілі перавагу калектыўнай гаспадаркі над гаспадаркай індывідуальнай. Стаўшы на гэты шлях, мы і пашлі дружна, як адзін. Пачалі мы з гэтага пасёлка. Майце на ўвазе, што тры гады таму назад тут было пустое месца. Вось мы і надумаліся залажыць тут ядро, фартэцыю нашага калгасу, яго штаб. Кінуліся гуртам, перанесьлі сюды будынкі шасьці гаспадароў, перакроілі іх ды зрабілі адну добрую клуню, тры дамы і іншыя патрэбныя пры іх будынкі. Справа пашла. На сёнешні дзень мы тут маем сорак сем'яў. Навошта-ж кожнай сям'і, кожнай гаспадыні ў хаце траціць час, сілу на вазьню каля печы? Падумалі, памеркавалі і зрабілі адну кухню на ўсіх... Мая жонка стаяла летась за сваю кухню, а папробуй цяпер скажы ёй пра сваю кухню—яна табе чапялою ў нос суне.

Наш пасёлак зьяўляецца тым асяродкам, каля якога і накшталт якога будуць расьці новыя. У нас ужо ёсьць такая праграма, шырокая праграма. Усе нашы калгасьнікі бачаць, што мы—на правільным шляху і дружна бяруцца за работу. А гэта самае важнае. Ня думайце, што ўсё гэта лёгка даецца. І самае труднае—арганізаваць рабочую сілу, паставіць кожнага на сваё месца. А мы гэтага дабіліся, мы гэта зрабілі.

## XII

Застаўшыся адзін у пакойчыку для „гасьцей“ і акінуўшы яго поглядам, Пракоп сам сабе падміргнуў, кіўнуў галавою.

— Вось табе і калга-а-с!—ціха і працягла сказаў ён сам сабе.

Гэты пакойчык зьмяшчаўся ў тым-жа доме, дзе жыў і старшыня калгасу, і адгароджваўся ад яго кватэры сьветлымі і даволі прасторнымі сенямі, а за глухою сьцяною жыла сям'я калгасьніка. Тры шырокія дзеравяныя тапчаны з саламянымі падушкамі і сяньнікамі, засланымі коўдрамі сялянскага вырабу, служылі пасьцельлю. Спэцыяльнае прызначэньне гэтага пакойчыка—даваць прыпынак чужым людзям, па той ці па іншай справе наведваўшым калгас.

У пакойчыку было цёпла, ціха, утульна. Пахла смалою сьвежага дрэва. Гэтая каморка, або „станцыя", як называў яе Пракоп, паказалася яму верхам чалавачага дабрабыту. Ён скінуў кажух, палажыў яго ў ногі на тапчан, і сам выцягнуўся ва ўсю даўжыню свайго стомленага і ацяжалелага пасьля ёмкага абеду цела. „Добра жывуць, ядры іх качалку!"—пазайздросьціў ён калгасьнікам і пагладзіў тугі, як барабан, жывот. Даўно ўжо так не абедаў Пракоп, і лепшым доказам гэтага багатага абеду служылі засеўшыя ў зубах кавалачкі гавядзіны. Цяпер наш дэлегат выкалупваў іх адтуль пруткаю саломінкаю і страляў імі аж у процілеглую сьцяну. Такі-ж самы абед елі і ўсе калгасьнікі, так што Пракопавы меркаваньні аб яго дэлегацкіх прывілеях адпадалі тут самі сабою. Гэты ёмкі абед наводзіў на Пракопа сон і спакой духа. У безьмяцежным разважаньні над проблемаю, што лепш, ці быць калгасьнікам ці дэлегатам у справе азнаямленьня з калгасам, ён і заснуў крэпкім сном.

Яшчэ адна прыемная неспадзяванка чакала Пракопа ў гэты дзень. Вечарам, пасьля здаравецкага храпака, яму, як дэлегату, далікатна запрапанавалі паглядзець калгасьніцкую лазьню, а калі ў яго будзе ахвота, то і памыцца ў ёй. Пасланцом быў калгасьнік, Пракопаў сусед па кватэры, Мікола Гнак.

Лазьня таксама добры і дарагі пачастунак для госьця, асабліва такога, як Пракоп, і хоць яна—установа і старасьвецкая, тым ня меней аўторытэт яе высока стаіць і ў нашы дні. Сярод-жа калгасьнікаў лазьненскія дні лічыліся чуць ня сьвятам.

— Ну, і малайцы-ж вы: і лазьню сваю маеце!—з захапленьнем азваўся Пракоп.

— Як ня мець у калгасе лазьні? Папарышся ды памыешся—проста як-бы ты другі раз на сьвет нарадзішся. На цэлы год здароўя прыбавіцца,—адказаў Мікола.

— Даўно ўжо ў калгасе?

— Тры гады.

— Ну, і скажы-ж, браток: лепш вам у калгасе ці не?

Для Пракопа гэта было пякучае пытаньне.

Мікола ўскінуў на Пракопа вочы, усьміхнуўся.

— Дзіўны вы чалавек. Да што-ж тут і пытацца? Калі-б вы ведалі, як мы жылі раней і як сталі жыць цяпер, што мелі мы тады і што маем цяпер, то вам сьмешна было-б пытацца аб гэтым. Да вы-ж паглядзеце

на нашы будынкі, на нашы кватэры да на нашы машыны. Гэта-ж нашы работнікі! А паглядзелі-б вы на наша поле вясною, летам... Скажу вам проста: цяпер толькі і жыцьцё мы пабачылі, цяпер толькі і сьвет нам адчыніўся.

У гэтых гутарках незаметна прайшоў час і адлегласьць да лазьні. Праўда, яна была тут і недалёка, крыху на вотшыбе за будынкамі пры лагчынцы, дзе прабівалася невялічкая крыніца-ручаёк. На гэтым ручайку выкапалі сажалку, аблажылі яе берагі каменьнямі, дно прачысьцілі і пабудавалі лазеньку, правёўшы трубы ў сажалку, адкуль і бралі ваду. Лазьня была прасторная і выгодная. Адна палавіна была адведзена для разьдзявальнай, а ў другой мыліся і парыліся. Тут ужо мітусілася з дваццаць калгасьніцкіх голых цел, пачырванелых ад пару і венікаў. Шум, жарты, вясёлыя выкрыкі поўнага задаваленьня поўнілі лазьню. Сярод гэтых галышоў Пракоп угледзіў ваяцкі чуб камсамольца Гаруя, якога спаткаў ён у канторы.

Пракоп разьдзеўся. Яму, як дэлегату, далі венік, пахучы, як май. З венікам пад пахаю і з нагавіцамі і кашуляю ў руцэ пашоў ён парыцца, мяркуючы, куды-б латвей прыстроіць бялізну, каб яе найлепш праняло параю, бо ў бялізьне за часы яго вандроўніцтва завялося ня мала шасьціногіх яго эксплёататараў. Павесіўшы яе над дзьверамі печы, дзе давалі пару, ён палез на палаткі.

— От дзе рай, браткі мае! А-а-х, як добра!—выгукваў і пакрэхтваў ад задаваленьня Пракоп, грэючыся на палатках і няміласэрдна хвошчучы сябе мяккім венікам. Гразь і бруд споўзвалі і сплывалі з яго гадамі нямытага цела.

— Паддай, паддай пары!—крычалі аматары папарыцца.

Чырвоны, як рак, угнуўшы галаву, падаваўся Пракоп на ніз, бо такога гарачага пару, якога нагналі цяпер калгасьнікі, ён з няпрывычкі мыцца ў лазьні ня мог перанесьці.

— Дайце вам плечы пашарую,—запрапанаваў свае паслугі Мікола Гнак.

Пракоп падставіў сьпіну, а Мікола з заядласьцю і спрытам заpraўскага лазьніка шараваў яму сьпіну і сьцёгны.

— Ой, браток, і скуру з мяне спусьціш!

— Нічога, нічога!—заспакойваў яго Мікола:—каб помнілі нашу лазьню.

— Ох, якая-ж гэта слаўнота!—Слоў не знаходзіў Пракоп, каб выказаць сваё адчуваньне і захапленьне лазьняю.

А калі ён выходзіў памыты з лазьні, то казаў:

— Праўду гаварыў ты, браток: усё роўна як зноў ты на сьвет нарадзіўся: так лёгка, так добра,—ну, як-бы табе дзесяць гадоў скінулі!

Мікола Гнак запрасіў Пракопа да сябе на чай пасьля лазьні ды заадно каб і паглядзець ужо і на яго кватэру.

## XIII

Першае, што ўсюды кідалася Пракопу ў вочы пры аглядзе калгасу, было—чыстата і парадак. Гэты парадак і гэтая чыстата заўважаліся і ў кватэры Міколы Гнака, куды зайшоў Пракоп пасьля лазьні. Зграбная, увіхная гаспадыня, з падстрыжанымі цёмна-русымі валасамі, адзетая як-бы трохі на гарадзкі лад, ветліва сустрэла мужа і госьця. І другое назіраньне, якое спасьцярог тут Пракоп, не магло не зьвярнуць на сябе яго ўвагі: і мужчыны і жанчыны, малыя і старыя калгасьнікі ў гэтым калгасе рабілі ўражаньне новай пароды людзей. Усе яны былі рухавыя, жывыя, гаворкія, ветлыя, вясёлыя і ў дадатак да ўсяго гэтага, выражаючыся груба—гладкія, падкормленыя і нейк па-сваему адзетыя. Ня было той замкнёнасьці, той пануранасьці і заклапочанасьці, што зазвычай характарызуе насяленьне старой вёскі.

Кватэра Міколы Гнака мела ў сабе тры асобныя каморы-покойчыкі, выгодна злучаныя між сабою дзьвярамі: прыгожая, якую-б можна назваць і кухняю, бо тут стаяла звычайная вялікая печ і меліся некаторыя адзнакі ранейшых сялянскіх хат; далей ішоў другі пакой, адгароджаны ад першага тоўстымі дошкамі, прасторны і сьветлы. Яго можна назваць і гасьцiннаю і сталоваю і, нарэшце, трэці пакой, таксама адгароджаны дошкамі, служыў спальняю. У кухні-прыхожай падлога была цагляная, а ў сталовай і ў спальні—дзеравяная. Шырокія дарожкі-доматканкі, паложаныя ў сталовай і ад сталовай у спальню, сьведчылі аб тым, як дбаюць тут аб чыстаце і акуратнасьці. Замест абразоў на сьценах вісела некалькі плякатаў і партрэтаў выдатных палітычных дзеячоў. Таксама ня было тут і традыцыйных сялянскіх лавак уздоўж сьцен. Іх замянялі канапка, простыя крэслы самадзельнага вырабу і некалькі акуратных табурэтаў. Насупраць уваходу стаяў стол, накрыты белым абрусам, а на стале ўжо весела пашумліваў самаварчык, вядучы сваю няўпынную гутарку. На падлозе каля стала забаўляліся дзеці. Іх было двое: малы хлопчык Пятрусь, гадкоў тры, і старшая пяцігадовая дзяўчынка Насьця. На дзіцячым табурэціку ляжалі фігуркі жывёлін, выразаных з паперы Насьцяю. Цяпер яна вырэзвала коніка, а Пятрусь уважна глядзеў і паяўленьне новай жывёліны сустракаў радасным крыкам.

— Распранайцеся-ж ды сядайце за стол,—зьвярнулася гаспадыня да госьця, а сама расстаўляла шклянкі і сподкі, увіхаючыся каля стала.

Зьдзіўлены і моцна ўражаны Пракоп нясьмела сеў за стол у гэтай няпрывычнай для сябе абстаноўцы. Яму ніколі ў жыцьці не даводзілася піць чай з такою раскошаю, як тут. Ён недаўменна пазіраў на кватэру, на гаспадароў. З аднаго боку як-бы гэта і простыя сяляне, але-ж гэта кватэра—проста такі гарадзкая, панская! Ён стараўся зьвязаць у сваіх мысьлях штось знаёмае для яго ў сялянскім быце, што бачыў ён тут, з тым, што пракладала сабе новую дарогу. І ўсё гэта ніяк не ўкладалася ў яго галаве.

— Скажэце,—ня ўтрываў, нарэшце, ён:—ці ў вас усе так жывуць, як вы?

— А што?—Мікола прыкінуўся, што не зразумеў яго.

— Да проста мне ня верыцца, што я на кватэры ў калгасьніка: жывеце вы, як паны! Выбачайце мяне.

— Як людзі, вы хочаце сказаць?—паправіў яго Мікола:—так, жывём лепш, як жылі да калгасу.

— Чыста ў вас, хораша. І няўжо-ж гэтак у вас штодзень? Ці можа гэта жонка ваша такая ўдалая гаспадыня?

— У нас парадак такі, адзін для ўсіх,—азвалася гаспадыня.

— І як дабіліся вы такога парадку?

— А вы чулі пра самакрытыку?—запытаў Пракопа гаспадар.

Ніякага рэальнага зьместу не ўкладаў Пракоп у гэта слова. Ён моўчкі глядзеў на Міколу, баючыся паказацца невукам і чакаючы паясьненьня.

— Усім нам добра вядома, у якім брудзе жылі мы вякамі. Мы яго нават і не заўважалі, лічучы, што для мужыка так і павінна быць. Цяпер-жа, калі ўсё старое, што заядала нас, мы выкінулі на сьметнік, перад намі паўстала пытаньне: няўжо-ж мы гэты спрадвечны бруд захаваем і надалей? Не: мы аб'явілі яму сьмертны прыгавор. І не на словах, а і на справе. А калі хто адставаў або мала звварачаў на гэта ўвагі, таго ўжо нашы жанчыны, наш калгасьніцкі жаночы актыў, бралі на прыцэл. Ну, каму-ж гэта хочацца папасьціся на язык і за што? за неахайнасьць? І навошта-ж яна, калі можна жыць па-чалавечы, калі гэта і для вока прыямней і для твайго-ж здароўя лепей?

— Праўда ваша,—падцьвердзіў Пракоп, з шумам дапіваючы другую шклянку чаю.—Мяне яшчэ вось што цікавіць: на якім палажэньні жывяце вы ў калгасе—ці як гаспадары ці як рабочыя?

— І тое і другое. Гаспадары—паскольку калгас зьяўляецца нашым, рабочыя—паскольку мы працуем на нашай агульнай гаспадарцы.

— Ну, а ці маюць калгасьнікі сваю, асабістую маемасьць, ну, скажам кароў, сьвіней?—дапытваўся Пракоп.

— Такога права ніхто з нас не пазбаўлен,—тлумачыў Мікола:—але вось цяпер сталася так, што гэтым правам ніхто ўжо ня хоча карыстацца. Чаму? да проста няма ніякага разрахунку! Нашто мне той лішні клопат хадзіць за кароваю, за сьвіньнямі, мець для іх і памяшчэньне і корм, калі і малака і сьвініны, колькі мне трэба, дасьць наш-жа калгас? Яшчэ год таму назад сёй-той чапляўся за гэтыя рэшткі дробнай уласьніцкай гаспадаркі, а потым пабачылі ўсю недарэчнасьць і непатрэбнасьць іх і кінулі.

— А скажэце, як у вас разьмяркована работа?

— А разьмяркована яна так, што на кожную работу ставяцца найболей адпаведныя калгасьнікі. Агульнае наша правіла такое: ніводзін

працаздольны калгасьнік не павінен аставацца без работы. Ёсьць калгасьнікі, што ходзяць пры машынах, другія даглядаюць скаціну, трэція— тыя ці іншыя майстры, чацьвертыя абслугоўваюць калгасьнікаў... Да ці мала работы ў такой гаспадарцы?

— А хто ставіць на работу?

— Самі. Выбіраем праўленьне сваё і яму даручаем распараджацца рабочымі рукамі, а ў некаторых выпадках склікаем агульныя сходы. Кожны з нас мае сваё цьвёрдае заданьне, і яго трэба зрабіць.

— І многа прыходзіцца працаваць?—дапытваўся Пракоп.

— Да працы то хапае. Але якімі-б ударнымі тэмпамі мы тут ні працавалі, усё-ж, трэба вам сказаць, працуем мы процантаў на трыццаць меней, чым працуе гаспадар на сваёй уласнай дробнай гаспадарцы і процантаў на пяцьдзесят меней батрака, што працаваў раней у кулака.

— А куды вы дзеяце вольны час.

— Адпачываем, чытаем кнігі, газэты, слухаем даклады, лекцыі. Няпісьменныя вучацца стаць пісьменнымі. Хто мае ахвоту і здольнасьці, ідзе то ў музычны, то ў тэатральны гурток...

— Цікава!—круціў галавою Пракоп, адчуваючы, як розныя думкі вартуюць яго старую галаву, каб насесьціся на яе, калі ён застанецца сам з сабою.

*(Далей будзе).*

23-I 1931 г.

## НА КАНЦЕ ВЯЛІКІХ ЭПОХ

**Мікола Хведаровіч**

На канце вялікіх эпох
Займаецца промін пажараў,
І зноў падымаюцца хмары
Надземных вялікіх трывог.

А покуль бязглуздзьдзіцы твань,
Газэтных суладзьдзяў камфорты.
Зіяюць атрутна рэторты
І сьмерці салдацкай здань.

Часова зьвініць трубадур,
Часова хмяліць асалода;
Глыбока зіяе нязгода,
Пылае бікфордаў шнур.

Пад п'яны шалёны запал
На панскае золата-грышчы.
Рыхтуюцца зноў агнявішчы
І выбуху страшны шквал.

А потым? Пакуль цішыня,
А потым? Удары зьнянацку.
І шэрай скацінкай салдацкай
Варожыя станы зьвіняць.

На канце вялікіх эпох
Краіна мая маладою.
Рэспубліка! Сам я з табою
На варце вялікіх эпох.

Бо наша зрубцованасьць плеч
Як сымбаль няволі адвеку.
Калі-ж прагрыміць небясьпека,
Ударна навострыма меч.

Я сам падымаю яго,
Я першым яго падымаю.
На панскую чорную зграю
Я рынуся першы ў вагонь.

## ПРАЗ АДМАЎЛЕНЬНІ

**Мікола Хведаровіч**

Вершам заўсёды я рад,
Ў вершах сябе адчуваю.
Вочы мае гарацъ
Радасьцю і адчаем.

Пэўна ў такую пару
Родзіцца госьць бяздольны.
Вось я і веру пяру,
Думкам маім застольным.

Вось паспрабуйце чытацъ,
Рэзкі мае перамены.
Любы мой, добры чытач,
Шлях мой ад зьмены да зьмены.

Зьменяць і нас змагары,
Новая плынь пакаленьняў.
Новы закон—ён стары,
Повень ў жыцьці адмаўленьняў.

Ў стылі сваім я, ці не,
Зараз гатовы наспрэчкі.
Хочу нанова зьвінець
Новых ў поэзіі рэчаў.

Верце, ня здрадзіў, а жыў
Дух мой і сёньня бунтарскі.
Буду ламаць рубяжы,
Біцца за шлях пролетарскі.

Бачыце, сам я ня свой,
Сорам мой нават ў экстазе.
Думак нязьлічаны рой
Рвецца ў нястрыманай празе.

Можа-быць гэта адрыў,
Проста дачасны прыпынак!
Хай-жа мой сорам згарыць!
Хай мой запал астыне!

Рынуся зноў штурмаваць
Будняў штодзенных работу.
Буду на прыступы звáць
Новую творчую роту.

Буду ударна пісаць,
Першым ў рабочай брыгадзе,
Буду ударнікам сам,
Нішчыць прагулы, бязладзьдзе.

Ямбы вастрэй за пяро,
Хоць стараваты да тэмы.
Родзіцца новы герой,
Новая рыфма поэмаў.

Родзіцца, я прадстаўнік
Новага тут пакаленьня.
Шлях наш цяжкі і вялік,
Повен ў жыцьці адмаўленьняў.

Трэба зацьвердзіць паход
Цьвёрда пастаўленай мэтай.
Хочу бязьлікіх прыгод,
Новых вялікіх поэтаў.

# СКАЗКА ПРА ГІЛЯ—СЬПЯВАКУ НЯЎДАЛАГА

> У пэрыяд соцыялістычнага будаўніцтва зьявілася шмат так званых паэтаў фразёраў. Цікава, што кожны з такіх „поэтаў“ лічыць сябе пролетарскім.

**Мікола Хведаровіч**

Мучыць напрасьніца прогліцу,
Дух захапляе астма.
Будзе дачасна скогліцца,
А потым зьнячэўку згасьне.

Вырасьце там макрыца,
Зьвянуць дарма пустацыеты..
Зараз-жа лезе сьляпіцай
У цэх пролетарскіх поэтаў.

Прындзіцца яшчаркай ў плойму,
Лезе сьляпіцай ў заперы.
Хоць-бы якому сойму
Ён пацалуе ў дзьверы.

Знойдзецце ўсё-ж імпрэсарыо,
Знойдуцца ўсё-ж і маэстры.
Усе, хто аб песьнях ня марылі,
Стануць крытычныя песты.

Позу ня зловіш у аброці,
Эквілібрыстыка, спрыцень.
Слава піітаў калоціць
Ад валасоў да кіпцяў.

Справіць прыедуць хрысьціны,
На дыбах падыдзе слава.
Крыцікаў, розных крэцінаў
На‘т не разьмесьціш на лавах.

Хэўра адных хванабэраў,
Мёду паўнюсенькі сподкі.
Стукаюць у Гілявы дзьверы
Мяккімі пальцамі сродкі.

Потым пацягнецца ў масы,
Потым сьмялей закрочыць.
Масы ж такіх амбарасаў
Слухайце, Гіль, ня хочуць.

Праўда, прыгожае масьці
Ваша пясьнярская скура.
Толькі пазбаўце напасьці
Кіньце свае пампадуры.

Масы ня зьдзівіш пастэркам,
Вельмі заблытана выйсьце.
Вось перад вамі люстэрка—
Пішэце...

Мучыць напрасьліца прогліцу,
Дух захапляе астма.
Будзе дачасна скогліцца,
А потым зьнячэўку згасьне.

## ШТАНДАР

**Юлі Таўбін**

Тры разы красаваў заход,
Каб у хвалях згубіцца лускай.
Трэці дзень плыве параход
Па марох ды затоках вузкіх.

Абагнуў ён ці мала скал,
Пераходзячы праз парты.
Акіян стары паласкаў
Маладыя яго барты.

Тры разы красаваў заход,
Біўся ў хвалях салонай лускай —
На чацьверты —
ён параход
Сустракае зарой французскай.

Грае мора бравурны марш,
Прагуляўшы апошні матч.
Грэе сонца сівы Ляманш
І чырвоныя хусткі мачт.

Адкрасаваўшы,
заход памёр
І патануў камбаловаю лускай...
Ты падплываеш,
Савецкі лінкор,
Да перапоўненай бухты французскай.
... Мачты махаюць чырвонаю хусткай...

З сініх праталін растуць берагі..
Кінуты якар у пену за ютам.
І параходы
спусьцілі
сьцягі
Ўсеакіянскім вітальным салютам.
... Штандар бурштынавы мачту акутаў...

З брыджу зьбягае стары капітан,
Флёту брытанскага даўняя заедзь
Трасцай калоціцца боцманаў стан
І лэйтэнант — як затраўлены заяц.
... Мачты чырвонаю хусткай махаюць...

Мічман лагодней глядзіць праз монокль
І ў захапленьні сьпявае каманда.
Песьня —
зьбівае нягоднікаў з ног,
Песьня,
што ў сэрцах жыла контрабанда.
... Мачту ахутаў бурштынавы штандар...

Мчыцца моторак рухавая стайка,
Мора мырмоча ў расьпешчаным сьне
І пад павеўнаю, хвалістай талькай
Гутараць крабы паважна на дне.

І над моторкамі,
над караблямі —
Высака,
высака —
чортава высь.
Песьня бярэ нячуваныя гамы,
Песьня ў паветры разгортваецца.

Сэрца ў рабочай сям'і адно.
У ўсіх у іх недзе варштаты і сем'і.
Адзін у Манчэстары ткаў радно,
Другі ў Іванава-Вазьнесенску.

Іх мора паклікала ў станы ваяк,
І сталі на вахце абодвы — тым часам
Другі —
бараніў іх агульны маяк,
А першы —
ўсяго толькі нечую касу.

І ўгледзілі першага вочы ману,
Спрадвеку прыкрытую сэйфавым сховам,
І тым, хто яго пасылаў на вайну —
Цяпер ён пагардным адказвае словам.

Няхай самаўпэўнены банкавы бог
Са спрытам гадуе гатункі атруты —
Гарматы ў інакшы павернуцца бок,
А боцмана —
прымуць з прыемнасьцю спруты.

А!.. шторм надыходзіць!..
праносіцца вал
І вецер на мачтах
пра буры гаворыць.
Шумі-ж ты, шумі,
„Інтэрнацыянал“
Над шэрай паверхняй Паўночнага мора.

Запомнім:
Хоць вецер забіў сярод рэй
І стэк узнагароджвае за „пропаганду“,
А ўсё-ж ён віецца —
вышэй,
вышэй,

Рабочы,
савецкі,
чырвоны штандар.

18/І-31.
Менск.

## ЛІСТ ДА РЭСПУБЛІКІ МАЙГО СЯБРА

**Уладзімер Лугаўской**

Ты гмахі ўздымаеш, будуеш,
жанеш цягнікі ўначы,
На кожнае шчырае слова
становіча адказ твой гучыць.
Даруй мне мае памылкі—
назад іх бярэ мой рок.
Вазьмі ты мяне, перайнач ты мяне
і з грукатам руш упярод.
Я частка твайго цела—
ў ім дужасьць тваіх рук.
Калі я са шляху збочыў,—
таксама ты мне даруй.
Напоўні загадам мой мозак
і ветрам набі мне рот.
Вазьмі ты мяне, перайнач ты мяне
і з грукатам руш упярод.
Я спаў на тваёй пасьцелі,
пакрыты сьнеговай карой,
І ёсьць на тваіх раўнінах
мая маладая кроў.
У бойку я не спазьнюся
і стану ў шарэнгу рот,—
Вазьмі-ж ты мяне, перайнач ты мяне
і з грукатам руш упярод.
Такія давалі хібу,—
лягла не адна галава.
Я школам тваім і газэтам
і клюбам сябе аддаваў.
Такія, як я, уздымалі
дэпо і забой і завод.
Вазьмі ты мяне, перайнач ты мяне
і з грукатам руш упярод.
Такія, як я, сядзелі
над лічбамі ўдзень і ўначы,

Такія занядалі,
а ты ім магла памагчы.
Хто дужы табою—
на працы ён,
Пакінутым—
сьмерці змрок.
Вазьмі-ж ты мяне, перайнач ты мяне
і з грукатам руш упярод.
Я веў тваё экспэдыцыі,
стаяў ля тваіх рэторт,
Я працу сваю выконваў,—
хоць гэта й ня першы сорт.
Ты з месяцу ў месяц будуеш,
мінаеш за годам—год,—
Вазьмі-ж ты мяне, перайнач ты мяне
і з грукатам руш упярод.
Я йшоў за табою сьледам,
з цяжкай, як жыцьцё, сям'ёй.
Ї маці, і жонка, і сёстры
пралі плацьце тваё.
Пракляў я кватэрную плату,
пракляў я вадаправод,—
Вазьмі-ж ты мяне, перайнач ты мяне
і з грукатам руш упярод.
Я ледзьве хістаю вершы,
я сонным агнём гару.
За тое, што стаў я халодным,
таксама ты мне даруй.
Але час ідзе і будоўля йдзе
і прыдзе і мой чарод,—
Вазьмі-ж ты мяне, перайнач ты мяне
і з грукатам руш упярод.

З расійскае поэзіі пераклаў
**А. Звонак.**

## ГРЭНАДА

**М. Сьвятлоў**

Мы ехалі крокам,
Скакалі ў баёх
І „яблычка“-песьня
Зьвінела ў палёх.

Хавае ўспамінам
Той сьпеў баявы
Трава маладая—
Стэповы кавыль.

Ды іншыя сьпевы
У сябра былі:
Аб краі далёкім,
Аб дальняй зямлі.

Ён, даль аглядаючы,
Часта пяяў:
— Грэнада, Грэнада,
Грэнада мая!—

І сьпеў той на вуснах
Ніколі ня гас...
Адкуль-жа гішпанская
У хлопца туга?

Скажы, Александраўск,
Дай, Харкаў, адказ:
Гішпанскія песьні
Ці здаўна у вас?

У палёх ці-ж ня гэтых,
Украіна, скажы,
Тараса Шэўчэнкі
Папаха ляжыць?

Адкуль-жа, мой дружа,
Песьня твая:
Грэнада, Грэнада,
Грэнада мая?—

І скрозь лятуценьні
Ён ціха ў адказ:
— Браточак, Грэнаду
Я ў кніжцы спаткаў.

Адменная назва,
Прыгожасьць у ёй.
Грэнадзкая воласьць
Ў Гішпаніі ёсьць.

Я хату пакінуў,
Пайшоў ваяваць,
Зямлю каб сялянам
У Грэнадзе аддаць

Бывай-жа, радзіма,
Бывай-жа, сям'я!
Грэнада, Грэнада,
Грэнада мая!

Пазнаць мы жадалі
(І марылі шмат)
Граматыку бойкі—
Размову гармат.

А золак займаўся
І зноўку зьнікаў,
І коні стаміліся
Стэпам скакаць.

Ўсё-ж „яблычка"-песьню
Іграў не адзін
Смычкамі пакуты
На скрыпках часін.

Дык дзе-ж, мой таварыш,
Песьня твая:
— Грэнада, Грэнада,
Грэнада мая?—

Прабітае цела
Да долу спаўзло,
Назаўжды таварыш
Пакінуў сядло.

Ï месяц над трупам
Самотна лунаў,
Як мёртвыя вусны
Шапнулі:—Грэна...

Так! Шляхам далёкім,
Праз хмараў страі,
Пашоў мой таварыш
Ï песьня за ім.

Ï болей ня чула
Радзімы зямля:
— Грэнада, Грэнада,
Грэнада мая!

Атрад не заўважыў
Загубы байца
Ï „яблычка“-песьню
Дапеў даканца.

Ды толькі з падхмар‘я
На захадзе дня
Скацілася сумна
Сьлязінка адна.

Інакшыя песьні
Нясе наша быль...
Ня трэба, сябры,
Аб мінулых журбы...

Ня трэба, каб смутак
У сэрцы буяў...
Грэнада, Грэнада,
Грэнада мая!

З расійскае мовы пераклаў
**А. Звонак.**

## З ВЕРШАЎ „СЭРЦА І ПОРАХ“

**Макар Пасынак**

Пакуль на будоўлі стаім
І сэрца і порах спакойны.
А ўсё-ж ткі наступныя войны
Лунаюць над намі, як дым.

Калі-ж пунсавецьме усход
На раньні аблiччам знаёмым,—
Узрушыць загад ваенкома:
„Таварышы, зноў у паход!“

І новыя гмахі муроў
Бязьлюднасьць тугою спаткае,
І можа мы зноўку пазнаем
Журбу мерцьвякоў—дымароў.

Кастрычніка ўзбураны час,—
Романтыка баявая!
Ніхто нас з табой не пасварыць:
Ні радасьць, ні стынь перагас.

Ці будзем у працы гарэць,
Ці ў дні у блакітным спакою,
Мы ведаем: сэрца—для бою,
А порах—каб ворага стрэць.

З расійскае мовы пераклаў
**А. Звонак.**

# РУБЕЖ

*(З роману „Сьмерць Андрэя Беразоўскага“)*

**Міхась Зарэцкі**

Тлумачэньне

У 1929 годзе я напісаў быў пачатак роману „Крывічы“, частка якога была надрукована ў часопісі „Полымя“. Гэты роман быў прасякнуты нацыянал-дэмократычнымі тэндэнцыямі, пад уплывам якіх я знаходзіўся, і справядліва асуджаны партыйнай і савецкай грамадзкасьцю.

„Крывічы“—чорная пляма ў маёй літаратурнай творчасьці. Сьцерці гэтую пляму, я лічу, можна толькі тады, калі сьцерці самы вобраз „Крывічоў“, Таму я і пішу „Сьмерць Андрэя Беразоўскага“. Гэта—новы роман з старымі героямі. У ім я бяру за мэту—сарваць маскі, разьвеяць туман романтычнае ідэалізацыі, у які атулены былі пэрсонажы „Крывічоў“, і паказаць іх у іхнай праўдзівай сутнасьці.

„Рубеж“—урывак з новага роману. Як і кожны ўрывак з няскончанага твору, ён у значнай меры мае эскізны характар.

## I

Зусім малазначны выпадак—сустрэча з п'яным Галакцёнкам—спрычыніўся таму, што Лявон Камяга з раптоўнай катэгорычнасьцю адказаў сам сабе на сумненьні, якія мардавалі яго на працягу доўгага часу. Праўда, гэты адказ ня меў яшчэ стала акрэсьленай формы—у ім было многа інтуіцыйнага—але, бязумоўна, тут быў перелом—рашучы і цьвёрды пералом, падрыхтаваны цэлай чарадой жыцьцёвых зьяў і колізій.

...Гэта—ня тое, што трэба. Зусім ня тое. Ён глыбока памыліўся, калі ў сваім юнацкім захапленьні знайшоў быў тут нешта маладое, поўнае жыцьцёвае сілы, і спалучыў яго з сваімі імкненьнямі. Так, ён глыбока памыліўся.

Фактычна гутарка з п'яным Галакцёнкам была толькі зачэпка, толькі апошняя кропля ў поўна налітай пасудзіне. У ёй ня было нічога выдатнага.

Было так...

Лявон ішоў надвячоркам па аднэй невялічкай і досыць бруднай вуліцы. Галакцёнак з кампаніяй маладых хлопцаў выпхнуўся перад ім з

піўніцы, угледзеў яго і патупаў яму насустрэчу важкімі, цупкімі, як у марака, крокамі. Па гэтай заўзятай хадзе яго ды йшчэ па ўгнутай, як у натурлівага быка, галаве Лявон адразу ўцяміў, што ён бяз меры п'яны.

— Стой! Куды йдзеш?

І Галакцёнак, стаўшы ў яго пад самым носам, важка пахіснуўся ды з п'яной нясуладнай сілай смаргануў яго за рукаў. Хлопцы—тож п'яныя—скомчаным гуртам таўкліся навокал.

Лявон адказаў з іронічнай усьмешкай:

— Іду туды, куды ня шкодзіла-б і табе падацца: дахаты.

Галакцёнак зноў пахіснуўся, узьняў галаву і ўтаропіў у яго мутны, няпэўны пагляд.

— Пастой, пастой... Лявон Камяга! Пойдзем піць... Будзем піць і—па тым... Трэба піць, калі жыцьцё скручвае... во...

Ён з адчайнай напружанасьцю сашчаміў кулак.

Лявон трымаў свой лёгкі насьмешлівы тон.

— У мяне на гэта яшчэ ня сышло. Па мне—жыцьцё, чым далей, шырэйшае ды цікавейшее робіцца.

— Цікавейшае... ага... разумею... хлопцы, чуеце?

Ён нязграбна павёў рукой навокал сябе і раптам крыкнуў з неспадзяванай энэргіяй:

— Ты—беларус?

І ў чаканьні адказу як мага насупіў бровы ды зірнуў на Лявона комічна-строгім упартым поглядам. У гэты момант ён заўважыў Лявонаву іронічную ўсьмешку і ўраз працяўся п'яною злосьцю. Твар у яго скрывіўся ў бязьмежна пагардлівую ўсьмешку—ён з маху ўдарыў Лявона па плячы і, уцупіўшыся крывымі маласлухмянымі пальцамі, пачаў, як сіла, трэсьці яго.

— Эх, ты-ы-ы... ортодо-о-окс...

Гэта праходзіла межы сяброўскага, хоць і п'янога, жарту—вочы ў Галакцёнка заблішчэлі ўжо хваравітым агнём—і таму Лявон больш не марудзіў: ёмкім ударам ён скінуў з пляча Галакцёнкавую руку і, адпіхнуўшы яго на бок, пашоў сваёй дарогай. Усьлед яму грымнуў разложысты рогат, з якога вырваўся істэрычна-вісклівы воклік:

— Здраднік!..

Як заціхлі за плячмі п'яныя бязладныя галасы, Лявон суняў ход і здаволена ўсьміхнуўся. У яго засталося адчуваньне, нібы трапіў быў ён пад нейкі брудны струмень, але парой схапянуўся і выскачыў з-пад яго—адно троху забрудзіў вопратку.

Калісьці ў гэтай кампаніі прымалі яго, як жаданага шчырага сябра, калісьці ён рад быў, шчасьлівы гэтым і думаў, што ў тых атрутна-салодкіх лятуценьнях, якія ў той час спавівалі яго сьвядомасьць (як любіў ён тады Беразоўскую—гэтую мілую наіўную фанатычку!), што ў тых лятуценьнях адкрываўся гістарычны шлях яго і яго краіны.

Ад тэй пары і да гэтае п'яное лаянкі валацугі Галакцёнка прайшоў Лявон вялікі—не ў даўжыні, а ў крутым натужным уздыме—шлях. На гэтым шляху яскравай плямай асталася Зена Беразоўская.

Сьмешная дзівачная Зена! Сьмешная была ў яе Беларусь—паліваная цацка ў барвістых паркалёх і з барвістым размалёваным тварам. Сьмешна, падзяцінаму яна знала яе і верыла ў яе—адылі верай сваёй захапіла была і яго—любіў ён барвістую паліваную цацку, цешыўся з яе ў сваіх юнацкіх лятуценьнях.

Зена асталася на шляху пералётнай зьнічкай—асталася з ёй і яе дзіцячая сьмешная Беларусь. Нейкі час змагаліся яны—ёк цягнуў яе з сабой у жыцьцё, у прасторы яснага цьвярозага дня, а яна атуляла яго салодкім ліпучым чадам і прымушала сьніць разам з ёй дзівачныя казкі-сны.

Над ёй з фатальнай няўхільнасьцю зьвісла кашчавая рука мерцьвяка—над ёй непадзельна пануе вобраз бацькі яе—Андрэя Беразоўскага.

Цікава. Калісьці яму гэты вобраз зьяўляўся поўны магутнай сілы і чароўнай прывабнасьці—ён адчуваў да яго бясконца глыбокую веру й пашану. А цяпер (Лявон наўмысьля стараецца, ідучы, як найясьней уявіць гэты вобраз)—ён пабляк зусім, расплыўся ў цьмяных нявыразных фарбах. Цяпер ён нагадвае нейкага задрыпанага сьвятога (мабыць, Міколу) са старой сацьмелай іконы.

Лявон, натрапіўшы на гэтае параўнаньне, здаволена засьмяяўся. Нібы знайшоў ён тут, у параўнаньні ў гэтым, выйсьце з сваіх сумненьняў. І ён цьвёрда, катэгарычна сказаў сам сабе:

— Гэта—ня тое, што трэба. Зусім ня тое...

У гэты момант ён падышаў да свае кватэры. Увайшоўшы ў калідор, ён адразу заўважыў, што дзьверы ў яго пакой прачынены (ён ніколі не замыкаў іх на ключ) і што ў пакоі гарыць электрычнасьць. Хто-б там ні быў, але яму цяпер прыемна было пабачыць чужога чалавека (так заўсёды бывае, калі на душы раптам адкрыецца жаданая яснасьць), і ён увайшоў у пакой з вясёлай, ветлай усьмешкай.

У пакоі на ложку ляжала жанчына. Яшчэ не разгледзеўшы твару яе, Лявон дагадаўся, што гэта Тацяна.

Тацяна з-пад насупленых броў устроміла ў яго свае чорныя вочы, але ня ўстала, нават не ўзьняла галавы, не зварухнулася. Лявон падышоў да яе і моўчкі, з усьмешкай чакаў тлумачэньня. Тацяна сярдзіта буркнула:

— Я кінула Пражэню.

— Зусім?

— Зусім.

Лявон падсеў да яе на ложак і настойна глядзеў ёй у твар—з ласкай і цікавасьцю. Яна, не зьмяніўшы паставы, тлумачыла тым самым сярдзіта-бурклівым тонам:

— Гэта зусім не чалавек, а хадзячая формула. Ён мабыць меў і мяне за нейкі ікс або ігрык у матэматычным зраўнаньні, у якое ўкладае ён усё жыцьцё. А я—чалавек. Ну, вядома—чалавек...

У апошнія словы яна ўліла максымум пракаланасьці, нібы й сапраўды даводзіла Лявону, што яна чалавек, а ня ігрык, і нават узьнялася на локаць.

— Я страшэнна ня люблю матэматыкі... ненавіджу яе... і яго... Я-ж хочу жыць—разумееш ты, ці не?—жы-ы-ць... А ён хоча, каб я—як лічбіна ў бухгальтэрыі... крэдыт, дэбэт, сальда, шмальда...

Яна ўжо сядзела на ложку і ваяўніча бліскала вачмі. Адылі раптам стрымалася, абвяла крытычным вокам Лявонаў пакой і зазначыла:

— Няпрытульна ў цябе... дрэнна... зусім дрэнна... Нам трэба будзе зьмяніць кватэру.

Лявон засьмяяўся.

— Ужо?

Устаў і ў задуме пачаў хадзіць па пакою.

— Ведаеш што, Тацяна? Ты ня ўмееш жыць... не, ня можаш, гэта будзе правільней... Ня можаш прыстасавацца да ўмоў нашага жыцьця, органічна ўвайсьці ў яго. Паміж іншага, у цябе розум ёсьць—ты ня дурная. Пачуцьця—больш, чым трэба... ну, і тэмпэрамэнту... Але ты—шалапутная...

Тацяна, седзячы на ложку, паволі гоўталася тулавам у бакі і ў тахт сваім рухам гаварыла спакойна і проста:

— Я ня люблю вашага жыцьця... Ваша жыцьцё—поснае... У вашым жыцьці няма шыку... няма рызыкі... няма надзвычайнага... няма страшнога... няма бліскучага...

Лявон пацьвярджальнаківаў галавой:

— Так... так... так... так... Цікава... Надзвычай цікава... Ты амаль што вырасла за рэволюцыяй, а тым часам цалкам і поўнасьцю прысвоіла псыхолёгію звычайнага буржуа. Гэта, мабыць, сьляды выхаваньня.

Тацяна ў гнеўным зьдзіўленьні ўзьняла на яго свае вочы.

— Ну, і што-ж там... Хай сабе так... Ну, буржуа... Ну, хачу быць буржуйкай. Хочу жыць у бляску, у раскошы... каб шоўк... дыямэнты... балі... гулянкі... усё, усё...

Лявон ня вытрымаў—голасна зарагатаў. Гэты сьмех чамусьці страшэнна ўразіў яе. Яна ўскочыла з ложку, падбегла да яго і закрычала, як няпрытомная:

— Сьмяешся? Ты сьмяешся?... А вы ўсе—лепшыя? Вы—ня гэткія?.. Га?.. Вы—з вашай гэтай паганай Беларусьсю, з вашай гэтай чмутой, з вашымі вымудрамі... Вы—здаволены, га?.. Вам ня тое самае трэба?.. Ха-ха-ха!.. Якія героі, якія рыцары!.. Ідэалы, імкненьні, парываньні... Хлусы вы! Каго вы хочаце падманіць? Мо' самі сябе?..

Лявон узяў яе за руку і не заўважыў, што сьціснуў так, аж яна ад болю закусіла губу. А з твару ў яго ня сыходзіла ўсьмешка, толькі цьвёрдая нейкая стала, адзервянелая.

— Я, Тацяна, задаволен жыцьцём... Ведай гэта... Я **нашым** жыцьцём здаволен. Я маю ў гэтым жыцьці тое, перад чым грошу варты твой

шык і бляск, і дыямэнты, і ўсякая іншая дрэнь... Я за гэта жыцьцё змагаўся, я пакутваў за яго, я імкнуўся да яго... і я яго не аддам... ведай гэта і... ня блытай.

Ён змоўк, нэрвова прайшоўся па пакою, а тады раптам засьмяяўся— проста і весела.

— А ты маладзец, Тацяна! Ты гэта ўдала... Ха-ха!.. Шчыра, адкрыта. і... у самую кропку...

Тацяна стаяла на тым самым месцы—панурая, вялая. Яна нічога не адказала, а моўчкі завярнулася і пашла да сьцяны, дзе вісела яе паліто. Лявон спыніў яе.

— Тацяна, ня варта. Ты да Пражэні ня пойдзеш, я гэта ведаю. Ты будзеш недзе блукаць усю ноч. Я ня пушчу цябе.

Тацяна, ня прымаючы рукі ад паліта, абярнулася тварам да сьцяны і ціха заплакала.

## 2

Роўна, аднамерна цікае на сьцяне гадзіньнік. Гукі яго то глыбока тонуць у вечаровай цішы — ня чуваць іх, няма іх зусім, — то раптам усплываюць наповерх і назольліва лезуць у галаву, абуджаючы ўнутры дзіўную турботнасьць.

З вуліцы, як ціканьне гадзіньніка, суха ўлятаюць такія-ж роўныя, аднамерныя ўдары людзкіх крокаў. І з такой-жа назольлівай аднамернасьцю б'ецца аб столь вялікая чорная мухіна.

Ужо блізка гадзіны мітусіцца ўгары гэта асалапелая мухіна, і блізка гадзіны глядзіць на яе, не адводзячы вачэй, Пражэня. Ён даўно ўжо забыўся на мухіну, але ў мазгох усё яшчэ мітусіцца абуджаная ёю думка:

„Кожная, некалькі раз узапар паўтораная зьява, набывае выгляд законамернасьці“.

Гэтая думка ня мае ніякае сувязі з асноўнай плыньню яго разважаньняў, і ён з ахвотай на ёй адпачывае. І гэтая лёгкая думка цягне сьвядомасьць яго ў прыемную ўладу абсолютнай цішы. Так трывае датуль, пакуль не выныраюць з цішы гукі гадзіньніку. Тады, занядбаўшы назольлівую мухіну, ён бярэцца за пяро, макае яго ў атрамант, але ня піша — так і астаецца сядзець, застыўшы з нарыхтаваным пяром у руцэ.

З уласьцівай яму мэтодычнасьцю ён раскладае думкі свае на дзьве незалежныя адна ад аднае катэгорыі: першая—што да сямейных спраў, да Тацяны і яе апошняга ўчынку; другая, менш вострая, але больш складаная і заблытаная, уключае ў сябе думкі аб стане іхнага таварыскага гуртка, які склаўся быў на грунце сьвежае памяці пра Андрэя Беразоўскага і які перажывае цяпер глыбокі хваравіты разлад. Гэты разлад, як прымеціў Пражэня, зачаўся з таго вечара, калі меліся былі чытаць рукапіс Беразоўскага і калі гэты рукапіс дзіўна, загадкава зьнік.

Учора быў у яго Сьляпень—ён кідаўся, бушаваў і праз увесь час рабіў нейкія дзіўныя закіды. Яны з ім доўга і ўпарта спрачаліся аб лёсе беларускае вёскі, аб шляхох яе экономічнага разьвіцьця. У іхнай спрэчцы было многа недаказанага—яны нібы баяліся, ня мелі веры адзін да аднаго і ўнікалі ад канчатковых формуляваньняў. Аднак Пражэня ясна зразумеў, што Сьляпень—зацяты вораг тае рэконструкцыі вёскі, якую праводзіць партыя і ўлада, бо бачыць у ёй замах на нацыянальную самабытнасьць Беларусі.

Учорашняя гутарка пакінула ў Пражэні выразнае адчуваньне, што ён і Сьляпень пачынаюць ісьці пэ розных дарогах. Гэта выяўляецца і ў знадворных паводзінах Сьляпня, якія часам дзівяць Пражэню, а часам абуджаюць у ім выразнае нездаволеньне. Яго блізкая сувязь з Кураўкевічам і іншымі прадстаўнікамі былое эміграцыі, яго мягушлівае сябраваньне з моладзьдзю, яго раптоўныя выезды некуды на вёску—усё гэта прымушае Пражэню станавіцца да яго з падазронай настарожанасьцю.

Сьляпень відочна ідзе на шлях нейкае політычнае акцыі. Пражэня гэтым шляхам ня пойдзе.

Гэта—першы этап, першы конкрэтны вынік яго лёгічных разважаньняў. І дайшоўшы гэтага выніку, Пражэня яшчэ раз макае пяро ў атрамант, акуратна папраўляе на стале аркуш паперы і з шчырай старанасьцю становіць на ражку паперыны солідную кропку. Гэты мімавольны жэст канчаткова ўстанаўляе ў нутры ў яго роўнавагу і дае яму магчымасьць узяцца за другую катэгорыю сваіх думак, за думкі аб Таццяне.

Але ў гэты момант з злоснай настойнасьцю зацікаў гадзіньнік, у нэрвовай сумятні забілася аб столь дакучная мухіна, і крокі з вуліцы прыляцелі ў пакой асабліва выразныя і нахабныя. Словам—ні з таго ні з сяго ўзьнялася ў Пражэневым нутры тая дзіўная прыкрая турботнасьць. І тады раптам з халоднай яснасьцю адчуў ён сябе ўсяго—з усімі думкамі сваімі, пачуцьцямі—у вузкім абмежаваньні гэтага маўклівага пакою, адчуў, што ён тут адзін—канчаткова і безнадзейна, што за сьцяной ня чуваць і не пачуецца больш бязладнае цёплае сумятні Таццяны.

Пражэня формуляваў гэта так:

— Адзінота спрые спакойнай плыні думак, але залішне абвострвае пачуцьці.

І, паволі ўстаўшы ад стала, ён прайшоўся разы са два па пакою, пераставіў ад сьцяны да сьцяны крэсла, пастаяў колькі хвілін перад халоднай самотнай канапай--яго цяперашнім ложам, і, узяўшы шапку, вышаў на вуліцу.

Яго цягнула цяпер у самую гушчыню людзей, і ён з гадзіну шпацыраваў туды-сюды па галоўнай вуліцы, а пасьля падаўся да вагзалу—там, у нэрвова-разгоннай дынаміцы вірлівага натоўпу, ён спадзяваўся разьвеяць сваю маркоту.

З дзьвярэй вагзалу, насустрэчу яму, выпаўзала аброслая грамозднымі нарасьцямі дарожных рэчаў бясконцая істужка пасажыраў: аднекуль

прышоў пасажырскі поезд. Пражэня стаяў ля дзьвярэй і ўважна разглядаў падарожнікаў, шукаючы сярод іх знаёмых твараў: у яго зьявілася дзіўная ўпэўненасьць, што ён некага сёньня сустрэне—і ён прагна жадаў цяпер гэткае раптоўнае выпадковае сустрэчы. Праз колькі хвілін ён інстынктыўна адчуў на сябе нечы ўпарты погляд і азірнуўся. Збоку ад яго стаяў малады мужчына (чысты даўгаваты твар, высокі лоб, упарта акруглены падбародак)—ён пільна глядзеў на Пражэню і ледзь прыметна ўсьміхаўся аднымі сваімі тонкімі выразьліва сьціснутымі вуснамі.

Пражэня адразу пазнаў Цімоха Варэніка, з якім калісьці бачыўся ў вёсцы Загацьці пад час свае там хваробы. На вялікае дзіва, гэта сустрэча з малазнаёмым чужым чалавекам зрабіла на Пражэню нечакана-моцнае ўражаньне—ён падышоў да Цімоха ў мімавольным узрушэньні, апанаваны незразумелай трывогай.

— Прыехалі?

— Прыехаў.

І ці толькі паціснулі адзін аднаму рукі (няўпэўнена, сьцеражліва), абодва зрабілі рух у бок гораду, чым бяз слоў вызначылі свае далейшыя паводзіны: абодва моўчкі сышлі з вагзальных ганкаў і пашлі поплеч па глухой цямнявай вуліцы.

Пражэня добра ведаў, што яму прыдзецца шчыра, ад душы гаварыць з гэтым чалавекам, што гутарка будзе, напэўна, цяжкая яму—Варэнік будзе адчуваць сваю перамогу, будзе мацнейшы, сталейшы—але гутарка гэта патрэбна яму, Пражэню: яна ачысьціць яго сьвядомасьць ад апошніх сьлядоў балючых сумненьняў. Ён цяпер толькі ўсьвядоміў, што гэтае гутаркі чакаў аж з таго часу, як атрымаў першы Марцін ліст пра комуну.

Адылі, ідучы, доўга маўчалі дый, пачаўшы, нарэшце, гаворку, Пражэня ні з таго ні з сяго загаварыў пра сямейныя справы.

— У мяне маленькая здарылася няпрыемнасьць: надоечы ад мяне пашла мая жонка. Я хадзіў на вагзал проста затым, каб разьвеяць настрой—там, дзе больш людзей, там бывае лягчэй.

Ён троху змоўчыў і раптам пачаў гаварыць тое глыбока-інтымнае, пра што не казаў дасюль ніводнаму чалавеку:

— Фактычна, гэтага можна было чакаць, бо ў нас з ёй было зусім мала супольных перажываньняў. Ёй было нудна і яна шукала ўвесь час чаго-небудзь экстравагантнага. Яна казала, што здраджвае мне з другімі мужчынамі проста з нуды, што тут няма нічога глыбокага. Я так і думаў—я не надаваў гэтаму асаблівага значэньня. Калі яна сказала, што кідае мяне, я падумаў, што яна проста сходзіць у тэатр, ці да знаёмых сваіх, і прыдзе дахаты. А цяпер мне зусім ясна, што гэта—назаўсёды, бо, каб і вярнулася яна, я сам-бы не згадзіўся з ёй жыць. Яна будзе скрозь адчуваць прыкры сорам, і злавацца, і ненавідзець мяне. Гэта—ясна.

І, зноў памаўчаўшы колькі сэкунд, ён заключыў:

— Я—экономісты, і больш цікавіўся пытаньнямі політычнае экономіі, жанчынамі займаўся мала. Гэта—першая жанчына, якую я знаў. Я мяркую, што можна будзе знайсьці другую жонку, хоць мо' і не такую прыгожую. Як вы ўважаеце?

Цімох каротка пацьвердзіў:

— Бязумоўна.

І ў гэтым нязначным слове Пражэня чамусьці адчуў дружнае заспакаеньне. Тады з сьмелай прыязнасьцю ён прапанаваў Цімоху:

— Вы можа пойдзеце да мяне? У мяне пустая цяпер кватэра і ёсьць на чым спаць.

Цімох згадзіўся.

Яны ў гэты вечар доўга сядзелі ў Пражэневым габінэце. Гутарка, пачаўшыся з тугой нязграбнай марудлівасьцю, потым захапіла абодвых і завяла іх у глыбокія нетры плянаў ды меркаваньняў пра блізкую будучыню краіны. Пражэню гэтая доўгачаканая гутарка абярнулася ў глыбокую шчырую споведзь, у падсумаваньне яго ўпартае—на працягу бадай што цэлага году—работы над сваім сьветапоглядам.

Ён паказваў Цімоху цэлыя груды розных дакумантаў, матар'ялаў, якія ён зьбіраў з рупнай стараннасьцю працавітай мурашкі, цэлыя копы сьпісанае паперы—з рознымі нататкамі, вылічэньнямі і нават рысункамі.

— Вось бачыце. Гэта ня толькі праца па экономічных дасьледваньнях. Гэта—маё жыцьцё, яго творчая матэрыялізацыя. Тут я знаходзіў сябе, сваё месца ў гістарычным процэсе, які мы перажываем... Я трапіў быў у памылку, уласьцівую буржуазным экономістым,—я ігнораваў магчымасьць рэволюцыйнае соцыялістычнае перабудовы жыцьця. Памятаеце маю бязьверыцу да вашае комуны? Я грунтаваўся на псыхолёгіі сялянства, на яго дробна-буржуазнасьці і даводзіў, што селянін ня здольны пабудаваць колектыўную гаспадарку. Жыцьцё разьбівае маю тэорыю.

Цімох між іншага зазначыў:

— Я ведаю, вы сочыце за кожным крокам нашай комуны. Я прывёз вам многа новых цікавых фактаў.

Пражэня дапытліва ўзьняў на яго свае маленькія плыткія вочы.

— Мне піша пра ўсё Марта. Вам гэта вядома?

Цімох кіўнуў галавой. Пражэня вярнуўся да свае тэмы:

— А ведаеце, у чым была асноўная хіба маіх развражаньняў? Я ня браў на ўвагу аднаго фактару, які адыгрывае тут галоўную ролю. Я глядзеў на вёску, на сялянства ізолявана, у межах тых экономічных, соцыяльных і ідэолёгічных магчымасьцяй, якія мы сёньня там маем. І я зусім занядбаў быў такі магутны рухавік, як дыктатуру пролетарыяту, яго кіраўніцтва і дапамогу сялянству ў перабудове жыцьця. Вы ўяўляеце, як гэты новы фактар перавярнуў усе мае тэорэтычныя высновы?

— Добра ўяўляю. Тут у нас „невялічкая“ розьніца: вы прыходзіце да гэтага ў канцы сваіх разважаньняў, а мы, комуністыя, свае разважаньні ад гэтага пачынаем. Як бачыце, мы ідзем па розных дарогах. І не заўсёды гэтыя дарогі злучаюцца.

Пражэня насторожана змоўчыў. Яму пачулася халодная чужасьць у гэтым рэзкім Цімохавым формуляваньні. Але Цімох глядзеў на яго зусім весела і прыязна сваймі спакойнымі ўдумлівымі вачмі, і Пражэня супакоіўся.

— Над намі вісіць цяжар старой буржуазнай навукі. Наш шлях цяжкі і пакутны.

Ён на хвіліну задумаўся, машынальна перабіраючы на стале свае нататкі. Потым паглядзеў на Цімоха даўгім пранізьлівым поглядам і цьвёрда сказаў:

— Я, таварыш Варэнік, тую „розную“ дарогу прайшоў. Я прыглядаўся, вывучаў і шукаў. Цяпер я хочу памагаць... я буду памагаць... Я знаю і веру...

Цімох Варэнік лагодна ўсьміхнуўся і, перарваўшы сваю абыклую сьцеражлівую маўклівасьць, загаварыў дружным, бадзёрым тонам, у якім нават пачуліся ноткі зусім маладой, юнацкай заўзятасьці.

— Я раскажу вам, таварыш Пражэня, пра тое, што дзеецца ў нас. Наша комуна цяпер—зусім дробязь у параўнаньні з тым, што разгарнулася навокал. Проста дзіву даешся, ня верыш вачом. Усё крышыцца, пераварачваецца, усё робіцца нанова. Гэта—новая рэволюцыя, якая ўскаланула ўсё жыцьцё да самага дна. Вы тут больш па газэтах ды матар'ялах мяркуеце... Я дам вам жывыя факты, з самага жывога жыцьця...

І яны ўдаліся тады ў бясконцую гутарку, прасычаную сяброўскай даверлівасьцю і шчырым захапленьнем. Кожнае слова з гэтае гутаркі, кожную новую думку ці вобраз Пражэня з рупнай абачлівасьцю далучаў да строга сыстэматызаванага запасу сваіх дасьведчаньняў; і голы шкілет яго тэорэтычных высноў паступова абрастаў жывым целам рэальных фактаў.

Цімох пашоў спаць гадзіне з трэцяй, пакінуўшы Пражэню ў трывожна-радасным узбуджэньні.

Цудоўныя часіны перажываў у гэтую ноч Пражэня. Аб тым, каб класьціся спаць, ён і ня думаў—так і астаўся сядзець за сталом, захоплены шпаркай чарадой гарачых думак. У яго сьвядомасьці мітусіліся ўжо новыя пляны новае дзейнасьці—яскравыя, сьмелыя пляны, бо вырасталі яны ужо ня з тупой блытаніны сумненьняў, а з цьвёрдай непарушнай упэўненасьці. Яму карцела зараз-жа, не ўстаючы ад стала, узяцца за працу, зараз-жа распачаць свой новы жыцьцёвы этап. Ён машынальна выцягнуў са стала шуфлядку, быццам шукаючы нечага пільна патрэбнага, без чаго ня можна пачаць работу, і выпадкова натрапіў на Марціны лісты. На твары ў яго зьявілася задуменная ўсьмешка. Ён пачаў

пераглядаць дробна напісаныя выпадковыя аркушы (то з вучнёўскага сшытку, то з блёк-ноту, то з нейкае бухгальтэрскае кнігі), пасьля выбраў адзін і нанова перачытаў яго ад пачатку да канца. Ліст быў такі:

*„Таварыш Пражэня!*

*Гэты ліст я пішу ня спроста, а з аднае, можа і троху сьмешнае, прыгоды: сёньня ўраньні ацялілася нашая агульная ўлюбёнка—Пралеска. Пад час сьнеданьня прыбег да нас стары Піліп—мы думалі, што пажар ці якое ліха—так ён быў узрушаны. Аж ён засьмяяўся—добра так, радасна, і расказаў пра гэтую навіну. І—ці ведаеш ты?—мы бадай што ўсе кінулі сьнедаць і пабеглі глядзець нованароджанага. Ён быў дужа сьмешны—цыбаты, лабаты—стаяў, шырока раскірэчыўшы ногі, і пазіраў на нас зьдзіўлена і недаверліва. Мы любаваліся ім мо' з паўгадзіны і спрачаліся, штурхалі адзін аднаго—кожны хацеў крануць яго рукой, палашчыць. А стары Піліп адганяў нас і жартліва лаяўся, казаў, што асурочым. А калі нованароджаны натурліва матнуў галавой і дрыгнуў ножкамі, нібы хацеў падбрыкнуць, стары ня вытрымаў і сам пяшчотна палэпаў яго па тонкім слабенькім крыжы. І на ўсё раньне ды й ня толькі на раньне, а на ўвесь гэты дзень у нас застаўся вясёлы ўзьняты настрой, нібы было ў нас нейкае сьвята. Сапраўды... І вось я ўспомніла, таварыш Пражэня, як мы калісьці гутарылі з табой і ты казаў, што селянін у комуне згубіць усе перажываньні, якія цяпер даюць яму духоўнае задавальненьне, ці, як ты казаў, шчасьце. І ты казаў тады—памятаеш?—пра цялёнка. А гэта няпраўда. Селянін згубіць толькі дрэннае, дзікае, што ідзе ад уласнасьці, ад паскуднага пачуцьця гэтае ўласнасьці. А ўсё здаровае застанецца. Вось бачыш—гэтая любасьць да жывёлы, задавальненьне гэтае... Нават большае, лепшае яно ў колектыве... Бо гэта—людзкае, уласьцівае здароваму чалавеку. Таксама радасьць працы, радасьць творчасьці. Я-ж пісала табе, з якім захапленьнем, з якой дружнасьцю і весялосьцю мы працуем.*

*Наогул, у нас ідзе ўсё на лад. Мы з кожным днём расьцём, пашыраемся. Ужо ўся наша вёска—усяго мо' бяз трох ці чатырох чалавек—упісалася ў колектыў. Старшыня ў нас пакуль што Цімох Варэнік, але ён доўга ня ўбудзе, яго напэўна ад нас забяруць. Ты не ўяўляеш сабе, як вырас гэты чалавек, які ён моцны і розумны. Паміж іншага, нядаўна вышла ў яго адна пацешная романічная гісторыя: ён адабраў у настаўніка Алеся ягоную Мальку. Памятаеш? Тут так і кажуць усе—„адабраў". Я ня ведаю... мабыць, гэта дрэнна, мабыць, ён схібіў тут, выявіў сваю чалавецкую слабасьць... але я не магу, ня ўмею яго вінаваціць. Мне здаецца, што так і трэба... Адылі—што я разумею ў гэтых справах? Некалі мне пра гэта думаць... Працы*

*цяпер нямаведама колькі. Ӏ найгорш тое, што не даюць пабыць у комуне. Толькі прыскокам калі. Але нічога не парадзіш: гэткі час... Ну, бывай. Неўзабаве напішу зноў.*

*Марта*".

Пражэня перачытаў ліст і з тэй-жа задуменнай усьмешкай паклаў яго на старое месца. Потым усьмешка зьнікла—ён уздыхнуў і з сумнай уважлівасьцю азірнуў свой пусты адзінотны пакой. Успамін пра Марту падкрэсьліў яму халодную адсутнасьць Тацяны. І толькі адным мігам праз самы крайчык сьвядомасьці прайшоў разам з спакойным вобразам Марты цьмяны прамень новага заспакаеньня.

## 3

Сёньня павінен прыехаць з гораду Ліпін. Яго прыезду Алесь надае асаблівую значнасьць. Ёй адчувае, што Ліпін прывязе з сабой нейкі дзейны зрух, і парвецца, нарэшце, іхная балюча-напружаная бязьдзейнасьць.

Ужо добра зашарэла ў паветры. Мабыць ужо заваліласе за Шырокі Бор чырвонае разамлелае сонца.

Алесь нецярпліва ходзіць па пакою. Потым спыняецца ля вакна і расчыняе яго парыўчатым нэрвовым рухам. У вакно відаць вілаваты шнур дарогі ў мястэчка. Дарога нудна пустая і няпрытульная ў цьмяным сьвятле надвячорку.

Алесю робіцца сумна і трывожна—ён у апошні час чамусьці дужа баіцца адзіноты. І быццам наўмысьля, каб падкрэсьліць гэтую чорную яго адзіноту, ад комуны прыляцеў бадзёры імклівы звон—комунары скончылі дзенную працу. Зараз—ён ведае—завіхруе ў іх на поўгадзіны турботна-вясёлая перадвячорная сумятня (як у вялікай дружнай сям'і), потым зьбяруцца ўсе ў грамадзкай сталоўцы. Там напэўна званчэй ад усіх пераліваецца малады бязрупатны сьмех яго Малькі.

Алесь (адзінотны, пакрыўджаны Алесь) усім нутром сваім ненавідзе комуну. Дарма, што ён ходзіць туды, і гутарыць з комунарамі, і нават прымае ўдзел у іхнай культурна-асьветнай працы. Іначай ня можна цяперашнім часам. Ды і, шчыра кажучы, ходзіць туды ён больш затым, каб хоць мімаходзь, хоць адным вокам убачыць там сваю Мальку.

Алесь цалкам перакананы, што гэтая страшная колектывізацыя накіравана да таго, каб ушчэнт скасаваць усякую самабытнасьць краіны. Ён добра ведае (ён чуў пра гэта), што ў Беларусі паводле гістарычных умоў няма ніякіх падстаў да колектыўнае сельскае гаспадаркі. У Беларусі ня было нават абшчыны... (хіба-ж гэта не бясспрэчны аргумэнт?)

Комуна—чужое, наноснае. Комуна загубіць Беларусь—любую родную старонку, з ціхімі палеткамі, з сумнымі песьнямі, з прыгожымі дзяўчатамі (з Малькай).

О, як Алесь (адзінотны пакрыўджаны Алесь) ненавідзе комуну!..

На дварэ цямнее. Ужо ледзьве прыметна ў змроку вілаватая дарога.

Ад комуны прыляцелі гукі дружных сьпеваў:

Нейкі нялюбы няпрыгожы напеў... Хіба яны здольны сьпяваць прыгожыя беларускія песьні?

Ага, нарэшце... Відаць — віхаецца па дарозе высокі расплыўчасты цень. Гэта—Ліпін.

Алесь адразу весялее. Ён хапае шапку і з хваравітай пасьпешнасьцю бяжыць насустрач таварышу.

Ліпін поўны ўрачыстай таемнасьці—гэта адразу выяўляецца ў многазначным поціску ягонай рукі. Апроч кароткага прывітаньня ён не гаворыць пакуль што ні слова, і яны моўчкі даходзяць да самае хаты.

Алесь запаліў лямпу, і яна асьвятліла буйную Ліпінаву фігуру з непамерна маленькай галавой, з малавыразьлівым берасьцяным тварам.

Вочы ў Ліпіна сьвецяцца цьмяным агнём захаванага ўзрушэньня. Ён, бязумоўна, прывёз з сабой новы настрой, новыя думкі—у яго ёсьць пра што расказаць. Алесь згарае ў палкай нецярплівасьці, але ня пытае нічога. (Хто-ж у гэткіх выпадках адразу лезе з запытаньнямі!) Яны і ў хаце нейкі час маўчаць, а тады Ліпін падыходзіць чамусьці да вакна, зачыняе яго, ды астаецца стаяць перад ім—глядзіць некуды ў чорную ноч (як таемна і паважна ў яго гэта выходзіць!) і расьцяжліва гаворыць зьніжаным дя глыбокае інтымнасьці голасам:

— Цяжка, браце... З кожным днём усё больш і больш націскаюць... Рушыцца ўсё...

Ён змаўкае, і гэта загадкавае маўчаньне да краю абвострвае Алесяву трывогу і нецярплівасьць. Яму ўжо ня змога чакаць далей, ён мусіць зараз-жа даведацца аб усім. І ён ня можа ўстрымацца ад запытаньня, але пытаецца бокам, ускосна і зусім бязуважным тонам:

— Бачыў там каго?

— Бачыў усіх... Сьляпня, Аржановіча... Аржановіч хворы зусім, ён дажывае свае апошнія дні.

— А як Сьляпень?

І мімаволі ў запытаньні гэтым вырываецца зусім дзіцячае, звонкае Алесява захапленьне. Ліпін адварочваецца ад вакна і ажыўляецца.

— О, Сьляпень маладзец! Гэта, браце мой, чалавек. Каб хаця больш такіх мела наша краіна!

Алесь радасна сьмяецца. Ён рады і тым, што ёсьць такія людзі, як Сьляпень, і найбольш тым, што сам на свае вочы бачыў гэтага героя. Уваччу ў яго зараз-жа паўстае з усімі драбніцамі той назабытны вечар у мястэчку. Яны ўсе, як адзін, увесь іхны сяброўскі гурток, сыйшліся былі на Ліпінавай кватэры і чакалі яго. Ён прышоў такі вялікі, грамоздны, кудлаты, з ліхаманкавым агнём у вачох. А як моцна ён гаварыў! Колькі было ў яго запалу, адвагі, энэргіі! О, гэта сустрэча назаўсёды астанецца жывая ў памяці ў Алеся!..

— Дык што там Сьляпень, як ён казаў?

І Алесь ужо шчыра зайздросьціць Ліпіну, што той прымеў убачыць Сьляпня, слухаць яго, гаварыць з ім. А Ліпін пачынае рэзка адбіваць словы, ды іронічна акцэнтаваць іх, ды падсьміхвацца злым саркастычным сьмяшком—гэта ўжо гаворыць ня ён, гэта яго вуснамі вымаўляе вялікі кудлаты чалавек з ліхаманкавым агнём у вачох.

— Беларусы—самая цэнтрабежная нацыя ў сьвеце. Пацукі з карабля, які тоне. Досыць таго, каб падзьмуў самы маленечкі ветрык, і яны ўжо перапалохаліся і ўжо лезуць, цісну́цца ўва ўсе шчэлкі, ратуючы паскудную сваю скуру... І кожны, хто толькі мае ахвоту, будзе зьдзекавацца з іх, рабіць на іх сваю палітыку... Ха-ха!.. Беларусы—хіба гэта нешта сур'ёзнае?

І Ліпін крывіцца з усіх сіл, каб з свайго малярухомага твару зрабіць нешта падобнае да саркастычна-горкае Сьляпнёвае міны. Пасьля падыходзіць блізка да Алеся і гаворыць змоўным шопатам:

— Пакуль трэба было, пакуль выгадна, яны цацкаліся з намі, патуралі. Для палітыкі ўсё гэта, разумееш? А цяпер—к чортавай матары ўсё...

Алесь троху спалохаўся. Няпрыемна скрабанула яго па скуры гэтае занадта рашучае „яны“. Але разам з тым і гонар узьняўся ў ім: гэта-ж такую сур'ёзную, такую палітычную вядзе ён размову!

Ліпін слова за словам пераказваў усё, што пачуў быў ад сваіх гарадзкіх прыяцеляў.

— Нішчыцца ўсё беларускае... сьціраюцца ўсе адзнакі нашае самабытнасьці. Гаспадарчыя магчымасьці краіны знарок ігнаруюцца. Колектывізацыя... ты ведаеш, што гэта? Гэта—рабунак над сялянствам, гэта наўмысны заціск гаспадарчага разьвіцьця... Разумееш?

Алесь разумее гэта надзвычай добра. Колектывізацыя—гэта-ж комуна, іхная комуна, дзе Малька, дзе Цімох Варэнік. Гэта—чужое, варожае, што паўстала супроць яго, што губіць усе яго прыгожыя юнацкія лятуценьні. Комуна і—Беларусь (ціхія палеткі, сумныя песьні, прыгожыя дзяўчаты, Малька)... О, ён горача, ад шчырага сэрца ненавідзе гэту праклятую комуну!

І ў нутры ў Алеся зьвіваецца рашучы замер на нейкі ўчынак, які-б добра дадзеў яго ворагам, які-б разладзіў іхнае вясёлае дружнае жыцьцё. А мо' гэта будзе нават такая акцыя, якая ўскалане ўсю акругу, пра якую будуць пісаць у газэтах? Мо' ён стане героем, змагаром за краіну, за Беларусь?

Алесю і страшна і радасна. Трывожнае ўзрушэньне цалком захапляе яго. Ён ня здольны стрымаць яго ў сабе і блытана, перапыняючыся, выказвае Ліпіну свае новыя думкі.

Ліпін згодзен з ім, гэта ясна. Ліпін узрушаны ня менш за яго—ён нават прапануе зараз-жа сабраць дзе-якіх хлопцаў і пагутарыць з імі.

Алесь пералічае „сваіх“, на каго можна цалком пакласьціся. Іх вышла неяк зусім мала, і ён мімаволі засароміўся. А найгарчэй стала, калі, успамінаючы гэтых „сваіх“, ён раптам падумаў, што ім-жа надзвычай цяжка будзе растлумачыць тое, аб чым дамовіліся яны з Ліпіным, што не зразумеюць яны. Яны ўсе пакрыўджаныя, нездаволеныя, але ў іх—прасьцей, больш блізка, адчувальна. Калі адабралі ў чалавека добрую багатую гаспадарку, адабралі сытае вальготнае жыцьцё, дык ён ведае, за што яму трэба памсьціцца.

Няўжо ў яго, у Алеся, і ў тых пакрыўджаных адны інтарэсы і адны імкненьні? Няўжо ім трэба адно?

Беларусь... Ціхія палеткі... Сумныя песьні...

Праклятая комуна...

Аднак ня час цяпер удавацца ў сумненьні. Пра гэтыя сумненьні Алесь ня скажа нават Ліпіну: той, бязумоўна, угледзіць тут нейкую адгаворку. Раз наважыліся—трэба рабіць.

Ён гасіць сьвятло і выходзіць з Ліпіным на вуліцу. У цемры ня відаць ім адзін аднаго, і таму Алесь дае волю свайму настрою: твар у яго балюча крывіцца ад пачуцьця страшэннай няёмкасьці.

## 4

Праз цэлыя дні—ад сёмае ўраньні да сёмае ўвечары, а часам і скрозь да поўначы, а не дык і за поўнач—быў Лявон акунуўшыся ў магутны рух, у напружана-віхравую сумятню свайго заводу.

Жыцьцё разьвівалася ў шырокі і шпаркі поступ—ня ў поступ, а ў сьмелы імклівы разьлёт, які ўзьнімаў чалавека ў нястрымную патоку сваю, і нёс з сабой наперад, і рабіў яго лёгкім бадзёрым, радасным.

Як проста, як ясна ўяўляў сябе Лявон вялікі сэнс гэтых новых жыцьцёвых тэмпаў, як сьвежа адчуваў іхную жыватворчую сілу! У цудоўным, нябачаным у сьвеце творчым напружаньні класы выразна чуў ён гарачую пульсацыю крыві таго магутнага організму, які завецца—сусьветны пролетарыят. І рад быў, што і ў ягоным сэрцы пераліваюцца кроплі гэтай гарачай крыві.

Часам перабіраў Лявон дзень за днём жыцьцё сваё аж з таго векапомнага дню, як з кайданамі на руках прышоў ён сюды, у Савецкую Беларусь (прышоў праз мукі, праз сьмяротную роспач, праз чорную небясьпеку), каб знайсьці тут долю сваю і свае краіны, каб знайсьці тое, за што змагаўся там, за жудасным рубяжом.

Гэтыя гоні жыцьця—новае яго нараджэньне.

Ён прышоў быў сюды, поўны романтычных ілюзій, поўны наіўных зусім дзіцячых яшчэ лятуценьняў. Ён шукаў Беларусь, шукаў яе лірычнаціхую, смутную, як родныя песьні яго бацькаўшчыны. І ён знайшоў быў яе (так прынамсі здалося яму) у нябожчыка Андрэя Беразоўскага, і па-

верыў у яе, і пашоў быў за ёй, аж пакуль ня ўбачыў, што пад пышным бліскучым уборам яе хаваецца старавечная гніль, парахня.

Тады пабляк вобраз Андрэя Беразоўскага, стаў цьмяны й нявыразны, як Мікола на старой сацьмелай іконе.

Лявон знайшоў краіну сваю ў магутным руху заводу, у бурных тэмпах жыцьця, у гарачай крыві пролетарыяту, які нясе з сабой вялікую перабудову сьвету.

Гэта было новае Лявонава нараджэньне.

І тады пазнаў ён яшчэ, што Андрэй Беразоўскі—вораг яго краіне, яго новай магутнай бацькаўшчыне, што кашчавая рука мерцьвяка ў апошніх патугах хапаецца за ногі новага сьвету, марна стараючыся затрымаць яго сталёвы поступ.

Андрэя Беразоўскага ён засудзіў рашуча і беззваротна. З спакойным задаволеньнем успамінае ён сваю астатнюю візыту да Зены. Там сьмела і жорстка акрэсьліў ён непераступны рубеж, што балюча прайшоў праз жывое цела яго жыцьця і канчаткова адрэзаў яго ад кола нядаўных сяброў.

Зена прыслала была запіску—пісала, што канечна трэба ёй бачыць яго, і прызначыла дзень, у які прасіла зайсьціся. Лявон прачытаў, усьміхнуўся і рашыў пайсьці на дзень раней—ён не хацеў загадзя нарыхтаванае, нібы па програме расьпісанае сустрэчы. Цікавей было ўбачыць Зену ў абыдзенным стане яе цяперашняга жыцьця.

Надвячоркам, проста з заводу, ён пашоў да яе, хоць і ня пэўны быў, што яна дома. Адылі засьпеў яе, і не адну: у яе было чалавек пяць ці шэсьць добра знаёмага яму народу.

Яшчэ з пярэдняга пакою пачуў ён перабойныя гукі жвавае гутаркі і хітравата ўсьміхнуўся: напэўна будзе ў яго тут сёньня вясёлая сутычка. У нутры ў яго ўзьняўся гульлівы задор—ён з наўмыснай бесцарамоннасьцю, на ўвесь голас (каб пачулі там) загаманіў з старой, якая яму адчыніла.

— Добры вечар, бабулька! Як маецеся? Зяноўя Андрэеўна дома? Я да яе... Проста з заводу, ведаеце... як бачыце, ня надта пекны... Га? Дармо? Можа сабе й так...

Яго сустрэлі варожым маўчаньнем. Адзін Кураўкевіч (ён чамусьці першы кінуўся ў вочы Лявону брыдкай назольлівай плямай) узьняў з крэсла сытую сваю фігуру і памкнуўся ўдаць з сябе па-сяброўску ўзрадаванага чалавека, нават растапырыў свае тлустыя пацукаватыя рукі.

— А! каго я бачу!

Адылі вышла зусім фальшыва, і ён, сам заўважыўшы гэта, суняўся. Лявон дык проста не зьвярнуў на яго ніякае ўвагі. Ён абвёў усіх чыста вясёлым адкрытым поглядам і агульна прывітаўся:

— Добры вечар, шаноўныя грамадзяне!

Дзе-хто буркнуў нешта—іншыя проста змоўчылі. Пачатак не вешчаваў нічога добрага. Частка прысутных у відочным замяшаньні стараліся

ня глядзець на яго. Сьляпень, наадварот, з нахабнай адкрытасьцю ўпяў у яго з свайго кутка злосна распалены погляд. Ля грубкі стаяў Аржановіч. Ён быў страшэнна бледны і напружаны твар яго мімаволі крывіўся ў хваравітую міну, якая надавала яму падабенства да нейкага недалужнага, але ўшчэнт разьлютаванага зьвярка.

Лявон зьвярнуўся да Зены.

— Я—да вас, Зяноўя Андрэеўна! Прабачайце, што не ў пару—заўтра я буду заняты...

Зена глядзела на яго з трывогай і болем. Яе здэтанаваў раптоўны прыход яго, і яна ня ведала, што цяпер трэба рабіць. Як відаць, яе найменш турбаваў настрой і адчуваньні гасьцей. Трывога ў яе была больш аб тым, што гэтыя абставіны не дадуць ім сказаць адно аднаму ніводнага слова. Але так ці іначай, а трэба было нешта рабіць, і яна гасьцінна запрасіла яго:

— Сядайце, калі ласка. Здаецца, вы знаёмы з усімі?

— Шчыра дзякую.

Лявон зноў абвёў усю кампанію адкрытым, троху насьмешлівым поглядам і наўмысьля спыніўся на Кураўкевічы.

— Я мусіць вам перашкодзіў?

Хоць запытаньне гэта было да ўсіх, але Кураўкевіч сьцеражліва скомчыў сваё грубое тулава і пракрактаў:

— Мм... чаму-ж... калі ласка...

Лявон сеў. Ён ведаў, што досыць якой-небудзь невялічкай зачэпкі і зараз-жа пыхне паміж іх нешта вострае, прыкрае і можа нават агіднае. Але было яму весела і спакойна.

Зачэпку даў, як за-звычай, дападлівы Галакцёнак. Ён іронічна запытаў у Лявона:

— Як гэта ты, небарака, затрапіў сюды? Ты-ж, здаецца, больш з ортодоксамі знаешся... І-дэ-о-лё-гіч-на вы-тры-ма-ны...

Лявон паглядзеў проста на яго і адказаў спакойна, але з прыхаваным задзёрам:

— Я больш з тымі, хто кіруе жыцьцём і менш з тымі, хто недалужна блытаецца ў яго пад нагамі.

— Так выгадней?

І Галакцёнак пырснуў. Сьледам за ім зарохкаў, целяпаючы пузам, Кураўкевіч. Сьмех гэтае пачвары ўзлаваў Лявона страшэнна, але ён набраў сілы, каб стрымаць сваю злосьць, і зьвярнуўся да Кураўкевіча з беззаганнай ветласьцю:

— Калісьці вы дужа ўдала сказалі былі наконт гэтай „выгоды“ Памятаеце: „зьлятаемся, як матылькі на сьвятло“... Матылёк, гэта—вы дзядзя... А сьвятло?

І, не чакаючы адказу, ён павярнуўся да Галакцёнка і засьмяяўся:

— Ці заўважыў ты, Галакцёнак, што матылькі заўсёды крыльцы свае абсмальваюць, як на сьвятло лятуць. Гэта сапраўды нявыгодна... А што

да мае выгоды, дык ты не памыліўся: мне, вядомая рэч, найвыгадней там, дзе мой асабісты інтэрас злучаецца з інтарэсам колектыву.

Тады азваўся Аржановіч—сказаў напышана ўзьнятым тонам, за якім хавалася раздражненьне і злосьць:

— Бывае часам нешта вышэйшае і за асабісты інтэрас і за інтарэсы колектыву. За гэтымісьці цяжка і... нявыгодна...

Лявон спакойна дадаў:

— І недарэчна, і бязглузда. Бо гэта—самаспадман, а хоць—ашуканства з боку нейкае староньняе сілы, якая кіруе на свой інтэрас.

Аржановіч цягнуў тым-жа тонам:

— Ёсьць людзі, для якіх няма норм вышэйшых ад патрабаваньняў шлунку. На шчасьце, ня гэтыя людзі робяць гісторыю.

— А хто яе робіць?

Аржановіч змоўчыў, ці то шукаючы адказу ці то наўмысьля занядбаўшы Лявонава запытаньне. Гэтую паузу пакарыстаў Сьляпень. Ён раптам вырынуў з свайго кутка—разьюшаны, апантаны—і накінуўся на Лявона.

— Вы, міласьцівы гасудар, ня ведаеце, хто робіць гісторыю? Вы ня ведаеце? А ці ведаеце вы, што гісторыя робіць з гэткімі вось, як вы... з гэткімі хлюстамі, якія за цёплае месца ў жыцьці зракаюцца свайго роднага і йдуць на службу... на падслужваньне да каго-хоця, да ўсякае трасцы, абы ня служыць свайму ўласнаму народу...

— „Народу“... гэта—вам?..

— Нам? Нам?... А хто мы? Хто мы?

І Сьляпень, грозна бліскаючы вачмі, падступіў да Лявона. Лявон устаў з свайго крэсла, нахмураны і рашучы.

— Я скажу, хто вы. Я магу сказаць. Хочаце?..

Ён зьвярнуўся ня так да Сьляпня, як да ўсіх прысутных. У пакоі завіхрылася прыкрае замяшаньне. А Сьляпень у нястрымным запале наступаў на Лявона.

— Гавары! Гавары! Чуеш ты? Гавары!..

Тады Лявон пачаў гаварыць. І таму, што выказваў ён перадуманае, перабалелае, таму, што акрасьляў ён ужо даўно намечаны ў ягоным жыцьці рубеж, вышла ў яго цьвёрда, рэзка і нават троху ўрачыста:

— Вы—былыя людзі. Вы—цені мінуўшчыны. Вашы бясконцыя гутаркі аб Беларусі, аб беларускасьці, гэта—чмута, за якой хаваеце вы сваю сапраўдную сутнасьць. Вы—слугі старога сьвету, агенты буржуазнае рэстаўрацыі. Вам трэба буржуазная дзяржава, а не Беларусь. Во што... І Беларусі вы ані не патрэбны, той Беларусі, працоўнай Беларусі, якую будуе пролетарыят, якая ў наругу вам расьце і разьвіваецца. Вы—рудымэнт гісторыі. Адзінае, што-б вы прымелі зрабіць, гэта—выклікаць які-небудзь соцыяльны апэндыцыт... У гэтым—уся ваша „гістарычная місія“...

Ён на момант суняўся і, абярнуўшыся да Сьляпня, закончыў:

— Вось. Вы хацелі, каб я сказаў.

І зараз-жа, нават ня ўправіліся яны ахамянуцца—Лявон падышоў да Зены (яна сядзела белая, як сьмерць) і разьвітаўся:

— Прабачайце, Зяноўя Андрэеўна, што я не ў пару прышоў. Я не чакаў, што знайду тут гэту кампанію.

І вышаў. За плячмі ў яго выбухнуў злосны гармідар—ён толькі здаволена ўсьміхнуўся.

У пярэдні пакой выбегла за ім Зена. Яна калацілася ўся ад нэрвовага ўзрушэньня, хапала яго за рукі і лапатала, як няпрытомная.

— Яны добрыя... Лявон, яны добрыя... Чакай, Лявон...

Лявон ласкава ўсьміхнуўся і пагладзіў яе трапятлівую руку.

— Зена! Ты проста—дачка Андрэя Беразоўскага...

Вышаўшы на вуліцу, ён адчуў такое глыбокае радаснае палягчэньне, нібы скінуў з сябе нямаведама якую цяжкую ношку. І тут-жа з зусім законнай катэгорычнасьцю ён пастанавіў, што больш ня ступіць нага яго ў гэты ціхі, па-мяшчанску прытульны дамок на Пярэсьпе.

5

Вечарамі, прышоўшы з заводу, яшчэ поўны гарачага працоўнага захапленьня, Лявон апавядаў Тацяне пра бурнае жыцьцё заводу, пра нястрыманы ўздым энтузіязму, пра вялікія і малыя падзеі, якія моцнымі цаглінкамі шчытна ўкладаліся ў жывую гісторыю векапомнай эпохі.

Тацяна слухала яго ў глыбокім маўчаньні і глядзела на яго, ня міргаючы, застылым ні то ў цікавасьці, ні то ў пачцівым зьдзіўленьні поглядам. Гэта спачатку падахвочвала Лявона, выклікала ў ім яшчэ большае захапленьне, рабіла яго яшчэ больш гаваркім і вясёлым. Потым ён адгадваў бязуважнасьць Тацяны, схаваную за гэтым застылым поглядам, і ўраз халадзеў, стуляўся ў замкнёнай чужасьці і браўся за якую-небудзь працу.

Так цягнулася хвілін дзесяць ці больш—у ўзаемнай замкнёнасьці, у панурым маўчаньні. Пасьля пачыналася ў іх прыкладам гэткая гутарка.

— Лявон! Што гэта—Камяга?

Лявон маўчыць.

— Што гэта—Камяга, Лявон?

— Гэта маё прозьвішча.

— Я ведаю. Але што азначае гэтае слова?

— Такі човен бывае, выдзяўбаны з цэлага бервяна. Часам для большай станоўкасьці на вадзе з бакоў прыладжваюцца дашчаныя крыльлі... На невялічкіх рэчках рыбакі на камягах ловяць рыбу.

Нейкі час Тацяна маўчыць. Потым ізноў заводзіць задуменным цягучым голасам:

— У вас усё дужа сьмешныя прозьвішчы. Няпрыгожыя... Ты ведаеш, што гэта—Пражэня?

— Ведаю.

— Гэта такая страва.—Ці падабаецца вам пражэня?—Не, яна нясмачная.—Я ўжо даволі пад'ела пражэні...—Ці не паспыталі-б вы пражэні?—Калі ласка... Ха-ха-ха!..

Яна абрывае сьмех і зноў змаўкае. Яшчэ мінае хвілін дзесяць ці больш. Тады ўжо Лявон, парыўчата абярнуўшыся разам з крэслам да Таццяны, пытаецца з блізкай да роспачы настойлівасьцю:

— Ну, што ты рабіла сёньня, Тацяна?

— Думала.

— Аб чым ты думала?

— Думала аб тым, што вось мы абое адзін аднаму надакучылі, а чамусьці марудзім, церпім адзін аднаго. Дасюль у мяне не траплялася так. Гэта—змора ў мяне, Лявон. Аслабела я.

Лявон гаворыць з поўнай сур'ёзнасьцю:

— Ты мне не надакучыла. Ты раздражняеш толькі мяне, нэрвуеш. А каб ты надакучыла мне, дык я пайшоў-бы ад цябе, а хоць папрасіў цябе, каб ты пайшла.

— А я вось не раблю так... Гэта—дрэнна...

Зноў на колькі хвілін маўчаньне.

— Слухай, Лявон, ці ведаеш ты, чаму я з табой зьвялася?

— Ведаю. Ты хацела падражніцца з Зенай, адбіць у яе каханка.

— Хлопчык, які ты кемкі! Хадзі, я цябе пацалую... Ну? Хадзі да мяне...

Лявон маўчыць.

— Хадзі да мяне, мой любы сукрысты хлопчык!

Лявон ня рушыцца з месца. Тады яна ў раптоўным хваравітым ажыўленьні кідаецца на яго і бурнымі пяшчотамі прымушае яго скарыцца...

...І было так, што Лявон зусім ня зьдзівіўся, як адным вечарам, вярнуўшыся з заводу, не засьпеў у сваім пакоі ні Тацяны, ні яе рэчаў. Ён адразу падышоў да стала і ўзяў запіску. У запісцы пісалася акурат тое, чаго ён і чакаў:

*„Мне нудна. Поснае ў вас жыцьцё. Я хачу нечага інакшага, яскравейшага. Вы мне ўсе да краю абрыдзелі. Бывай!*

*Тацяна.*

*P. S. Я паступіла ў тэатр".*

Лявон перш-на-перш з глыбокім здаволеньнем констатаваў, што гэта—найлепшае выйсьце з таго становішча, да якога яны дайшлі. Потым ён у думках падзякваў Тацяне і адзначыў, што яна разам з усімі сваімі недахватамі ўсё-ткі разумная і досыць сымпатычная жанчына. Далей ён з вясёлай цікавасьцю пачаў азіраць свой пакой, любуючыся пакінутым Тацянай бязладзьдзем. А яшчэ далей—яму стала сумна.

Ён падаўся быў да гаспадыні, каб папрасіць прыбраць троху ў пакоі, але суняўся—шкода стала яму дзівоснага бязьладзьдзя, у якім так востра адчувалася нядаўная прысутнасьць Тацяны.

Ён вярнуўся і сеў на ложку. Яго атуліў лёгкі саладжавы пах парфумы і жаночага цела—здалося, што ў раскіданым ложку яшчэ грэецца сьвежая цяплыня жанчыны. Гэта раздражняла яго, узьнімала ў сэрцы шчымлівы жаль.

Няўжо яму шкода гэтае шалапутнае Тацяны?

Ён паблажліва сам сабе ўсьміхнуўся (мінутная слабасьць!), устаў з ложка (старанна захінуў яго коўдрай) і пашоў да стала.

Аднак праца ня йшла ў яго. Думкі свавольна разьбягаліся, блыталіся і потым супроць волі зьвіваліся на зусім непатрэбных у гэту хвіліну прадметах. Да таго-ж яшчэ стала раптам сьцюдзёна. Ён памкнуўся быў раззлавацца (ніколі як сьлед не напаляць!), але зірнуў на тэрмомэтр і зразумеў, што гэта нэрвовае.

Ясна, што сёньнешні вечар будзе ўшчэнт змарнаваны. Лепш схадзіць куды-небудзь, чымся мардавацца тут, на самоце, перажываць першыя адчуваньні раптоўнай разлукі.

Ён зачаў перабіраць у памяці знаёмых, з якімі-б ён здолеў разважыць свой дрэнны настрой, але чамусьці ўсе здаваліся да гэтага ня прыдатнымі. Ён расчараваўся і зноў з тупой упартасьцю ўглыбіўся ў кніжку, але ў гэты момант у яго мільгнула адна яскравая, хоць троху й дзікая думка.

Ён усьміхнуўся.

Гэта-б было арыгінальна і дужа падобна да эксцэнтрычных учынкаў самае Тацяны.

А можа-б гэта было проста неразумна?

Хвілін з дзесяць ён горача дыскусаваў сам з сабой аб характары выпадкова задуманага прадпрыемства, а зрэшты схапіў шапку і з рашучай пасьпешнасьцю вышаў з хаты.

Праз усю дарогу з твару ў яго ня сыходзіла загадкавая, але зусім спакойная ўсьмешка. І толькі тады, як, узыйшоўшы па цёмных сходах на другі паверх, тыркануў ён пальцам у кнопку званка, у апошні раз з поўнай яснасьцю паўстала перад ім дзікая надарэчнасьць гэтага ўчынку.

Але было ўжо позна.

Адчыніў сам Пражэня. Ён бадай зусім ня зьдзівіўся з нечаканага госьця, ветла ўкланіўся і запрасіў.

— Калі ласка, заходзьце...

Яны ўвайшлі ў габінэт. Пражэня сеў на сваё звычайнае месца, за стол, а Лявону прапанаваў насупраць сябе глыбокі разложысты фотэль. Некаторая (бязумоўна, няўмысная) сухасьць прыйма троху здэтанавала Лявона і яму прыкра было пачынаць гутарку. Адылі пачаў сам гаспадар і пачаў надзвычай удала:

— Тацяна пашла ад вас?

— Так. Сягоньня. Яна паступіла ў тэатр.

— З яе можа выйсьці добрая артыстка... Я так і ведаў, што гэта няглыбокае, нясур'ёзнае. Яна кінула мяне зусім не таму, што пакахала вас...

— Яна мяне зусім не кахала.

Такая адкрытасьць троху зьдзівіла Пражэню. Ён пільна, з несхаванай цікавасьцю зірнуў на Лявона.

— Так? А гэта, таварыш Камяга, магчымая рэч... зусім магчымая рэч... Вы яе, мабыць, таксама не кахалі?

Лявона ў сваю чаргу прыемна зьдзівіла шчырая непасрэднасьць Пражэні. Ён мімаволі ўсьміхнуўся і даверліва растлумачыў:

— Я сам добра ня ведаю. Мне сумна стала, як я сёньня, прышоўшы да хаты, не засьпеў яе.

Пражэня здагадліва кіўнуў галавой.

— Так-так... я разумею... Мне таксама сумна было... адчувалася такая нейкая пустата. Я некаторы час ня здольны быў як сьлед працаваць. А ў мяне так многа цяпер работы... надзвычайна пільнай работы... Я, таварыш Камяга, працую цяпер над экономікай колектыўнае сельскае гаспадаркі—неабсяжнае поле для жывых цікавых і карысных дасьледаваньняў.

Лявон ня стрымаў свайго задзіўленьня.

— Вы працуеце над колектыўнай гаспадаркай?

Пражэня пранікліва паглядзеў на яго і зьлёгку ўсьміхнуўся.

— Я разумею, чаму вы перапыталі... Я, бачыце, зрабіў тое, што філёзофы завуць „пераацэнка цэннасьцяй“. Я растлумачу вам...

І ён з шчырай ахвотай пачаў апавядаць Лявону пра глыбокі пералом, які адбыўся ў яго сьвядомасьці і які да дна перавярнуў усе яго тэорэтычныя высновы. Лявон слухаў яго з вялікай цікавасьцю. Ён чуў у яго прызнаньнях многа блізкага да таго, што сам пражыў за апошні час. І, як скончыў Пражэня, ён ня ўтрымаўся, каб самому не расказаць пра свае мінулыя сумненьні і пра іх шчасьлівае разьвязаньне. У канцы памянуў ён пра здарэньні ў Зены, і Пражэня паставіўся да гэтага з жывой зацікаўленасьцю. Ён шкадаваў, што самому не давялося быць пры гэтым.

— Я-б растлумачыў ім. Вы, бязумоўна, мелі рацыю. Гэта—добра. І правільна вы, таварыш Камяга, наконт рубяжа. Калі змаганьне абвострваецца, тады глыбее рубеж, і добра відаць тады, хто па той бок яго, а хто па гэтым. Тут часам можа выйсьці зусім неспадзяваны эфэкт: ранейшыя прыяцелі могуць раптам абярнуцца ў найлюцейшых ворагаў. Гэта бывае...

І Пражэня аб нечым трывожна задумаўся. Лявон не перашкаджаў яму, на колькі хвілін запанавала ў пакоі глыбокае маўчаньне. Яно вярнула Лявона да ранейшых думак пра Тацяну, і ён сам з сябе падзіваваў, як хутка ён перамкнуўся з таго прыгнечанага настрою, што прывёў яго сюды, у жвавае захапленьне новымі тэмамі. Тым часам Пражэня

адарваўся ад сваіх думак, і, мабыць па выразу Лявонавага твару, здагадаўся, аб чым думае той у гэту хвіліну. І абодвым тады стала ніякава—быццам засароміліся абодва, што з двух-трох слоў занядбалі такую важную падзею, як разлуку Лявона з Тацянай.

Пражэня крута перавёў гутарку.

— Тацяна таксама перажывае трагэдыю. Можа сьмешна гэта, можа вы, таварыш Камяга, палічыце гэта за парадокс, але мне здаецца, што Тацяніна мятушэньне тож злучана з абвастрэньнем соцыяльных колізій: яна шукае свайго месца—ці па той ці па гэты бок рубяжа.

— Яна месца сваё вызначыла. Яна надзвычай добра ўсьведамляе сама сябе.

Пражэня відочна занепакоіўся.

— О, не, таварыш Камяга! Вы ня верце ёй, яна сябе падманьвае. Яна больш глыбокая натура, чымся паказваецца. Яна шукае, даўно ўжо шукае, але шукае на самоце, адна, і дужа баіцца, каб хто ня ўбачыў яе шуканьняў.

Лявон няўцямна паціснуў плячмі. Хто яго ведае: ці ён сапраўды больш знае гэту жанчыну, ці мо' проста больш закаханы ў яе?

А Пражэня, лятуценна гледзячы некуды ў кут, разважаў:

— Найпрыгажэйшае ў ёй—гэта яе рэзкая гарачая непасрэднасьць. У яе ёсьць дзівосная здольнасьць—руйнаваць усякія межы паміж настроем і яго выяўленьнем. Тут—нешта ад дзяцінства, ад натуры, і гэта нас вабіць... Ці рабіла яна вам, таварыш Камяга, якія-небудзь зусім неспадзяваныя дзівацтвы?

— Надзвычайна многа...

І Лявон з паблажлівай усьмешкай расказаў пра некаторыя найбольш эксцэнтрычныя ўчынкі Тацяны. Пражэня слухаў з дзіўнай сур'ёзнасьцю. Потым глыбока задумаўся і, нарэшце, рэзюмаваў:

— А ўсё-ткі, таварыш Камяга, яна нам у жонкі не падыходзіць.

Лявон шчыра засьмяяўся.

— Прымем гэта, як формулу пераходу да чарговых спраў.

І яны зноў удаліся ў сваю перарваную гутарку.

Лявон заседзеўся ў Пражэні да позлай ночы, і на разьвітаньне яны шчыра, па-прыяцельску пацісьнулі адзін аднаму рукі.

## 6.

У той самы дзень, як зьявілася заметка ў газэце, Пражэня атрымаў ліст ад Марты, дзе яна больш стала і падрабязна апісвала гэта здарэньне. Вось яе ліст:

*„Таварыш Пражэня!*

*Надовечы ў нас адбылася падзея, пра якую мабыць ты прачытаеш нават у газэтах. Сярод ночы ў комуне выбухнуў вялікі*

пажар. Загарэлася адразу ў колькіх мясцох: загарэўся сьвіран (на шчасьце, амаль што пусты), клюб і некалькі жылых будынкаў, у тым ліку кватэра Цімоха Варэніка. Ну, вядома, узьнялася трывога, забілі ў звон, павысыпалі ўсе-чыста, хапіліся хто за што, пачалі тушыць. Праз хвілін дваццаць пад'ехала з мястэчка пажарная каманда, і—канцы з канцамі—адваявалі клюб і не далі заняцца іншым будынкам. Сьвіран і некалькі жылых будынкаў згарэлі. Людзкіх ахвяр няма... Гэта—надворны бок падзеі. Я ведаю, што гэта цікавіць цябе найменш, а таму пераходжу да апісаньня таго, што спрычынілася гэтаму пажару і які ўплыў ён зрабіў на нашых комунараў, а таксама на вакольнае сялянства.

Пачну з аднаго надзвычайна цікавага моманту. Хату, дзе жыў Цімох Варэнік (цяпер ужо высьветлена ўсё), запалілі першую. Тут быў відочны замах на Цімохава жыцьцё, бо перш, чымся падпаліць, злачынцы старанна завалілі дзьверы і вокны, каб ніхто з хаты ня мог уцячы. І ці дзіва, што ўсе пагарэлі-б, бо пакуль схапіліся, агледзеліся, дык можа й позна было б. Але на шчасьце ратаваў адзін чалавек і—ці ведаеш, хто гэта?—наш настаўнік Алесь, у якога Цімох адабраў нявесту. Вядомая рэч, што зрабіў ён гэта не дзеля Цімоха, а дзеля Малькі, бо, відаць, не пазбыўся яшчэ свайго каханьня. Ужо полымя добра агарнула хату, калі ён кінуўся да дзьвярэй і, не ўважаючы на агонь, адваліў іх. Сам ён абгарэў чыста-ўвесь і яго зараз-жа Цімох адправіў у месточковую больніцу. Назаўтрага прышла да яго Малька. Ну, вядома, было там многа ўсякіх сантымэнтаў, а потым Алесь заявіў, што яму канечна трэба зараз-жа бачыць Цімоха. І вось, як прышоў да яго Цімох, ён адразу яму й прызнаўся, што прымаў удзел у падпале комуны. І расказаў усё, як было.

Ты, вядома, зразумеў ужо, што тут быў выбух, надворнае выяўленьне тае клясавае барацьбы, якая праз увесь час у больш захаванай форме вялася навокал нашай комуны і якая з шырокім разгортваньнем колектывізацыі набыла асабліва напружаны характар. Але найцікавейшае тое, што натхніцелем гэтага „выбуху“ быў—ведаеш хто?—той самы Ліпін, якога ты некалі бачыў тут і пра якога я ўжо табе пісала. Вакол гэтага Ліпіна здаўна гуртавалася невялічкая купка моладзі, „шчырых“ беларусаў, якіх ён набіваў рознымі гнілымі ідэямі нацыянальнае самабытнасьці, выхоўваючы ў іх нездаволеньне нашай палітыкай. Гэтае нездаволеньне органічна зьлілося з нездаволеньнем кулацтва і перайшло ў актыўную барацьбу. Самы падпал комуны рабіўся пад непасрэдным організацыйным кіраўніцтвам Ліпіна. Паміж іншага, ён, даведаўшыся пра тое, што Алесь ува ўсім прызнаўся, справіўся некуды зьнікнуць.

*Вось і ўся гісторыя гэтае „надзвычайнае“ (для нас яна сапраўды надзвычайная) падзеі. Калі цікавішся, якое ўражаньне зрабіла яна на комунараў, дык я скажу табе коротка і ясна: мы цяпер у многа разоў мацнейшыя і сьмялейшыя, чымся былі дагэтуль. Пажар яшчэ больш згуртаваў нашу сям'ю, узьняў сярод нас яшчэ большы энтузіязм. Мы абвясьцілі ўдарны трохдзеньнік, каб залапіць дзіркі, якія нарабіў пажар. Нам памагаюць з суседніх колгасаў і нават паасобныя гаспадары—у нас кіпіць такая дружная энэргійная праца, што праз тры дні—я ўпэўнена ў гэтым—не астанецца й сьледу ад пажару. Гэта будзе праўдзівы героізм мас, якому нават трудна даць веры. Як скончыцца гэты трохдзеньнік, абавязкова напішу табе пра яго вынікі. А пакуль што—бывай!*

*Марта*“.

А ўвечары таго самага дню, як атрымаў Пражэня гэты ліст, прыбег да яго Сьляпень.

Пражэня чакаў яго прыходу. Марцін ліст разам з іншымі пачуцьцямі пакінуў быў у яго нейкую трывожную неспакойнасьць, няясную здагадку ці нават прадчуваньне таго, што гэтая падзея ў комуне будзе мець куды шырэйшае значэньне, чымся надавала яму Марта. Праз цэлы дзень пачуцьце гэта ўпарта дакучала Пражэню, а пад вечар набыло зусім нясьцерпную вастрыню, абярнуўшыся ў напружанае турботнае чаканьне нечага новага і напэўна няпрыемнага. І, калі пачуўся званок, Пражэня адразу зразумеў, што гэта прышоў Сьляпень, і што акурат яго ён так нецярпліва чакаў.

Сьляпень адразу загаварыў пра здарэньне ў комуне, і гэта яшчэ больш замацавала ў Пражэні інстынктыўнае падазрэньне, што Сьляпень мае нейкую сувязь з гэтымі справамі.

Сьляпень, ня ўправіўшыся ўвайсьці, размашыста кінуў на стол пакомчаны нумар газэты.

— Чытаў? Што дзеецца ў тваім Загацьці... га?

Пражэня адказаў з найвялікшай спакойнасьцю:

— Я ведаю больш, чымся напісана ў газэце. Я атрымаў адтуль сёньня ліст.

Сьляпень усьпёрся рукамі на брыж стала, перахіліўся твар у твар да Пражэні і з рэзкай выразнасьцю прагаварыў:

— Пачынаецца.

— Што пачынаецца?

Сьляпень яшчэ бліжэй прыхіліў да Пражэні свой нэрвова распалены твар.

— Ты ня ведаеш, што пачынаецца? Ты ня ведаеш, га?..

І, вытрымаўшы ладную паузу, ён шырокім махам адхіснуўся ад стала й разгонна засігаў па пакою.

Пачынаецца новы зрух, новае абуджэньне. Беларусь пачынае ўзьнімаць свой магутны голас, Беларусь хоча сказаць сваё апошняе важкае слова Беларусь загаманіла языком полымя! Разумееш ты, няшчасны філёзоф, разумееш ты гэта?..

Пражэня цьвёрда перапыніў яго:

— Гэта звычайнае кулацкае выступленьне супроць колектывізацыі.

Сьляпень аж жахнуўся.

— Кулацкае выступленьне? Ты кажаш, ку-лац-ка-е вы-сту-плень-не?.

Ён зноў перахіліўся цераз стол і засіпеў таемным шопатам:

— Гэта рабілася за Беларусь, за незалежную Беларусь. Чуеш ты? За Беларусь.. Я ведаю ўсё... У мяне быў Ліпін...

— Я ведаю таксама... Гэта рабілася за кулацкую Беларусь... Што ты сказаў Ліпіну?

Сьляпень пахабна зарагатаў.

— Ха-ха-ха! Ён уцёк ад арышту і прышоў да мяне, каб я схаваў, прытуліў яго

— Ну, і што ты зрабіў з ім?

— Я зрабіў з ім тое, чаго вымагаюць законы барацьбы і захаваньня сіл. Усё-роўна яму ня мінуць турмы...

— Што ты зрабіў з ім?

Сьляпень з д'ябальскай спакойнасьцю растлумачыў:

— Я перш-на-перш выслухаў яго Потым распытаўся пра ўсё падрабязна. А потым—адмежаваўся... адмежаваўся, так.. Сказаў, што я супроць гэтага, што асуджаю яго... ха-ха... Ён пашоў ад мяне з выглядам чалавека, гатовага да самагубства.

Пражэня ўскочыў з крэсла—цьмяныя плыткія вочы яго зусім нечакана заблішчэлі вострым агнём.

— Сьляпень! Гэта—подлая провокацыя!..

Сьляпень зноў закаціўся грубым нахабным рогатам.

— Провокацыя, кажаш? Так, провокацыя.. Нам трэба провокацыя... Гэта—найлепшы сродак барацьбы. Хай бунтуюцца, хай паляць, хай ідуць у турму. На іх месца вырастуць іншыя.. Мы павінны перш-наперш захаваць сябе... Мы павінны кіраваць барацьбой...

— Барацьбой за што?

— За Беларусь.

— Гэта—пусты гук. Савецкая Беларусь цьвёрда і няўхільна ідзе па шляху найвялікшага росквіту.

— Брэшаш! За незалежную Беларусь!

— За БНР?

— За БНР.

— За Кураўкевічаў?

Сьляпень асекся. Ён хвіліну змоўчыў, потым скрывіў свой твар у бязьмежна-горкую міну і дакорліва заківаў галавой.

— Слухай ты, таварыш ты мой Пражэня! З якога часу твая філёзофія прывяла цябе да ортодоксальнага марксызму?

Пражэня не адказаў, быццам і ня чуў гэтага запытаньня. Ён вышаў з-за стала, прайшоўся разы са два па пакою, падышоў да Сьляпня і стаў перад ім—маленькі, але цьвёрды, як крэмень.

— Вось што, Сьляпень. Я павінен сказаць табе, што ў гэтай вашай барацьбе за якую-б там ні было Беларусь, апрача Беларусі Савецкай, я буду супроць вас.

Сьляпень няўцямна вылупіў вочы.

— Што ты сказаў?

Пражэня яшчэ з большай цьвёрдасьцю пераказаў:

— Я буду супроць вас.

З хвіліну Сьляпень стаяў асалапелы. Потым сударгава прыгнуўся, скурчыўся ўвесь і зайшоўся дрэнным сіпучым хіхіканьнем. І ад гэтага сьмеху з вялікага, грамозднага стаў раптам маленькі і нікчэмны.

— Ты—супроць нас? Хі-хі-хі... Ты—супроць?

Пражэню няўсуцерп стала цягнуць далей гэтую агідную, дзікую сцэну, і ён з неабычайнай для яго рэзкасьцю заявіў:

— Я, грамадзянін Сьляпень, вельмі заняты... мяне чакае пільная праца...

Сьляпень закалаціўся ад злосьці.

— Гоніш? Гоніш?.. Я пайду! Я пайду, таварыш Пражэня, пайду! Але ты ня думай... гэта яшчэ ня ўсё... Мы яшчэ ўбачымся, таварыш Пражэня, і—ха-ха!—ты, няшчасны філёзоф, будзеш з намі...

— Я буду супроць вас.

Сьляпень дэмонічна зарагатаў і, не сказаўшы больш ні слова, выбег з пакою, злосна грукнуўшы за сабой дзьвярмі.

Пражэня колькі хвілін стаяў нярухома, застылы ў тэй паставе, у якой пакінуў яго Сьляпень. Потым паволі павярнуўся і, ідучы да стала, сказаў уголас—спакойна і цьвёрда:

— ...І ранейшыя прыяцелі абарачаюцца ў найлюцейшых ворагаў...

# ПАД МЕСТАЧКОВЫМ МЕСЯЦАМ

**В. Сташэўскі**

## Гаварыла скрыпка

У ціхую ясную восень лёгенька дрыжаць на бярэзіне галінкі, лёгенька падаюць пажоўклыя лісточкі. Здаецца і ветрыку няма, а яны падаюць. Так ціха на двары і так трывожна ўнутры Майзэльсонаў, Ясіноўскіх і шмат каго. Так ціха на двары і так бурліва, жвава ў комсамольскім клюбе.

Гэта было за дзень да сходу, які быў скліканы гарністам. Адны з трывогаю адчувалі подых далёкага ветру, другія нецярпліва чакалі ветру, буры, каб ад іх хісталася царква, касьцёл і сынагога, каб ляцелі ўніз крыжы, ды ня так павольна, як сягоньня падаюць з бярэзінак, з кляноў лісты.

У квартэры Майзэльсона шасьць дзяўчат. Дачок дзьве: Роза і Цэйта. У кожнай ёсьць свае любімыя романсы. Роза злучыла свой голас з піяніно і вяла сваім голасам вяла: „Как грустно туманно кругом“. Другая падхоплівала: „тосклив безотраден мой путь“, і трэцяя—„а прошлое кажется сном“, і чацьвертая—„томит наболевшую грудь“... „На словах: „мне некого больше любить“ яны ўсе няпрыкметна для сябе ўздыхалі. Найбольш жвавая была маладая Цэйта. Яна заўсёды старалася разагнаць нуду. Яны дзесьці падхапіла романс, якога здаецца ў мястэчку ніхто ня ведаў. І вось у той момант, калі ўсе яе таварышкі былі моцна стомлены любоўнымі романсамі, Цэйта ўзмахнула сваёю стрыжкаю і засьпявала: „Мы на лодачкі каталісь, залацісты залатой. Не грыблі, а цылавалісь—не качай, брат, галавой“. Заблішчэлі вочы дзяўчат, нібы яны ўбачылі іскру доўгачаканай надзеі. Чым старэйшыя з іх, тым ярчэй успалымнеліся яе вочы. І гэты романс яны сёньня доўга-доўга сьпявалі, уздыхалі, стагналі. А мілага няма. Шчасьлівейшая з іх Цэйта. Яна маладзенькая, мілавідная, начміла падчапіла. Хочаш—з ім прахаджвайся, хочаш—з комсамольцам Пінем.

Вечарам групкамі па 2—3 -5 праходжваліся дзяўчаты па мястэчку. Шчасьлівыя з кавалерамі, але такіх было нямнога. Нават Любачка, дачка начальніка пошты, якая заўсёды спацыруе з якім-небудзь кавалерам, і тая сёньня сіратою ходзіць. Быў ды сплыў. На ганку сядзела сем і адзін кавалер. Ды што гэта за кавалер. Гэта скурка ад чайнае калбасы. Многа—будзеш есьці бяз скуркі. Мала—зьясі са скуркаю...

Гэтага кавалера звалі Міхель. Гэта—кволая расьліна з вільготнае бясконечнай глебы. Міхель тонянькі, худы, заўсёды хваравіты, квола ўспрымаў жыцьцё сваёй скрыпічнаю душою.

Ён успрымаў яго, як музыку. А музыку ён любіў ціхую. Гучная трывожыла яго, а ціхая радавала да сьлёз. У сваёй старэнькай, вокнамі ў зямлю ўросшай хатцы, ён заўсёды іграў на скрыпцы ціхія мэлёдыі. Пераставала круціцца швэйная машына яго маці, пераставала грызьці сухую скарынку яго маленькая сястрычка. У такія хвіліны яны ўспаміналі свайго бацьку сям'і. Адступалі ў 20 годзе легіянэры, вывелі з гэтае старэнькае хаты на двор; не ўвайшоў ён сам у хату, на другі дзень унесьлі яго, а на дварэ засталася чырвоная крывавая пляма. Цяжка маці слухаць музыку Міхеля і нельга без яе. Ды што казаць пра сям'ю Міхеля. Сам Майзэльсон ня раз прасіў яго прыці ў дом і паіграць. І Міхель часта стаў хадзіць у Майзэльсонаў дом і там іграў. Сумна, ці вельмі весела стане Розе: „іграй Міхель", і Міхель скоранька ідзе дадому, здымае сваю скрыпачку і скоранька ідзе ў дом Майзэльсона і іграе.

— Нясі, Міхель, скрыпку,—сказала сёньня Роза,—мы з табою зайграем „залацісты залатой". Міхель не зварухнуўся з месца.

— Чуеш, Міхель, што я сказала?—паўтарыла Роза.

— Я сёньня ня магу іграць,—нейк вінавата адказваў Міхель.

— Што значыць не магу?

— Не магу, Роза.

— Міхель, што з табою? Можа закахаўся ў каго?

Дзяўчаты пырснулі ад сьмеху.

— Вам сьмешна. Сьмейцеся, а я не магу. Што вам мая музыка! Яна вам не паможа, яна нікому не паможа. Яна мо' зусім і непатрэбная..

— Міхель, што такое? Ты, здаецца, так ніколі не казаў.

— Не казаў, але думаў. Вы слухаеце, вам нічога. А я... я хварэю.

— Ты-ж хоць не памры, Міхель,—жартавалі дзяўчаты.

Міхель маўчаў.

Быў ціхі вечар, сьвяціў месяц. На мястэчку нікога ўжо ня было. Разыходзіліся дзяўчаты з ганку Майзэльсона, пайшоў і Міхель. Так кожны дзень—паходзяць па мястэчку, пасядзяць на ганку і разыходзяцца па хатах. А што кожная з іх думае Міхель добра ведае. Але Міхель нічым ня можа памагчы ім. Адзін у іх выхад з бязвыхаднага становішча—выйсьці замуж. Гандаль зьехаў, работы няма, ды ня ўсім хочацца рабіць, а замуж кожнай хочацца. А жаніхоў няма.

І думаюць, думаюць дзяўчаты кладучыся спаць і ўстаючы. Ня спалася ў сёнешнюю ноч і Міхелю. Ён асьцярожна хадзіў па хаце, спыняўся ля акна, прыгінаўся, глядзеў на месяц і слухаў цішыню соннага мястэчка. Звычайна такая цішыня супакойвала яго. Пад бляскам месяца ён нейк пачаў прыкмячаць свой бледны твар. Ён уявіў сябе такую-ж хатку, з вакна якое выглядае такі самы бледны твар, такія самыя спужаныя

вочы. Ён адчуваў як быццам-бы ўсё мястэчка засыпае вечным сном, што ніхто з яго знаёмых не прачнецца, і ён будзе адзін. Як страшна быць аднаму, мільганула ў яго галаве. Пачаў адыходзіць ад вакна і раптам:

Дзвын!

— Ай!—крыкнуў дзіка Міхель.

Дзвынгнула струна скрыпкі.

— А, гэта скрыпка,—ён у момант схапіў яе са сьцяны і пачаў іграць: голасна, бурна, акордамі, каб заглушыць цішыню, каб разбудзіць усіх, каб усе зноў хадзілі, гаманілі, сьмяяліся...

— Што з табою, Міхель?—пыталася ўстрывожаная маці.

Міхель маўчаў.

Гаварыла скрыпка.

## Майзэльсон шукае кнопку

Майзельсон. Хто такі ў мястэчку Майзэльсон? І хто такі ў мястэчку ня ведае Майзэльсона?

Майзэльсон—галава.

Майзэльсон—вялікі добрадзей.

Майзэльсон—савецкі чалавек.

І... пабачым, што такое Майзэльсон.

І яшчэ многа розных адказаў вы пачуеце ў мястэчку на запытаньне: хто такі Майзэльсон? Але надворнае пашаны Майзельсон здаецца ні ад кога са сваіх ня ўтраціў. Мажліва тут прывычка многіх год.

Шырокі ганак шырокага дрыўлянага дому займаў даволі віднае і шумнае месца ў мястэчку. Побач чырвоная мураванка з зялёнымі жалезнымі дзьвярыма і з зялёнымі жалезнымі акеніцамі. Ужо з паўгода не адчыняюцца яны. А раней? Раней яны адчыняліся рана і зачыняліся позна. „Торговля Майзэльсона“ пахіснулася. Літара „Т“ зусім перавярнулася галавою ўніз. Трэба мець нейкую асабліва цьвёрдую галаву, каб трымаць у ёй думкі, што калі-небудзь, пасьля цяжкага сну, пасьля віхурнае ночы, калі жахліва бразгалі жалезныя акеніцы, ён, Майзэльсон, выйдзе на ганак і ўбачыць яснае сабе надвор'е і літара „Т“ зноў стала на сваё месца, што ён зноў першы комэрсант у мястэчку. Яго рухавыя агенты развозяць па вёсках гатовае адзеньне, прылаўнікі жвава адмерваюць локці, а ён... ён толькі націскае кнопкі. І думае, думае Майзэльсон, дзе-б найці такую кнопку, каб, націснуўшы адным невялічкім пальцам, толькі адным пальчыкам—перад вачыма зноў-бы сталі ўсе яго знаёмыя сябры і па мястэчку хадзіць не які-небудзь міліцыянэр ці фінінспэктар, а гатовы да паслуг самога Майзэльсона пільны вартаўнік яго і грозны страж царскага спакою—прыстаў Пал Ягоравіч. Сам прыстаў першы руку прыкладаў да казырка. І глупства каштавала. Пашлем пакуначак, на Пятра і Паўла „с днём ангела“, а ў пакунучку адрэз зялёнай „джы-

гіналі“ і супрузе іхнай тонкага мусьліну і парфумы. Ї так прыемна пахне ад начальства.

Гладка для Майзэльсона прайшла і польская окупацыя. Каштавала крыху адступленьне лігіёнаў, але затое ён не асабліва быў стрывожаны.

Ну, а ў 21 і 22 гадох, калі пад бокам была спачатку нэўтральная зона, Майзэльсон не гандляваў, а проста рабіў цуды. Націсьне адну кнопку—зьяўляецца фурманка з польскаю гарэлкаю. Націсьне другую—паўдзесятка кілё сахарыны. Націсьне трэцюю—кокаін, „коти“, шоўк. Правады ад яго кнопак ішлі далёка за мястэчка, яны злучаліся з кажухом пагранічнага селяніна-хутаранца, а часамі, праўда, вельмі рэдка, нападаўся на правадок шынэль пагранічніка.

Золата перасыпалася з рук у рукі, золата—пяцірублёвачкі, дзесятачкі зьвінелі ў мястэчку Бузукі. Шмат каму яны прывабна ўсьміхаліся, напаўнялі вочы радаснай уцехай і потым... потым вышлі горкімі сьлязьмі.

А Майзэльсону што, Майзэльсон нідзе, здаецца, ня езьдзіў, нідзе яго з фурманкаю не злавілі, нідзе яго не абшуквалі, бо ён-жа толькі націскаў кнопачкі. Ён займаўся мірнай палітыкай і так, унівэрсальным гандлем. У яго ў краме ссыпалася валвыканкомаўскае жыта, з яго крамы атрымлівалі служачыя пуды свайго заработку. Ну, як-жа яму ня быць савецкім чалавекам, як-жа яму ў краме над бочкай дзёгцю не павесіць портрэт Леніна. Ї ён павесіў. „Я ня шпікулянт, я—чырвоны купец“.

Быў 1922 год. Эх, які гэта быў год! Ї сёньня Майзэльсон ня можа забыць, успамінае, як ён удзельнічаў на валасным зьезьдзе саветаў. Закруцілася нейк галавы валасных работнікаў. „Слова мае прадстаўнік чырвонага купецтва, таварыш Майзэльсон“. Майзэльсон сказаў слова і ні па абы якому докладу, а па спэцыяльнаму, па дакладу коопэрацый.

„У іх вага без кляйма, а ў мяне з кляймом“, і кляйміў-жа ён мэстачковае інтэгральнае таварыства. „О гэта была настаяшчая свабода, за якую можна трымацца, а цяпер... як яна зьмянілася“... і няма такое кнопкі, каб, націснуўшы адным пальцам, можна было раскідаць яе. Ды што пальцам, ён-бы стукнуўся сваёю, крыху пасівелою, галавою, каб толькі што-небудзь зьмянілася.

Ї ходзіць Майзэльсон у гэтую восень думае, успамінае, старэе і ўсё ня траціць надзеі адшукаць кнопку.

## Труба горніста кліча

Т-ту-ту-ту! Ту ту!
— Што, гарыць? Пажар?
— Нічога не гарыць.
— А чаму-ж пажарнік трубіць.
— А гэта-ж цяпер завялі такую моду, каб трубою склікаць на сход.

Пытаўся Нохім Цымэль з-пад шыльды „дробны гандаль“, адказваў Ясіноўскі.

— Дык можа на некалькі гадзін спыняць гандаль?

— Вядома, што спыняць.

— У каб ім спыніла дух.

— А ты не чакай сьвістка, а зачыняй раней, дык пойдзем паслухаем... Толькі дай мне нітак.

— Што? Я пайду слухаць. Яны самі гавораць, няхай самі і слухаюць.

— Э, гэта няправільна, паслухаць трэба і, калі будзе зручны момант, дык і сказаць.

— А як гэта я скажу, калі яны ў мяне адабралі голас.

— А праўда, ты-ж безгалосны. Ну, дык давай ніткі, ды прычыняй краму.

— А колькі вам трэба?

— А колькі ў цябе ёсьць?

— Мала што ў мяне ёсьць. Можа шпулек адзінаццаць.

— Ну дык і давай іх сюды.

— Усе!

— А што тут.

— Майце на ўвазе, што па рублю шпулька.

— А-ёй страх вялікі, давай!

— Я тут яшчэ сяму-таму абяцаў. Мелася падыйсьці жонка судзьдзі.

— Давай кажу і ўсё, а ёй скажам няхай вяроўкаю шые.

На пляц зьбіраўся сход. Маладая звонкая песьня запаўняла яго. Каля трыбуны, як заўсёды ў гэтым мястэчку, групаваліся комсамольцы. Лёзунгі, якія хорам вырываліся з іх маладых грудзей, гостра білі па ўсім старым непатрэбным у жыцьці новага грамадзтва: „Далоў старое мястэчка!“, „Далоў цэркві, сынагогі!“, „За новае мястэчка без кулакоў і спэкулянтаў!“

— Чуеш, Нохім,—ціха пытае Ясіноўскі, кладучы ў кішэню шпулькі чорных і белых нітачак.

— Крычаць. Ужо колькі гадоў крычаць,—таксама ціха, схіліўшы на бок галаву, адказаў Нохім Цымель.

Да іх падышоў Іван Падзёньнік. Гэта рослы, крыху сагнуты, гадоў трыццаці двух мужчына. На ім кароткі суконны парыжэлы халат, заўсёды падпяразаны саматканым поясам, а за гэтым поясам заўсёды тырчэла сякера—прылада яго вытворчасьці. На нагах заўсёды скураныя лапці. Лыкавых ён ня любіў—усёроўна трэ' было скурапэцінаю падшываць. А на гэтую самую скурапэніцу яму „шанцавала“. Заўсёды знаходзілася „добрыя“ людзі і ўзнагароджвалі яго за добрую працу параю старых халявак. „Чым выкідаць на сьметнік, дык аддам іх Івану“.

Так не адзін раз казаў і Ясіноўскі. У другім убраньні ніхто Івана ўявіць сабе ня мог. Восень, зіма, вясна—у Івана Падзёньніка адно ўбраньне. У лютыя маразы часам падапране кажушок-рызмак, на шыю

завяжа шалік. Але надворны выгляд Івана ад падапранахі, вядома, не мяняецца. Гаварыў ён заўсёды голасна, крышку пісклява.

— А што гэта тут, пане, за сход такі будзе?—зьвярнуўся ён да Ясіноўскага.

— Як я чуў, дык, першае, гэта хочуць забраць царкву і яўрэйскую малельню, а другое—хочуць раскідаць мястэчка,—так спакойна, прыкурваючы папяросу, адказаў Ясіноўскі. І далей:—А раскідаць яны мяркуюць проста: вось, скажам, Лейба застаецца на месцы, а нам Іван з табою прыдзецца выселіцца пад Галы Бор, на гэтую пустэльню.

— Ого, няхай пасьвішчуць, пакуль я выселюся туды.

— Закурвай, Іван, майго,—Ясіноўскі перадаў свой капчук.—З нашым-жа народам зробяць усё, што захочуць. А яшчэ ў прыдачу да гэтае пустэльні даюць балота імшары. Горача стане на пяску, дык ідзі ў балота, скідай штаны і прахалоджвайся сабе, хе-хе!..

— А мы на гэта не паддамося. Нікуды ня пойдзем, і што яны з намі зробяць,—загаманіў Іван, паглядаючы ў той бок, адкуль нёсься гоман і выгукі сотні маладых галасоў.—Няхай крычаць.

Падышоў Сайка Балагол.

— Добры дзень пану Ясіноўскаму, здароў, Іван, і маё шанаваньне галантарэйнаму каралю Нохіму Цімелю, о!

Такое прывітаньне Сайкі Балагола для Нохіма было большым ударам, чым які-небудзь неспадзяваны штраф фінінспэктара, альбо міліцыі і таму ён адразу зьвярнуўся да Ясіноўскага і Івана:

— І скажэце, людзі добрыя, хоць-бы паўтары скулы села на яго язык, дык не.

— А на свой ня хочаш?

— Мой гэтага не зарабіў.

— Ага, не зарабіў. А хоць-бы і зарабіў, дык ня сядзе. На такі паскудны язык і чыр ня сядзе.

— Сам ты паскудзтва.

— Ну што вы, чаго вы захадзіліся?—пачаў сунімаць іх Ясіноўскі.—Будзеце сварыцца, а вашу малельню сёньня прагаласуюць і кончана. Вось падыдзем бліжэй і паслухаем.

Ясіноўскі, Іван і Сайка накіраваліся бліжэй да мітынгу. У гоман натоўпу раптам ўрэзалася музыка. Оркестр сёньня зьявіўся са спазьненьнем. Ну, пакуль сабраліся чатыры музыкі, дык таксама патрэбен час. Трэба сказаць, што ў іх, калі і бывае затрымка, дык толькі па віне трох. Чацьверты ніколі ніякае затрымкі не рабіў, ён заўсёды быў акуратны. А калі часам і здарылася так, што ён спазьніўся, дык гэта ня мела асаблівага значэньня, бо оркестр лічыўся ў поўным складзе і тады, калі гэтага чацьвертага ня было. У яго была нейкая даволі блішчастая трубка з двума клапанамі і ён даволі адважна выпускаў з гэтае трубкі два розных гукі. Вы разумееце, даць два розных гукі з аднае трубкі—гэта-ж

ужо кваліфікацыя. І вось у злучэньні з клёрнэтам, басам і барабанам выходзіў даволі гучны марш.

На трыбуне стаяла чалавек чатыры. Першым прамоўцам быў прыежджы таварыш з горада. Ён расказваў, як савецкая ўлада перабудоўвае прамысловасьць, сельскую гаспадарку, якія ёсьць посьпехі і як мяркуецца рэканструкцыя. Дайшоў да мястэчка".

„Прыватны гандаль адмірае на вашых вачох..."

— Жывога кладуць у дамавіну, ды кажуць, што прыватны гандаль адмірае—шапнуў Ясіноўскі Сайку Балаголу.

— Коопэратыў цісьне, гэта ён не дае ходу людзям,—адказаў Сайка.

„Коопэрацыя канчаткова выцісьне яго".

— О чуеце, гэтае самае кажа і ён.

„Мы ведаем, што розныя рамесьнікі, саматужнікі знаходзяцца ў даволі цяжкім становішчы і адзіным выхадам на сёнешні дзень зьяўляецца організацыя арцеляй. Тут мае быць пабудаваны лесапільны завод, паравік, крухмальня, і адным словам цэлы комбінат.

Ясіноўскі і тут ня ўстрымаўся:

— Спалілі млын, а цяпер будуць аднаўляць. Комбінацыі будуць рабіць. Нарабілі ўсякіх комбінацый.

„У вас малавата зямлі, але, організаваўшы колгас, можна будзе ўзбагаціць гаспадарку сваімі балотнымі абшарамі, вядома, зрабіўшы асушку іх".

— Чуеш, Іван, куды яны хочуць дзець нас, гаспадароў?—шапнуў Ясіноўскі,—нам балота і імшары:

Іван не ўцярпеў:

— Няхай самі ідуць у гэтае балота!—даволі голасна выгукнуў Іван Падзёньнік.

На трыбуне зьяўляліся новыя прамоўцы. Комсамольцы зараз-жа гатовы былі кінуцца ў атаку на белы дом з крыжам, на сынагогу.

Мы возьмем сынагогу, мы там організуем шавецкую і кравецкую майстэрні я першым увайду са сваім варштатам!—гукаў малады Піня шавец-саматужнік.

— О, ён першы пойдзе... Табе першаму трэба спусьціць штаны і сяго-таго падсыпаць,—падзяліўся сваёю думкаю з Ясіноўскім Сайка Балагол.

Кончыліся прамовы на трыбуне. Загуло мястэчка: „Нас раскідаць хочуць". „Каму сады, ды агароды, а нам балотныя імшары, комбінацыі нейкія". „Возьмем сынагогу, царкву, раскідаем старое мястэчка, перабудуем, організуем сельгаскомуну, далоў папоў і спэкулянтаў".

Разыходзіўся сход. Думкі, словы, цэлыя лёзунгі зьліваліся з маршам Будзённага, які пачаў выконваць оркестр і быў падхоплены вучнямі школы. Разыходзіліся людзі ў розныя бакі мястэчка. Разыходзіліся думкі

## Шпулька нітак Ясіноўскага

На дварэ была сухая задуменная восень. Многа кляновага лісту ляжала на цьвінтары. Павольна скідала бярэзіна сваё залацістае ўбраньне. Скіне два-тры лісточкі, зноў ціха стаіць, пакуль каторая не ўздрыганецца нэрвова.

Абапал надворных дзьвярэй царквы ў невялікіх нішах стаялі два вартаўнікі „сьвятога“ месца: Панцеляймон і Мікола. Апошні спачатку меў сур'ёзны выгляд, а пасьля, калі маляр Зыська паднавіў яго, дык ён утраціў сваю суровасьць. Гэтага хацеў сам айцец Сьпірыдоні. Ён таксама прымушаны зьмяніць свой „всеукоряющий“ выгляд на больш міласэрны, ласьлівы. „Будь вежливою, Женя“,—казаў ён сваёй жонцы, „иные времена, иные и обхождения должны быть у нас с тобою к прихожанам“.

Такім чынам, з-пад пэндзля маляра Зыські Мікола ўгоднік вышаў нікольні ня суровы, а крыху лісьлівым і больш кіслым. Як-жа не пашкадаваць яго. І чатыры жанчыны, а пяты дзядок, пасьля сходу на пляцу, накіраваліся на цьвінтар да яго, выціснулі некаторыя са сваіх цьмяных вачэй па сьлязіне, пакланіліся і пашлі. „Можа ён не дапусьціць“.

Даволі далікатна абыходзіўся сёньня з Іванам Падзёньнікам Ясіноўскі. Нават даў яму ў падарунак адну шпульку чорных нітачак. „Купіў я дзьве, дык вазьмі, Іван, адну і сабе. Гэта-ж у мястэчку нідзе не дастанеш. Што грошы. Пустое. Ня першы і не апошні дзень мы з табою бачымся. Будзем трымацца адзін аднаго, а інакш яўрэі ўсіх нас выганяць з мястэчка ў імшары“.

Іван дзякаваў за шпульку нітачак і з абурэньнем лаяў яўрэяў.

Доўга сёньня тупаў Ясіноўскі па сваёй сядзібе. Думкі расьпіраюць галаву. Ні пасядзець, ні паляжаць. Застаецца толькі іці, іці, іці...

Праз залацісты клён прарэзаўся месяц і кідаў свае пасмы на белыя вокны з зяленаватымі акеніцамі. Адыдзецца пад вішняк, гляне на клён, на ганак, на два высачэзных таполі, што ганароваю вартай стаяць каля яго, і сэрца заказычацца лёгенькай прыемнай больлю. Такое-ж хараство, такая ўтульнасьць... І чаму яно сёньня робіцца асабліва прыкметным? І раней-жа былі такія вечары і ночы. Была-ж пахучая вясна, здаецца-ж яшчэ большае хараство і ўсё яно праходзіла перад вачыма і не закранала сэрца. А тут штосьці казыча.

Ён наблізіўся да рэчкі. Паважна дыхае яна сваім спакойным блескам. Здаецца, што яна таксама спынілася і аб нечым глыбока задумалася. А за рэчкаю поплаў, поле, лес. Гэта ён ведаў, але выразна ён бачыў цёмную і больш сьветлую палоскі. Гэта былі: неба і зямля. А бывае ўлетку неба зробіцца цёмнасінім, нават чорным, а зямля зялёнай, сьветлаю, „і прырода мае выкрунтасы“.

І думае, думае Ясіноўскі, адкуль у людзей бяруцца думкі і выдумкі. Навошта чалавеку неспакойныя думкі? А ці ёсьць спакойныя думкі?

Так павольна ходзячы па сваім садку, ён хоча супакоіць сябе, хоча адагнаць сёнешнюю кусьлівую думку.

Адкуль яна зьявілася ў яго, дакапвацца доўга ня трэба. Але хто ім падаў думку раскідаць мястэчка і хто падаў таму першаму. Вось, каб знайці таго першага, самага першага і з ім пагаварыць. Ён перабіраў у кішэні адну шпульку чорных нітак, блытаў яе канец. Блыталіся думкі. „Чаму гэта яны хочуць заняць маю сядзібу, чаму гэта я павінен выбрацца ў нейкія імшары. Цесна табе тут—шукай сабе прастораў, а маё можаш абыйці. Што? Адкуль яна ўзялася? Адкуль добрая хата, вялікі сад? Чаму больш зямлі? Дык мо' хочаце запытаць: чаму я ня дурань? Дык-жа і так хапае без мяне. Што Іван Падзёньнік робіць у мяне, што дзяўчына працуе, дык-жа я плачу. Чыстыя грошыкі плачу. Адкуль грошы? А што я каму перарэзаў горла. Толькі-ж парсюком. 18 гадоў з парсюкамі маю інтарэс. Салам-жа карміў вас, каб вас парасьпірала. Але-ж перад кім я спавядаюся. Выходзіць, што перад самім сабою. Не, маё сумленьне будзе чыстым ад граху. Мне няма чаго баяцца. А раз так, няма чаго маўчаць“.

На мястэчку гаманіла моладзь. Сьпявала. Гэта быў звонкі вечар. Гэта была мастацкая частка дзённага сходу.

Гучная!

Бурлівая!

Ня чутна было толькі скрыпкі Міхеля.

## Віхор у хаце Лейбы

Лейба—бацька комсамольца Піні, тыдзень, можа два, а можа і больш маўчаў. Ён можа доўга маўчаць. Калі ёсьць работа, ён стукае малатком, няма—ён моўчкі сядзіць, моўчкі ходзіць. Ён лічыцца ў мястэчку старым, законным яўрэем. Да яго цяпер прыхільны і рабін, і Майзэльсон. І думае Лейба, што ён пайшоў угару. Ды так аб гэтым гаварылі ў мястэчку: „Што цяпер Лейба, Лейба—першы сябра Майзэльсона“.

Дурасьлівы вецер пачаў расчышчаць дарогу шырокай у белым пухавым убраньні пані-зіме. Ён хістаў бярэзіны, таполі, клёны і каштаны. Страсаў апошнюю красу рознакаляровае восені. Шумелі дрэвы ўсё мацней, мацней. Стукаецца вецер у маленькую разьбітую шыбу маленькага ваконца Лейбы, папярэджвае аб хуткім надыходзе зімы. А ў хаце Лейба кладзе латкі, Піня пачаў майстраваць новы бот.

— Сёньня вецер на дварэ,—пачаў Піня.

— На дварэ, як на дварэ, але ў тваёй галаве здаецца таксама хапае яго,—адказаў Лейба.

Сын глянуў на бацьку, змаўчаў. Зноў яны сядзелі моўчкі і рабілі сваю работу. Бацька быў задаволены, што яна знайшлася і, калі-б былі іншыя абставіны, ён мог-бы нават памармытаць якую-нібудзь малітвенную песьню, але-ж тут сядзіць сын і нешта падобнае на яго сядзіць у горле.

Рыпнулі у сенцах дзьверы.

Засьпяваў віхор, узьлятаючы на вышкі.

Скалануўся дах. Лейба спакойна прапускаў з сярэдзіны бота тонень-кую шчаціну. Піня, чуць прыкметна, нахіліўся, каб устаць і ў момант сьцёр гэты рух лішнім ударам малатка.

У хату ўвайшоў Віктар:

— Але-ж і сіберны вецер. А тут і дзьверы ў вас такія, што не ўтай-муеш іх. Крывыя вушакі, дык іх і гоніць, пакуль ня стукнуцца аб сьцяну. Пружыну трэба паставіць, дзядзька Лейба.

— Куды пружыну?

— Да дзьвярэй. Але-ж праўда і дзьверы нікудышныя, новыя трэба зрабіць. Ды вушакі таксама новыя, роўныя паставіць.

— І сьцены новыя з бляшанаю страхою,—дадаў Піня.

— Правільна. Адным словам, у вас, дзядзька Лейба, не хапае толькі пружыны.

— А ў цябе можа ёсьць лішняя?

— Не, лішніх няма.

— А мне здаецца, што ў цябе многа лішніх, дык усе яны вельмі т уга пазакручваны, так, што могуць папэнкацца.

— О, гэта вы нешта хітра гаворыце.

Піня маргнуў Віктару.

— Нічога, мая пружына моцная. Ну, пойдзем, Піня.

Задрыжалі хударлявыя рукі Лейбы. Ён павольна падымаўся са свае тубарэткі, закіпела старая злосьць на пачырванелых вачох, задрыжэлі губы. І праз нейкі момант прарваліся здушаныя сваёй злосьцю словы.

— Ты прынёс нам баханак хлеба? Ты аддасі яму сваю сарочку?..

— Чаго вы, тата, на яго?—заспакойваў Піня.—На сход-жа я павінен пайці.

— На сход? Альбо ты пойдзеш на сход і больш ня вернешся да-дому, альбо ты не падымешся з гэтага месца і будзеш...

Трах!

Бразнула начыньне ад удара Піневага малатка. Піня ўскочыў са свайго месца, схапіў з лаўкі кажушок:

— Я ўстаў з месца, я пайду на сход і калі хочаце да вас ня прыду.

— Ідзі, ідзі...—прахрыпеў бацька і павольна сеў на тубарэтку.

Віктар і Піня выходзілі з сянец. Зноў уварваўся вецер, скалануў дах, дзьверы. Здаецца калаціўся Лейбаў варштат.

## На сходзе

У нардоме цесната. На ганку гурт хлапцоў школьнікаў гудзе і таўчэцца, нібы камары перад громам. Дрыжаць дзьверы. Чуць толькі прачыніць хто, абавязкова некалькі з іх увязьне ў дзьвярох, тады таварышы па-ціскаюць і заля напаўняецца новымі „галасамі“.

— Дайце прайці!—гукнуў Віктар.

— Мы таксама хочам галасаваць,—зашчабяталі хлопцы.

— Ша!—спыніў Віктар.—Хто хоча галасаваць, дык схадзі перш дадому, няхай маці ўватрэ нос, тады пабачым.

Крыўдна хлопцам. Вырашаюцца такія пытаньні, маюць забраць царкву, сынагогу, а яны быццам і ня роўнапраўныя грамадзяне. Нябось тыя, якія ідуць бараніць папа і рабіна, першыя прыйшлі на сход. Дымам засьцілаліся лямпы „Молніі“.

Падагрэты потам пах новых кажухоў, вырабу мясцовага татарына Асана, злучаўся з махорачным дымам і напорна прабіваўся праз шчыліны дзьвярэй. „Саноўныя“ нэпманы тупалі па мястэчку, зьбіраліся ў невялічкія групкі, і здалёк паглядалі на запацелыя вокны клюбу.

А Ясіноўскі там. Ён з голасам. Ён лічыцца земляробам. Ён тонка ловіць настрой местачковай беднаты. Ён не адрываецца ад яе, ён старанна абвівае яе нітачкамі сяброўства.

У кутку, у невялікім гуртку Іван Падзёньнік. Ён казырае сваім земляробствам, праваслаўнай „масьцю“, зьбірае козыры супраць яўрэйскай „масьці“.

— Вось пабачэце, як яно будзе: мястэчка застанецца яўрэям, а нашага брата выкінуць у імшары на балота.

— Так яно і будзе,—згаджаўся Іван.

З боку стаяў Ціхон Лебяда. Ён ні з кім не гаварыў. Глыбокая думка выступіла на яго абліччы ўсімі маршчынамі. Дайце яму ясны адказ на думку і частка маршчын зьнікне.

— Вось я скажу пра Ціхона,—пачаў Ясіноўскі,—што, ён ні чалавек?

Ціхон быццам ачнуўся, пашавяліўся, але застаўся на месцы.

— Усім-жа вядома, што чалавек ён малазямельны,—гаворыць далей Ясіноўскі,—сям'я не маленькая, значыць трэба чалавеку дапамагчы, даць яму выхад. Толькі не ў імшары, як гэта мяркуецца гэтым колгасам ці як яго, а ўзяць з саўгасу кавалак зямлі і прырэзаць чалавеку. Саўгас не зьбяднее, а тымчасам чалавек стаў-бы на ногі.

— А пэўна-ж.

— Вядома,—згаджаліся іншыя.

Ціхон заставаўся на месцы, але адчуў, як нейкая нітачка цягнула яго ў той гурт.

Ясіноўскі выглядаў, каб яшчэ каго-нібудзь падчапіць.

Сход адкрыўся.

У сьпіску прэзыдыуму назвалі і Ціхона Лебяду. Ён пачуў, але ня быў упэўнены, што гэта яго выбралі, бо ў мястэчку некалькі такіх прозьвішчаў.

— Ідзі, Ціхон, у прэзыдыум ад нашага брата,—падаў голас Ясіноўскі,

Дык-жа гэта мо' не мяне?

— Цябе, цябе,—адказалі другія.

— Ціхон абцёр вусы і пачаў праціскацца.

Даклад быў невялікі. Партыя і савецкая ўлада заклікалі працоўнае грамадзтва мястэчку рашуча стаць на шлях перабудовы жыцьця, на шлях колектыўнага грамадзтва.

— Ня слухайце ворагаў, якія распаўсюджваюць розную брахню. Шмат каму хочацца ўтрымаць мястэчка ў сваіх старых шыльдах. Так званая слава былога адыйшла і назад ня вярнецца. Царкоўныя званы і дзікі гоман сынагогі мы заменім магутнымі акордамі трактарных і фабрычных гудкоў.

Выбух комсамольскіх воплескаў быў цьвёрдым голасам за новае і моцным ударам па старому мястэчку.

На Юрздыцы маленькія хаткі цесна зьляпіліся і нясьмела, прыжмурана паглядаюць адна на другую. На аднэй з іх таблічка: № 66, Ціхон Лебяда“. Вузенькі двор, малюсенькі агародзік Рабіна, а на ёй куча вераб'ёў. А за вёрст дзьве ад сядзібы—кавалачак зямлі на паўтары дзесяціны. Сям'я—шэсьць душ. Доўгі асеньні вечар. Меншыя дзеткі сьпяць, двое большанькіх рыхтуюць вурокі. Жонка Ціхона сёньня ўвесь дзень мыла людзям бялізну, на рэчцы, мыла босая. А берагі рэчкі апраналіся ў лёд. Прадзе жонка Ціхона, доўга будзе прасьці, позна будзе сядзець, рана ўстане. „Ідзі“, сказала яна надвячоркам Ціхону. „Ідзі, кажы, сьмела кажы, што цяжка жыць“.

— Цяжка жыць, таварышы, я гэта сьмела кажу, бо, значыць, наша ўлада савецкая,—трымаў прамову на сходзе Ціхон.

І ўзьнялася хваля бурная:

— Зямлі давайце!

— Няхай яўрэі ідуць у імшары!

— Загоняць у колгас на пяскі і душыся там!

— Калі адбудуецца млын?

— Якую комбінацыю вы мяркуеце адчыніць?

— Абрэзаць кулакоў!

— Даеш кол-гас!

— Супакойцеся, грамадзяне,—звоніць старшыня.

— Аслабаніць ад падаткаў!—выгукнуў голас.

— Пачакайце. Я яшчэ ня скончыў,—адазваўся Ціхон.—Што гэты падатак? Ну мяне аслабанілі ад падатку і летась і сёлета. Што-ж вы думаеце, я цьвёрда стаю? Адну злыбеду перажывеш, дык другая ўжо стаіць над каркам. Няхай яно згарыць. Абрыдла мне ўсё жыцьцё пакутаваць. Дзеці-ж у мяне растуць. Дзе-ж я дзенуся з імі на сваёй гаспадарцы? Трэба-ж падвучыць іх якому рамяству, ці, як кажуць, рабфаку. Вось значыць я і кажу, таварышы, што трэба так меркаваць, як нам расказваюць партыйныя бальшавікі і комуністы.

Скавыча віхор на вышках Лейбавае хаты, калоцяцца ў сенцах вушакі. На сьцяне, над варштатам міргае невялічкая лямпачка. Праз шыбы акенца ўрываецца халодны струмень і шавеліць на вакне

старыя меркі. Ці прынясе заўтра хто работу, ці не. Ці заробіць Лейба шаснаццаць рублёў як у мінулым месяцы, ці не. Лейба ніколі многа ня меў. І цяпер яго жаданьні самыя маленькія. Яму трэба памерці законным яўрэем. А сын Піня—комсамолец. Ідзе на сход, каб адняць сынагогу. Каб паставіць там новыя варштаты ў стройны рад колектыўнае працы.

Ой, ты, стары, адзінокі пахілы варштат.
Ой, ты, стары, адзінокі пахілы Лейба...

Далоў гэтыя адзіночныя варштаты—трымае прамову Піня.—Гэта ня жыцьцё, гэта ня праца, а камэра адзіночнага зьняволеньня, альбо калі ты бярэш вучняў—дык гэта ўжо наяўная спэкуляцыя чужой працай. І таго і другога даволі ўжо. Я першы стаўлю варштат у арцель. А ў сынагозе многа можна паставіць варштатаў.

Забраць сынагогу.

Шумна было ў клюбе ў часе сходу. Яшчэ шумней стала, калі сход скончыўся. Ціхон выходзіў са сходу членам часовага колгаснага камітэту. Піня—членам камісіі па арганізацыі арцеляй.

— Дык значыць ты за яўрэяў цягнеш?—казаў Ясіноўскі Ціхону.

— Я ні за кога не цягну, я хачу каб было лепей жыць.

— Ну, ну. Дай-жа божа, як той казаў, нашаму цяляці, ды ваўка зьесьці,—адказаў Ясіноўскі, і кіўнуў на Івана Падзёньніка. Той зарагатаў, але раптам адчуў сябе ніякава. Бо з Ціхона ня можна сьмяяцца. Ен хацеў загаварыць з Ціхонам, але Ясіноўскі зноў кіўнуў на Івана:

— Пойдзем.

А па мястэчку па два, па тры снавалі „патэнтованыя“ наркамфінам „краскупы“. Паміж імі голай адзінкаю блытаўся Лейба. Яго непакоіла адно пытаньне: забралі сынагогу, ці не?

З клюба, праз расчыненыя дзьверы, вырвалася комсамольскае:

Ўпярод, зару спаткаем,
Сябры, у барацьбе.
Карцеччу і штыкамі
Пралre жым шлях сабе.

Песьня напаўняла пляц, біла па царкоўнай званіцы, па мурох сынагогі, па старых таблічках прыватнага гандлю. Сёньня ў гэтай песьні адчувалася асаблівая сіла—сіла ўпартага разбурэньня і творчага ўзьлёту ў зорнасьць надыходзячай перабудовы.

Яе адчувала ўсё мястэчка. У музычна-кволай душы Міхеля яна гучэла ўрачыста-трывожнай гармоніяй, а ў вушох Майзэльсона, Ясіноўскага—рокатам грому, які зьбіраецца над іх галавою, каб ляснуць пяруном.

„Громаадвод!“

„Громаадвод“ патрэбен мне і я яго пастаўлю, кажа сабе Ясіноўскі.— Я пастаўлю добры громаадвод старое конструкцыі, пастаўлю яго на яўрэйскім двара.

А Майзэльсон шукае кнопачку. Адну кнопачку, каб націснуць адным толькі маленькім пальчыкам і гром пайшоў на клюб, на райвыканком...

## „Непажаданае“ спатканьне Піні з Цэйтаю

Піня з Віктарам ішлі на кватэру Віктара. Насустрач ішлі дзьве дзяўчыны. Адна з іх была Цэйта. У гэты момант Піню не хацелася сустракацца з ёю. Праўда, не ад нутра гэта ішло. Нутро прыпыняла яго.

„А я пайду проста, не буду спыняцца“, адказаў ён у думках і падтрымаў голасна:

— Пойдзем, Віця, проста да цябе.

— Піня!—голас Цэйты.

Піня нібы ня чуе.

— Піня!—паўтарае і падыходзіць.—Кончылі сход?

— А ты як думаеш?

— Думаю, што ўжо.

— А я думаю, што мы толькі пачынаем.

— Значыць ты заняты?

— Значыць я заняты.

— Ну добра.

— Што добра?

— Нічога.

— Ну дык і нічога.

Разышліся.

— Так, яно відаць, што нічога,—падмаргнуў Віктар.

— А ты думаеш, што яна мне?

— Я-ж і кажу, што нічога.

— Не, ты так кажаш, што...

— А ты што, перада мною хочаш замазваць?—спыніўся Віктар.

— А што я замазваю?

— Ну, кінь. Не адступай, калі такая дзеўка сама наступае.

— Дык ты хочаш, каб я цяпер пабег за ёю?

— Ну, не цяпер, а наогул не падгінай хваста.

— А наогул... яна нэпманка і мяшчанка.

— А хто казаў, што яна з дзяўчат найбольш продукцыйная?

— Прогрэсыўная.

— Ну ладна, прогрэсыўная, як ты кажаш.

— Дык я табе скажу, Віця, што прогрэс мае два пункты. Першы— адкуль ён выходзіць і другі—куды ён ідзе. Цэйта трымае сябе дома даволі рэволюцыённа, але што яна дае для соцыялізму? І што яна можа даць, калі жыве ў такога „ізьвеснага“ папашы?

— Так, напаша „ізьвесны“,—адказаў Віктар.

Увайшлі ў хату.

Размовы пра Цэйту скончыліся, а Піню хацелася пагаварыць. Ён гатоў быў даказваць, што яна нічога ня варта і што ўсе, якія лічаць яе прыгожаю, памыляюцца. У гутарцы з другімі ён і даводзіў гэта. Аднак, усё гэта рабілася для таго, каб лішні раз пачуць пра яе хараство, пачуць думку таварышоў аб карыснасьці яе ў сучасным грамадзтве. На жаль, аб апошнім, здаецца, ніхто нічога не гаварыў. Большасьць э іх спынялася на губках, шчочках, ножках. Усё гэта вядома і ўсё гэта Піня гатоў быў адхіляць, каб убачыць яе ўнутраную прыгожасьць. Яму хацелася, каб з яе маладых грудзей выскаквалі ня іскаркі, а полымя протэсту супроць свае сям‘і, каб яе губкі напоўніліся загарам жніўнага сонца, каб яе шчочкі напудрыліся цагляным пылам на будаўніцтве комбінату. Табы-б ён сьмела падыйшоў-бы да яе і сказаў: „Здарова, Цэйта“, а мо‘ тады яна ня была-б такой прыгожай. Мо‘ тады ніхто не зварачаў-бы на яе ўвагі. І добра. Не задзірала-б носа. А хіба яна перада мною задзірае нос? Не. Яна сама ловіць момант, каб спаткацца. Прыстасавацца хоча, мяшчанка няшчасная. Але-ж чаму яна не пашла замуж за фінінспэктара? Той-жа вар‘яцеў ад каханьня да яе. І другім дае адпор.

Пальцы ўчарэпіліся за валасы, ускудлачылі іх.

## Дзесяцігадовы Рувім перарастае бацьку

Рэконструкцыя гаспадаркі, альбо, як некаторыя ў мястэчку казалі, перабудова мястэчка, гэта не перамена дзьвярэй у старой хаце, гэта не рамонт старое хаты, гэта нават не мэханічная перастаноўка хат. Усё гэта мог-бы падтрымаць і Майзэльсон, і поп, і рабін—блаславіць савецкую ўладу.

„Зьмяніць вопратку,—казаў адзін раз „мудры“ рабін,—гэта ўжо ніштаваты кавалак палітыкі. Не запаліць на шабас сьвечак—гэта ўжо сіберны вецер. А забраць сынагогу—дык няхай іх за дзень перад гэтым возьме халера“.

І што-б вы думалі? Халера нікога не ўзяла. Нават самога рабіна і ня толькі за дзень да таго, а нават і ў той самы дзень.

А гэты быў даволі цікавы дзень. „Самашэдшы дзень“—казаў Нохім Цымель.

У той-жа дзень Сайка Балагол, гэтае справачнае бюро, едучы са станцыі ў мястэчка, казаў пасажыру настаўніку:

— Мне інтарэсна было-б паглядзець, як нашы яўрэі будуць ваяваць самі з сабою. Палемантуюць трохі і разыдуцца. А сынагога яшчэ мацней будзе стаяць.

— Вы так думаеце?—кажа настаўнік.

— Магу нават расьпісацца. Што Піня, ці хто там крычыць—арцелі, шмарцелі, дык мала яны яшчэ пацелі. Бо што для чаго пастаўлена, тое

для таго і пастаўлена. Млын, каб малоць—няхай меле. Кузьня, каб кавацьь—няхай куе. Сынагога, каб маліцца—няхай моляцца.

А настаўнік:

— Пасадзілі Мікалая на трон—няхай сядзіць. Далі жандару ў рукі бізун—няхай лупцуе.

— Э-э, дык-жа там стары рэжым, самадзяржаўе. Пра гэта цяпер няма гутаркі.

— А сынагога новы рэжым?

— Сынагога?—тут Сайка ня ведаў, што адказаць. Саскочыў з саней, паправіў на сівым падсядзёлак, сьцёбнуў пугаўём па чэраве, сеў.—А што вы будзеце рабіць са мною, калі я нарадзіўся пры старым рэжыме.

— Справа ня ў тым, калі вы нарадзіліся, а ў тым, як вы ўспрымаеце наша новае. Калі вы яшчэ не перарадзіліся, трэба хутчэй перарадзіцца.

Тут ужо Сайка ня думаў:

— Перарадзеце майго сівага каня з дванаццаці гадоў на два, дык я вас дарам два разы завязу на станцыю.

Ехалі па Юрэдыцы.

— О, тут жыве агрэйсэ шышка,—паказаў Сайка на хату Ціхона,—калгасны камітэт,—і ўсьміхнуўся.

На вуліцы густы натоўп моладзі і старэйшых.

— Гэй!

— Гэй!

— Гэй! Прастаранецеся, арцельшчыкі!—выгукнуў Сайка.

— Спазьніўся Балагол,—заўважыў адзін.

— Ён і памерці спозьніцца,—заўважыў другі.

— Спазьнюся знарок, каб наўперад пахаваць цябе,—адсек Сайка.

— А на сынагогу спазьніўся,—выгукнуў нехта.

— Нешта тут сёньня шумна,—заўважыў настаўнік. Сайка нічога не адказаў, але відаць было, што ўпэўненасьць у яго зьнікла. Ён тузаў каня, але не паганяў. У варотах каля свайго дому стаіць Нохім.

— Вос тутцэх до? (Што тут такое?)—пытае Сайка.

— Амешугенэр тог (Сумашэдшы дзень)—адказвае Нохім.

— А што, што?

— Забралі, што-ж.

Настаўнік зьлез і пашоў на сваю кватэру. Сайка выпраг каня, ускочыў у хату і пачаў грэцца гарачымі клёцкамі. А дзесяцігадовы сын Рувім дае інформацыю. Ён прысутнічаў на ўсей „процэсіі“, нядаўна ўбег у хату і, напоўнены гарачымі ўражаньнямі, з запалам расказваў цяпер:

— Сабраліся каля выканкому і каля клюба.

— Ну, ну?

— Тады прышлі музыкі.

— Ну, ну?

— Узялі чырвоны сьцяг і пашлі.

— Ну?

— Прышлі ў сынагогу і там зрабілі мітынгі.

— Ну?

— Музыкі там ігралі, а комсамольцы павесілі на сьцяне чырвоныя сьцягі.

— Ну?

— Ну, было хораша.

— А ты там быў?

— Быў.

— Пайшоў вон, смурод!—крыкнуў бацька на сына. Рувім адступіўся і з боку паглядаў на бацьку і думаў: „мусіць у таты ня было пасажыраў“.

Звычайна, Сайка пасьля дарогі, пасьля гарачых клёцак, лажыцца на шырокі тапчан каля печы і тут выпроствае свае косьці.

Лёг і сёньня.

Толькі пачаў засыпаць, а тут з гары панесла пасажыраў на ўхабу.

— Тпру, тпру, тпру!—закрычаў і ўсхапіўся. Каля стала сядзіць з кніжкай Рувім і сьмяецца.

— Вы мусіць, тата, думалі, што едзеце?

Сайка паглядзеў:

— Я табе зараз заеду!

Павярнуўся на бок і рыжанькая бародка расплылася па гарачай кафлі печы; захроп.

А яны ідуць з чырвонымі сьцягамі, пяюць і накіроўваюцца на школьны двор. А Майзэльсон, і нават сам рабін—сустракаюць, просяць зайці ў сынагогу. Ды гэта яшчэ што, а вось нумарок: рабін па высокіх лесках падымаецца на трыбуну. Рабін!!! Ды гэта што—Рувім, Сайкаў малы Рувім, малое жабянё, падбег, тарkануў лескі і рабін зьляцеў.

Зноў усхапіўся Сайка.

Рувім сядзіць, вучыць урокі.

— Паскудны сон,—буркнуў сабе Сайка. Адзеўся. Вышаў.

## „Попечение“ аб яўрэйскім народзе на кватэры Майзэльсона

На дварэ мяккая зіма. На мястэчку яшчэ шумна.

У доме Майзэльсона ціха, але неспакойна. За жалезнымі акеніцамі неспакойна. Над сталом, з вялікім зялёным абажурам на ланцугох, бронзавая лямпа. Невялікае сьвятло падае на ружовую цырату, якой накрыты стол. Майзэльсон, усьпёршыся левым локцем на стол, павольна разгладжвае пальцамі маршчыны на ілбе. І думае, думае Майзэльсон: „што сынагога?—глупства. Сынагогу можна збудаваць. Вярнуць-бы толькі ў рукі дзела, сваё старое дзела“. Ён думае, маўчыць.

А Нохім тупае па хаце:

— Я вам кажу, што яны раскідаюць увесь сьвет.

— І наша мястэчка ў першую чаргу, — дадала Эстра, жонка Майзэльсона.

— Будуем, будуем... а што яны збудавалі? Трымаў Довыд млын, дык малолі, а адабралі, дык і спалілі. Цяпер забралі сынагогу. Дык я і хачу запытаць: што гэта будзе далей?

Ніхто нічога не адказаў.

Увайшоў рабін, а за ім Лейба.

— Ну?—зварачаецца рабін.

Усе маўчаць.

Рабін сеў. Прыжмурыўся, і ў гэтым жмураньні пачаў раскідаць агоньчык лямпы. Здаецца ніводзін з іх не хацеў глядзець адзін аднаму ў вочы. Тут патрэбна была нейкая асоба, якая зьвярнула-б увагу ўсіх, прыцягнула-б іх погляды на сябе, а пасьля раскідала-б на ўсю кампанію.

Эстра запыталася:

— Можа наліць чаю?

Ніхто нічога не адказаў. Толькі рабін кінуў галавою, так што гэта ясна азначала: „Эт, можна наліць, можна не наліць..."

За дзьвярыма нехта шкрэбнуўся. Расчыніліся дзьверы. Чалавек уваходзіў задам. Зразумела—гэта Сайка Балагол. У кожнага чалавека свой характар. Сайка так заўсёды ўваходзіць і першым нумарам ён павінен высмаркацца, пацерці далонь аб далонь і пасьля падаць знаёмым руку. Але тут усе старыя знаёмыя і дабрывечара зусім даволі.

— Ён ня можа, каб ня спэцкаць падлогі,—заўважыла Эстра.

— А што такое ваша падлога?—адказвае запытаньнем Сайка. — Кавалак дрэва. І плюй згніе і ня плюй згніе. Гадуеш дзіця, думаеш, будзе чалавек, а выгадуеш—магіла.

Лейба ніякава паварушыўся. Ён падумаў, што гутарка ідзе пра Піню, а ўсе іншыя адразу павярнулі вочы на Сайку.

— Сяджу, палудную, а мой Рувім расказвае, як сёньня забіралі сынагогу.

— Ну?—падаў голас рабін.

— Так і я сказаў „ну". А ён мне: было вельмі хораша.

— Э, варта пра гэта гаварыць, што там сказала дзіця, — адазваўся Нохім.

— А па-твойму, варта гаварыць пра тое, што скажа Нохім?... — падкрэсьліў апошняе слаўцо Сайка.

— Важнасьць вялікая, што сказаў яго Рувім.

— А чаму гэта мой Рувім так павінен гаварыць?

— Ну вы, галаганы, зноў сашчапіліся, — падаў свой голас Майзэльсон.—Тут ёсьць аб чым гаварыць. Адзін Рувім — гэта адзін каменчык на дарозе, які можа адкінуць нагою. Дзесяць такіх Рувімаў — гэта ўжо вялікі камень. Сотні такіх Рувімаў—каменны ўзгорак, а тысячы, тысячы Рувімаў—каменная гара. О!

Рабін кіўнуў галавою. Пацьвердзіў. Сайка ня ведаў, ці абараняць „магілу" ці згадзіцца з „гарою".

Майзэльсон падняўся і толькі падняў уверх палец, а Нохім:

— Што з мухі робяць сланя, гэта я чуў. Але, што з мухі робяць гару—ня чуў.

— А што вы скажаце на тое, што калі яны (паказвае Сайка на рабіна) палезьлі па высокіх лесках на трыбуну, дык гэта мой Рувім штырхануў лескі і яны пстрыкнулі на зямлю?

Усе паставілі перад Сайкам вялізны пытальнік.

— Што, што такое?

— Гэта, прыехаўшы са станцыі, я прыкархнуў і бачыў такі сон.

Майзэльсон сеў. З лесак пстрыкнуў рабін. Няхай цяпер гаворыць ён.

— А скажы Сайка, я жывы, ці не?

— Ну дык вы-ж тут сядзіце і гаворыце.

— Не, там, у тваім сьне?

— У сьне? Здаецца жывы.

— Пра што яны гавораць?—абурыўся Нохім. — Што гэта за такія сны? Не гавораць пра тое, як на сьвеце жыць, а пра сон Сайкі Балагола і пра яго Рувіма. Падумаеш, якія знайшліся Салімоны.

— А што ты крычыш? — спыняе яго Сайка. — Пакрычы на фінінспэктара.

— Галаганы! Спакойна, — супыняе Майзэльсон. — Я акурат і хачу сказаць аб тым як жыць. Вы думаеце я буду плакаць, калі забралі адну сынагогу, а засталося яшчэ тры. Сынагогу можна раскідаць. Можна спаліць і можна пабудаваць новую.

— Сынагога гэта ня толькі будынак,—заўважае рабін.

— Я і кажу, што гэты будынак плёвае дзела. Але калі раскідаецца цэлы народ і з кожным годам усё больш і больш, дык вось тут закон. Яўрэі ідуць раскідаць сынагогу. Вы чулі калі-небудзь аб гэтым?

— Уга, па гарадох даўно гэтым займаюцца,—заўважыў Сайка.

— Значыць гэтыя людзі для яўрэйскага народу — ноль. Яны больш не яўрэі.

— А яны лічаць, што мы для яўрэйскагага народу—ноль,—заўважыў Нохім.

— Так, яны нас даводзяць да нуля. А мы павінны сказаць, што яўрэй толькі тады яўрэй, калі ён яўрэй.

Пасьля гэтага некаторы момант усе маўчалі. Майзэльсон зноў пачаў:

— Ну, я меў магазын, а Нохім, скажам, і сёньня мае...

— Што я маю? Гэта магазын?—падняўся Нохім.

— Пачакай.

— Сабачая будка, а не магазын.

— Ну, але-ж ты трымаеш?

— Няхай іх трымае за ныркі.

— Няхай за пуп, але дай мне сказаць.

Расчыніліся дзьверы і ўвашла Цэйта, а за ёю дзьве таварышкі, а за таварышкамі Міхель.

— А-а! Маладая кумпанія,—прывітаў Сайка і пастараніўся.

— А-а! Старая кумпанія,—адказала Цэйта.

Дзяўчаты прайшлі ў залю. Міхель тупаў і ня ведаў, як яму лепей зрабіць.

— Што зайграе нам сёньня скрыпачка? — зьвярнуўся Сайка да Міхеля.

— А куды паедзе сёньня Сайка Балагол?—дае пытаньне Міхель.

— Сайка паедзе па старой знаёмай дарозе,—адказвае Сайка.—А ты раскажы, як вы там забіралі сынагогу. Ты-ж там напэўна быў?

Невядома што-б адказаў Міхель, але ўвайшла Цэйта і пазвала яго.

— Стой, стой, ты адкажы, а пасьля пойдзеш.

Міхель спыніўся і здэтанаваным поглядам абвёў прысутных.

— У чым справа?—умяшалася Цэйта.

— Не тваё дзела,—заявіў Майзэльсон.

— У чым справа, Міхель?—зноў пытае Цэйта.

— Ямы пытаюць як забіралі сынагогу,—нясьмела адказаў Міхель.

— Як забіралі, так і забралі,—адказвае за Міхеля Цэйта.

— А ты таксама там была?—пытае Сайка.

— Я таксама там была, пракурор Сайка.

Міхель і Цэйта вышлі.

— Гэрст? (чуеш)—зьвярнуўся Сайка да ўсіх.

Зноў цішыня.

З залі ўрываліся бесклапотныя гукі піяніна.

— Прыпыні там музыку!—загадаў Майзэльсон жонцы.

— Ня трэба, — падае голас рабін, — ня трэба так. Няхай граюць. Трэба спакойна. Ня з Міхелем трэба гаварыць. Гэта—чалавек наш.

— Ліха яго цяпер разьбярэ, хто гэта наш і хто гэта ня наш,— выказаўся Сайка.

— Дык вось гэта і трэба ведаць, — кажа далей рабін. — Гэта трэба вывучаць. І трэба асьцярожна пагаварыць з іхнымі варацілами. І глядзець не на ногі, а на галаву. Мне, як рабіну, гаварыць не выпадае. Гэта можа зрабіць Сайка, Лейба... Пагаварыце з Пінем, напомніце яму гісторыю нашага народу, і як у дваццатым годзе ў гэтым мястэчку пралілася наша кроў.

— Я не магу з ім гаварыць,—пачуўся дрыжачы голас Лейбы.

— А пагаварыць трэба, ды ня толькі з ім. А там будзе відаць.

Калі Міхель з дзяўчатымі выходзіў да дому, у сталовай Майзэльсона нікога ня было.

На вуліцы ціха. Толькі са Слуцкай вуліцы чулася бразготка вартаўнікоў. Ідзе Міхель дадому, а месяц перад ім. І хочацца яму глянуць у твар гэтага месяца і нейк сорамна. Месяц заўсёды ўсьміхаецца, а цяпер ён хітра ўсьміхаецца. Гэта яшчэ нічога, але ён проста пытаецца ў Міхеля: „Ну, а як ты, скрыпічная душа? Якую музыку іграеш ты?“

„Я цяпер зусім ня іграю. Так трэ‘ было адказаць Сайку, так я адказваю табе, месяц. Я вывучаю мэлёдыі мястэчка, а яны мяняюцца. А вывучаю, а пасьля зайграю“.

## Ясіноўскі пайшоў у народ

За невялічкім сталом Івана Падзёньніка, сярод Івана, Рыгора, Сымона — Ясіноўскі. Чарка пораўну абыходзіць усіх. Яны-ж сёньня „ўсе роўныя". Яны, бачыце, усе не яўрэі.

Іваніха шые.

Ясіноўскі п'е да яе:

— Пашыем яшчэ, Іваніха. Раз ніткі ёсьць, значыць пашыецца. Я меўся ўзяць сабе тры шпулькі. Нохім такі болей і не даваў. Давай, кажу, чацьвертую і пятую. А ён кажа, што абяцаў жонцы судзьдзі. Што значыць абяцаў? Давай, кажу, сюды. І, ведаеце, гад, больш двух ня даў. А я ўсёроўна, як і ведаў, што Іванісе гэта патрэбна будзе, і кажу Івану: вазьмі адну. Трэба-ж, як той казаў, падзяліцца.

— Я вельмі дзякую вам, бо мой-жа, падла, ніколі не дагадаецца,— ласкава адказала Іваніха, трымаючы чарку.

— Вось і на здароўе. Я, як самі ведаеце, ня п'яніца, але выпіць у хаце з людзьмі чарку нічога не састаўляе.

— А мой, дык з частых залівае.

— Што я заліваю? — начупырыўся Іван. — Калі я зараблю і вып'ю, дык каму гэта абыходзіць?

— Не, Іван свае меркі ня згубіў,—заяўляе Ясіноўскі.

— І ня згублю,—заяўляе Іван.

— Правільна. Вось успомнілі пра мерку. Каторы ўжо дзень ходзяць па маім агародзе, садзе і ўсё вымяраюць. Гэта значыць комбінацыю тут хочуць будаваць. А чаму на маім агародзе? Значыць падстроена ўжо. Яўрэі, яны заўсёды падстрояць. Вы думаеце тут з сынагогай няма фокусаў? Ого-го! Сынагогу яны спрытна ўзялі, але-ж і спрытна аддалі. Расьсядуцца там арцелі, а нашаму брату земляробу — высяляйся ў імшары, у балота. Вы думаеце я шкадую свой агарод? Чорт яго бяры. Я не прападу. Але мне крыўдна, што ўсіх нас пагоняць з мястэчка.

— А мы яшчэ паглядзім, як яны нас пагоняць, — узьняў свой голас Іван.

— Братка Іван, яны робяць вельмі хітра. Сёньня абмяраюць агарод Ясіноўскага, а заўтра другога, а там памаленьку зробяць усё, што ім трэба. І думаеце хто-небудзь закіне слова? Не, цяпер-жа народ такі: топяць аднаго, дык другі, якому па закону трэба бараніць, прысам будзе папіхаць.

— А вядома будзе папіхаць,—згаджаўся Іван.

— А ў яўрэяў гэтага няма.

— Нешта сварацца цяпер і яны,—заўважыў Рыгор.

— Гэта толькі для віду, каб затуманіць вочы нашаму брату.

— А мне не затуманіш,—прахрыпеў, падвыпіўшы, Сымон, брат Іваніхі.

— У цябе ўжо затуманены,—кажа Іваніха.

— Затуманены? А я ббачу. І цябе ббачу, яго ббачу і ўсіх ббачу. Вы правільна кажаце, што папіхаюць. Папіхаюць, калі топіцца. Мяне ўсё жыцьцё папіхаюць.

— Так, я-ж і кажу,—заўважае Ясіноўскі.

— Вось і т-а-ак. А можа і ня т-а-ак.

— А як-жа?

— А так, што мяне папіхаюць, а ня вас.

— Кінь ты плявузгаць,—спыняе Сымона Іваніха. — Вы не зважайце.

— Не зважайце? Няхай не зважаюць.

— Э-э, братка, Сымон. Як мяне папіхаюць, дык здаецца нікога так, а ты хочаш рабіць нейкія закіды. Я гэта кажу, як свайму брату.

— А хто тут твой брат?—закрычаў—Сымон.

— Ну, Сымон, напіўся, дык адпраўляйся дадому, няма чаго крычаць,— спыняе Іваніха.

— Ты сястра—гэта я ведаю, а што гэта за такі знайшоўся брат?

— Супакойся, кажу, Сымон.

Ясіноўскі ня ведаў, як сябе трымаць. І гэта з ім здарылася, здаецца, першы раз у жыцьці. Бліснулі „братнія" іскры ў яго вачах, але ён у момант патушыў іх, зрабіў спэцыяльную ўсьмешку.

— Калі можа каму няпрыемна, што я тут знаходжуся, дык я-ж магу пайці дадому.

— Не, што вы, што вы,—загаманілі Іваніха і Іван. — Ён зараз супакоіцца. Гэта яго часамі прарывае. А так ён спакойны.

Сымон схіліў галаву і такі супакоіўся.

Аднак гутарка ў астатніх ня клеілася. Галоўная дзеючая асоба была выбіта з добрага настрою, яна маўчала.

Пачаў Іван:

— Вось я дык ніколі не сварыўся з дзядзькам Ясіноўскім і так думаю, што не пасваруся.

— Братка Іван... за што?—адразу адазваўся Ясіноўскі.—Няхай нашы ворагі сварацца. Мы-ж хрысьціяне і значыць павінны мець сачуўсьцьвіе. Асабліва ў такі час, час, калі нас пачынаюць цісьнуць.

— Як, кажаце, цісьнуць?—нейк неасьцярожна выскачыла ў Івана.

Ясіноўскі спачатку зьдзівіўся, але раптам адчуў што гэтае „цісьнуць" тут не да рэчы. Ня ў тэй, значыць, хаце сказана. Ён пацягнуў дыму, зьдзьмухнуў попел і адказвае.

— Вось хоць-бы ўзяць Іван цябе. На сям'ю такая хатка, двор, папрашам, ня двор, а судачкі. Чалавеку поперак ня лёгчы.

— Праўда-ж, праўда,—ківае галавой Іваніха.

— Вядома, што праўда,—адказвае Іван.

— Ні таго агароду людзкага, ні таго, каб значыць чалавеку было якое разгарненьне. Вось гэта і цісьне. Ну я, скажам, маю ніштаваты агарод і там сад... пра поле значыць я не кажу... Дык я заўсёды кажу

пра тое, каб і Івану далі, калі ты — савецкая ўлада за рабочых і сялян стаіш, а не за яўрэяў.

Сымон падняў галаву.

Ясіноўскі змоўк. Зноў пацягнуў дымку, прыжмурыў вока.

Пад вакном нехта моцна сьвіснуў.

— На сухі лес!—гукнуў у вакно Іван. Сьвіст болей не паўтараўся.

Аднак Ясіноўскаму заседжвацца тут не асабліва зручна.

— Дабранац!

— Яшчэ-ж і ня позна,—заўважыла Іваніха.

— Не, галубка, заўтра маюся зарана ўстаць, так што спачывайце здаровы.

— Ну, то дзякуем, што зайшлі. Ты-ж, Іванка, правядзі.

Іван вышаў за Ясіноўскім на двор.

— А, зорна як на небе,—крэкнуў Ясіноўскі і павярнуўся за вугал.

Іван увайшоў у хату.

— Ну, а мы тут яшчэ па чарцы вып'ем.

Сымон вылазіць з-за стала.

— Сядзі, Сымон.

— Спачывайце здаровы,—адказвае Сымон словамі Ясіноўскага і дадае,—лажэцеся на пуховыя пярыны, шаўковыя падушкі, сьнеце салодкія сны—шырокі двор, вялікі агарод, валока добрае зямлі і якраз побач з валокаю Ясіноўскага...

— Чаго ты так завёў?—абарваў Іван.

— Я? Ды я п'яны ад швагравае гарэлкі. Гэта-ж ты ставіў гарэлку?

— А табе ня ўсёроўна хто ставіў.

— А скажы, чыю я сёньня гарэлку піў?

— Маю.

— Тваю? Нешта яна не тваёй пахне. Скажы ты, Рыгор, нешта яна здорава пахне, га?

— Выраб такі,—адказаў Рыгор,—а зрэшта давай пасмакуем па адной.

За вакном нешта хруснула.

— Што там за трасца лазіць па падвоканьню. Пачакай-жа.—Іван выскачыў на вуліцу.

Што за ліха. Адна толькі знаёмая постаць у кажусе пасунулася ад хаты. Сказаць, што яна затрымалася па звычайнай чалавечай справе... дык-жа яно было тады, калі гаварылі пра зорнасьць на небе. Калі-б гэта пастаць ішла, як толькі вышла з хаты, значыць яна была-б ужо далекавата.

У такім раздум'і ўвайшоў Іван у хату.

Ну што там?—пытае Іваніха.

— Нічога ня відаць.

— Эт, мо якая сьвіньня шарганулася,—заўважыў Рыгор. А гэта азначае, каб не адхіляліся ў бок, не затрымоўвалі чаркі.

Абышла яна яшчэ раз трох мужчын, поўненькаю і пустою апынулася на вакне.

Глядзіць на яе Сымон, а ў думках: „чым-жа ты напаўняла чалавечае нутро? Дзе тая капля радасьці, дзе той жывы струмень, якога прагне чалавек? Эх, пустэча ты! Згуба!“ Рука яго згрэбла чарку з вакна. Цьвёрдыя пальцы сьціснулі.

Дзвын!

Рассыпалася чарка па хаце. Іскаркамі разьляцелася ва ўсе куткі.

На двары цішыня.

Зорна.

Ясіноўскі падышоў да свае брамы. Азірнуўся назад. Нікога ня відаць. А ўвесь час здавалася, што нехта за ім ідзе, ён чуў, лёгкі скрып яшчэ нечае хады. „А што тут непакоіцца, хіба я што ў каго ўкраў? Але хто там выскакваў з хаты. Калі Іван, дык мо' і нічога, алё-ж ён, дурніла, можа сказаць у хаце Сымону. А што ён мяне злавіў за руку? Ды мог-бы я забыцца, скажам, тытуню і значыць, вярнуцца. А каля самае хаты абмацаў, што ён у кішэні. Вядома, што ў хату няма чаго заходзіць і чалавек пашоў дадому“.

Бразнула ў калітцы засаўка.

Дома.

У хаце блішчэў невялічкі агоньчык лямпы.

Падкруціў.

Вышаў у сенцы, дастаў з шафы кавалак паляндвіцы. А ў хаце, з адзежнай шафы дастаў пачатую кварту. Чаркі не захацеў шукаць. Наліў у кубачак, які стаяў на стале каля збанка з малаком. Засоп у вусы, задумаўся: „Найлепей, як у сваёй хаце, ніякая брыда табе не перашкаджае і не падцінае“.

Выпіў. Зьеў кавалак паляндвіцы.

Сядзіць. Думае.

„Зіма, неспакойная зіма. Такое здаецца яшчэ ня было. А можа ўвесну калі пачнецца работа на полі, дык яно ўсё і пойдзе так, як і раней было. Хто-ж яго ведае, якое будзе лета. Але „громаадвод“ трэба пад'рыхтаваць раней. Бо калі пярун стукне, тады позна будзе. Пакуль што будзем ставіць на яўрэяў, каб хрысьціянскі народ за адно ішоў. Але ці-ж гэта народ. Вось такія як Сымон, дык ён жа сам будзе тапіць, каб толькі самому выплысьці наверх. А Ціхон хіба лепшы? Адзін чорт. А мо' лепей трымацца хаўрусу з яўрэямі... Але-ж і яны дзяруць чубы адзін аднаму. Вот сьвет пашоў, каб ты акалеў“.

— Лажыся ты спаць,—адазвалася са спальні жонка.

— Спаць?.. табе толькі спаць.

— Ну, а чаго-ж ты сядзіш упоўнач.

— А павячэраць чалавеку трэба?

— Ты-ж здаецца павячэраў і цяпер так сядзіш.

— Здаецца... дык няхай не здаецца.
Разуўся.
Плюнуў.
Лёг.

## Сайку Балаголу не шанцуе, а можа і шанцуе

Сайка Балагол возіць людзей на станцыю, прывозіць са станцыі і, паглядзеўшы на яго, здаецца, што ў мястэчку нічога не зьмянілася. Ён так і кажа тым пасажырам, якія даўно ня былі ў мястэчку. Але гэта ён кажа так толькі спачатку. Ён крыху праедзе, спыніцца, паправіць вупраж, паглядзіць на ўсіх пасажыраў, асабліва на незнаёмага, папросіць у яго папяроску. Адным словам, больш-менш „вывучыць“ яго, і тады пачне пра мястэчка. Спачатку будзе лаяць за тое, што мястэчка маларухавае, маларэволюцыённае, што ёсьць дзівакі, якім шкада сынагогі, і што людзі не разумеюць, што такое соцыялізм.

Калі толькі пасажыр разгаворыцца, Сайка тады пачынае даваць яму запытаньні.

Вось аднаго разу ўзяў ён пяць чалавек пасажыраў. Два знаёмыя, тры незнаёмыя, але з трох незнаёмых, адзін толькі і падобны на якоганібудзь начальніка.

У ніштаватым ватнім паліце, добрай зімовай шапцы з вушамі. Чэмаданчык і портфэль. Глянуў Сайка і адразу падумаў: „партыйны“. Пасадзіў у найлепшае месца.

— Вецер будзе, таварыш, сьпераду. Сядайце ўперадку на мяккі мяшок з сенам і ён вам будзе ўзад. Сагласны!

— Ну ладна,—адказаў „партэйны“ і сеў.

Паехалі.

— У вас напэўна добрыя папяроскі?

— Нет, знаеце,—адказаў пасажыр.

— А вы хіба ня курашчы?

— Нет куру, да вышлі, знаеце.

— Калі не паганьбуеце, то я пачастую вас сваімі.

— Нет, пажалуста, пажалуста, с удавольсьцьвіем.

„Відаць добры чалавек, можна будзе разгаварыцца“—і Сайка пачынае:

— Вы наша мястэчка ведаеце?

— Так, праездам.

— Нашага народу ня ведаеце?

— Да, плоха.

— То я вам скажу, што ў нас разны народ. Ёсьць такія, што яму аднэй рэволюцыі мала. Дай яму дзесяць і то ён яшчэ будзе думаць: а што гэта такое. Я сам, як вам зьвесна, балагол. Што балагол? Конь. Добры конь—добры балагол, дрэнны конь—дрэнны балагол. Балагол меў голас толькі на каня: „Но і тпру“, Што мо‘ скажэце няправільна?

— Правільна, правільна.

— Але ці было гэта правільна?

— Няправільна.

— Значыць я кажу правільна. І яшчэ я вам скажу, як на чый характар. Чаму я з вамі гавару? Бо я заўважаю па чалавеку і ведаю, што вы чалавек політычны і далікатны. Калі я дзе памылюся, папраўіце Правільна.

— Да, канечна.

— Дык вось я хачу расказаць вам тое, пра што я хацеў расказаць Забіралі мы сынагогу.

— А гэта? дзе-ж?

— У нас, у мястэчку. Пакуль што ўзялі сынагогу, а далей будуць забіраць царкву. Ну дык што вы думаеце? Я хоць не профсаюзны, але я першы ішоў забіраць сынагогу. Бо нашто мне цягнуцца ў хвасьце?

— Рэйд зах он! (брашы, брашы), заўважыла адна пасажырка.

— Ун ду штэк ніт дэм ноз! (а ты ня ўтыкай носу),—адсек ёй Сайка

— Вы па-яўрэйску разумееце?—зьвярнуўся Сайка да пасажыра.

— Нет.

— Яна кажа, што я маладзец. Слава богу што ня дурак.

Нагаварыўся Сайка пакуль даехалі да мястэчка. Вылажыў „партэйнаму“ пасажыру ўсе свае „рэволюціённыя“ заслугі перад грамадзянамі мястэчка. Перайшоў да запытаньняў. А пасажыр дрэмле. Адказвае неахвоця, і то: альбо „да“ альбо „нет“.

— Хітры,—думае Сайка.—А ведаеце, я аднаго разу падвозіў двух начальнікаў. Ні то што начальнікаў (гэта значыць як вы), а нешта мусіць вышэй: адзін быў камісар, а другі профэсар. О, гэта дык людзі. Я з імі нагаварыўся мо' на цэлы год. Але, што ні запытай, яны табе ў момант адказваюць.

— Н-да,—прамармытаў пасажыр. А нос трымае ў каўняры.

Ну калі так, то трасцу я табе дам, а не папяросу. Сайка закурыў, доўгі час ехалі моўчкі.

Пад'яжджаючы да мястэчка, Сайка ізноў пашоў у атаку.

— Ну, вось і мястэчка.

Пасажыр падняў галаву:

— Да.

„Каб табе дакала ў пячонкі. Няўжо-ж я прывязу цябе ў мястэчка і ня буду ведаць, хто ты такі. Мусіць прыдзецца сапсаваць яшчэ адну папяроску“. Закурыце?

— С удовольсьцьвіем.

Бярэ. Курыць.

— Вы мусіць па партэйных інтарэсах.

— Гм... нет.

— Па прафсаюзных?

— Ннет.

— А вы чулі, што ў нас мяркуюць будаваць нейкі комбінат?

— Так, слыхал.

„О, цяпер я ведаю, хто ты такі. А што ён скажа на гэта“.

— Я думаю, што калі добра пастараюцца, дык праз некалькі гадоў з нашага мястэчка можна будзе зрабіць падхадзяшчы горад.

— Ну, я тут слезаю,—сказаў пасажыр.

— Тпру! вы тут слазіце? Дзе вы тут, у каго спыняецеся?

— Да вот, тут,—нехаця адказаў пасажыр.

Сайка далікатна дастаў чэмаданчык:

— Я вам паднясу.

— Нет, спасіба.

Забраў і пашоў у дом папа. Сайка паглядзеў:

— Гэрст? (Чуеш) вось дык партыйны.

— Што ты вылупіўся?—пытае тая жанчына, што казала: „брашы, брашы“.

— Ен пайшоў да папа.

— Ну? Поп да папа і пайшоў.

— Ён поп?

— Ён новы бацянскі поп. Ужо з месяц там.

— Ой колькі я добрых слоў выпусьціў на вецер. Но, сівы—сьцёбнуў Сайка сівага, каб хутчэй давёз дадому.

Увечары ён нікуды ня выходзіў з хаты. А трэба выйці, патупаць па мястэчку, падшукаць пасажыраў. „Не пайду, каму трэба, той мяне знойдзе“.

Але-ж Сайка ня толькі балагол, які набыў сабе гэтае славечка ва ўласнасьць, не. Ён разам з гэтым і жывы тэлеграф. Калі-б ён меў якія навіны, ён-бы вышаў на мястэчка, сказаў-бы аднаму, двум і пашло.

Сайка не паказваецца. А можа ён не здароў, ці прамёрз. А што значыць каму-нібудзь з компаніі Майзэльсона прыці да Сайкі на кватэру? Хоць сёньня і няма аб чым гаварыць, але каб прышоў хто небудзь, Сайка мог-бы пагутарыць.

Ідзе Нохім. Зусім не інтарэсная фігура.

— Скажы, што я хворы і сплю і мяне няма дома,—загадаў Сайка жонцы і кінуўся на тапчан.

Увайшоў Нохім.

— Не чапай Сайкі, ён не здаровы і толькі што заснуў,—папярэдзіла жонка.

Нохім вышаў.

Сайка падняўся.

Праз нізенькія вокны Нохіму добра відаць, што Сайка падняўся. Дык ён уставіўся ў верхнюю папярочную шыбу і заве:

— Сайка!

— Чаго трэба трэба? Ты ня бачыш, што я хворы і сплю?!—закрычаў Сайка.

— Ну бачу, дык я-ж і не чапаю. Я іду дадому.

Пайшоў.

Сайка адразу ўстаў, ходзіць па хаце і думае: „Што я думаю з таго, што перадаю ім розныя навіны? Каму ад гэтага лягчэй, альбо каму ад гэтага цяжэй? Ну, Майзэльсон хоць швагір. А што за цацка Нохім? Скула. Скула, якая заўсёды нарывае і ніколі ня можа прарвацъ. Майзэльсон—швагір. Яго жонка і мая жонка сёстры. Ён узяў прыгожую, а мне тое, што засталося. А сказаць, што ён да мяне вельмі добрым быў, дык не. А яна... яна ня дасьць чалавеку слабодна плюнуць на яе падлогу. Чорт цябе бяры. Я буду пляваць на сваю“.

Плюнуў.

На падлозе сядзеў Рувім. Падняў на бацьку лупаценькія вочы:

— Чаго ты каля мяне плюеш?

Бацька спыніўся:

— А што ты тут робіш?

— Нічога.

— Як нічога?

— Ты-ж бачыш, што трактар.

— А што ім, гэтым трактарам робяць?

— Аруць зямлю і балота.

Бацька прысеў і доўга разглядаў, як Рувім уважна прыстасоўваў да „трактара“ колы.

— А хто яго будзе цягнуць гэты твой трактар?

— Ніхто. Ён такі, што сам ходзіць і яшчэ за сабою шмат цягне.

Маўчаў бацька.

Нешта лёгенька ўшчыпнула яго за сэрца.

*(Працяг будзе).*

# КАРА

**Платон Галавач**

*(Апавяданьне)*

Цэлы дзень віселі над горадам мяккія, касматыя аўчыны хмар. Прыляцелі ветры, разарвалі хмары, разагналі іх па небе. Разагналі з хмарамі хмурны дзень. Дзень канчаўся.

Хмары адыйшлі нанач у поле за горад і адтуль махалі гораду пазалочанымі, ярка-чырвонымі краямі.

Сідарук у тахт усяму разьдзелу адмерваў чоткія крокі па ўмерзлай, шчыльна ўтаптанай зямлі пляцу. І кожны раз, як ішлі праз пляц ад саду да завулку, яго вочы бачылі за горадам пазалочаны край хмары. З гэтым у памяць жывымі, цёплымі і блізкімі вобразамі прыплывалі ўспаміны. Здавалася з пляцу пойдзе ён у нізкую і цёплую бацькаву хату.

Разьдзел падыйшоў да гарадзкога саду і спыніўся. Камандзір дазволіў пакурыць і адпачыць. Чырвонаармейцы стаялі купкамі, вырывалі з кніжачак роўна адрэзаныя лісткі паперы, насыпалі ў іх табак і павольна і паважна скручвалі папяросы.

Мутнеў, сьціраўся пазалочаны край з хмар. Неба над горадам ачысьцілася, пацямнела, паглыбела.

З боку ніжняга рынку з завулку выехаў рамізьнік, паехаў пасярод пляцу. На вазку, за шырокай сьпіной рамізьніка сядзелі маладыя хлопцы. Адзін адхінуўся ў бок і ад сябе ўправа шырока расьцягваў бліскучы новы мех гармоніка. Гармонік шыбаў ад пляцу ў ціхія завулкі гораду вясёлыя зыкі плясавой.

— Едуць на вечарынку, — праказаў Раманчык, чырвонаармеец і, пстрыкнуўшы пальцамі пашоў, насьвістваючы мэлёдыю нейкае песьні ад Сідарука. Ён спыніўся каля тых, што стаялі вакол камандзіра і слухалі нешта з яго апавяданьняў. Сідарук адышоў да нізкай загародзі, паставіў на жалезны прэнт нагу, пачаў перашнуроўваць чаравік.

Ад ходніка ішоў да скверу мужчына ў чорнай рабочай паддзеўцы. Пад пахаю ён нёс куліду чорнага хлеба. У скверы на сьцежцы ён спыніўся насупроць Сідарука, зірнуў на чырвонаармейцаў і тады пыціху запытаў:

— Навучаецеся? Бараніць нас зьбіраецеся?

Сідарук не зразумеў.

— Як трэба будзе—бараніць будзем, а цяпер так навучаемся,—адказаў ён.

— Як трэба будзе? А цяпер ня трэба ты думаеш?

Сідарук маўчаў.

— Во бачыш,—мужчына пальцамі правай рукі ўзяў хлеб, пакруціў яго,—колькі мне рабочаму даюць на пяць дзён. Дзень рабіў, а потым чатыры гадзіны ў чарзе пастаяў за гэтым... Пяць дзён павінен з гэтага жыць... Вось як мы рабочыя жывем, таварыш абаронца наш.

Сідарук усё яшчэ не разумеў у чым справа. Таварышы ягоныя былі заняты сваімі справамі. А мужчына трымаў хлеб ужо на далоні, узважваў яго.

— Вось, значыцца, якая нашая рабочая порцыя. Вам у кашарах мусіць крыху лепей, а трэба-б, каб і пра нас не забываліся, калі думаеце нас бараніць...

Мужчына кінуў галавою і пашоў сьцежкаю праз сад. Сідарук хацеў нешта ўспомніць. Пасьля дагадаўся, хто такі быў гэты мужчына, таропка зашнураваў чаравік і хацеў клікнуць камандзіра. Але мужчыны ўжо ня было відаць. Сідаруку стала сорамна, што не адгадаў мужчыну адразу і ён камандзіру не сказаў нічога, моўчкі далучыўся да таварышоў.

З гары, ад цёмна-сіняга неба цякла на зямлю мяккая змрочнасьць, атуляла дамы, поўніла вузкія завулкі. Дамы ад гэтага, ад ласкавасьці вечару, меншыліся, адыходзілі далей ад пляцу, скучваліся ў цесных старых кварталах.

Сідарук выразна адмерваў свае крокі ў адзін тахт з усім разьдзелам. Скрыпаў пад цяжкімі густымі крокамі ўтаптаны сьнег вуліцы.

Па ходніку ішла таропка жанчына з кошыкам. Яна спынілася і сьлязьлівымі глыбокімі вачмі пазірала на чырвонаармейцаў. Сідарук углядзеўся ў яе тоўста абматаную хусткамі галаву, у старыя скрыўленыя боты і ўспомніў мужчыну з хлебам.

* * *

Прышоў гарманіст Мікіта. Пастаяўшы пасярод пакою, нібы шукаючы больш зручнага месца, ён адышоў у вольны кут, а там сеў на крэсьле, закінуў па звычцы нагу на нагу, схіліў нізка на бок да гармоніка галаву шырока расьцягнуў мех гармоніка, прабег гнуткімі пальцамі па галасох. Гармонік глыбока ўздыхнуў і адгукнуўся ласкавым, вясёлым рогатам. За гэтым сьціх на хвіліну і тады здалёку з самай сярэдзіны яго выплылі ціхія гукі і з імі мяккія задзірастыя словы Мікітавай песьні:

Ня ўсе ў садзе дрэвы цьвітуць,
Што разьвіваюцца.
Ня ўсе дзеўкі замуж ідуць,
Што прыбіраюцца...

Чырвонаармейцы скучыліся каля дзьвярэй, услухоўваліся ў песьню і ўсьміхаліся Мікіту. Раманчык выйшаў на сярэдзіну пакою, узяў стол і пасунуў яго да сьцяны.

— Разьвясёлае што-кольвеч сыграй, паскачу я,—праказаў ён.

Яшчэ двое выйшлі, адставілі да сьцен крэслы. Мікіта зноў схіліў да гармоніку галаву, нібы ўпрашваў яго сыграць тое разьвясёлае, чаго прасіў Раманчык і ў апошні раз, разам са сьціхаючымі галасамі гармоніка прапеў:

Дрэвы ў садзе як цьвітуць,
Асыпаюцца.
Дзеўкі замуж як ідуць,
Вечна каюцца...

І за гэтым яшчэ ніжэй схіліўся да гармоніка, расьцёг яго мяхі, а гармонік нібы жартаваў і любіў упрашваньні, штосьці тонкімі галасамі адказваў Мікіту. І толькі як выйшаў на сярэдзіну пакою Раманчык і стаў там упершыся рукамі ў бокі, гармонік зычна ўскрыкнуў і сыпануў густым рогатам зыкаў пад ногі Раманчыка, а ногі часта-часта застукалі і пабеглі ўсьлед за зыкамі па памосьце.

Сідарук стаяў прытуліўшыся да сьцяны, пазіраў на ногі Раманчыка, услухоўваўся ў музыку. У зыках гармоніка нарадзіліся і падплылі да яго памяці ўспаміны. Была вечарынка ў той апошні вечар перад ад'ездам у армію. Цяжка соп і ўсхіпліваў у душнай хаце стомлены гармонік. Гэтак-жа схіляў да гармоніка галаву малады гарманісты. Глуха і рэдка стукаў тугі бубен, браскаў паміж ударамі бляшачкамі і ботамі. Хлопцы ветліва гутарылі, успаміналі разам пережытае, зайздросьцілі. Тыя-ж, хто адслужыў ужо ў арміі, захапляліся ўспамінамі і вабілі гутаркамі пра жыцьцё ў кашарах далёкага гораду. Дзяўчаты ласкава жартавалі, не адпіхалі, як іншыя разы на вечарынках. Ад тэй далёкай вясковай вечарынкі і адсюль з гэтага пакою прышла да Сідарука вялікая, прыгожая і цёплая радасьць, атуліла яго. Захацелася крыкнуць штосьці гэтай радасьці і ўсім таварышом, абняць іх усіх разам і разам з усімі пусьціцца ўсьлед за Раманчыкам у скокі.

У гэты час з боку падышоў да Сідарука сябра, падаў яму ліст. Сідарук перавярнуў у руцэ ліст, уважліва разгледзеў яго. Сябра стаяў, пакуль не сказаў Сідарук:

— Ліст ад бацькоў, па пячатцы я пазнаю.

І асьцярожна пачаў адклейваць верхні ражок конвэрту. А як адклеіў, пашоў у другі пакой, сеў там ля вакна і пачаў разьбіраць доўгі, у чатыры балонкі ліст.

І як чытаў, чуў як усё зласьлівей ускрыкваў у суседнім пакоі гармонік. Адчуваў, як усё далей адплывала тое, што было зьявілася там у пакоі за ўспамінамі, адчуваў, што наплывае іншае, цяжкае, няпрыемнае і зьбірае ў кучу думкі, балюча разіць іх крыўдай. З радкоў ліста наплывала мутнае, незразумелае.

„... Напісаць хоць табе, сын наш, хочам мы пра жыцьцё сваё цяжкае, бо няма каму тут і пакрыўдзіцца, крыўду сваю выказаць, як жывем мы ды гаруем як. Ты далёка, мо' й забыўся ўжо, а ў нас ці ты плач, ці ня плач, няма больш жыцьця і ня будзе мусіць. Пазамучвалі нас гэтымі нарыхтоўкамі ды падаткамі, усё ў нас паадбіралі. А цяпер панаяжджала розных сюды, зганяюць у комуны, колгас. Ї ні цябе пытаюць, ні цябе што, а пішыся і ўсё тут, а ня пішашся калі, дык адбіраюць кароўку апошнюю, гоняць яе ў горад. Ї яшчэ-б нічога, каб рабілі гэта толькі з багатымі, бог ужо з імі, а ты-ж, сынок, ведаеш як жывем—гаруем мы, як працуем за кавалак хлеба таго сухога, а ў нас зараз адбіраюць кароўку апошнюю. Ї хадзілі мы і прасіліся і няма нідзе тае праўды нам і ні адным нам, а ўсім...“

Словы гэтыя роіліся ў мазгу, балюча разілі яго, а з другога пакою рагатаў гармонік выгаварваючы ў тахт ягоным думкам крыўднае:

Што-ж ты скажаш, малец, га?
Што-ж ты скажаш, малец, га?
А ты-ж думаў другое...
А ты-ж думаў другое...

Успомніў чалавека з хлебам, якога бачыў удзень на скверы. Успомніў, што ў апошнія дні атрымалі аналёгічныя лісты і яшчэ некаторыя з таварышоў. Злосна скамячыў конвэрт, кінуў яго пад ногі, а ліст усунуў глыбока ў кішэнь і паціху выйшаў у калідор. Здалёку, усё гэтак-жа злосна жартаўліва наўздагон яму выкрыкваў гармонік.

Ах, які-ж дурань ты,
Нашто верыш словам тым...

* * *

Ноччу Сідарук доўга варочаўся на ложку, ніяк ня мог заснуць. Як толькі сплюскаў вочы, наплывалі вобразы, народжаныя лістом і за імі густая ліпкая крыўда. Раніцою прачнуўся з тымі-ж думкамі, з якімі лёг.

На праверцы і ў часе ранішняй гімнастыкі забыўся на ліст, на тое, пра што думаў ноччу, і жартаваў з таварышамі. Але калі сабраліся на палітгадзіну і лектар пачаў гутарку, ліст зноў ажыў у памяці Сідарука і зьвярнуў учарайшы настрой.

— Наша армія рабоча-сялянская, бо баронім мы інтарэсы рабочых і сялян, нашыя заводы і фабрыкі і сельскую гаспадарку і дыктатуру пролетарыяту,—расьцягнута адказваў чырвонаармеец на запытаньне лектара. Ї каб пацьвердзіць правільнасьць выказанай думкіі, ён успомніў, як увесну дваццатага году белае польскае войска спаліла іхную вёску за тое, што ўзялі селяне панскае бярвеньне і як пасьля чырвонаармейскі полк з польскіх рабочых і сялян дапамагаў ім адбудоўвацца. Сідарук

успомніў тыя гады, як яны праходзілі ў іхнай вёсцы і згадзіўся з чырвонаармейцам.

Ён ня чуў далейшых пытаньняў, намагаўся паміріць думкі сёнешнія з тымі крыўднымі думкамі, што зьявіліся ўчора з лістом.

Лектар гаварыў ужо сам, апавядаў пра жыцьцё ў комуне. Сідарук зноў напружана слухаў і як толькі скончыў лектар, узьняўся з лаўкі і паважна і хітра, са скаванай злосьцю запытаў:

— А ці гоняць сілай сялян у колгасы, ці яны па сваёй волі туды ідуць, адкажэце мне, калі ласка.

Скончыў пытаньне, пастаяў крыху, пазіраючы на лектара і павольна сеў на лаўку. А калі лектар скончыў адказваць на яго пытаньне, ён, нездаволены адказам, кінуў лектару рэпліку:

—Знацца няма таго, каб сілай зганялі?

Лектар не зразумеў гіроніі, выказанай Сідаруком, з заўвагай слухаў ужо пытаньне другога чырвонаармейца.

Сідарук сядзеў увесь час моўчкі, болей нічога ня пытаў. Думкі зноў як і ўчора агортвала ліпкая крыўда.

А ноччу зноў, як і ўчора, доўга ня мог заснуць, варочаўся на ложку і нешта абмяркоўваў.

* * *

Сідарук выйшаў на пляцоўку вагону і, як толькі цягнік на разьезьдзе крыху сьцішыў рух, скокнуў у мяккі сьнег. Цягнік зноў паскорыў рух і, сеючы па лесе роўны гулкі грукат, адыйшоў і схаваўся за заваратам у хвойніку.

А Сідарук выйшаў са сьнегу на палатно чыгункі, абтрос з ботаў сьнег, пастаяў яшчэ слухаючы, як сьціхае далёка дзесьці грукат жалезных колаў і тады паціху пашоў у бок ад чыгункі ў лес.

Абапал дарогі стаялі высокімі дзедамі сівыя ад сьнегу дрэвы і як рукі, у белых шырокіх рукавах кашулі, схілялі над дарогаю доўгія гнуткія галіны. У лесе панавала мёртвая ціша. У лесе, упяршыню за ўсю дарогу, пачаў думаць Сідарук пра тое, што кінуў горад і кашары без дазволу і тут-жа выразна зразумеў значэньне гэтага свайго ўчынку. Пачаў апраўдваць сябе тым, што паехаў дадому, каб праверыць свае сумненьні, каб пазбавіцца ад трывожных думак, што не давалі яму начамі спакою.

У лагчыне за лесам скучыліся хаты. Над стрэхамі хат узьняліся і застылі ўпёршыся ў марозна-сіняе неба слупы белаватага дыму. Над хатамі ў небе загарэлася першая вячэрняя зорка.

У вясковай вуліцы Сідарук не спаткаў нікога. Людзі ад марозу або ў хатах схаваліся, або, хто ня ўправіўся яшчэ, парадкавалі ў хлявох жывёліну. Вёска была такою-ж, як і ўвечары тае зімы, калі ён яшчэ быў дома.

Дома ў хаце былі сястра і маць. Сідарук павітаўся з зімы. Сястра спаткала радасна і як пацалаваліся, доўга трасла сваёю яго руку. Маці старая неяк сарамліва абняла, прыгарнула да сябе яго галаву і, пацалаваўшы ў губы заміргала глыбокімі вачыма. Ён распрануўся і сеў каля стала. Адмовіўся, калі запрапанавала маці адразу-ж ежу.

Маці стаяла ля печы і радасная і разгубленая. Каля ног у яе з карыта еў цеста кормны малады кабан. Кабан парыўся ў карыце і ўлез у цеста пярэднімі нагамі. Маці штурханула яго ласкава ў бок валенкам.

— А-юць, каб з цябе дабро...

Кабан выцяг лыч, хрукнуў і, ня вылазячы з карыта, правёў па валенку лычам, пакінуў на валенку сьлед ад цеста.

Сідарук дагадаўся, што няпраўда была напісана ў лісьце і нічога ня пытаў пра ліст, маўчаў. А маці нібы адгадвала яго думкі, запытала:

— Ліст наш ці дайшоў-жа да цябе, што Макар пісаў?

— Дайшоў,—адказаў сын і зьдзіўлена перапытаў:

— А хіба Макар пісаў?

— Макар,—адказала маці і болей пра ліст нічога не сказала. А сястра пачала апавядаць свае вясковыя навіны.

— У нас колгас арганізаваўся,—прамовіла яна. Наслухаліся хлопцы, нашыя па людзях, што скрозь гэта арганізуецца і як настоялі на сходзе, так і зрабілі. Уламалі і бацькоў. І ўжо робяць тое-сёе агулам, у заработкі ў лес езьдзілі...

Сідарук маўчаў. Сястра ў заключэньні паціху, чагосьці шкадуючы, праказала:

— І лепей за нас яны жыць будуць, лепей як усе...

— А адкуль ты гэта ведаеш?—запытала маці.

— А адтуль і ведаю. Ведаюць-жа ўсе як жывуць, дзе ё колгасы...

Маці паціху яшчэ адгукнулася ад печы:

— Ці-ж мала што... можа й будуць жыць...

Калі ў хату зайшоў бацька, ён зьдзіўлена спыніўся каля парогу, а сын устаў з лаўкі, падышоў абняў халоднага, з двара, бацьку, пацалаваў яго ў абмёрзлыя лёдам вусы. Бацька стаяў каля парогу, скінуў рукавіцы і пачаў, нахіліўшы галаву да печы, палёганьку здымаць пальцамі з вусоў і барады кавалачкі лёду. І стоячы каля дзьвярэй загаварыў:

— А ў іх выйдзе па-мойму толк, галоўнае дабро шчадзіць умеюць па-гаспадарску. І ўсё Максімаў сын. Каб ня ён, дык наўрад ці было-б у іх такое сяброўства. Ці ня вучаць гэта вас там у войску такому ўсяму?— зьвярнуўся ён да сына,—гэта-ж ён як прышоў увосень дадому, дык і пачаў...

Бацька паклаў рукавіцы на паліцу каля печы, распрануў армяк, кінуў яго на запечак і сеў на запечку сам. І адтуль яшчэ запытаў:

— Можа яно й варта туды, я прасіў, каб Макар табе пра гэта напісаў.

Сын штосьці ўпарта абдумваў і маўчаў да самае вячэры.

Маці выгнала з хаты кабана, памыла над карытам рукі і падсунула нагою карыта пад лаўку. А як выцерла рушнікам рукі, пачала стаўляць на стол вячэру.

Калі сядзелі вячэраючы вакол стала пад сьветлай лямпай, Сідарук выняў з кішэні ліст, разгарнуў яго і прачытаў бацьком. Маўчала зьдзіўленая маці. Сястра выказвала зьдзіўленьне словамі. А бацька, як толькі сын скончыў чытаць, узяў ліст у свае рукі, пакруціў яго ў пальцах і, разглядаючы, нібы сам сябе запытаў.

— Навошта-ж гэта ён павыдумляў такога?.. Ці не бацькі навучылі?..
алей вытлумачыў:

— Бацька за сваё багацьце баіцца, дык бач ты...

— А пра тое, аб чым тата прасіў, дык ані слоўца-ж не напісаў,— дадала сястра. І памаўчаўшы яшчэ сказала:

— Вось хамуйла, дык хамуйла. А, здаецца, дурань...

— На гэткае яны разумныя,—адазвалася маці. Ізноў усе маўчалі. Маўкліва чэрпалі лыжкамі з вялікае глінянае міскі забелены крупнік. Бацька еў павольна, часта абціраў рукою бараду. А як скончыў есьці, адклаў лыжку ў бок, зьдзіўлена варухнуў плячыма і нібы сам сабе праказаў:

— Хы-хм... Гэта-ж трэба такога наплесьці... Ссукін сын...

* * *

Сідарук спаць ня мог. Ня выходзіла з галавы думка: а што скажа камандаваньне, што скажуць таварышы на тое, што вось ён самавольна пакінуў роту і паехаў у вёску? Ён добра разумеў цяпер значэньне свайго ўчынку, але баяўся сказаць сабе пра гэта, сам ад сябе хаваўся. А пад вагонам каткі і рэйкі рагаталі з яго і выстуквалі дражнячы:

У-ця-кач! У-ця-кач! У-ця-кач!..

І чым бліжэй да месца падыходзіў цягнік, тым трывожней рабіліся думкі і ён то ўставаў з лаўкі і стаяў ля вакна, пазіраючы ў палявое ціхае досьвіцьце, то зноў адыходзіў і клаўся на лаўку. А калі а шостай гадзіне цягнік прышоў на станцыю, Сідарук не пашоў адразу ў горад у кашары, а сеў у буфэце вакзалу і чагось чакаў. Гэтак ён прасядзеў да дзевятай гадзіны.

Ідучы ў кашары Сідарчук уяўляў, як пакліча яго да сябе камандзір, як загадае арыштаваць за самавольную адлучку і як пасьля будуць жартаваць над ім таварышы. Было крыўдна, але разумеў, што заслугоўвае гэтага і заранеў мірыўся з карай, якая, як ён думаў, чакае яго. Праз двор кашар прайшоў хутка, баяўся напаткаць каго з таварышоў. Было жаданьне зайсьці ў памяшканьне свайго разьдзелу, а тады няхай ужо і кара, тады ўжо неяк лягчэй. Спрытна ўзьбег па сходцах аж на трэці паверх, шырока з разгону расчыніў дзьверы ў калідор. У калідоры каля дзьвярэй пакою, дзе зьмяшчаўся акурат яго разьдзел, стаяў дня-

вальным гарманісты Мікіта. Сідарук, не зачыняючы дзьвярэй, спыніўся, пачырванеў і няёмка, блытаючыся, праказаў прывітаньне Мікіту. Хацеў ісьці далей. Але Мікіта замест адказу на прывітаньне заступіў дзьверы і суха, няветліва праказаў:

— А ведаеш, цябе ў роту ня пусьцяць...

Сідарук як аслупянелы спыніўся нічога не разумеючы. Кроў прыліла да твару. Няўпэўненым і няцьвёрдым голасам ён запытаў і пачаў пярэчыць.

— Чаму? Хто ня пусьціць?.. Ня маюць права...

— Вось-жа маюць, калі кажу. І памаўчаўшы, разглядаючы зьбянтэжанага Сідарука, вытлумачыў:—Ты ўсіх нас зганьбіў, увесь разьдзел, на ўвесь разьдзел кляймо паклаў... зрыўшчык ты, прагульшчык... На сходзе мы пастанову ўхвалілі, каб цябе назад у сваю роту ня прыняць. Рота згадзілася... Вось і ўсё.

Зьбялелы стаяў Сідарук, ня ведаў, што-ж рабіць яму цяпер. Ён чакаў суворае дысцыплінарнае кары, але не чакаў кары ад колектыву чырвонаармейцаў. Захацелася пярэчыць і апраўдацца хоць перад Мікітам.

— Як-жа? Ня маюць-жа права ня пусьціць... Я прычыну вытлумачу, я ня ехаў, каб уцякаць, я па справе, праверыць хацеў ліст... Няхай арыштуюць, але чаму-ж у роту, як-жа гэта?..

— Арышт справа адміністрацыйная, ад камандзіра залежыць,—адказаў Мікіта,—а ў роту каб ня пусьціць, мы ўхвалілі пастанову сходам, самі...

Сідарук адыйшоў у глыб калідору, спыніўся каля вакна і бязмэтна пазіраў праз успацелую шыбу на пусты вялікі двор. Пасьля ўзьняў да шыбы руку і пачаў па халодным мокрым ад поту шкле вадзіць пальцам. На дварэ чырвонаармейцы пілавалі дровы. Піла ўгрызалася ў сухое дрэва, зьвінела. Сідарук адыйшоў ад вакна, павольна, мэханічна прайшоў па калідору і не пайшоў у памяшканьне разьдзелу, а сышоў уніз і накіраваўся да чырвонаармейцаў. Было адно жаданьне апраўдвацца. Але калі падыйшоў да чырвонаармейцаў і прывітаўся, той з іх, што калоў дровы, узьняў галаву і, пляснуўшы зьдзіўлена рукамі, праказаў:

— Браточкі. Лятун прыляцеў, птаха наша вольная... З якіх краёў? Ці ня з выраю ты?..

І зарагатаў. За ім зарагаталі і тыя, што пілавалі дровы. У Сідарука штосьці горкае падкацілася да горла, сьціснула яго. Да воч падступілі сьлёзы. Ён адчуваў, што калі ня стрымае плеч, якія вось-вось задрыгаюць, сьлёзы выпаўзуць з-пад павек і таму нічога не сказаўшы, адышоў, накіраваўся на вуліцу.

* * *

Пасьля полудню Сідарук доўга гутарыў з палітрукам. Палітрук уважліва слухаў, ставіў пытаньні і зноў слухаў блытаную гаворку Сідарука. У пакоі сядзеў акрамя палітрука камандзір разьдзелу і трое чырвонаармейцаў.

— Дык ня ведаю, ня ведаю, таварыш Сідарук, як таварышы зробяць,—праказаў палітрук.—А вы зрабілі вельмі дрэнна...

Сідарук стаяў пазіраючы ў падлогу, соваў па падлозе мэханічна нагой. Было лягчэй, што пагаварыў з палітрукам у прысутнасьці камандзіра разьдзелу і таварышоў і было цяжка да балючасьці думаць пра таварышоў з разьдзелу, роты.

— Дык завошта-ж бойкот?—таварыш палітрук,—я-ж не ўцякаў, я-ж хацеў праверыць...

— Ня трэба было рабіць так, як зрабілі вы.

— Дык куды-ж я пайду? Як-жа гэта ў роту ня прыняць... Я вінаваты перад таварышамі, перад усімі я, можна сказаць, здрадзіў, зрыўшчыкам стаў, на ўсю роту кляймо такое паклаў... Але як-жа гэта? Куды-ж я пайду?..

— Да цыцкі мамчынай пойдзеш, кінуў адзін чырвонаармеец.

— Ня дуры ты, мы не жартуем тут,—заўважыў першаму другі чырвонаармеец.

— А ён што-ж, малы?—адказаў на заўвагу першы,—нябось ведаў куды ідзе, як роту кідаў...

Палітрук устаў з лаўкі і вышаў на сярэдзіну пакою.

— Дык якія будуць прапановы?—запытаў ён.—Я думаю варта сабраць роту і пагутарыць, няхай сход вырашыць гэтае пытаньне. А адносна адміністрацыйна-вайсковага спагнаньня распараджэньне будзе асобнае...

— Сход быў ужо, няма чаго там,—праказаў першы чырвонаармеец.

— Гэта нічога што быў. Сход трэба, ты не перасальвай,—заўважыў другі.

— Значыць сёньня ўвечары і зьбяром... А цяпер ідзеце.

Палітрук застаўся з камандзірам разьдзелу. Чырвонаармейцы пайшлі з пакою на двор. Сідарук пастаяў хвіліну пасярод пакою, ня ведаючы што зрабіць і пайшоў усьлед за імі. На ганку яшчэ раз, нясьмела сказаў да таварышоў:

— Я ліст хацеў праверыць, такое-ж напісалі... А на кулака таго прокурору падаў і ліст прокурору адаслаў як доказ... Я-ж не ўцякаў... не ўцякач я...

Таварышы пайшлі нічога не адказаўшы. Сідарук стаяў каля ганку і просячым разгубленым позіркам пазіраў ім усьлед.

За горадам над полем мутнеў, сьціраўся пазалочаны край цёмнае хмары.

Менск, студзень, 1931 г.

# КРЫТЫЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ АНТ. АДАМОВІЧА, ЯК АДЛЮСТРАВАНЬНЕ БУРЖУАЗНАЙ НАЦЫЯНАЛ-ДЭМОКРАТЫЧНАЙ ІДЭОЛЁГІІ

С. Кувіцкі

## 1. Мэтадолёгічная ўстаноўка Ант. Адамовіча

Мы бяром разглядаць тры літаратурна-крытычныя артыкулы А. Адамовіча, якія былі зьмешчаны ў літаратурна-мастацкай часопісі „Узвышша“ за апошнія тры (1928—29—30) гады. Аб‘ектам для гэтых артыкулаў А. Адамовічу паслужылі літаратурна-мастацкія творы: М. Гарэцкага, якім ён прысьвяціў артыкул больш дзесяці аркушоў пад загалоўкам „Максім Гарэцкі“ (артыкул надрукован ва ўсіх шасьці нумарох „Узвышша“ за 1928 г.), артыкул пра творчасьць П. Труса,—„Паўлюк Трус“ (надрукован у сёмым нумары „Узвышша“ за 1929 г.) і артыкул пра творчасьць В. Каваля,—„Хада на ўсход“ (надрукаван у трэцім нумары „Узвышша“ за 1930 г.). Іншых артыкулаў, калі ня лічыць паасобных рэцэнзіяў, заўваг пра культуру беларускай мовы, здаецца, няма. Урэшце, нам ня так важна колькасьць артыкулаў, напісаных рукой А. Адамовіча,—нам важны тыя артыкулы, той матар‘ял, які-б уяўляў сабой пэўную сыстэму сьветапогляду А. Адамовіча, які-б адлюстроўваў яго псыхоідэолёгічны твар. А гэтыя азначаныя вышэй тры артыкулы А. Адамовіча, бязумоўна, складаюць адпаведную выразную сыстэму сьветапогляду, псыхоідэолёгічную яго накіраванасьць і, бязумоўна, не аднаго Ант. Адамовіча, а цэлай социяльнай групы, ці клясы. Інакш быць ня можа.

Расчыніць перад чытачом самую існасьць азначаных артыкулаў А. Адамовіча, расчыніць тэй сьветапогляд, які адлюстроўваецца ў даных артыкулах, каму і якой соцыяльнай групоўцы, ці клясе, гэты сьветапогляд належыць,—і будзе задачай нашага данага артыкула.

Мы пачнем свой разгляд артыкулаў А. Адамовіча з яго мэтадолёгічнага боку, з самага мэтаду, якім карыстаецца А. Адамовіч у сваіх азначаных намі працах. Таму, што сам мэтад, якім карыстаецца тэй ці іншы дасьледчык, ужо адлюстроўвае яго псыхоідэолёгію. „Мэтад“— здаецца, калісьці казаў Гэгэль—душа навукі“. Вось нам і цікава зараз паглядзець у самую „душу“ „навукі“ А. Адамовіча.

Кожны марксыст, а таксама пролетарскі літаратуразнаўца, пролетарскі крытык, поэт, пісьменьнік у сваёй практычнай працы будзе ка-

рыстацца адным мэтадам—мэтадам дыялектычнага матэрыялізму. Таму, што дыялектычна-матэрыялістычны мэтад зьяўляецца адзіным навукова-правільным мэтадам пры дасьледваньні зьяў (арганічнай і неарганічнай) прыроды, зьяў соцыяльнага парадку; таму, што гэты мэтад навукова паказвае ўсе спружыны разьвіцьця грамадзтва, расчыняе ўсе прычыны клясавай няроўнасьці, клясавых супярэчнасьцяй; таму, што дыялектычны матэрыялізм зьяўляецца адзіным навукова правільным сьветапоглядам—сьветапоглядам клясы пролетарыяту, як аднэй з прогрэсыўных кляс грамадзтва; таму, урэшце, што мэтад дыялектычнага матэрыялізму зьяўляецца непераможнай зброяй у руках клясы пролетарыята ў барацьбе з сваім антыподам-капіталізмам на ідэолёгічным фронце, у барацьбе за ідэі вызваленьня працоўных з-пад соцыяльнага і нацыянальнага ўціску ў барацьбе за ідэі соцыялізму.

Усякі іншы мэтад—не матэрыялістычна-дыялектычны—вядзе тым ці іншым шляхам да выразнага ідэалізму, а значыць зьяўляецца не навуковым, зьяўляецца адлюстраваньнем рэакцыйнага буржуазнага сьветапогляду, буржуазнай псыхоідэолёгіі. Кажучы аб навуковасьці погляду ідэолёгіі, Ленін адзначае: „Исторически условна всякая идеология, но безусловно то, что всякой научной идеологии в *отличие*, например, *от религиозной, соответствует об‘ективная истина, абсолютная природа*“ (т. X, выд. II, ст. 109). Гэта значыць, што навукова правільна тую ці іншую рэчаіснасьць можа пазнаць толькі пролетарыят, якому адпавядае дыялектычна-матэрыялістычны сьветапогляд і які толькі адзін можа аўладаць да канца матэрыялістычна-дыялектычным мэтадам.

Аўладаць да канца дыялектычна-матэрыялістычным мэтадам зьяўляецца аднэй з коардынарнейшых задач кожнай навукі наогул і літаратуразнаўства ў прыватнасьці. Гэта задача стаіць сёньня ўва ўсю шырыню перад кожным савецкім вучоным, перад кожным нашым літаратурным крытыкам, перад кожным поэтам і пісьменьнікам. Аўладаць дыялектычна-матэрыялістычным мэтадам, карыстацца ім у сваёй практычнай працы,—гэта значыць прасякнуцца ідэямі пролетарыята, ідэямі пролетарскай рэволюцыі, пролетарскай псыхоідэолёгіяй. Прасякнуцца пролетарскай псыхоідэолёгіяй, аўладаць дыялектычна-матэрыялістычным мэтадам зможа, у першую чаргу, той, каму зьяўляюцца каштоўнымі ідэі пролетарыята, ідэі пролетарскай рэволюцыі, і скарэй зможа прасякнуцца той (як наогул успрыняць ідэі пролетарыята), хто па сваёй псыхоідэолёгіі, у сілу адпаведных прычын стаіць блізка да пролетарыята, хто зацікаўлен у пролетарскай перамозе, пролетарскай рэволюцыяй.

Але прасякнуцца пролетарскай ідэяй, аўладаць дыялектычным матэрыялізмам, яго мэтадам „суджана“ ня кожнаму індывіду ў незалежнасьці ад яго клясавай прыналежнасьці. Ня ў сілах прасякнуцца дыялектычна матэрыялістычным мэтадам і наогул дыялектычным матэрыялізмам, як пэўнай сыстэмай сьветапогляду, той, хто зьяўляецца ворагам пролетарскіх ідэй, ворагам пролетарскай рэволюцыі, ворагам ідэй навуковага со-

цыялізму, хто стаіць у баку ад усяго гэтага, хто носіць у сабе сыстэму буржуазнага сьветапогляду,—гэтым асобам адпавядае іх роднае—*ідэалізм*, з сваім ненавуковым, хлусьлівым сьветаўспрыйманьнем.

Якім-жа мэтадам у сваёй практычнай працы карыстаецца А. Адамовіч. Што за „душа“ ў Адамовічавае „навукі“.

Практычна знаёмячыся з яго „ортодоксальнымі“ працамі, ня цяжка заўважыць, што яны наскрозь пранізаны ідэалізмам, буржуазным сьветапоглядам, што „ортадокс“ А. Адамовіч карыстаецца мэтадам *суб'ектыўнага ідэалізму*.

Для таго, каб паказаць, што гэта так, нам прыдзецца свой артыкул крыху перасыпаць вытрымкамі, як з прац А. Адамовіча, а таксама, для супроцьстаўленьня з прац клясыкаў марксызма. Бяз гэтага абайсьціся мы лічым нельга, паколькі мы хочам на канкрэтным матар'яле, фактах прадэманстрыраваць перад чытачом А. Адамовічаў ідэалістычна-буржуазны сьветапогляд.

У сваёй больш дзесяці аркушовай працы аб М. Гарэцкім, А. Адамовіч падыходзіць да літаратурна-мастацкіх твораў, як толькі да прадукту яго (твору) „творца“. На працягу ўсяе гэтай сваёй працы А. Адамовіч зусім не ўспамінае аб соцыяльным асяродзьдзі, зусім не надае значэньня эканамічнаму, палітычнаму і культурнаму фактарам, якія маюць адно з галоўных значэньне пры формаваньні ўсякай ідэі, у тым ліку і мастацтва. Таму, што соцыяльнае асяродзьдзе наогул і азначаныя фактары ў прыватнасьці фармуюць сьветапогляд, ідэю і самога „творца“ мастацтва ў А. Адамовіча выходзіць, як мы ўбачым ніжэй, што нейкая, ад некуль зьявіўшаяся псыхолёгія, ідэя, пачуцьцё, ураджаньне не адлюстроўваюць, а ствараюць рэальныя рэчы жыцьця. У яго быцьцё замяняецца асабовым мышленьнем, нічым не абумоўленым. Інакш кажучы, мышленьне зводзіцца да тожсамасьці з быцьцём, супроць чаго ў свой час Ф. Энгельс пярэчыў Анты-Дзюрынгу, называючы гэта ідэалізмам. „Пытаться доказать из тожества мышления и бытия реальность какого-либо продукта мышления, ведь это-то и было одной из безумнейших горячечных фантазий некоего Гегеля“ (Ф. Энгельс. „Анти-Дюринг“, стр. 37).

А. Адамовіч менавіта зводзіць да тожсамасьці мышленьне і быцьцё, інакш кажучы, да тожсамасьці аб'екта і суб'екта. Гэта, бязумоўна, уласьціва толькі ідэалістаму. Матэрыяліст дыялектык глядзіць на суб'екта і аб'екта не як на тожсамасьць, а як на дыялектычнае адзінства іх. „*Единство между мышлением и бытием вовсе не означает и не может означать тожества между ими*“ (Плеханов. „Основн. вопр. марксизма“ стр. 27). Ідэалізм ня можа глядзець на суб'екта і аб'екта, як на адзінства, таму што яго адпраўны пункт „я“, ідэя. „*Идеализм не устанавливает единства бытия и мышления*—кажа Плеханаў—и не может установить яго; *он его разрывает*. Исходная точка идеалистической философии—„я“, как основной философский принцип,—совершенно ошибочна. Точкой отправления истинной философии должно служить не

„я“„ а „я“ и „ты“. Только эта точка отправления дает возможность притти к правильному пониманию отношения между мышлением и бытием, суб‘ектом и об‘ектом“ (Плеханов. „Осн. в. м.“, стр. 17) А. А. Адамовіч якраз, тлумачучы па-свойму мастацкую творчасьць,—адыходзіць менавіта ад „Я“, ад яе „творца“. Ён, гаворачы аб галоўным вобразе творчасьці М. Гарэцкага,—аб вобразе, які вышаў па Адамовічаваму разуменьню з сялянскага асяродзьдзя, які па яго думцы зьяўляецца „сапраўды тварэц беларускага адраджэньня—пануючым тыпам эпохі гэтага адраджэньня („Узвышша“ № 6 за 1928 г. стр. 173) сьцьвярджае, што гэты вобраз стварыў М. Гарэцкі таму, што ён так хацеў, што гэты вобраз быў неабходзен для эпохі адраджэньня. А. Адамовіч, давяраючыся выказваньням самога М. Гарэцкага (ён не давяраецца і ня можа, паколькі лічыць „тварца“ адпраўным пунктам), спасылаючыся на яго артыкул „Развагі і думкі“, які быў зьмешчан у „Вялікоднай пісанцы“ за 1914 г. вуснамі М. Гарэцкага выказвае такую думку адносна „пануючага тыпа“ яго (М. Гарэцкага) творчасьці: Перш за ўсё,—кажа А. Адамовіч, зьвернемся да артыкула самога М. Гарэцкага—„Развагі і думкі“, з якім нам ужо даводзілася мець дачыненьне. „А ладныя маладзенькія беларусы, хлопцы і дзяўчаткі, хварэюць у сваім часе на адну больку: Ня ведаем куды і як нам іцьці, каб было найлепш“... Цяпер гэткі тып асабліва часта спатыкаем. *І варта было-б, каб ён паказаўся ў нашай літаратуры* (падкрэсьлена намі *С. К.*) пакуль ён ёсьць ува ўсей сваёй цікавасьці: зараз яго і зусім ня будзе: расьце беларуская маладзёж, сьвядомая ад малых галоў. Далей гэту думку А. Адамовіч замацоўвае сваімі словамі: „*Вось вам і гатовы адказ — сьведчаньне сучасьніка пра наяўнасьць гэтага тыпу* (падкрэсьлена зноў намі *С. К*), які цікавы тым больш, што, зьяўляючыся сьведчаньнем *самога пісьменьніка*, ён паказвае на сьвядомае дачыненьне пісьменьніка да справы выяўленьня згадванага тыпу. („Узвышша“ № 6 1928 г. ст. 173).

Для А. Адамовіча, як для ідэалістага „гатовы адказ-сьведчаньне“ пісьменьніка аб Яго тыпе, якога М. Гарэцкі захацеў, „каб ён паказаўся ў нашай літаратуры“, бязумоўна, можа здаволіць. Гэта зусім заканамерна для сьветапогляду А. Адамовіча. Але гэты адказ ніякім чынам не здаволіць таго, хто на мастацтва глядзіць не з ідэалістычнага, а з матэрыялістычна-дыялектычнага пункту гледжаньня. Хто прасякнут марксыцка-ленінскім сьветапоглядам.

Людзі з лягеру марксыцка-ленінскага сьветапогляду заўсёды на такое тлумачэньне Адамовічаў адкажуць, што гэта хлусьня, што гэта ёсьць ідэалістычны-буржуазны падыход да мастацтва. Толькі буржуазным ідэолёгам уласьціва глядзець на мастака, як на нейкага зьверх чалавека, надоранага няведамай звыш сілай, і які што хоча, тое стварае, які, матаючы галачкай, сьпявае:

„Захочу полюблю,
Захочу разлюблю“.

Мы ведаем, што шмат якія буржуазныя вучоныя глядзяць на мастака як на нейкага надоранага ад некуль нейкімі таемнымі пачуцьцямі, якія ён (мастак) ператварае, вылівае ў тыя ці іншыя рэчы мастацтва, для забавы грамады. Зусім не выпадкова А. Адамовіч спасылаецца пры тлумачэньні таго-ж „пануючага тыпа творчасьці М. Гарэцкага, на францускага крытыка ідэалістага Іполіта Тэна. „Нам здаецца,—кажа А. Адамовіч,—што гэткі адказ, як на першае, гэтак і асабліва на другое наша пытаньне (пра значэньне героя ў беларускай літаратуры), мы можам знайсьці ў старога францускага крытыка і гісторыка мастацтва Іполіта Тэна". Адказ А. Адамовічу, на гэта пытаньне Іполіт Тэн дае наступны: „Група пачуцьцяў, патрэб і нахілаў утварае, калі яна праяўляецца яскрава і поўна ў аднэй і тэй-жа асобе, пануючы тып, гэта значыць, той узор, якому пакланяюцца і сымпатызуюць сучасьнікі". І далей працягвае цытаваць А. Адамовіч свайго „ортадокса", лічачы яго (уга!) за марксыстага „Можна сказаць, што ўся іхняя (мастака—С. К.) работа зводзіцца да таго што яны, то выяўляюць яго (тыпа—С. К), то зварочваюцца да яго яны зварочваюцца да яго ў Бэтговэнавых сэмфоніях і розэтках готычных сабораў; яны выяўляюць яго ў Мэлеагры і антычных Ніобідах, у Агамэмноне і Ахілесе Расіна. Такім чынам, *усё мастацтва залежыць ад яго* (пануючага вобраза—С. К.), бо ўсё мастацтва імкнецца ці дагаджаць ягоным густам, ці выводзіць яго". А адкуль-жа тады бярэцца вось гэты „рухаючы ўсё мастацтва „пануючы вобраз" эпохі? На гэта яшчэ магчыма адказаць, для паблажкі А. Адамовіча, што ён вырастае з патрэб грамады дадзенай эпохі, як гэта было адзначана А. Адамовічам пра вобраз нашаніўскай пары. Але тут паўстае за гэтым-жа новае і галоўнае пытаньне: чым-жа абумоўліваецца вось гэта, таемнае для Адамовіча, запатрабаваньне грамады тае ці іншае эпохі? Тут А. Адамовіч ставіць пункт і далей ня ідзе. (Ідэалісты далей гэтагаісьці ня можа). Бязумоўна, Іполіт Тэн тут-бы зараз падставіў свае рашаючыя *фактары*, якія таксама ня вычэрпваюць адказу гэнэзіса мастацтва, а А. Адамовіч і гэтага ня робіць. Ён застаецца проста пры таемным „Я", як адпраўнага пункта і, калі адыходзіць крыху ад гэтага „Я",—дык гэта ў бок запатрабаваньня эпохі, у бок, так сказаць, сусьветнага розуму.

Вядучы такія развагі, мы, бязумоўна, ня выключаем зусім значэньне ў творчасьці мастака з яго пачуцьцямі і г. д., як і наогул значэньня асобы ў гісторыі. Мы, вядучы гэтыя развагі, ня выключаем значэньне асабістых ураджаньняў, пачуцьцяў, розуму асобы (мастака) у яго практычнай дзейнасьці. Адносна гэтага ў свой час рабіў заўвагу У. І. Ленін. Ён казаў: „Капитализм состоит в известных отношениях между людьми, а таких людей, у которых не было-бы разума и чувства, мы еще не знаем „*Фальш*, будто *воздействие* разума и чувства тогдашних живых лич ностей" на ход вещей „*было ничтожно*",—совсем напротив" (Ленін, т. II, выд. II, ст. 63). У. І. Ленін як бачым адводзіць сур'ёзнае значэньне пачуцьцям і розуму. У. І. Ленін падкрэсьлівае, што тая ці іншая асоба робіць

адпаведны ўплыў на ход разьвіцьця рэчаў. Такую-ж думку мы маем, выказаную К. Марксам у яго кароткім сказе, што: „человек, воздействуя на природу,—изменяет свою собственную природу“.

Але ніколі ні К. Маркс, ні Ў. І. Ленін, ні іншыя матэрыялісты дыялектыкі не стаялі на тым пункце гледжаньня, на якім стаяць ідэалістыя і А. Адамовіч,—лічачы, што гістарычны процэс адбываецца дзякуючы нейкаму міравому розуму. Што ўсе рэяльныя рэчы жыцьця ствараюцца таемным „Я“. Матэрыялісты дыялектыкі, значэньню пачуцьцяў, ураджаньням, розуму адводзяць у гісторычным процэсе пэўнае месца, але яны даюць і матэрыялістычнае тлумачэньне,—чаму ў той ці іншай асобы такія, а ня іншыя пачуцьці, чаму тая ці іншая асоба стварае такія, а ня іншыя рэчы, чаму тэй ці іншай асобы ўраджаньне падае менавіта на даную, а ня іншую рэч, чаму даная асоба (напрыклад мастак) стварае вось такі, а ня іншы „пануючы“ вобраз эпохі“. „По каким признакам судить нам о реальных помыслах и чувствах реальной личности,—пытае У. І. Ленін і адказвае:—Понятно, что такой признак может быть лишь *один*—действие этих личностей,—а так как речь идет только об общественных „помыслах и чувствах“, то следует добавить еще: общественные действия личностей, т.-е. социальные факты“ (Лёнін, т. II, выд. II, ст. 69).

Усе клясыкі марксызму як вядома адыходзілі і адыходзяць пры тлумачэньні розных зьяў, ад матэрыі, заусёды за першапачатковае бралі і бяруць матэрыю. „Даже за еду и питье,—кажа Ф. Энгельс,—мы *принимаемся только* тогда, когда в голове нашей получается *ощущение* голода и жажды, и *перестаем есть и пить только* тогда, когда в голове нашей получается соответствующее *ощущение*“ (Ф. Энгельс, Людвиг Фейербах, ст. 49). Калі казаць аб гэтай думцы Энгельса іншымі словамі, то гэта значыць, што мы дзейнічаем толькі пастолькі, паколькі ў нас атрымоўваецца суб'ектыўнае адлюстраваньне адчуваемых намі ўзьдзеяньняў быцьця. Што наша псыхіка ня ёсьць нешта незалежнае ад быцьця, а, наадварот, яна зьяўляецца яго прадуктам, яна адлюстроўвае гэта быцьцё, а, адлюстроўваючы, пазнаючы,ператварае яго.

Праўда, яшчэ акрамя адыходжаньня А. Адамовіча, пры тлумачэньні творчасьці М. Гарэцкага, ад суб'екта, яго пачуцьцяў і ўраджаньня ён яшчэ робіць некаторае адхіленьне ў бок біографізма. Ён, нібы, заглядае ў соцыяльнае асяродзьдзе аўтара. Гэта на першы погляд можа паказацца нібы і слушным: „Самы просты адказ на першае пытаньне,—кажа А. Адамовіч,—пытаньне наконт крыніц вобразу галоўнага героя можна было б бачыць у аўтобіографічнасьці яго (М. Гарэцкага),—што таксама зьяўляецца сялянскім выходцам, гэтак і ў факце ягонага непасрэднага ўдзелу ў творах у ролі галоўнага героя свае творчасьці“ („Узв.“ № 6, 1928 г., ст. 171). Але-ж біографізм ніякім чынам не збаўляе нашага крытыка ад ідэалізму, і, нават, не захоўвае апошняга, а, наадварот, яшчэ яскравей яго выпучвае. Таму, што праз біографію аўтара,

інакш кажучы, праз адшуканьне аднэй псыхоідэолёгіі, ідэі (калі гэта і магчыма зрабіць) тлумачыць другую псыхоідэолёгію, ідэю, як мастацкую творчасьць,—гэта і будзе зноў такі той самы ідэалізм, якім апавіт А. Адамовіч. Марксысты вывучаюць псыхоідэолёгію індывідума не па тым, дзе ён радзіўся, хто яго бацькі і г. д., а па яго грамадзкай дзейнасьці, па тым прадукце, які ён стварае,—па ідэі гэтага прадукту.

У працы аб М. Гарэцкім А. Адамовіч адчынена ў тэорэтычныя развагі асабліва ня пускаецца. З якіх-небудзь 145 старонак сваёй працы ён для непасрэдных тэорэтычных разваг,—„соцыялёгічнага“ абгрунтаваньня творчасьці М. Гарэцкага адводзіць усяго адну—дзьве старонкі. Але ня гледзячы на гэта яго мэтадолёгічная буржуазна-ідэалістычная ўстаноўка пуката выпірае з яго практычнага, так званага, дасьледваньня творчасьці.

Больш пуката, больш адчынена А. Адамовіч выступае з сваёй буржуазна-ідэалістычнай устаноўкай, буржуазным поглядам на мастацкую творчасьць, у артыкуле аб творах В. Каваля „Хада на ўсход“, які мы адзначылі ў пачатку свайго артыкулу. Гэты артыкул яшчэ больш паказвае нам аб тым, што ў А. Адамовіча не памылка ў бок ідэалізму, а што А. Адамовіч прасякнут сыстэмай буржуазнага рэакцыйнага сьветапогляду—ідэалізмам.

У артыкуле „Хада на ўсход“ А. Адамовіч імкнецца даць тлумачэньне творчасьці В. Каваля, зноў такі выходзячы з яго (Кавалёвых) пачуцьцяў, ураджаняняў, розума, соцыялёгічна не абгрунтаваўшы апошніх—не разглядваючы іх ва ўзаемадзеяньні з сацыяльным быцьцём. Ён сьцьвярджае, што творчасьць В. Каваля „ўяўляе з сябе ня што іншае, як збор ураджаньняў, ці, дакладней, запісу ўраджаньняў ад няшырокага кругу вясковага і, крыху, гарадзкога жыцьця, запісаў статычна-спакойных і часта сантымэнталяватых, у большасьці сваёй лірычных, выкананых, як нейкія ўзоры—дэсэні, авеяны ціхай напэўнасьцю—як бы чалавек пяе сам сабе—то мацней, то слабей, то як бы зусім нячутна, снуючы матывы ў думах у душы закалыхвае сябе“ („Узв.“ № 3, 1930 г., ст. 83—84). Як бачым, А. Адамовіч і тут падыходзіць з гэтымі самымі сваімі таемнымі ўраджаньнямі, з „матывамі ў думах“. Вядучы гутарку аб асаблівасьці Кавалёвага стылю (у вузкім сэнсе), аб яго культуры мовы, на гэтай-жа самай 84 старонцы, ён так тлумачыць гэту асаблівасьць: „Канчаткова можна пераканацца, што ўзорамі для гэтай пабудовы служаць менавіта ўраджаньні—ураджаньні ад гораду, ад мацярынай сьмерці, ад вясковага жыцьця, ад усяго вясковага быту, ад вясковай жаночай долі, ад каханьня, ад песьні, ад даступнага дляназіраньняў, але ўсё-ж больш, відаць, знаёмага з кніг цыганскага жыцьця—гэтай асаблівай „мастацкай экзотыкі“ і г. д. Тлумачыць зноў, што тут выпірае яскрава ідэалістычная рэакцыйная ўстаноўка, ідэалістычны падыход да мастацтва, ня прыходзіцца.

Зьвядзеньне ўсяго творчага процэсу да ўраджаньняў, лічыць ураджаньні за прымат, за крыніцу творчасьці,—гэта і ёсьць ідэалізм, які

зьяўляецца сыстэмай сьветапогляду А. Адамовіча. На такі пункт гледжаньня ні адзін матэрыяліст-дыялектык ня стане і толькі пачуцьцямі, ураджаньнямі і г. д. тлумачыць зьяўленьня творчасьці ня будзе. Таму што: „Материализм в полном согласии с естествознанием берет за первичное данное материю, считая вторичным сознание, мышление, ощущение, ибо в ясно выраженной форме ощущение связано только с высшими формами материи (органическая материя), и „в фундаменте самого здания материи“ можно лишь предполагать существование способности, сходной с ощущением“ (Ленін, т. XIII, выд. III, ст. 37). Ідыялістыя прадстаўнікі буржуазных тэорыяў, гэтага ўявіць сабе ня могуць, яны адыходзяць ад суб'ектыўнага мышленьня нейкага „Я“, якое ў сваёй дзейнасьці стварае сусьвет. Апошняе ўласьціва, бязумоўна, іх буржуазнай клясавай існасьці і зусім законамерна. Можна было-б прывесьці цэлы шэраг буржуазных філёзафаў з розных галін навук, якія ідуць у сваім дасьледваньні зьяў тым-жа шляхам, якім у даным выпадку ідзе і А. Адамовіч. Напрыклад, падобным шляхам у сваім дасьледваньні ішоў фізык—дасьледчык Мах, перад якім У. І. Ленін ставіў ва ўпор пытаньне: „От вещей ли итти к ощущению и мысли. Или от мысли и ощущения к вещам. Первой, т.-е. материалистической, линии держится Энгельс. Второй, т.-е. идеалистической, линии держится Мах (Ленин т. XIII, выд. III, ст. 34).

Матэрыяліст дыялектык на літаратурны факт будзе глядзець не як на вынік чыйго-б там ня было розуму, пачуцьцяў, ураджаньняў, а як на вынікі стварэньня і соцыяльнага асяродзьдзя і пісьменьніка. Прычым матэрыялісты дыялектык заўсёды будзе браць за прымат, першапачатковае соцыяльнае асяродзьдзе—быцьцё. Таму, што літаратурны факт зьяўляецца продуктам таго самага быцьця, продуктам якога зьяўляецца і яе (літаратуры) „тварэц“—пісьменьнік. І літаратура і яе „тварэц“ адлюстроўваюць адно і тое самое быцьцё пэўнай клясы, з яго дыялектычным узаемадзеяньнем. На літаратурны факт і пісьменьніка, які стварае гэты факт, мы павінны глядзець, як на дыялектычнае адзінства суб'екта і аб'екта. Матэрыяліст дыялектык заўсёды на пытаньне: чыйму стварэньню належыць літаратурны факт—адкажа, што і пісьменьніку і не пісьменьніку. Стварэньнем пісьменьніка літаратурны факт зьяўляецца таму, што пісьменьнік, як матэрыяльная існасьць гэты факт нам падае прапускаючы яго праз свой псыхолёгічны кантаслуп. І ня пісьменьніка,—таму, што сам пісьменьнік ёсьць стварэньне пэўнага соцыяльнага асяродзьдзя, якое абумовіла і яго псыхолёгічны кантаслуп—пачуцьці, ураджаньні, смак і г. д., і якое ён адлюстроўвае і гэтым самым дзейнічае на яго, пературварае яго...

„Сущность человека есть совокупность общественных отношений“—кажа К. Маркс.

Зразумець гэнэзіс соцыяльнага асяродзьдзя, расчыніць яго, найсьці адзінства паміж гэтым асяродзьдзем і літаратурным фактам—гэта зна-

чыць, адказаць на пытаньне, чаму даны пісьменьнік стварыў такі, а ня іншы літаратурны факт, чаму ў данага пісьменьніка існавалі вось такія, а ня іншыя пачуцьці, чаму ў яго існавалі такія, а ня іншыя ўраджаньні, чаму даны пісьменьнік падае нам вось такую, а ня іншую ідэю, праз свой мастацкі твор. Нам гэта стане ясным тады, калі мы гэту сувязь, паміж літаратурным фактам і соцыяльным асяродзьдзем установім. Калі ўстановім клясавую прыроду літаратурнага факта, як прадукта адпаведнага быцьця, адпаведных вытворчых узаемаадносін. Таму, што: „В общественном производстве своей жизни люди вступают в определенные необходимые, от их воли независящие, производственные отношения, которые соответствуют определенной ступени развития их материальных производительных сил. Совокупность этих производительных отношений образует экономическую структуру общества, реальный базис, на котором возвышается юридическая и политическая надстройка и которому соответствуют определенные формы общественного сознания. Способ производства материальной жизни обуславливает собой процесс социальной, политической и духовной жизни вообще. Не сознание людей определяет их бытие, а, наоборот, их общественное бытие определяет их сознание“ (К. Маркс „К критике пол. эк.“ ст. 55).

А. Адамовіч (як і наогул ідэалісты) далёка ня так падыходзіць да мастацкага твору ў сваіх артыкулах аб М. Гарэцкім і В. Кавалю. Ён падыходзіць, як мы бачым, да мастацкага твору, як да стварэньня пісьменьніка, стварэньня духу эпохі, стварэньня нейкіх таемных пачуцьцяў, розуму. Гэта, бязумоўна, невыпадкова, непамылкова так атрымоўваецца ў А. Адамовіча. Яго ідэалістычны сьветапогляд знаходзіцца ў дыялектычным адзінстве з яго буржуазнай чутнасьцю. Тут адно другое дапаўняе, узаемадзейнічае.

І калі мы адвялі некалькі старонак для разгляду мэтадолёгічнай устаноўкі А. Адамовіча, дык толькі дзеля таго, што, выявіўшы яго тэорэтычны бок, нам стане яснай і ўся яго далейшая тактыка, яго манэўр пры ацэнцы разглядаемых ім пісьменьнікаў.

Мы ўбачым, што ўся яго тактыка цалкам выцякае, адпавядае яго тэорэтычнай ідэалістычна-буржуазнай, нацыянал-дэмократычнай сыстэме.

Да гэтага разьдзелу свайго артыкула мы зараз і пяройдзем.

## 2. Нацыянал-дэмократычная буржуазная тактыка А. Адамовіча

Надзвычайна цікавай зьяўляецца тактыка А. Адамовіча ў ацэнцы разглядаемай ім творчасьці пісьменьнікаў М. Гарэцкага, Паўлюка Труса і В. Каваля. Гэта тактыка, як мы сказалі, цалкам выцякае з яго мэтадолёгічнай ідэялістычнай устаноўкі, з яго буржуазнага сьветапогляду, з яго нацыянал-дэмократычнай ідэалёгіі. Менавіта, праз усе яго, названыя намі, тры артыкулы, чырвонай ніткай праводзіцца ім нацыянал-дэмократычная ідэя.

Артыкул аб М. Гарэцкім А. Адамовіч пачынае з гарачымі сьлязьмі, з узьнятым пачуцьцем, з нейкім асаблівым жалем аб тым, што такі вялікі пісьменьнік, па яго думцы,— бацька адражанізму, „аўтар першых вялікіх рэчаў у нашай літаратуры" пладавіты прозаік—М. Гарэцкі, ня зусім шырока вядом масаваму чытачу. Калі ідзе гутарка аб ім як пісьменьніку, дык „кола вядомасьці значна звужаецца". „Чаму гэта так?— пытае А. Адамовіч.—Чым вытлумачыць гэткую несьвядомасьць нашага грамадзтва (здорава! С. К.) у дачыненьні да пладавітага прозаіка яшчэ з нашаніўскай пары, аўтара першых вялікіх рэчаў у нашай літаратуры („Антон", „Дзьве душы"), таленавітага мастака—псыхолёга, пра раньнія творы якога нават такі скэптык у дачыненьні да беларускай літаратуры, як акадэмік Карскі, у свой час сказаў, што ў іх „ёсьць усе дадзеныя, каб з аўтара з часам разьвіўся добры пісьменьнік з самародным талянтам" („Узв." № 1, 1928 г., ст. 117—118).

А. Адамовіча ахапляе нейкі трагізм, ён надзвычайна зьдзіўлен, чаму М. Гарэцкі, як пісьменьнік, не карыстаецца папулярнасьцю сярод сучаснага чытацкага асяродзьдзя, чаму яго ня чытаюць, чаму ім не захапляюцца працоўныя масы. Ён пытае: „Чаму гэта так?" (!). Ён робіць закід нашаму грамадзтву, што яно не разумее гэтага вялікага, па яго думцы, пісьменьніка, што наша грамадзтва несьвядома. І тут-жа сам сябе пацяшае, што прыдзе пара, калі такіх пісьменьнікаў зразумеюць, калі імі будуць захапляцца, будуць цаніць, будуць шукаць у „археолёгічных раскопках", будуць яго зноў пераацэньваць. Ён кажа, што бываюць у гісторыі выпадкі, што забываюць вялікіх людзей, а потым іх шукаюць. „У гісторыі літаратурнага разьвіцьця розных эпох і народаў зусім нярэдкія выпадкі, калі пэўнага пісьменьніка, які мае ўсе дадзеныя на поўнае прызнаньне, усе правы на азначанае месца ў літаратуры, дзякуючы тым ці іншым прычынам (цікава, якія прычыны г. Адамовіч тут разумее?), абыходзяць, закідаюць, забываюць аж да літаратурнага абумерця, а то й сьмерці яго ў дадзеную эпоху, аж да канечнасьці свайго роду археолёгічных раскопак, вынахаду і пераацэнкі гэтага пісьменьніка ў наступным" („Узв." № 1, 1928 г. ст. 117).

Але-ж гэта яшчэ ня ўсё. На гэтым трагізм А. Адамовіча не канчаецца. Ён цешачы сябе будучыняй,—што М. Гарэцкага будуць шукаць, імкнецца рознымі спосабамі высунуць М. Гарэцкага ў сучасным. Ён, учэпіўшыся за творчасьць М. Гарэцкага ўсёй сваёй крытычнай сілай, усёй сваёй эрудыцыяй, пускаючы ў ход сваю буржуазна-нацыянал-дэмократычную тактыку—цягне яе (творчасьць) на паверхню ўсяе беларускай літаратуры, імкнецца ідэю творчасьці М. Гарэцкага ўзьняць да няведамых вышынь і адтуль яе накінуць на працоўныя масы. Але цягнучы яе, ён адчувае цяжкасьць, у яго мала дапаможнікаў, а супярэчнасьці надзвычайна вялікія. Супярэчнасьці працоўных мас стальной сьцяной націскаюць на ідэю творчасьці М. Гарэцкага, якую А. Адамовіч і яго дапаможнікі імкнуцца ўзьняць. Таму А. Адамовіч пераходзіць

да другога нацыянал-дэмократычнага тактычнага моманту. Ен, кінуўшы абражаючы закід нашаму сучаснаму грамадзтву аб тым, што яно несьвядома, каб зразумець М. Гарэцкага, яго ідэю творчасьці,—кідае прыблізна такі-ж закід і ў бок нашай сучаснай крытыкі. Ён нібы апялюе да крытыкі, зварочваецца да яе лісічкай, каб апошняя дапамагла яму праламаць стальную сьцяну працоўных мас і распаўсюджыць ідэі творчасьці М. Гарэцкага. Ён нібы заклікае крытыку, каб яна дапамагла яму даказаць працоўным масам, пераканаць іх, што ідэі творчасьці М. Гарэцкага зьяўляюцца надзвычайна каштоўнымі, што ў яго творчасьці заложаны ідэі нейкай (мабыць нацдэмаўскай) „Маладой Беларусі", што галоўны вобраз творчасьці М. Гарэцкага „зьяўляецца героем і носьбітам ідэй „Маладой Беларусі" („Узв." № 1, 1928 г., ст. 124). Ён са сьлязьмі зварочваецца да крытыкаў і пабялеўшымі губамі кажа, што крытыка (Адамовіч у даным выпадку мае на ўвазе крытыку Ластоўскага і Дзяржынскага) „дапамагала ўстанаўленьню і замацаваньню за Максімам Гарэцкім славы гісторыка беларускай літаратуры, заценяючы і выцясьняючы з літаратурнай сьвядомасьці яго пісьменьніцтва. Апошняе стварыла як-бы замоўчаваньне гэтага пісьменьніцтва Максіма Гарэцкага, бо тыя лічаныя асобы, якія часам згадвалі яго, рабілі гэта неяк, здавалася, нехаця, мімабегам, „патолькі-пакольк і". Часамі гэта рабілася, чамусьці, проста наўзьдзіў недарэчна: пісьменьніка залічалі бяз дай-прычыны да... правага крыла беларускай літаратуры (sic! Ї такое знайшлі?), або „аставулялі" яго—„аднаго са старэйшых пры матывах жуды і суму"... Але назат і такія „водгукі" блізка што гэтым і абмяжоўваюцца. У большасьці—маўчаньне, глухое маўчаньне крытыкі..." („Узв." № 1, 1928 г., ст. 119).

На голас А. Адамовіча, на яго сьлязьлівыя словы,—зварот да крытыкі, няма належнага водгуку. Сучасная марксыцкая крытыка ня ідзе на дапамогу А. Адамовічу, бо бачыць у творах М. Гарэцкага адваротнае, што бачыць А. Адамовіч. Марксыцкая крытыка разам з чытацкім працоўным асяродзьдзем адчувае, што з твораў М. Гарэцкага дыша дух варожай нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі. Але-ж не застаецца адзін і А. Адамовіч. На яго голас, на яго сьлязьлівы зварот адгукаюцца артыкулы (на творчасьць М. Гарэцкага) Ластоўскага, Дзяржынскага. Ї тут голас А. Адамовіча мацнее, бо ноты, якія бяруць Ластоўскі і Дзяржынскі ў дачыненьні да творчасьці М. Гарэцкага і наогул нашай сучаснай крытыкі, саўпадаюць з нотамі А. Адамовіча. Праўда, Ластоўскі і Дзяржынскі раней пісалі аб творах М. Гарэцкага, чым А. Адамовіч, але апошні, для ўзмацненьня гуку сваёй ноты, праз „археолёгічныя раскопы" знаходзіць гэтыя артыкулы і, высока падняўшы руку ўгору, крычыць: „во!—Я не адзін!" Ї тут-жа зараз пачынае імі падмацоўваць сябе прыўзьняцьці да адпаведных вышынь ідэю твораў М. Гарэцкага. Ён з радасьцяй гучна заяўляе: „У борздым часе пасьля выхаду „Руні" ў сьвет, на яе зьявілася і рэцэнзія Власта (чытай Ластоўскага—С. К.), якая з

захапленьнем адзначала яе тварца і ў асноўным правільна ацэньвала яе вартасьць: „Гарэцкі прамаўляе, як „маючы сілу“—пісаў В. Ластоўскі—„Рунь“ М. Гарэцкага—гэта вялікі ўклад у беларускую літаратуру як па глыбіні думак, так і красе мовы. „Такім чынам—працягвае А. Адамовіч, — Максім Гарэцкі адразу ўвашоў у нашу літаратуру, прыветліва і прыхільна спатканы В. Ластоўскім, якому нельга адмовіць наогул у здольнасьці крытычнага прадчуваньня і прадбачаньня“ („Узв.“ № 1, 1928 г., ст. 121).

У гэтым-жа напрамку выказваецца і Дзяржынскі. Хаця ён выказваецца не непасрэдна аб творах М. Гарэцкага,—ён дапамагае А. Адамовічу весьці тактычны бок справы, у дачыненьні нашай крытыкі, ці лепш сказаць іх тактыка ў дадзеным пытаньні саўпадае. Ён таксама робіць закід у бок нашае крытыкі, таксама сьлязіцца аб тым, што наша крытыка стварае „многазначнае маўчаньне над нашымі літаратурнымі корыфэямі“, ня ўздымае іх да адпаведных вышынь. У 1925 годзе Ул. Дзяржынскі па гэтаму поваду піша наступнае: „Скупая на словы беларуская крытыка. Ня любіць яна зьлішне песьціць нашых поэтаў і пісьменьнікаў. Ня прывыкла адгукацца яна хоць-бы на выдатнейшыя праявы беларускай літаратуры. Навісае яна дамоклавым мячом свайго ўпартага многазначнага маўчаньня над нашымі літаратурнымі корыфэямі і поэтамі ніжэйшай катэгорыі, гняце іх трывогай чаканьня, непакоіць, дражніць, абурае... і маўчыць. І гэта злавешчае маўчаньне ўпіраецца, як асінавым колам, знакам запытаньня ў творчасьць кожнага з мастакоў беларускага слова. Бы крыжоў на могілках—гэтак знакаў запытаньня на постаці беларускага пісьменства. Так, бы крыжоў на могілках“ (Ул. Дзяржынскі, „Полымя“ № 2, 1925 г.).

Гэты голас Ул. Дзяржынскага ўсёй сілай падхватваецца А. Адамовічам. Для яго ён гучыць надзвычайна прыемным гукам. Бо тут таксама робіцца закід на забытасьць карыфэяў беларускай літаратуры (бязумоўна, тут разумеюцца карыфэі нашаніўскай ідэалёгіі), аб якіх клапоціцца і піша дзесяціаркушовыя артыкулы, з мэтай узьняць іх да адпаведных вышынь, А. Адамовіч.

Мы ня будзем разводзіць гутаркі аб тым, што за аўтарытэты для працоўных Беларусі Ластоўскі і Ул. Дзяржынскі, а толькі адзначым некалькімі словамі, з кім яны.

Па-першае, ужо тое, што іх сьветапогляд, іх ідэалёгія саўпадае з ідэалёгіяй А. Адамовіча і наадварот—ідэолёгія А. Адамовіча, яго ідэалістычна-буржуазны сьветапогляд саўпадае з першымі,—ужо гэта кажа аб іх для нас аўтарытэце, ужо гэта кажа аб іх нацыянал-дэмократычнай буржуазнай ідэолёгіі. Па-другое, тое, што яны ўсе разам: І Ластоўскі, і Дзяржынскі, і Адамовіч імкнуцца ўзьняць нацыянал-дэмократычныя, як мы пакажам зараз ніжэй, ідэі творчасьці М. Гарэцкага, распаўсюджыць гэтыя варожыя ідэі сярод працоўных, імкнуцца супроцьпаставіць нацыянал-дэмократычна-буржуазныя ідэі, ідэям пролетарыята, ідэям Ко-

муністычнай Партыі—гэта другое таксама яскрава сьведчыць аб іх аўтарытэце для працоўных, сьведчыць аб тым, з кім яны. Якую-ж ідэю праз свае творы праводзіць М. Гарэцкі. Чым дыша яго творчасьць. Ці дорагі ідэі творчасьці М. Гарэцкага нашай сёнешняй імклівай рэчаіснасьці і ці могуць імі захапляцца працоўныя (чаго хоча А. Адамовіч і К°), у сваёй штодзеннай працы, барацьбе за соцыялізм.

На яго творчасьці мы спынімся вельмі каротка, адзначыўшы яе (творчасьці) псыхоідэолёгічную накіраванасьць і пастараемся паказаць яе ідэю на некаторых конкрэтных прыкладах з твораў гэтага аўтара, якога так напружана імкнуцца ўзьняць, папулізаваць, сярод працоўных мас, азначаныя намі крытыкі.

Мы ўжо адзначылі з пачатку гэтага разьдзела, што А. Адамовіч на працягу ўсяго свайго дзесяціаркушовага артыкула творчасьці М. Гарэцкага ўздымае да няведамых вышынь, што ён імкнецца ўсякім чынам распаўсюджыць яе ідэі. Таксама мы адзначылі, што творчасьць М. Гарэцкага пранізана нацыянал-дэмократычнымі-буржуазнымі ідэямі. Апошняе мы падмацуем адпаведнымі вытрымкамі з твораў самога М. Гарэцкага, якія гэту нашу думку пацьвердзяць.

Асноўная мастацкая творчасьць М. Гарэцкага прыпадае на нашаніўскі пэрыяд. І патрэбна сказаць, што яна вельмі пуката выяўляе нашаніўскую нацыянал-дэмократычную-буржуазную ідэолёгію. Мы ведаем, „што нашаніўцы дабіваліся не зьніштажэньня прывілей пануючых клясаў наогул,—кажа Сталевіч—як гэта ставіла сабе за мэту БСГ, а падзелу прывілей паміж беларускімі пануючымі клясамі і расейскімі“ (А. Сталевіч „Беларускі нацыянал-фашызм“ выд. 1930 г., ст. 9). Нашаніўцы адмаўлялі клясавую барацьбу за соцыяльнае вызваленьне працоўных, без чаго немагчыма вызваленьне нацыянальнае. У іх быў адзін напрамак барацьбы—гэта напрамак як-бы нацыянальнага вызваленьня „ўсяго беларускага народа“, бяз клясавай яго дыфэрэнцыяцыі. М. Гарэцкі ў адзначанай намі вышэй „Вялікоднай пісанцы“ так прама і піша, што ён ня можа ня лічыцца з усім народам, пры тым беларускім. „Мы ня можам ня лічыцца з жыцьцём, з жыцьцёвымі патрэбамі народу нават і тады, калі гэтыя жыцьцёвыя патрэбы народныя, на наш погляд—хворы, ненармальны і шкодзяць адраджэньню беларусоў“. (М. Гарэцкі „Вялікодная пісанка“ ст. 49). А фактычна гэта барацьба была накіравана супроць гегемоніі пролетарыяту, за кіраўнічую ролю ў нацыянальным буржуазным русе. абшарнікаў“. „Сярод выдатнейшых тагочасных правадыроў беларускага нацыянальнага руху было ня мала абшарнікаў, як В. Іваноўскі, І. Буйніцкі, Уласаў і іншыя“ (Сталевіч. „Б. Н. Ф.“ ст. 9).

„Для беларускага буржуазна-нацыянальнага руху,—кажа далей Сталевіч—пэрыяда „Нашай нівы“ найбольш характэрным зьяўляецца яго барацьба супроць гегемоніі пролетарыяту, непрызнаваньне клясавай барацьбы, беларускі шовінізм“ (там-жа ст. 12).

Гэтыя ідэі беларускага буржуазна-нацыянальнага руху, адмаўленьне клясавай барацьбы, беларускі шовінізм—нашлі сваё шырокае падтрыманьне, адлюстраваньне ў творчасьці М. Гарэцкага. Гэтыя ідэі гучаць з кожнага яго мастацкага твору. Возьмем яго хаця-б такое апавяданьне як „Ціхія песьні“. Ужо самы загаловак кажа аб нейкім спакоі.

У гэтым апавяданьні М. Гарэцкі зусім ня бачыць беларускай буржуазіі. Па яго выходзіць, што працоўнага беларуса-селяніна, пролетарыя ніхто ня прыгнечваў, не эксплёатаваў, а калі што тварылася недарэчнае на Беларусі для беларускага народу, дык гэта віна была, галоўным чынам, маскоўцаў, туркаў, ляхаў, немцаў. Ён у гэтым апавяданьні, у непасрэдным сваім выказваньні так і кажа: „Ці не маскоўскія князі і баяры, падпіраючы з усходу; турэцкія султаны і пашы, скубучы з паўдня; ляхімагнаты хітрыкамі, пнучыся з захаду; немцы двараны, крыжам ды мячом адылі асьветаю налягаючы з поўначы, з мора; а прыгон і гандляры і гарэлка, гнятучы ў пасяродку,—ці не яны выціснулі з народу майго тое гістарычнае разуменьне: што ня зробіцца, а няхай на нашы галовы?“ („Ціхія песьні“ выд. 1926 г. ст. 19). Бачым, што беларус—народ атакован з усіх чатырох бакоў. Праўда, тут як-бы М. Гарэцкі таксама зазначае, што нехта прыгнечваў і „ў пасяродку“. Але каго тут М. Гарэцкі мае на ўвазе,—зразумець з пачатку цяжка. Ма быць ён разумее зноў такі тых самых „інаверцаў“, якія атакоўваюць з чатырох бакоў. Бо калі мы паглядзім далей, у гэтым-жа апавяданьні, на 81 старонцы, як малюе М. Гарэцкі ўзаемаадносіны ўнутры-эксплёататара і эксплёатуемага, дык адразу кідаецца ў вочы, што соцыяльных супярэчнасьцяй паміж гэтымі супроцьлеглымі, па сваёй клясавай сутнасьці соцыяльных груп, па Гарэцкаму ня было. Наадварот было як-бы поўнае адзінадушша. Гэта па Гарэцкаму, усе роўныя сяляне. На гэтай-жа старонцы М. Гарэцкі падае вобраз батрака Хомкі, які служыць у багацея, эксплёатуецца ім, бязумоўна перажывае гэтыя цяжкасьці эксплёатацыі і, ня гледзячы на гэта, жывуць яны паміж сабой абняўшыся за шыю,—цалуюцца. „Калі Хомка пакідаў гаспадара, каб дні са два пажыць у бацькі, стары адпускаў яго ня горш, як некалі выпраўляў свайго Петрыка (сына—С. К.). Усё ён нагінаўся к падолу доўгай кашулі абціраць сьлёзы. Даў Хомцы сярэбраны рубель, пацалаваўся і зараз маўкліва паплёўся на гумно трэсьці салому“. Акрамя гэтага, што М. Гарэцкі мірыць батрака з эксплёататарам, мы бачым у другом яго апавяданьні („У чым яго крыўда“), што ён фактычна цалкам стаіць на абароне падобных эксплёататараў. У гэтым-жа апавяданьні працоўных сялян М. Гарэцкі абзывае акаяннымі мужыкамі, тады як шляхту (кулакоў) лічыць працавітымі людзьмі, што гэта „невялічкае што“ і іх непатрэбна вылучаць з усяго народу наогул. „Ёсьць тут у ваколіцах і шляхта. Па праўдзе кажучы, у свае культуры, узятай, як той казаў, „у цэлым і агульным“, шляхта гэта невялічкае што супроць самых акаянных мужыкоў—значыцца працуе яна, як чорны вол“.

(„У чым яго крыўда“ выд. 1926 г. ст. 7). Тут нешта аналёгічнае ў падыходзе да кулака і працоўнага селяніна, у М. Гарэцкага, з Пільнякоўскім „Красным деревом“.

Атрымоўваецца тое, што М. Гарэцкі праз адно вакно зварочваецца да ўсяго беларускага народу, а праз другое—махаючы рукой, падзывае да сябе беларускую буржуазію, беларускага кулака, каб стварыць адзін фронт супроць пролетарскай гегемоніі, пролетарскага руху, аб якім правільна адзначыў Сталевіч, у адносінах да ўсяго нашаніўскага нацыянальнага буржуазнага руха.

Як мы бачым з гэтых прыведзеных намі выказваньняў М. Гарэцкага відаць, што з яго твораў, бязумоўна, дыша дух буржуазнай-нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі,—дыша буржуазная ідэя. І гэта ідэя разьліта па ўсіх творах М. Гарэцкага. З усёй творчасьці ў цэлым яна выпірае яшчэ ярчэй.

Бязумоўна, у гэтым артыкуле нельга разгледзіць усю творчасьць М. Гарэцкага, з яе ўсімі адценкамі,—для гэтага патрэбен асобы артыкул і мы спыняемся коратка, каб толькі адзначыць характэрныя ідэі яго творчасьці і паказаць чытачу, за каго галасуе А. Адамовіч і К°, ярчэй прадэмонстрыраваць іх тактыку.

І ўжо зараз нам з прыкладаў відаць, якую ідэю А. Адамовічы імкнуцца навязаць нашаму чытачу, якую ідэю супроцьстаўляюць ідэям пролетарыята, ідэям комуністычнай партыі і чаму гэтай (ідэяй творчасьці М. Гарэцкага) ідэяй не захапляюцца працоўныя масы.

Цяпер мы паглядзім як А. Адамовіч падыходзіць да ацэнкі творчасьці Паўлюка Труса і В. Каваля.

Мы бачым, што на нацыянал-дэмократычную творчасьць М. Гарэцкага А. Адамовіч піша сьлязьлівы, у дыфэрамбнай форме, дзесяціаркушовы артыкул. На творчасьць-жа Паўлюка Труса, якая ўрасла ў пролетарскую творчасьць, якая ў апошні час пачала адлюстроўваць ідэі пролетарыята, А. Адамовіч піша пасквіль. Шукае ў творчасьці Паўлюка Труса толькі нацыянальных матываў і выхалашчывае яе клясавую сутнасьць, яе пролетарскую ідэолёгію, пролетарскі зьмест. Ён кажа, што ў Паўлюка Труса „Любасьць да Беларусі і вера ў яе не абмяжоўваецца. Калі раней Беларусь была, як мы казалі, „нацыянальным маштабам“ у поэзіі, дык цяпер любасьць да Беларусі набывае значэньне меры для ўсіх рэчаў“. (А Адамовіч. „П. Трус“. „Узв.“ № 7, 1929 г. ст. 98).

Мы-б запыталіся ў А. Адамовіча, аб якой ён „любасьці“ П. Труса „да Беларусі“ нам кажа. Для марксыстага наогул Беларусі—абстрактнай няма, таксама, як і няма абстрактнай „любасьці“. Марксысты знае Беларусь і любасьць канкрэтную. Марксысты знае Беларусь Савецкую—Беларусь дыктатуры пролетарыята і Беларусь, аб якой марацъ нацдэмы,—буржуазную. А абстрактнай Беларусі няма, як і наогул няма абстрактнай ісьціны. „Ісьціна заўсёды конкрэтна“. У даным выпадку А. Адамовіч, бязумоўна хоча творчасьць Паўлюка Труса падпарадкаваць сваім нац-

дэмаўскім ідэям. Ёе выкідае з яе клясавы-пролетарскі зьмест. Скрыўляе яе псыхоідэолёгічную накіраванасьць. Фактычна абражае яе. Абражае нябошчыка аўтара, які захапляўся нашым будаўніцтвам ідэямі пролетарыята, адлюстроўваў Беларусь пролетарскую, з яе шпаркім будаўніцтвам, які казаў:

„Буду слухаць песьні Асінбуду,
Захапляцца музыкай турбін".

На гэтага аўтара А. Адамовіч піша пасквіль.

Гэта, бязумоўна, зноўтакі выцякае з яго нацдэмаўскай буржуазнай тактыкі. Ён імкнуўся ідэі Трусавай творчасьці,—яе пролетарскасьць заглушыць, каб быў шырэйшы шлях для ідэі Гарэцкіх, Ластоўскіх, Дзяржынскіх, Адамовічаў і К-о.

Гэты-ж тактычны момант ужыт А. Адамовічам і ў дачыненьні пісьменьніка працоўнага сялянства—В. Каваля. Ён у адносінах да Кавалёвай творчасьці таксама падыходзіць з абражаючай ацэнкай. Лічыць нават, што яна зьяўляецца шкоднай нашай сучаснасьці. „Трэба сказаць яму (Кавалю—С. К.) проста ў вочы,—кажа А. Адамовіч,—і ён павінен гэта ўразумець і ведаць, што ў абвостранасьці сучаснай вясковай абстаноўкі ягоныя творы, сабраныя ў „Крыніцы", з іхнім серадзіньніцкім прымірэнцтвам нічым, бадай, ня могуць паслужыць пролетарыяту, а хутчэй, наадварот, могуць нават пашкодзіць яму, узьдзейнічаючы на прытупленьне волі змаганьнікаў у клясавым змаганьні (А. Адамовіч, „Хада на ўсход") „Узв" № 3, 1930 г. ст. 101—102).

Такім чынам перад намі яскрава паўстае нацдэмаўская—буржуазная тактыка А. Адамовіча. З аднаго боку нацдэмаўскую-буржуазную творчасьць М. Гарэцкага А. Адамовіч узносіць да няведамых вышынь, імкнецца распаўсюджыць на працоўных яе варожыя ідэі, а з другога боку піша абражаючы артыкул на пролетарскага поэта Паўлюка Труса, ставіць яго творчасьць ніжэй творчасьці М. Гарэцкага. Выпучае яе толькі нацыянальны бок і выхалашчывае клясавую сутнасьць. І зусім лічыць шкоднай для нашай сучаснасьці творчасьць пісьменніка працоўнага сялянства нашай сучаснасьці—В. Каваля.

Усё гэта ў сваю чаргу выцякае з А. Адамовічавай мэтадолёгічнай устаноўкі, з яго ідэалістычнага сьветапогляда.

Патрэбна яшчэ ў заключэньне гэтага разьдзела нашага артыкула адзначыць на самае гняздо, у якім знаходзіўся А. Адамовіч і адкуль ён распаўсюджваў свае нацдэмаўскія ідэі. А таксама адзначыць, што ў гэтым гнязьдзе быў не адзін А. Адамовіч, а там былі Бабарэкі, Дубоўкі, Пушчы і іншыя, якія праводзілі гэтую ідэю, што і А. Адамовіч і якія на першых пачатках дзейнасьці „Узвышша" (асабліва 1927-28 г.г.) задавалі гэтай часопісі ўвесь тон, давалі ёй свой буржуазны нацдэмаўскі ідэолёгічны напрамак.

І сапраўды ўжо з самых тэзісаў да ўтварэньня „Узвышша" было відаць, што гэта часопісь ставіць нявыразна клясавае пытаньне. У тэзі-

сах было сказана: „Магчымасьць утварэньня „Узвышша“ беларускай мастацкай літаратуры мысьліцца цераз: а) культуру беларускае мовы, б) жыцьцёвую сымболіку мастацкага твору, в) яго канцэнтрацыйную вобразнасьць, г) дынамічнасьць компазыцыі, д) беларускую жанравасьць, е) адзінства творчай мастацкай ідэі, ж) рознастайнасьць формальных рэальнасьцяй і з) актывізм, як тую імклівасьць, якою прасякаецца мастацкі твор у сваім ідэале і праз гэта ажыўляе патрачаную, на змаганьне з прыгнётам пануючых клясаў і нацый, энэргію працоўнага люду на творчасьць вялікага і прыгожага жыцьця“ („Узв.“ № 1, 1927 г. ст. 169-170).

Як бачым, тут аб клясавай сутнасьці літаратуры,— аб стварэньні пролетарскай літаратуры па зьместу і нацыянальнай па форме ні слова ня сказана. Тут на першы плян дэклярацыя „Узвышша“ высоўвае „культуру беларускае мовы“, беларускую жанравасьць,—інакш кажучы, на пярэдні плян выпіраецца нацдэмаўскі лёзунг Багушэвіча: „ня цурайцеся свае мовы, каб ня ўмерці“, які быў „пуцяводнай зоркай“ у дзейнасьці нашаніўцаў, для падпарадкаваньня пад свой уплыў працоўнага сялянства.

Бязумоўна ня дзіва, што пасьля гэтага, на старонках часопісі „Узвышша“ пачынаюць зьяўляцца адзін за другім варожыя пролетарыяту творы Дубоўкі, Пушчы і іншых. А. Адамовіч, бязумоўна, тут не адзін. Тут Адамовічу дапамагаюць (ці ён ім) А. Бабарэкі, Купцэвічы і інш. Яны ўсе разам прарабляюць адно: яны імкнуцца заглушыць ідэі пролетарскай творчасьці, ідэі творчасьці працоўнага сялянства і распаўсюджыць ідэі нацдэмаўскія-буржуазныя.

А. Бабарэка, падобна А. Адамовічу ў дачыненьні да творчасьці М. Гарэцкага, піша дыфэрамбны артыкул на буржуазную творчасьць Ул. Дубоўкі, якую ўздымае таксама да няведамых вышынь, імкнецца ідэі гэтай творчасьці распаўсюджыць на працоўных, — што робіць і А. Адамовіч з Гарэцкім.

Ф. Купцэвіч у артыкуле „Аб моністычным разуменьні творчасьці Ц. Гартнага“ („Узв.“ № 6, 1928 г.) усьлед за Троцкім адмаўляе магчымасьць існаваньня пролетарскай літаратуры ў наш час. Ён так і заяўляе: „Яшчэ і цяпер канчаткова не разьвязана спрэчнае пытаньне аб мажлівасьці наогул пролетарскай літаратуры, як літаратуры пераходнага пэрыяду“. Таму што Купцэвіч быў за іншую.

З другога флангу К. Кудзінаў, як і А. Адамовіч у дачыненьні да творчасьці П. Труса, б'е па пролетарскай творчасьці А. Александровіча. Піша на яго творы пасквіль, высьмейвае пролетарскую ідэю творчасьці А. Александровіча, зноў-такі, для шырэйшай дарогі ідэям нацдэмаўскім. Гэта ўсё адбываецца на старонках „Узвышша“.

Як бачым, з А. Адамовічам некалькі спадарожнікаў, голас якіх зьліваецца ў адзін. Яны ўсе разам актыўна змагаюцца за распаўсюджваньне нацдэмаўскіх-буржуазных ідэй, яны ўсе разам вядуць змаганьне супроць пролетарскай творчасьці, супроць яе пролетарскай ідэолёгіі, супроць наогул ідэй пролетарыята, ідэй Комуністычнай партыі. І гэта змаганьне ад-

бываецца з пэўнай актывізацыяй, з пэўнай тактыкай. Гэта варожая група, якая гнязьдзілася ва „Узвышшы“, рабіла вялікі ўплыў на ўсіх супрацоўнікаў „Узвышша“ на некаторых вельмі блізкіх да пролетарыята поэтаў і пісьменьнікаў, на маладых пачынаючых.

Але дзе-ж выток гэтай варожай ідэолёгіі ў наш час, дзе яе соцыяльная база?

## 3. Крыніцы і актывізацыя буржуазнай нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі

Як і ўсякая ідэолёгія, нацыянал-дэмократычная ідэолёгія павінна мець пад сабой нейкую эканомічную базу, на якой яна грунтуецца і якую яна абараняе. Якая-ж база зьяўляецца грунтам для гэтай ідэолёгіі, у краіне дыктатуры пролетарыята? Магчыма можна сказаць, што ў нас гэтага грунту няма для варожай ідэолёгіі, што ён ужо зьнішчан з карэньнямі.—Гэта будзе глыбокая памылка.

Пераживаемы намі час-эпоха дыктатуры пролетарыята—не зьяўляецца нечым законсэрвіраваным, захаваным ад розных хваробных бактэрыяў, захаваным ад надворнага ўплыва,—ад уплыва буржуазных дзяржаў буржуазных кляс—іх ідэй. Зусім не. На дзяржаву дыктатуры пролетарыята робяць вялікі націск буржуазныя дзяржавы, робяць вялікі націск буржуазныя кльсы, з якім пролетарыяту Савецкага Саюза і ўсяго сьвета ў цэлым, пад кіраўніцтвам Комуністычнай Партыі прыходзіцца весьці штодзенную сур‘ёзную барацьбу, як супроць інтэрвэнцыі, разнастойнага шкодніцтва, так і на ідэолёгічным фронце: у мастацтве, літаратуры, крытыцы і г. д.

Акрамя барацьбы з надворным ворагам пролетарыяту даводзіцца весьці ня менш сур‘ёзную барацьбу і з унутраным ворагам,—з рэшткамі капіталізма, кулацтвам, якія яшчэ ня зьнішчаны, на выжыты з савецкай глебы, і якія зьяўляюцца актыўнымі агентамі сусьветнай буржуазіі, праз якіх апошняя вядзе, у адпаведных формах, барацьбу супроць пролетарскай дзяржавы, яго будаўніцтва ўнутры краіны, па ўсіх фронтах нашага жыцьця. Клясавая барацьба ня скончана. „Диктатура пролетариата, кажа Ў. І. Ленін,—не есть окончание классовой борьбы, а есть продолжение ее в новых формах. Диктатура пролетариата есть классовая борьба победившего и взявшего в свои руки политическую власть пролетариата против побежденной, но не уничтоженной, не исчезнувшей, не переставшей оказывать сопротивление, против усилившей свое сопротивление буржуазии, (Ленин, т. XVI, выд. II, ст. 240—241).

І тая варожая пролетарыяту буржуазная ідэолёгія, якая выражаецца ў форме беларускага нацыянал-дэмократызму, якая ў апошні час паказала сваю галаву на ўсіх фронтах нашага соцыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку (і асабліва) на ідэолёгічным фронце (у выдавецтве, Акадэміі Навук, літаратуры, крытыцы і г. д.), зьяўляецца менавіта адлюстра-

ваньнем рэштак буржуазнай, а таксама кулацкай ідэолёгіі, як сваёй соцыяльнай базы, зьяўляецца агентурай сусьветнага капітала.

Ідэолёгі рэштак гэтай буржуазіі, а таксама кулацтва, сваімі карэньнямі ўваходзяць у нашаніўскі пэрыяд. Гэтыя ўсе Адамовічы зьяўляюцца далейшым працягам буржуазных ідэй „Нашай Нівы" на савецкай глебе,—ва ўмовах дыктатуры пролетарыята. Мы ведаем, што нашаніўскі пэрыяд упіраецца аж у Лютаўскую рэволюцыю. І яго ідэі, яго ідэолёгі перайшлі і гэту мяжу, працягваючы сваю дзейнасьць у іншых абставінах, апіраючыся на рэшткі капіталізму і кулацтва.

Яны, залезшы за сьцены Выдавецтва, Акадэміі Навук, узабраўшыся на катэдру унівэрсытэту, схаваўшыся за лісток савецкай часопісі, імкнуліся адтуль атруціць працоўных сваімі буржуазнымі—нацыянал-дэмократычнымі ідэямі, імкнуліся і імкнуцца дзяржаву дыктатуры пролетарыята ператварыць, пры дапамозе замежнай буржуазіі, у буржуазную дзяржаву і тым самым падпарадкаваць працоўных зноў бязьлітаснай эксплёатацыі. У апошні час гэтыя ідэолёгі буржуазіі і кулацтва пачалі праяўляць вострае супроціўленьне ідэям пролетарыята, ідэям Комуністычнай Партыі. І гэта мае сваю прычыну.

Пасьпяховы рост соцыялістычнай дзяржавы, пасьпяховае ажыцьцяўленьне пяцігадовага пляну савецкай гаспадаркі, будаўніцтва агромных фабрык, заводаў, электрастанцый, будаўніцтва калгасаў, саўгасаў і на гэтай падставе, ліквідацыя кулацтва як клясы, ліквідацыя рэштак капіталізма,—не магло ня выклікаць вострага супроціўленьня з боку апошніх. Таму, што пролетарыят павёў свой упэўнены наступ па ўсяму фронту за хутчэйшае ажыцьцяўленьне соцыялізма, зьнішчаючы на сваім шляху ўсякую соцыяльную базу для варожых кляс.

„Наша праца,—кажа тав. Сталін ў сваёй справаздачы XVI зьезду Комуністычнай Партыі,—па соцыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі, якая рве эканомічныя сувязі капіталізма і пераварочвае ўверх дном усе сілы старога сьвету, ня можа ня выклікаць адчайнага супроціўленьня з боку гэтых сіл".

Гэтыя сілы „старога сьвету" падобна А. Адамовічавым вялі (і бязумоўна вядуць яшчэ і зараз) упорлівую барацьбу на ідэолёгічным фронце,—у галіне беларускай літаратуры. Як мы ўжо адзначылі, яны рознай тактыкай хацелі заглушыць ідэі пролетарскай літаратуры, хацелі ўмацаваць свае буржуазныя-нацдэмаўскія ідэі, хацелі ідэолёгічна падпарадкаваць сабе працоўныя масы.

Выкрываючы гэтыя варожыя пролетарыяту буржуазныя ідэі, падпарадкаваючы іх бальшавіцкай марксыцкай крытыцы, выяўляючы іх клясавую сутнасьць перад працоўнымі масамі, перад працоўным чытачом,—марксыцкая крытыка, пролетарская літаратура ў цэлым, а таксама і ўся пролетарская грамадзкасьць павінны весьці рашучую барацьбу з варожай літаратурай, з варожай ідэалістычнай крытыкай, з варожымі ідэямі, якія супроцьстаўляюцца пролетарскім ідэям, ідэям Комуністычнай Партыі.

Папаўняючы літаратурны пролетарскі фронт новымі сіламі,—ударнікамі ў літаратуры непасрэдна ад станка, з вытворчасьці, фронт пролетарскай беларускай літаратуры яшчэ з большым посьпехам будзе весьці рашучую барацьбу супроць варожых пролетарыяту ідэолёгій у мастацкай літаратуры, будзе весьці барацьбу супроць якога-б ні было адхіленьня ў галіне літаратуры ад ідэй пролетарыята, ад ідэй Комуністычнай Партыі, будзе весьці рашучую барацьбу за ідэі соцыялізма.

# НАЦЫЯНАЛ-ДЭМОКРАТЫЗМ У БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**Э. Гірчак**

На Беларусі органамі ДПУ выкрыта контррэволюцыйная нацыяналістычная група, на чале якое былі былыя міністры, афіцэры і чыноўнікі БНР (Ластоўскі, Некрашэвіч, Лёсік і інш.). Гэтая група, як і СВУ, ставіла перад сабою мэту зьнішчэньня дыктатуры пролетарыяту ў Савецкай Беларусі пры дапамозе польскага імпэрыялізму і аднаўленьня капіталістычна-кулацкага рэжыму, зьяўляючыся агентурай польскага імпэрыялізму. Беларускія нацыянал-дэмократы, маскуючыся вонкавым прызнаньнем савецкае ўлады і нібы прыхільнасьцю да політыкі партыі ў нацыянальным пытаньні, на працягу доўгіх гадоў праводзілі сваю шкодніцкую контррэволюцыйную работу на культурным і ідэолёгічным фронце. Асаблівую актыўнасьць яны выявілі на фронце беларускай мастацкай літаратуры.

Беларускія нац.-дэмократы таксама, як і украінскія нацыяналістычныя контррэволюцыянэры (СВУ), праводзілі зацятую барацьбу за гегемонію на культурна-ідэолёгічным фронце, за разьвіцьцё нацыянальнай буржуазнай культуры. „На чарзе стала пытаньне пра большае ауладаньне кіраўніцтвам усім культурным, а потым і гаспадарчым жыцьцём рэспублікі. У некаторых элемэнтаў пачала зараджацца думка—сваё кіраўніцтва супроцьставіць кіраўніцтву партыі, спачатку ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва, але, бязумоўна, была ўстаноўка і на кіраўніцтва іншымі галінамі дзяржаўнага жыцьця: прамысловасьць, аграрная політыка, будаўніцтва, транспорт і інш.“,—так гаворыць адзін з выкрытых контррэволюцыянэраў у сваіх прызнаньнях.

Якія-ж задачы ставілі перад сабою беларускія нацыянал-дэмократы ў адносінах да мастацкай літаратуры?

Барацьба за прасякненьне беларускае мастацкае літаратуры нацыянал-дэмократычнаю ідэолёгіяй, барацьба за ўплыў на літаратурную моладзь, барацьба за адрыў яе ад пролетарскае ідэолёгіі, атручэньне яе нацыяналізмам—вось іх задачы. Пропаведзь самабытнасьці беларускай нацыі, яе бясклясавасьці, ідэалізацыя мінулага, орыентацыя культурнага разьвіцьця на Захад, адрыў ад Масквы (успомніце лёзунг Хвільевага „Геть від Москви“), унікненьне ўсяго савецкага, пролетарскага, рэволюцыйнага, стаўка на кулака, як адзінага носьбіта нацыянальнай культуры—

вось пляцформа беларускага нацыянал-дэмакратызму, якая знайшла сваё адлюстраваньне ў беларускай публіцыстыцы ды мастацкай літаратуры, нават у творах некаторых „комуністаў“, якіх слушна вялічаюць на Беларусі „нацдэмамі з партбілетамі ў кішэнях“.

Падамо тут некалькі фактаў яскравага праяўленьняя нацыянал-дэмократызму ў мастацкай літаратуры. У 1921 годзе ў часопісі „Адраджэньне“ была зьмешчана рэцэнзія на збор твораў Янкі Купалы „Спадчына“ Любацкага-Каравайчыка, дзе ён піша:

На апошняй старонцы вокладкі таўро фірмы з пролетарскім сымболем (серп, молат, рука з разарванымі ланцугамі) і надпіс „Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!“ Баюся выявіць сябе неблагадзейным, але мушу выступаць супроць такога таўра на культасьветных кніжках. Для нас, беларусоў, чыя бацькаўшчына падзелена паміж двума варожымі дзяржавамі—важна падтрымліваць культурную сувязь паміж гэтымі разарванымі часьцінамі нашай краіны. Неабходна, каб культурная кніжка, выданая на адзін бок кордону, магла цыркуляваць і на другім баку кордону. Між іншым гэтае таўро робіць кніжку падазронаю нават у вачох польскай дэфэнзывы і перашкаджае ёй (кніжцы) шлях да чытача“.

Такім быў адзін з першых турніраў беларускага нацыянал-дэмократызму ва ўмовах Савецкай Беларусі. Выходзіць, што культура Савецкай Беларусі не павінна нічым розьніцца ад культуры Заходняй Беларусі, дзе пануе польскі фашызм, і яго агентура—беларускі нацыянал-фашызм. Што гэтай розьніцы ў зьмесьце абедзьвюх культур не павінна быць і нішто не павінна перашкаджаць яднаньню гэтых культур. Гэты зухвалы нацыяналістычны рэцэнзэнт протэстуе ня супроць зьместу (відавочна зьмест „падыходзячы“ для закордону), а протэстуе супроць савецкае эмблемы, якая надрукавана на вокладцы кніжкі.

Важна таксама зьвярнуць увагу на тое, што ён не прызнае БССР як самастойную пролетарскую дзяржаву, а гавора, што Беларусь падзелена паміж двума варожымі дзяржавамі. Першая—Польшча, а другая? А падругое, для каго гэтыя дзяржавы зьяўляюцца ворагамі?

У гэтым першым турніры беларускі нацыянал-дэмократызм выявіў свой твар поўнасьцю. У гэты-ж час засноўваецца і тэрмінолёгічная камісія, у склад якое ўвайшлі наяўныя ў той час сілы нацыянал-дэмократаў, якія і паставілі перад сабою задачу шкоднай працы на культурным і лінгвіністычным фронце.

Гэта, калі можна так назваць, перадгісторыя беларускага нацыянал-дэмократызму ва ўмовах Савецкай Беларусі.

Організаваны ўплыў беларускага нацыянал-дэмократызму ў мастацкай літаратуры выявіўся ў такіх організацыях, як „Полымя“ і „Узвышша“, што ўзьнікла ў 1926 годзе ў выніку адколу ад „Маладняка“. Ужо самы раскол у „Маладняку“ і ўтварэньне „Узвышша“ зьяўляўся вынікам уплыву нацыянал-дэмократызму. „Узвышша“ ў сваёй большасьці збочыла

на шлях нацыянал-дэмократызму і праводзіла зацятую барацьбу з пролетарскім кіраўніцтвам літаратурнымі організацыямі; Дубоўка гаварыў, што яно, „Узвышша“, „прызнае кіраўніцтва партыі ў магчымым для сябе напрамку“. У сваёй творчасьці Дубоўка выявіў уплыў нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі. Найбольш яскрава яго творчасьць характарызуе наступнае яго запытаньне:

„Ці хаваць пад маскаю аблічча
Ці ў тузе завыць, як воўк у лесе?“

Але ня заўжды шанцавала яму хаваць сапраўднае аблічча. Часта—густа ён паказваў яго такім, якім яно ёсьць. Часта—густа ён выў скажэнным нацыянал-дэмократычным воўкам.

„Так настрашылі мяне за ўхілы,
Пахаджэньнем дробна-буржуазным,
Што бадай зусім ня маю сілы
У радкі паставіць дзень сучасны“.

Але ён ня толькі ня можа паставіць у рытмаваныя радкі нашу савецкую сучаснасьць, але разам ён ставіць заданьне актыўную барацьбу супроць яе:

„Перайначыць, спыніць можа сілы няма,
А плысьці супроць плыні магчыма“.

Здаецца ясна. Калі нельга зваліць савецкую ўладу, дык шкодзіць ёй можна.

М. Лужанін, таксама член „Узвышша“ з поваду дзесяцігодзьдзя БССР выступіў з наступным варожым антысавецкім вершам:

„Кожны дзень прыходзіць расьцьвітаць,
Каб пасьля памерці за гарамі.
Мы ня хочам радасьці вітаць,
Што чужымі дадзена рукамі“.

Пераканаены разам з другімі нац-дэмократамі і нацыянал-фашыстымі, што Беларусь акупавана „маскалямі“, поэт з „Узвышша“ ня хоча вітаць радасьці, завяяванай чужымі рукамі. Не адстаў ад гэтых двух і трэці поэт з „Узвышша“—Пушча, які шмат, шмат патраціў здольнасьці і атраманту, каб апяваць калісь незалежную, а зараз расьпятую на крыжы „вялікамучаніцу“ Беларусь. Члены літаратурнай організацыі „Полымя“—Дудар (Глыбоцкі), Зарэцкі, Жылуновіч (Цішка Гартны)—зьяўляліся галоўнымі носьбітамі ўплыву нацыянал-дэмократычнае ідэолёгіі ў беларускай мастацкай літаратуры.

Досыць успомніць тэатральную дыскусію 1928 году. Тодар Глыбоцкі (Дудар) выступіў у гэтай дыскусіі з тэорыяй самабытнасьці беларускае культуры і з тэорыяй орыентацыі культурнага разьвіцьця на Захад.

Яго цалкам у той час падтрымаў Жылуновіч. Позыцыя Жылуновіча ў гэтай дыскусіі спэцыяльнаю пастановаю партыі кваліфікавалася, як

„адна з форм апоры капіталістычных элемэнтаў нашаму рашучаму наступу на іх тэндэнцыі“. Сам Жылуновіч, прызнаючы і асуджаючы свае нацыянал-опортуністычныя памылкі, а іх было шмат, спэцыяльна пра сваю позыцыю ў тэатральнай дыскусіі гаворыць, што ён стаў на шлях, дзе „нацыянал-дэмократычная затушавала пролетарскую клясавасьць“. Міхась Зарэцкі ў сваім „Падарожжы на новую зямлю“ выступіў апалёгэтам „прышчэпаўшчыны“ (політыка хутарызацыі) і нацыянал-дэмократычнай лініі ў культурным будаўніцтве. А яго роман „Крывічы“ падобен да роману Хвільёвага „Вальдшнэпы“.

Глыбоцкі (Дудар) у сваім апавяданьні „Вецер з Усходу“ даводзіць, што з Масквы ідзе распуста і разлажэньне беларускай нацыі, а ў вершы „Пасеклі наш край“ абвінавачвае бальшавікоў, што яны разьбілі Беларусь на дзьве часьціны.

Зацятую барацьбу з нацыянал-дэмократычнаю ідэолёгіяй у беларускай мастацкай літаратуры праводзіць організацыя пролетарскіх пісьменьнікаў—БелАПП, хаця некаторыя члены гэтае організацыі некаторы час знаходзіліся пад уплывам нацыянал-дэмократызму (Бандарына і інш.).

Выкрыцьцё контррэволюцыйнай дзейнасьці беларускіх нацдэмаў выклікала буру абурэньня рабочых, колгасьнікаў і савецкай інтэлігенцыі. На гэта рэагавалі і такія літаратурныя організацыі, як „Полымя“ і „Узвышша“, якія рэзка выступілі супроць нацыянал-дэмократызму і асудзілі сваю нацдэмократычную ідэолёгію.

„Полымя“ ў рэзолюцыі піша:

„Нацдэмаўская агентура працавала і на пісьменьніцкія організацыі. Не абышлося без контррэволюцыйных вылазак паасобных пісьменьнікаў і ў літаратурнай організацыі „Полымя“. Пра гэтыя яўна нацыянал-дэмократычныя выступленьні сьведчыць яскрава выкрытая партыяй і савецкай грамадзкасьцю контррэволюцыйная сутнасьць „ліста трох пісьменьнікаў“ пра выхад з БДУ, контррэволюцыйны верш Дудара (тады-ж выключанага з „Полымя“) і распачатая Глыбоцкім (Дударом) і падтрыманая Ц. Гартным і Зарэцкім тэатральная дыскусія, яўна нацыянал-дэмократычныя творы М. Зарэцкага—„Падарожжа на новую зямлю“, роман „Крывічы“.

Ц. Гартны прызнаў свае памылкі. Ён праанялізаваў сваю творчасьць, свае публіцыстычныя артыкулы, і перад шырокаю савецкаю грамадзкасьцю заявіў пра іх шкоднасьць. Але організацыя „Полымя“ вымагае ад Зарэцкага яшчэ больш рашучага бяз усякіх хістаньняў прызнаньня сваіх памылак перад рабочай клясай і савецкай грамадзкасьцю. Ц. Гартны і М. Зарэцкі прызналі і прызнаюць зараз, што іх літаратурная продукцыя зьяўлялася зброяй у руках нашага клясавага ворага, ворага савецкай улады і дыктатуры пролетарыяту, яны прызнаюць, што гэтымі сваімі творамі об'ектыўна дапамагалі разгарнуць дзейнасьць і ўмацаваць свае позыцыі беларускаму контррэволюцыйнаму нацыянал-дэмократызму“. (Савецкая Беларус 2-XII-30 г.).

„Узвышша“ ў сваёй рэзолюцыі піша:

„Ён (беларускі нацыянал-дэмократызм) прасяк і ў літаратурнае аб‘яднаньне „Узвышша“. У асобе яго былых лідараў—Бабарэкі, Пушчы, Дубоўкі ды іх маладых пабрацімцаў, ён *намагаўся пашырыць свой уплыў на ўсе аб‘яднаньні і накладаў пэўны адбітак на ўсю работу аб‘яднаньня ў цэлым*, што выявілася ў нізцы нацыянал-дэмократычных і антыпролетарскіх пастаноў, у артыкулах і ў мастацкіх творах вышэйпаданых асоб і тых, на каго яны намагаліся пашырыць свой уплыў“ (там-жэ 4-XII-30 г.).

З такімі рашучымі абмежаваньнямі ад нацыянал-дэмократызму з выкрыцьцём і асуджэньнем свае сувязі з ім выступілі старыя „нашаніўцы“—Купала, Колас, Бядуля.

Высьвятляючы пытаньне пра праявы беларускага нацыянал-дэмократызму ў мастацкай літаратуры, нельга ні ў якім разе ня спыніцца на літаратурным альманаху „Нова Беларусь“ пад рэдакцыяй С. Піліпенка, які ў 1929 годзе выдала ДВУ ў колькасьці 3.000 паасобнікаў, прысьвечаных яднаньню братэрскіх пролетарскіх культур Беларусі і Украіны. У гэтым альманаху пляцформа беларускага нацыянал-дэмократызму знайшла сваё поўнае выяўленьне ў прадмове Міколы Байкова „Навейшая беларуская літаратура“ (стар. 7—45). Разглядам гэтай прадмовы мы зараз і зоймемся. Байкоў у пачатку свае прадмовы піша:

„Калі-б Беларусь ня была савецкай, калі-б тут у значнай яе частцы не перамагла-б работніцкая і *сялянская* (!?!) клясы, беларуская літаратура, ня спыніла-б свайго разьвіцьця, з тэй розьніцай, што гэта разьвіцьцё адбывалася-б у горшых умовах і патрабавалася-б большага часу, чым гэта адбылося цяпер. З другога боку, бязумоўна, разьвіцьцё беларускай літаратуры ў Савецкай Беларусі не магло-б дасягнуць такіх значных посьпехаў, якія вызначыліся зараз, калі-б за часы першай расійскай рэволюцыі для гэтай літаратуры ня былі-б закладзены моцныя падваліны, калі-б ня былі ўзораны гоні літаратурных прастораў“ (стар. 7—8).

Што гэта азначае? А гэта азначае тое, што Кастрычніцкая рэволюцыя нічога новага, рашуча прынцыповага ня ўнесла ва ўмовы разьвіцьця беларускай мастацкай літаратуры, не стварыла ўмоў для новае, *якасна социяльна новае літаратуры*, а толькі паскорыла тэмпы старога культурнага і літаратурнага процэсу, што адбываўся на Беларусі да рэволюцыі. Значыцца, захоўваюцца старыя прынцыпы гэтага процэсу, старыя соцыяльныя дзеючыя сілы, старыя ўстаноўкі, стары зьмест. Размова ідзе толькі пра некаторыя зьмены, пра тэмпы. „Беларусь дасягла-б гэтага і без рэволюцыі, але больш павольнымі тэмпамі. Заходняя Беларусь, прыдушаная фашыцкім ботам, таксама дасягне гэтага, але ня так хутка“—вось якую думку разьвівае Байкоў. Гэта па-першае. У другой частцы прыведзенае цытаты ён сьцьвярджае, што савецкая беларуская літаратура можа працягваць тое, што распачалі да Кастрычніка дробна-

буржуазныя нацыяналістычна-шовіністычныя пісьменьнікі (пэрыод „Нашае Нівы“). Што гэта так, мы ў гэтым ня раз пераканаемся.

Далей гэты Байкоў піша:

„Яна (беларуская літаратура) мае глыбокія этнолёгічныя і гістарычныя карэньні. Гэтыя карэньні ляжаць, па-першае, у нацыянальнай *самабытнасьці* (падкрэсьлена аўтарам), што яе праз цэлую нізку ўмоў экономічнага і соцыяльнага характару ядро беларускай нацыянальнасьці— сялянства захавала аж да астатняга часу“ (стар. 8).

Тут мы маем яскрава выяўленую нацыянал-дэмократычную тэорыю самабытнасьці беларускай нацыі, яе бясклясавасьці, тэорыі сялянства, адзінай недыфэрэнцыраванай клясы, як носьбіта і суб‘екта нацыянальнай беларускай культуры.

У гэтай прадмове Байкоў далей піша:

„Ужо за часы Дунін-Марцынкевіча на Беларусі ўзьнікла цікавае сялянскае паўстаньне пад кіраўніцтвам беларускага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Хоць яно і выбухла адначасова з польскім паўстаньнем 1863 году, але было накіравана як супроць царскае ўлады, так і супроць панскае Польшчы. Лёзунгам паўстанцаў была незалежнасьць Беларусі“ (стар. 9).

Гэта ад пачатку да канца, мягка гаворачы, нацыяналістычная брахня. Каліноўскі аніякае барацьбы супроць польскае шляхты ня вёў, ні за якую незалежнасьць Беларусі не змагаўся, а, наадварот, зьяўляўся ўпаўнаважаным польскага жонду і прадстаўніком варшаўскага цэнтральнага камітэту, Каліноўскі пісаў:

„Мы, што жывем на зямлі польскай, што ядзімо хлеб польскі, мы палякі спакон веку. Хто за „жондам польскім“, таму праўдзіва вольнасьць, хто проціў яго—таму вечная няволя і вечная пакута на тым сьвеце“.

Схэма ў Байкова наступная: пасьлякастрычніцкая беларуская літаратура працягвае лінію „Нашай Нівы“, а гэта астатняя нарадзілася ад народніцтва канца XIX стагодзьдзя, бацькам яго быў Кастусь Каліноўскі, а наогул карэньні савецкай беларускай літаратуры бяруць свой пачатак у калішнім мінулым беларускага народу ў саюзе з Літвою, дзе беларуская мова аж да уніі з Польшчай была мовай дзяржаўнаю і на ёй надрукаваны „Статут Вялікага Княства“ (стар. 10). Адным словам, савецкая беларуская літаратура паходзіць ад фэўдалізму і працягвае яго тэндэнцыі і традыцыі (манах Скарына і інш.). Гэта клясычная схэма культурнага процэсу ў беларускіх нацдэмаў. Але яна яшчэ ня зусім поўная. Яе Байкоў у далейшым працягу дапаўняе наступным чынам:

„На пачатку 1900 году з членаў беларускіх культурных аб‘яднаньняў і соцыялістычных партый (!?!) організуецца „Беларуская рэволюцыйная грамада“, якая высунула гасла змаганьня за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне беларускага народу“ (стар. 16).

Так ідэалізуецца дробна-буржуазная нацыяналістычная організацыя. Пра пэрыод „Нашай Нівы“ Байкоў піша:

„Пэрыод „Нашай Нівы“ адыграў ужо важную ролю ў справе магутнага разьвіцьця беларускай літаратуры. Ясна вызначаны асноўны грунт гэтае літаратуры *соцыяльна-дэмократычны* (падчыркнута аўтарам).

І ўрэшце сваю нацыянал-дэмократычную пабудову Байкоў завяршае наступным чынам:

„ У Савецкай Беларусі спраўдзілася тое, пра што толькі маглі марыць беларускія пісьменьнікі—„нашаўніцы“ (стар. 17).

Здаецца, цяпер усё ясна і зразумела. Пра што марылі гэтыя „нашаўніцы“? Зьвернемся за сьведчаньнем да найвыдатнейшых з іх. Якуб Колас піша:

„Мая літаратурная дзейнасьць, асабліва ў яе першы пэрыод, выходзячы сваімі карэньнямі з часоў „Нашай Нівы“, наскрозь прасякнута дробна-буржуазнымі нацыянал-дэмократычнымі настроямі, таксама значна спрыяла росту і разьвіцьцю беларускага нацыянал-дэмократызму (Савецкая Беларусь—4-XII-30 г.).

Гэта сьведчаньне вядомага „нашаніўца“. Яно разьбягаецца з нацыянал-дэмократычнай установкай Байкова. А вось другі сьведка, ня менш вядомы „нашанівец“ Янка Купала:

„Распачаўшы з 1908 году падчас самае чорнае рэакцыі працаваць у „Нашай Ніве“, я падпаў пад уплыў „нашаніўскага“ дробна-буржуазнага і кулацкага адраджэнцтва, захапіўся гэтымі адраджэнцкімі ідэямі нацыянал-дэмократычнай дзяржаўнасьці і пачаў адбіваць іх у сваёй наступнай творчасьці, апісваючы, як штось цэлае, пазаклясавае, беларускі „народ“, ідэалізуючы ў паасобных сваіх творах гістарычнае мінулае, значыць, фэодальна-панскае, зацямняючы гэтым самым клясавую сутнасьць соцыяльнае і нацыянальнае барацьбы за вызваленьне“ („Зьвязда“ 14-XII-30 г.).

Гэтае сьведчаньне таксама разыходзіцца з тым, аб чым гаворыць Байкоў пра „Нашу Ніву“. І ўрэшце, яшчэ адзіны сьведка са старых нашаўніцаў З. Бядуля. Ён піша:

„Што выяўляла сабою адзетая „шчырымі беларусамі“ ў мантыю „рэволюцыйнасьці“ „Наша Ніва“.

Вось некаторыя факты, вядомыя мне з пэрыоду „Нашай Нівы“ 1912—1915 г. г.: а) на газэту і на друкаваньне беларускіх кніжок давалі грошы панкі і шляхцічы, княжна Радзівіл, уніяцкі мітрапаліт Шэпціцкі ды інш., б) галоўным яе ідэолёгічным кіраўніком быў цяперашні фашыст Антон Луцкевіч; в) „Наша Ніва“ мела каля 600—700 бясплатных дапісчыкаў, значную большасьць якіх складалі ксяндзы, папы, панкі ўрадаўцы, кулакі і студэнты—дзеці кулакоў ды ўрадаўцаў, усе тыя, хто зьбіраў у адзін гурт „увесь беларускі народ“. Працоўныя сялянскія масы ня зналі „Нашай Нівы“, пра рабочых-жа і гаварыць ня прыходзіцца“ („Савецкая Беларусь“ 7-XII-30 г.).

У сьвятле гэтых сьведчаньняў старых, досыць вядомых і аўторытэтных „нашаніўцаў“ нацыянал-дэмократызм Байкова ў высьвятленьні пытаньняў беларускай літаратуры выступае яшчэ больш яскрава. Але пра-

явы нацыянал-дэмократызму ў прадмове да альманаху „Молода Білорусь“ гэтым не абмяжоўваюцца. Гаворачы пра беларускую прэсу за часы польскай і нямецкай окупацыі, гаворачы пра „Звон“ з яго рэдактарам Лёсікам, вагаром нацыянал-дэмократызму, ды „Вольную Беларусь“, ён жаднага слова не гаворыць пра агідную і прадажніцкую ролю гэтых газэт.

Ставячы перад сабою заданьні прыкрыць клясавую барацьбу, яе соцыяльныя карэньні ў беларускай мастацкай літаратуры, Байкоў піша:

„Цяпер, у другое дзесяцігодзьдзе Кастрычніка, можна ўжо гаварыць пра ідэолёгічнае хоць-бы прыблізнае зраўнаньне старых з маладымі“ (стар. 20).

Сапраўдныя-ж факты літаратурна-палітычнага жыцьця Савецкай Беларусі жорстка пярэчаць гэтай нацдэмаўскай думцы.

У „Зьвязьдзе“—ЦО КП(б)Б ад 9-XII-30 г. чытаем:

„Белдзяржвыдавецтва надрукавала сем марксыцкіх кніжок за 10 год свайго існаваньня, але затое шчодра запаўняла наш рынак псэўда-марксыцкай і нацдэмаўскай літаратурай. Такая пролетарская лінія Белдзяржвыдавецтва ажыцьцяўлялася „комуністам Жылуновічам“.

Байкоў-жа піша:

„Дзякуючы энэргіі і напорыстасьці старшыні праўленьня, поэта і пісьменьніка Жылуновіча, гэтае выдавецтва зараз стаіць на адным узроўні з найлепшымі выдавецтвамі СССР [1]).

Такава тэорыя беларускага нацыянал дэмократызму. Гэта цэлы сьветапогляд зоолёгічнага нацыяналізму, напрыклад, у гэтай-жа прадмове знаходзім такую нацыянал-імпэрыялістычную тэорыю, выпрабаваную падваліну нацыяналістычнага цкаваньня яўрэйскай нацыі:

„Як выхадзец з яўрэяў, Бядуля займае асобнае месца ў новай беларускай літаратуры. Рысы псыхічнага складу яўрэйскай нацыі адпаведным способам адбіліся на яго псыхіцы. Адгэтуль — багатая фантазія, ухіл да містыкі, паўднёвы эротычны тэмпэрамант. Адгэтуль закаханьне ў казках містычнымі сюжэтамі“.

Але годзе дыскутаваць з гэтым чорнасоценствам. Ня дзіва, што яго выяўляе нацыянал-дэмократ. Дзіўна тое, што яно друкуецца ў 1929 г. у Савецкай Украіне.

Хто-ж такі гэты самы Байкоў? у 1918 годзе „шчыры“ беларус, у 1920 г. „шчыры“ паляк пры польскай окупацыі, а зараз... зараз піша прадмовы (па загадзе Жылуновіча—увага перакладчыка) да літаратурных альманахаў.

Мы так дасканала спыніліся на гэтым альманаху таму, каб паказаць, у якім выглядзе год таму назад украінскаму чытачу была падана на-

---

[1]) Увага рэдакцыі „Полымя“:

Зборнік „Нова Білорусь“ з прадмовай Байкова быў складзены пад непасрэдным удзелам і кіраўніцтвам З. Жылуновіча.

цыянал-дэмократычная атрута, якая ў 3.000 экзэмпляраў і зараз існуе ў прыродзе. Змагаючыся супроць беларускага нацыянал-дэмократызму— а такую мэту і ставіць гэты артыкул, мы ня можам ня весьці барацьбу супроць ворага, што праскочыў і ва украінскую літаратуру.

Навука беларускага нацыянал-дэмократызму ды яго праявы ў мастацкай літаратуры павінны быць усвоены ўсімі законамі пролетарскай літаратуры Савецкіх рэспублік, каб яшчэ больш згуртаваць для барацьбы супроць гэтага нацыяналістычнага ворага, агента сусьветнага імпэрыялізму.

Навука беларускага нацыянал-дэмократызму мае ня толькі мясцовае беларускае значэньне. Такія ўплывы і праявы нацыянал-дэмократызму ў мастацкай літаратуры, як „і вчэнкіўшчына“ (СВУ), Хвыльявізм „Кзіл-Каням“ (Узбэкістан), „Джадзіця“ (Татарыя) і г. д. вядома ўсім.

Зьнішчэньне і перамога гэтых уплываў—ёсьць канчатковая ўмова заваяваньня гегемоніі пролетарскай літаратуры.

БелАПП у барацьбе з нацыянал-дэмократызмам, з вялікадзяржаўным шовінізмам, паглыбляючы сувязь з пролетарыятам, колгасьнікамі ды працоўным сялянствам, абапіраючыся на дапамогу і падтрыманьне братніх нацыянальных пролетарскіх літаратурных організацый, пад кіраўніцтвам компартыі—хутка ідзе да гэтай гегемоніі.

С.

19-I 1931 г.

## СЫМОН БАРАНАВЫХ

*(Пра аповесьць „Межы“)*.

**Ал. Кучар**

1

Новая аповесьць маладога пісьменьніка, белапаўца тав. Сымона Баранавых цікавая ня толькі тым, што яна адлюстроўвае надзвычайна актуальную і жыцьцёвую тэму сёнешняга дню—колектывізацыю вёскі, але і тым яшчэ, што дае цікавы матэрыял для пастаноўкі пытаньня пра творчы мэтод пролетарскай і сялянскай літаратуры.

Акрамя таго, вялізарнейшы зрух вёскі і паварот у бок соцыялізму—колектывізацыя сельскай гаспадаркі і зьнішчэньне на яе аснове вясковай буржуазіі—кулацтва,—да таго недастаткова яшчэ паказаны ў беларускай пролетарскай і савецкай літаратуры—як з колькаснага, так і якаснага боку што кожны твор больш-менш блізкі да пролетарскае літаратуры—зьяўляецца таксама нашай вялікай перамогай.

Праўда, нельга сказаць, каб гэтая тэма зусім абыходзілася маўчаньнем. Вось нядаўна выпушчана нашым Дзяржвыдавецтвам аповесьць пра колектывізацыю пісьменьніка Кузьмы Чорнага [1]).

Аднак, як я паказваю ў спэцыяльным разглядзе гэтай кніжкі ў часопісі „Маладняк“—гэтая аповесьць, зьяўляючыся лёгічным разьвіцьцём і працягам усяго творчага шляху К. Чорнага, ня толькі не паслужыць на карысьць колектывізацыі, а, наадварот, об'ектыўна актывізуе варожыя нам сілы супраць яе (колектывізацыі).

Менавіта ў гэтых адносінах выгадна адрозьніваецца і вылучаецца аповесьць Сымона Баранавых „Межы“.

Задачы, якія ставіць перад сабой пролетарская літаратура, ідучы па лініі ауладаньня пролетарскім пісьменьнікам у сваёй творчасьці—мэтодам дыялектычнага матэрыялізму. Гэта азначае найбольш поўны ахват рэчаіснасьці, найбольш поўнае адбіцьцё гэтае рэчаіснасьці, паказу гэтае рэчаіснасьці ва ўсіх яе супярэчнасьцях, у перамаганьні гэтых супярэч-

---

[1]) Мы тут не гаворым пра аповесьць пролетарскага пісьменьніка Платона Галавача—„Спалох на загонах“, якая дае нам вёску пэрыяду разгорнутай колектывізацыі. Да яе мы яшчэ вернемся.

насьцяй і станаўленьні новае вышэйшае якасьці ў разьвіцьці гэтае рэчаіснасьці. Гэта значыць, што пролетарская літаратура ставіць перад сабою задачу праз „явления“ісьці ўсё глыбей і глыбей да ахопу „сущности“ зьяў. Яна „видимое, выступающее на поверхности движение сводит к действительному внутреннему движению“.

Пролетарская літаратура змагаецца супроць мэтоду штампоўкі ў паказе нашага сёнешняга дню, супраць мэтодаў лакіроўкі рэчаіснасьці, супраць пустой і гучнай фразы і ружовага туману, якім апаноўваецца паказ рэчаіснасьці і гэтая пустая ды гучная фраза. Гэта значыць, што пролетарская літаратура змагаецца супроць „левых“ ад мастацтва, але адначасова пролетарская літаратура памятае, што галоўнай небясьпекай на даным этапе зьяўляецца правая небясьпека. У адпаведнасьці з гэтым пролетарская літаратура будзе змагацца і змагаецца супраць тэорыі ідэолістычных „непасрэдных уражаньняў“, супраць псыхолёгізму для псыхолёгізму пры паказе людзей, супраць бязьдзейнага самакапаньня ў псыхіцы героя, супраць фізыолёгічнага крытэрыю пры паказе людзкіх узаемаадносін. „Нам нужен не психологизм для психологизма—имеются в нашей литературе и такие тенденции. Нам не нужно истерического самокопания и всего того, что понимается под обывательским термином „достоевщины“. Наш психологизм должен быть об‘ективным, служащим действенному познанию мира и воспитывающим активную целеустремленность“ (Л. Авербах).

Пролетарская літаратура змагаецца за паказ соцыяльна-дзейных змаганчых людзей. Яна змагаецца супраць падмены чалавека як грамадзкай, соцыяльнай істоты—чалавекам фізыолёгічным, біолёгічным.

* * *

Аповесьць Сымона Баранавых „Межы“ ў даволі глыбокім і шырокім аспэкце паказвае, як у забітай, глухой вёсцы Брод, у той вёсцы, дзе:

„Вуліца цёнгле каравая. Ці пагода, ці дождж—усёроўна. Кажуць, што бродаўская зямля такая. Кажуць, што брод на крынічным месцы, таму і гразь цёнгле. Бродаўцы прывыклі да яе ліпкай, густой, вечна ўзьмешанай цяжкімі панарадамі, конскімі капытамі, чарадсю вострых каровіных капытоў, авечых капыцікаў і сьвіных тупазавостраных лычоў“...

У той вёсцы, дзе... „Хаты густа—густа. І так усе будынкі сьплецены пераплецены, склізаны—зьнізаны на адну доўгую тоўстую нізку. Таму і нядзіва, што бродаўскія жанкі, сабраўшыся ў гурт, часамі кажуць:

— У нас у Бродзе, як у вяночку. Жыў-жыў-бы, здаецца і паміраць, не хацелася: ото-ж бок харастве!

Так кажуць—лепш будзе ня бродаўцы, а іх прывычка кажа“.

Дык вось у тэй вёсцы, дзе ўсё пахне дзікай патрыярхальнай закасьцянеласьцю, гразёю і прывычкай скрэпленай гаротным жыцьцём бядняцкай часткі вёскі, імкненьнямі адзінак — дэмобілізаванага чырвона-

армейца Аніся, вясковага актывістага Яўгеня, пачынае тварыцца нешта нявіданае да таго часу ў Бродзе, пачынае організоўвацца сельскагаспадарчая арцель—колгас.

І асноўную ідэю аповесьці С. Баранавых можна характарызаваць, як паказ таго, як асноўныя масы сялянства пайшлі на соцыялістычны шлях разьвіцьця, як перамагае на вёсцы колектывізацыя.

Да адных з асноўных заслуг аповесьці С. Баранавых, ня гледзячы на яе шматлікія спэцыфічныя зрывы і недахопы, адносіцца паказ у вёсцы Брод—асноўная серадняцкая маса сялянства. Паказ гэтае серадняцкае масы ва ўсёй двaістасьці яе „душы“, у муках перамаганьня свае ўласьніцкае сутнасьці—ня шляху да організацыі колгасу. У гэтых адносінах, Сымон Баранавых рашуча адкідае трафарэтныя, па заказу штампаваныя вобразы. Пры тым у паказе сваіх людзей нават старанна захоўвае сваю тэндэнцыю—да супярэчлівага паказу і выяўленьня псыхікі серадняка. Гэтая якасьць хаваецца за вобраз самога чалавека і толькі выяўляецца ў аканчальных паступках якія робіць той ці іншы герой, у ідэёвай і політычнай сьвядомасьці героя, рост якой ідзе, хоць і надзвычайна павольна, ва ўсёй аповесьці.

Процэс павароту асноўнае масы вёскі, серадняцтва, да соцыялізму Сымон Баранавых у мастацкіх вобразах выражае, як глыбокі процэс, які закранае самую сутнасьць селяніна-серадняка, яго ўласнасьць. Селянін настойліва ўзважвае ўсе факты — доказы, якія гавораць за колгас і супраць яго. Серадняк на вёсцы ў паказе Сымона Баранавых сьпярша настойліва хоча вынайсьці ўсе матэрыяльныя довады, якія гавораць супраць колектывізацыі, ён баіцца парушыць закон і звычай, усталяваны вякамі, стагодзьдзямі:

„Мой бацька ня еў з катла і мне не вялеў. Няхай гультаі, абібокі выціраюць халадкі, а я працаваў сам сабе і ты павінен працаваць“.

Калі-ж, у процэсе далейшага ідэёвага росту гэтага серадняка ў ім узьнікае нават слабая нявыразная думка аб тым, што колгас зьяўляецца для яго больш выгаднай формай землякарыстаньня, ён старанна імкнецца супроцьставіць гэтай думцы „рэчавыя“, довады нявыгаднасьці колектывізацыі. Гэтым нібыта ён правярае сам сябе, правярае, наколькі моцна перакакала яго ідэя колектывізацыі. А гэтыя „рэчавыя“ доказы супраць колектывізацыі ў аповесьці „Межы“ селянін Пракоп Бурцелік шукае нават у такім „факце“:

„... Цераз гадзіну напружнай маўклівасьці Пракоп казаў. Стаяў каля стала, глядзеў на гурт выпушчаных з-падпечку курэй і казаў:

— Бачыш, як сьпяшаюцца. Кожная сама сабе. Так і ў колектыву тваім—адзін цераз другога будзе хапаць... каб пад'есьці. А рабіць, як бог даў. Есьці ўсякі зможа“.

Гэты ўрывачак паказвае, што Сымон Баранавых надзвычайна глыбока чуе ўласьніцкую „душу“ селяніна.

Селянін ня хоча верыць на слова, ён жадае конкрэтных фактаў, ён хоча іх бачыць, адчуваць. І Пракоп Бурцелік доўга хадзіў злосным і пакрыўджаным, пакуль не знайшоў гэтага выдатнага параўнаньня, каб, урэшце, дапячы сыну свайму Яўгеню з яго думкамі пра організацыю колгаса. І пад напорэм такіх „бясспрэчных“ фактаў, Яўген пахіснуўся ў сваёй упартасьці. І толькі пасьля адумаўся і няўпэўнена адказаў бацьку:

„Прычым-жа тут тое, што яны сьпяшаюцца,—абазваўся Яўген на астываючы голас бацькі.—Гэта-ж, можна сказаць, птушка, жывёліна. На што ж меркаваць яе неразумную да чалавека?“

Селянін шукае факты, якія-б яму на справе давялі, што колектыўныя формы землякарыстаньня маюць перавагу перад індывідуальнымі.

На агульным сельскім сходзе вёскі Брод, дзе прадстаўнік акругі ўвесь час „глушыць“ фактамі сход і даводзіць, што ў бродаўцаў толькі каля 50 дзесяцін зямлі знаходзіцца пад межамі „некаторыя нават сумняваюцца, ці правільна падлічыў той, што з акругі“.

Праўда на гэтае сход падштурхоўвае кулак Карпусь.

„Што ён чаўпе? Чаго вы разявілі раты? Вароны вы баслаўскія.— Гэта кулак Карпусь.

... І сход адразу скалыхнуўся. Ахнуў цэлым слупам галасоў:

— Няправільна падлічыў!

— Правільна сказаў таварыш-грамадзянін!

— У свой бок сказаў!

— Што ён, па-твойму ў сваю кішэню наказаў?—балда.

— А ты не мацюгайся вельмі!

— Ня будзе ён лушчыць сваіх казалаў замест гарбузоў“.

І гэтае сялянскае серадняцкае нутро ў „Межах“ мы бачым усюды. Больш таго, ад гэтага тыпова-сялянскага серадняцкага нутра з яго недаверлівасьцю, непаддатлівасьцю на слова, з яго настойлівым патрабаваньнем рэальных доказаў-фактаў, з яго імкненьнем да захаваньня свайго ўласнага, з яго імкненьнем ва ўсякай справе ўбачыць тую карысьць, якую яна прыносіць, з яго выключнаю вераю ў гаспадарчую моц,—вось ад гэтага і ў перамаганьні гэтых дробна буржуазных рыс псыхікі селяніна і выходзіць творчасьць пісьменьніка. Але аб гэтым мы яшчэ скажам уперадзе, а зараз прасочым далей за вобразам селяніна серадняка ў „Межах“ Сымона Баранавых.

Цэнтральнай і асноўнай фігурай у аповесьці і зьяўляецца серадняк з раздвоенай „душою“—адна частка якое вядзе яго да новага прогрэсыўнага, а другая—трымае ў палоне старога, уласьніцкага.

Вобразы беднякоў у паказе Сымона Баранавых атрымліваюцца надзвычайна блёклымі, нявыразнымі. Цікава, што нават організатары і кіраўнікі колектывізацыі ў вёсцы Брод зьяўляюцца тыповымі серадняками.

Адзін з іх, Яўгень Бурцелік, чалавек у сваіх дзеях і паступках надзвычайна разьмераны, разважлівы, акуратны і гаспадарлівы. Ён мяккай натуры і вельмі-ж спакойны. У „... сваёй натуры роўны як струна. Ён ня тое, што як у другога злосьць,—непасьпееш запаліць запалку. Ён вельмі-ж з меркаваньнем і ва ўсякай справе“.

„... На губах—невялічкія, тупазавітыя русыя востраканечныя вусікі. Ён іх накручвае, хоць і марудна ўзяць іх кончыкі ў два пальцы“.

„... Любіць Яўгень пpасторную вопратку. У яго,—каб прымеў ён,—кашуля не павінна нідзе датыкацца. Рукавы павінны быць без манкетаў. Каўнер—на штрыфлях“...

У гэтых маленькіх русых вусіках, якія Яўгень хоць і марудна, але накручвае, у гэтым жаданьні адзецца ў самае прасторнае адзеньне, мы выразна адчуваем, што „форма“ Яўгеня адпавядае самай яго сутнасьці, адчувае гаспадарскую моц і ўпэўненасьць.

Яўгень Бурцелік мае серадняцкую гаспадарку. Сам ён хоць інстынктыўна цягнецца да новага, аднак, знаходзіцца ў палоне характэрных серадняцкіх хістаньняў і нават ідэалізацыі старых вясковых *звычак—прывычак*, упітаных вякамі: „... Прывык—зусім другое ў галаву тышчыцца. От што яна значыць... прывычка. У прывычцы яно, чалавек тольк добрае знаходзіць. А дрэннае—губляецца“.

Яўгень на конкрэтных жывых фактах стараецца пераканацца ў праваце Анісся, які яму ўвесь час гаворыць пра колгас.

„Гуртам працаваць ня тое, што аднаму пэцкацца, марудзіць. Гуртам і ў кашы спорна. Што гутарыць: калі-б горай яно, не марочылі-б людзям галаў. Людзі ёсьць больш разумнейшыя за нас. Не казалі-б у газэтах-бы, яно, ня пісалі-б... Ім-жа, як той казаў усёроўна“.

Яўгень ёсьць адзін з арганізатараў у вёсцы Брод, і ў сваім старэйшым кіраўніку па арганізацыі колгасу ў Анісся ён таксама найбольш паважае яго гаспадарлівасьць і розум.

„— Хоць хітры, да разумнага і не тасуецца, кажа мой бацька, але-ж... ён і розум, як сабе ні было-б, мае. З нічога, а паглядзі ты, як абжыўся. Адзін з жонкаю, дзеці як боб, а і ў заработках і дома... спраўляецца. Зямлі як старой бабе сесьці“... Яўгень моцна верыць Анісю менавіта таму, што ён, па-першае, чалавек-гаспадар і на ўзьвей вецер словы пусі каць ня будзе.

Аднак, у аповесьці мы ўвесь час бачым у вобразе Яўгеня хоць і паступовае, але ўпэўненае перамагаеньне старога ўласьніцкага і станаўленьня новага чалавека.

У астатніх-жа сялянах моцна яшчэ жывуць уласьніцкія тэндэнцыі і большая частка вёскі пайшла ў колгас менавіта таму, што на чале колектывізацыі стаяць людзі гасподарныя—серадзякі.

Тут мы якраз і бачым адну з слабасьцяй аповесьці Сымона Баранавых „Межы“.

Гэтая слабасьць менавіта ў тым, што пісьменьнік ня змог паказаць кіруючую ролю беднаты ў арганізацыі колгасу. Ня змог паказаць, якая частка сялянства, якая ў сілу свайго экономічнага становішча ня можа мець „добрай гаспадаркі“, як яна павяла за сабой асноўныя масы сялянства ў колгасы.

Зразумела, што сам аўтар у сілу соцыяльнай прыроды свае творчасьці зрабіў галоўны упор у паказе, як перамагае колектывізацыя на гаспадарскую ўстойлівасьць тых, хто кіруе гэтай колектывізацыяй. Селянін у Баранавых верыць толькі „гаспадару“, а не „галетніку“.

І вось Анісь сваім аўторытэтам *добрага гаспадара* і на конкрэтных і жывых прыкладах—фактах пераконвае серадняцкую частку вёскі Брод у перавагах колгасу перад індывідуальнай гаспадаркай.

Сымон Баранавых паказвае як процэс станаўленьня ў селяніне колектывістычнай псыхолёгіі і ідэёвы рост гэтага селяніна ідзе надзвычайна глыбока праз перамаганьне самой сутнасьці гэтага селяніна-серадняка яго ўласьніцкае абмежаванасьці. Пісьменьнік думку аб тым, што масы серадняцтва пайшлі ў колгасы, уцелясьніў у вобразы сераднякоў, якія пасьля недавер'я і сумненьняў шчыра пераконваюцца нарэшце, што адзіны іх шлях—гэта колгас.

Анісь, прыкладаючы ўсе свае сілы і нязначныя веды, якія ён набыў у Чырвонай арміі, вядзе за сабой сялянства. А сам, гэты яшчэ надзвычайна слабы організатар колгасу, у імкненьні як мага выразьней давесьці сваім аднасяльчанам думку на агульным сходзе, кажа наступнае:

„— Былі некалі панскія маёнткі,—колькі яны давалі хлеба? Якія былі ўраджаі на гэтых землях? Па колькі статку трымалі. „...Нязьлічоны прыбытак быў—цёк—у кішэню нашых „вільможных“. А таму, што разам усё было яно... Дык чаму-ж не далучыцца, як той казаў, адзін да аднаго?

„... Калі тады, паче мой, як той казаў, у кішэню пана ішло ўсё эканомленае, дык чаму-ж яго, гэтага экономленага, не зьмеркаваць на ўвесь на наш гурт, на хаўрус?“.

Як бачыць чытач, агітатар надзвычайна слабы. Анісь нават ня бачыць якаснай розьніцы паміж колектыўнай гаспадаркай памешчыка, якая трымаецца на эксплёатацыйнай працы і колектыўнай соцыялістычнай гаспадаркі...

... Але гэта ён шукае найбольш блізкія і зразумелыя селяніну прыклады.

Анісь даводзіў:

„— Гуртам і палец прылажыўшы зрушыш сто пудоў“.

„— Адзін што капля ў моры“—сказаў ён.

А калі на сяле яго ўсё-ж не зразумелі, ён так тлумачыў:

„... На сям'і пчол даказваў:

„—Паглядзеце, як дружна, ахвотна працуюць,—казаў,—паглядзеце, колькі астачы ад іх сумеснай працы, і яны, гэтыя, маленькія стварэньні... а вы-ж ткі—людзі...“

Ї вось навокала Анїся і Яўгеня пачынае разгортвацца змаганьне за організацыю колгаса.

Змаганьне гэтае, як мы ўжо казалі, праходзіць, па-першае, у перамаганьні серадняцкіх мас вёскі—свае ўласьніцкае дробна-буржуазнае сутнасьці, у процэсе пераробкі старых людзей, у росьце новых і, па-другое у змаганьні супроць кулацкае часткі вёскі Брод, якая імкнецца перашкодзіць справе колектывізацыі.

Цяжка было Анісю зрушыць з месца. Але ўпарта ён настойваў на сваім.

„— Ты каторы, кожны адзін,—казаў Анісь,—павінен мець плуг, барану, каня, атосу, аглоблю...“

Ї, нарэшце, вёска пачала гаварыць і паволі паддавацца Анісіваму ўплыву.

Пачалі разважаць:

„— У самдзеле:—каб узяў, як кажа гэты Анісь, запісаўся, далучыўся адзін да другога?

„— Усё-ж ткі чалавек дзе кольвек пабываў, выцерся. Бач што, ня тое што—шалду-балду“.

Тут вось і пачынаецца самы складаны процэс, які адбываецца ў сялянскай „душы“, калі ён нясьмела пачынае ірваць путы, якія моцна зьвязваюць яго з мінулым, процэс паступовага, нерашучага пасоўваньня наперад.

„Плячысты Васіль, цёнгле ходзячы босы“—пачынае:

„— Адважыцца трудна. Нашаму брату дай. Дай, каб ён табе рукамі адмацаў, вачыма каб агледзеў. Ї то—ён знойдзе табе прычыну. Прывычка нашага брата, па-маему, заразае. Ён калі ўляпіць у што, дык як...“

А „Лявон Махавік, чалавек найсправядлівы ў Бродзе, чалавек, якому кожны бродавец пазычыць абы што, бо аддасьць Лявон точ-уточ“... кажа

„— Ото-ж-бок-то! Ты, Васіль, ета, не памыліўся. Мне ета, здаецца як, ета, я маю тую бацькаўскую зямельку злучу з ета нейчаю, чужою? Мне, ета, думаецца,—грэх, ета нават. Ты, ета, ведаеш, што, ета, мая тая палоска, мая тая мяжа. Дык як успамянеш—як-жа, ета, тады нават і сьледу не застанецца—ня знойдзеш, ня ўбачыш сваёй роднай зямелькі“

Тут мы бачым сумненьні, якія зьвязаны з уласьніцкімі інстынктамі селяніна. Гэтыя тыпова-серадняцкія рысы надзвычайна глыбока паданы на агульным сходзе ў Анісявай хаце нашчот калектыву. Выступае зноў-жа той Лявон Махавік, аб якім мы казалі вышэй.

Яго мучае цэлы ворах незразумелых яму парадкаў, якія будуць у колгасе.

Ён зусім ня супраць колгасу. Ён толькі хоча канчаткова ўпэўніцца ў тым, што гэта ўсё робіцца і ў *асабіста яго інтарэсах.*

„— Скажам мне трэ‘ куды паехаць, а мой конь у плузе: Васіль ці каторы другі арэ ім, альбо скародзіць... альбо нават, нашто тут ета доўга: *Мая* унь цяперака ‘ччэ кросна, дык, як-жа яно тады будзе...“

Калі яму Анісь надзвычайна падрабязна растлумачвае гэта, ён зноў знаходзіць сумненьні і пытаньні.

Селяніну важны нават ня сам факт налічча такога конфлікту паміж колгасам і ім, яму важна, каб на гэтае быў дадзены поўны і правільны адказ, каб яго ня мучылі сумненьні.

„— Мне мо' нават і ня прыдзецца ехаць, мне ета карціць толькі як-жа яно будзе?“

І калі, нарэшце, у колгас пачалі запісвацца і першая запісалася найбяднейшая на сяле—Матруна, той-жа Лявон зноў ня сьцерпіў, уласьніцкае пачуцьцё пачало браць верх:

— Пачакай Анісь,—раптам абарваў Лявон шум і галасы,—пачакай.

— Чаго пачакаць?

— А ты ета скажы...

— Што?

— А як з гаспадаркаю ета будзе?

— Аб чым, што з гаспадаркаю?

— А калі ў мяне большая ета як у цябе, як да гавэнды, у Матруны, у Захары...“

— Дык добры ета рахунак: Матруна будзе жыць і я буду жыць... нараўне. Дык якая-ж мне ад етага *выйгранка?*“ (падкрэсьлена мною. *А. К*).

Але адказ Аніся задаволіў Лявона:

— Гаспадарка паем будзе. Твой, Лявон, пай большым будзе“.

Калі адбываецца ўжо канчатковая перамерка зямлі, калі справа даходзіць што называецца да самага пачатку, зноў загаварыла ўласьніцкая душа Лявона, зноў пахіснуўся ён у сваёй упартасьці і веры ў колгас, зноў загаварыла ў ім уласьніцкая кроў.

— А мо-ж я не захачу, ета,—трэ' было-б усё-ж чакаць, ета! Так борзда ўсё творыцца... Каб чаго ета ня змыліцца...

— А дзядзьку трэ-б мець—жыць сваім розумам,—казаў Арцём—а ня чужым. Запісаўся, дзядзька. Запісаўся. Ну дык і няма там чаго рыпацца... па дзесяць разоў, няма чакаць чаго“.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— *Я-ж, ета, кажу толькі,—ага. Я-ж не мяняю, ета, сваю мысьлю...*“ (Падкрэсьлена мною. *А. К.*).

І ў гэтым „Я-ж не мяняю сваю мысьлю“—мы выразна адчуваем, што Лявон Махавік зноў адчуў слабасьць у сваёй ранейшай упэўненасьці. Мы выразна адчуваем, што самы зьмест слоў, які нібы-та запэўнівае, у тым, што Лявон сваей ранейшай думкі аб колгасе не мяняе—выражае зусім адваротнае, што Лявон Махавік пахіснуўся ў сваёй веры ў колгас, калі справа дайшла да абагульненьня самага дарагога, калі справа дайшла да „экспропрыяцыі“, так званых, праў на ўласнасьць.

Вось тут сапраўды жыве і бытуе псыхіка і душа селяніна і серадняка.

## 3

У аповесьці „Межы“ паказана актывізацыя варожых сіл супроць арганізацыі колгасу ў вёсцы Брод.

Супраць колгасу змагаецца кулацкая частка вёскі.

І гэтая групоўка на вёсцы, у паказе С. Баранавых ня носіць звычайных, штампаваных рыс і адзнак кулака. Гэта людзі паданыя глыбока ва ўсёй іх псыхічнай складанасьці. Яны дзейнічаюць „из нутри“.

Баранавых паказвае кулакоў, але ўхіляецца ад таго, каб называць іх сваімі імёнамі. Так, ён амаль усюды замест слова кулак ужывае слова— „багацей“ або „заможнік“. Акрамя таго, у большасьці, у аповесьці—кулакі ня выпуклены як выразная, моцна-арганізаваная клясавая групоўка, якая супрацьстаўляе сябе і змагаецца з бядняцтвам і серадняцтвам, што ідуць у колгас.

Інакш кажучы, не праведзена яскравая якасная розьніца паміж кулакамі і сераднякамі, як паміж двума варожымі сіламі, адна з якой—серадняцтва пад кіраўніцвам компартыі ў саюзе з бедняком ідзе да сацыялізму.

Але ў аповесьці змаганьне кулацтва супраць колгасу прарываецца стыхійна.

З кулакоў вескі Брод найбольшай актыўнасьцю вызначаецца Карпусь, яму дапамагаюць Аўлас, Ярэма ды яшчэ Пракоп бацька Яўгеня, які паступова адшчэпліваецца ад агульнай серадняцкай масы, паддаецца ўплыву кулацтва і ідзе на дапамогу кулацтву ў змаганьні супраць колгасу.

Ужо на першым сходзе ў Міхалкавай хаце Карпусь імкнецца „з‘агітаваць“ жанок выступіць супраць організацыі колгасу.

Цікава, што ў сваёй „пропагандыцкай“ рабоце Карпусь добра ведае, дзе знаходзіцца самае балючае месца селяніна—гэта ўласнасьць.

На сходзе ў Міхалкавай хаце жанкам ён тлумачыць:

„—...Ты, каторая ня будзеш мець права *над сваёю чапялою, над вілкамі.* (Падрэсьлена мною. *А. К.*).

„— Тады ўсё будзе жыць на гадзінах. Дождж табе, ці якая слота— рабі свае гадзіны. Камандзірам то што—ня цяжка ім закілзаўшы смаргаць за лейцы...“

Паказальна ў аповесьці і тое, што за гэтую ўласнасьць, за гаспадарлівасьць, у паказе Сымона Баранавых, моцна трымаюцца ня толькі кулакі, якія змагаюцца супраць колгасу, а і сераднякі, якія, верачы толькі гэтай гаспадарлівай устойлівасьці іх кіраўнікоў па колектывізацыі,—ідуць у колгас.

Часткова ўжо мы гэтае паказвалі. Можна прывесьці яшчэ адзін прыклад.

Серадняк Мацей, які ўвесь час хістаецца паміж колгасам і індывідуальнай гаспадаркай, у організатара колгаса Аніса верыць таму, што

„— Дакажа... Дакажуць далібох. Трапяткі Аніс і ліпкі... як смала тая. Калі прыстане, прычэпіцца да чаго—не адкарабкаецца, пакуль не паставіць на сваём ..“

Такім чынам мы бачым, што С. Баранавых ня можа яскрава супрацьставіць серадняка, які ідзе ў колгас кулаку. У моманце адносін да ўласнасьці, да гаспадарлівасьці кулак і серадняк нібыта стаяць на аднолькавых позыцыях. І тыя і тыя ідэалізуюць гаспадарлівую ўстойлівасьць.

Але з другога боку, у творы мы яскрава бачым, што кулакі выкарыстоўваюць гэтыя моманты, веры ў гаспадарлівасьць, сярод сераднякоў, для сваіх мэт.

Такім чынам іграючы на гаспадарскіх пачуцьцях Пракопа, які ўжо разам са сваім старэйшым сынам комуністым Гілярам пайшоў у колгас, і перацягваюць на свой бок Пракопа кулакі.

„— Маладзец!—гледзячы атрутнымі вачыма ў Пракопавы заінеўшыя сівізнаю вочы, казаў з зацятаю злосьцю Карпусь.—Маладзец: дастукаўся торбы“.

Ён усё доўга і саркастычна сьмяецца з Пракопа: „застаўся голым як бізун і пазірай:—Чакай з сыновых рук“.

І далей:

„— Ну дык хто-ж ты цяпер, хто?—Пастух—а?—Парабак—а? старцам зрабілі цябе, вось што мой сівы, мой папугай-голуб“.

Гэтае, дзе Карпусь закранае самае дарагое для Пракопа, яго права на ўласнасьць—падзейнічала, узяло.

Пракоп кажа:

„— Я здрэйфіў... жаль апанаваў, гэнам. Убачыў сына. Усё-ж такі сын...“

У аповесьці кулакі супроць колгасу ў дзеяньні выступаюць рэдка. Толькі Карпусь абляпаў гразёю сьпіс „калякціўшчыкаў“, які быў вывешаны на Анісевым шуле, і то гэтае фактычна было не нападам, а помстай пакрыўджанага, бо:

„Белым кляймом, вісіць папера на Мікалевым шуле... на Арцёмавым... Ён ідзе—і папера ідзе. Яшчэ ідзе—і яна...“

Іншыя-ж разы мары кулакоў далей за гаворку ня ідуць і толькі ў канцы аповесьці была спроба гэтых кулакоў папсаваць трактар.

Наогул, кулацкую групоўку С. Баранавых ня змог паставіць ва ўсёй яе велічы супроць колектывізацыі,—праз дзейнае змаганьне.

У гэтым таксама адна з слабых бакоў аповесьці „Межы“.

Аднак, нямінучую пагібель кулацтва, яго прадсьмертную агонію мы ўжо выразна адчуваем тады, калі адбываецца абрэзка кулацкай зямлі ад колгас.

Калі Карпусь пайшоў туды, дзе абразаюць зямлю:

„... Цьвёрдым, раўнаважным крокам. Ззаду чуў у сябе ізноў і ізноў новы ўзрыў *бяспрытомнага* сьмеху і—прыбавіў свой крок. А потым *пабег спатыкаючыся цераз межы*“. (Падкрэсьлена мною. *А. К.*).

У аповесьці „Межы“—галоўным чынам усе падзеі і барацьба адбываюцца навокал аднаго сьцержня—навокал організацыі колгасу. І змаганьне кулацтва супроць колгасу, і перамаганьне ў душы селяніна-серад-

няка сваё ўласьніцкае сутнасьці, і організацыя комсамольскай ячэйкі— усё гэтае пісьменьнікам пастаўлена на соцыяльны грунт і мае зусім пэўнае тлумачэньне ў соцыяльнай прыродзе таго пласту сялянства, як малюецца ў аповесьці.

Гэтай соцыяльнай прыродзэй абумоўлены хістаньні селяніна паміж індывідуальнай і колектыўнай гаспадаркай, зразумела, што адпаведна змаганьню клясавых, соцыяльных сіл навокал колгасу павінны былі-б ісьці і бытавыя адносіны паміж людзьмі ў аповесьці.

Аднак у бытавых узаемаадносінах Макрыны са сваім сьвёкрам, якія пабудаваны на чыста фізыолёгічнай аснове, мы бачым нешта адваротнае. Мы маем тое, што бытавыя адносіны ствараюць нейкую сваю асобную сфэру, нязьвязаную з соцыяльна-грамадзкай дзейнасьцю людзей у аповесьці.

У сваіх клясавых сымпатыях Макрына цалкам стаіць на баку свайго мужыка Яўгеня і колектывізатараў.

„Я нават рада! ахвота большая падшыхае"—кажа яна аб колгасе. Яна рада таму, што работа будзе лягчэйшая трактарам, яна рада, што ў вёсцы організавалася комсамольская ячэйка, але вось другая сфэра, сфэра фізыолёгіі, якая пераплятаецца з глубока-псыхолёгічнымі падсьвядомымі момантамі (Макрына сама часамі ня можа зразумець гэтых момантаў)—цягнуць яе да праціўніка ўсіх гэтых яе ідэалаў да старога, да сьвёкара, да Пракопа.

„... Але перапыняе Макрыніну думку другая выразнасьць, і яна як бачыць яе, як перад самымі вачыма сваімі:

„Калашаманогі стары. Як стаіць на нагах—моцна стаіць. Упэўнена, вольна... Сьмела. З нейкай сілаю, што як магнэз.

„Тады, каб заглушыць каб ня чуць свайго нутранога голасу, яна слухае.

„Змагаючыся з багацеямі, ствараючы моцную змычку з серадняками, партыя мае сваёй асноўнай апорай беднату"...

Але ізноў гэтую прамову організатара комсамольскай ячэйкі перапыняе старое:

„ — Дзе ён цяпер, пра што ён думае цяпер... Стары".

І далей:

„Бачыла Макрына гэты натоўп і шукала ў ём...

Спатайка сваімі запаленымі вачыма шукала старога і не знаходзіла, ня ведала дзе"...

Такім чынам мы бачым, што тут складаныя ўзаемаадносіны Макрыны з старым маюць пад сабой толькі фізыолёгічны грунт. Бо гэтыя імкненьні і фізыолёгічныя ўзаемаадносіны ня маюць у паказе Баранавых ніякага дачыненьня да клясавага змаганьня навокал організацыі колгасу. У С. Баранавых тут разрыў паміж фізыолёгічнымі „сымпатыямі" і соцыяльнымі—зусім наяўны.

Сымон Баранавых у сваёй творчай вучобе перацерпевае ўплывы Кузьмы Чорнага, нават у самай тэхніцы, у прыёмах гэтае, адчуваецца.

Творчыя асновы К. Чорнага, асновы „естественно—научного“ матэрыялізму, дзе пастулкі дзеі, і імкненьне чалавека вытлумачваюцца з фізыолёгічнай арганізацыі чалавека, а ня клясавай,—мелі свой хоць і нязначны ўплыў на творчасьць С. Баранавых.

Гэтае і выявілася ў тых складаных узаемаадносінах паміж Макрынай і Пракопам, якія грунтуюцца выключна на фізыолёгічнай аснове, вельмі часта з прыфарбоўкай паглыбленага псыхолёгізму і адарваныя ад соцыяльнай дзейнасьці і соцыяльных сымпатый гэтых людзей.

Гэтае ёсьць па сутнасьці груба натуралістычныя ўплывы на творчасьць С. Баранавых.

Паўтараем, гэтыя ўплывы цяпер нязначныя, аднак, яны тояць у сябе надзвычайна хваравітыя сымптомы, якія могуць прывесьці да змазваньня клясавай барацьбы на вёсцы, да прымірэньня клясавага антаганізму пад прыкрыцьцем гіпэртрофэі фізыолёгізму, шляхам падмены клясавых адносін,—фізыолёгічнымі адносінамі.

Для пролетарскай і сялянскай літаратуры па сутнасьці гэта небясьпека правага парадку.

4

З усяе аповесьці „Межы“, з усіх складаных узаемаадносін пэрсонажу і клясавых сіл—вынікае асноўная ідэя, што серадняк на вёсцы, асноўныя масы сялянства, праз шматлікія хістаньні, нарэшце, павярнулі і калі так можна сказаць, сваім, асаблівым шляхам пайшлі ў бок соцыялізму.

Ідэя зусім дастойная служыць выражэньнем у пролетарскага пісьменьніка.

Аднак, ці можам мы Баранавых лічыць пролетарскім пісьменьнікам? Вось у гэтым і спрабуем разабрацца.

Дробна-буржуазная сутнасьць самога пісьменьніка, ад якой адштырхваецца і разьвіваецца творчасьць С. Баранавых, прывялі да таго, што пісьменьнік вядзе масы сялянства ў колгасы асаблівым шляхам.

Мы ўжо казалі, што серадняцтва, якое ідзе ў колгас, у паказе С. Баранавых, бачыць у ім пярш-на-перш павялічэньне свае гаспадарскае моцнасьці, што сваім кіраўніком па колектывізацыі яно верыць толькі таму, што гэтыя кіраўнікі зьяўляюцца ўстойлівымі гаспадарамі.

Мы ўжо казалі пра тое, што кіраўніцтва колектывізацыі ў вёсцы Брод пісьменьнік аддаў у рукі серадняцкае часткі вёскі. Вобразы беднякоў у аповесьці наогул дужа блёклыя і заняць кіруючую ролю ў організацыі колгасу ў паказе Баранавых яны ня могуць.

Трэба яшчэ дадаць, што ў аповесьці зусім не паказана кіраўніцтва колектывізацыяй ні партыйнай, ні комсамольскай ячэйкай, ні рабочых гораду.

Праўда, сяляне нібыта аб комсамольскай ячэйцы і добра адгукаюцца, яна нават організуецца ў вёсцы Брод, але якое-небудзь кіруючае ролі ў колектывізацыі не займае. (Пры тым у аповесьці гэта найбольш схематычны і слабы эпізод).

Маецца нават у Бродзе адзін член партыі—гэта Гіляр Пракопаў, але ён прыяжджае ў Брод толькі тады, калі справа з організацыяй колгасу ўжо наладжана.

Бязумоўна, ужо гэтыя зрывы не дазваляюць нам лічыць С. Баранавых пролетарскім пісьменьнікам.

Сымон Баранавых—сялянскі пісьменьнік.

Ён не глядзіць на сялянства зьверху ўніз, як гэта надзвычайна ўласьціва многім „интеллигентствующим"—дробна-буржуазным пісьменьнікам, якія пішуць пра вёску, ён ня кідаецца ў *выключныя глыбіні* сялянскай псыхікі, ён бярэць сяляніна „из нутри", ідзець разам з ім, яго ідэалы ў пэўнай меры—ёсьць ідэал гэтага селяніна, зразумела, што ён прадстаўляе перадавую частку гэтага сялянства, таго сялянства, якое, перамагаючы ў сябе ўласьніцкае нутро, ідзе ў авангардзе асноўных мас сялянства на соцыялістычны шлях.

Так як асноўныя масы сялянства, якія змагаюцца пад кіраўніцтвам пролетарыяту, ідуць да пролетарыяту, так і сялянскі пісьменьнік Сымон Баранавых ідзе і набліжаецца да пралетарскай літаратуры. Ідзе сваім, асаблівым шляхам.

Творчасьць С. Баранавых, бязумоўна, адпавядае запатрабаваньням, якія мы прад'яўляем сялянскаму пісьменьніку, бо:

„Толькі той пісьменьнік зьяўляецца сапраўды сялянскім пісьменьнікам, які сапраўды абараняе інтарэсы пролетарскага і бядняцкага пластоў вёскі, які ўмее адрозьніваць сярод розных, часткова супярэчлівых інтарэсаў сярэдняга сялянства, яго асноўныя, рашаючыя інтарэсы, якія зьвязваюць яго (серадняка) з соцыялістычным пролетарыятам, які, змагаючыся супроць кулацка-капіталістычнай і дробна-буржуазнай ідэолёгіі, ідзе да пролетарскай ідэолёгіі". (З рэзолюцыі Першага Ўсесаюзнага зьезду Сялянскіх Пісьменьнікаў).

Творчасьць С. Баранавых як сялянскага пісьменьніка паказальна менавіта ў тых адносінах, што яна выражае шлях пісьменьніка ў дынаміцы, у разьвіцьці ад сялянскае дробна-буржуазнае псыхікі і ў набліжэньні да ідэолёгіі соцыялістычнага пролетарыяту. Тое, што пісьменьнік, ня гледзячы на агульную правільную ідэёвую накіраванасьць па шляху да пролетарыяту, нясе яшчэ з сабой рысы старога сялянскага, уласьніцкага, яскрава паказвае, што і ён не парваў яшчэ канчаткова з мінулым і што гэтае мінулае—старое, часткова трымае яго ў сваім палоне, не дазваляе пакуль што канчаткова зьліцца з соцыялістычным пролетарыятам.

Паказваючы колектыўную гаспадарку, праз якую якраз серадняк і зьвязваецца з соцыялістычным пролетарыятам, Сымон Баранавых у пер-

шую чаргу бачыць у гэтай колектыўнай гаспадарцы „абагашчэньне“ селяніна, яго матэрыяльны дабрабыт.

(Вось што кажа Бродаўскі каваль Атрахім пра комуну, у якой ён пабываў:

„Дык каб бачылі, як дружна ў іх: усёроўна, як адна, *тая самая гаспадарка*, казаў мне тамашні чалавек. (Падкрэсьлена мою. *А. К.*).

„—Пане мой і быдла тое і коні—як ліны, казаў. Насеялі ў адным полі канюшыны—дзятліку і распасваюць сабе“)

ня бачачы тых шырокіх пэрспэктыў колектыўнай гаспадаркі, якая вядзе сялянства да соцыялізму.

Нездарма ў кіраўніцтве колектывізацыяй у вёсцы Брод пісьменьнік зрабіў упор на гаспадарлівую ўстойлівасьць кіраўнікоў яе, не здарма ў аповесьці ўвесь час людзі расцэньваюцца з пункту погляду іх гаспадарскай моцнасьці.

„—Тож-та! Даўней, гэта, пойдзеш у воласьць, а там—адзін старшыня з пісарам. Двох, а ўсёю воласьцю правяць.

„... Ведама, пане мой, выбран чалавек, *гаспадар*, быў. Ня тое, што бясхлебнік які, а *гаспадар*. Калі што якое, калі-б прышлося і спракудзіўся—ён гаспадаркаю сваёю мог выручыцца“ (падкрэсьлена мною. *А. К.*). Гэта гаворыць Пракоп, але сымпатыі аўтара да гаспадарскасьці, яго сялянская абмежаванасьць, непаваротлівасьць, акуратнасьць, умеранасьць, пэўны сялянскі „лібэралізм“—можна прасачыць усюды, і нават на больш дробных элемэнтах твору, аж да мовы, да стылістыкі.

Серадняцкая акуратнасьць, павольнасьць, ды непаваротлівасьць сказалася і на самым разьвіцьці композыцыі аповесьці. Тут пануе надзвычайная павольнасьць, адсутнасьць дынамічнасьці. У апісаньнях вялізарная дэталізацыя, якая даходзіць аж да дробязяй.

Цікавым зьяўляецца і тое, што ў „Межах“ пераважае дыалёг, а між іншым агулам увесь твор надзвычайна статычны. Агульны пульс разьвіцьця аповесьці надзвычайна ціхі. Ні рэзкіх контрастаў, ні рэзкіх супрацьстаўленьняў у асобных эпізодах,—амаль на працягу ўсёй аповесьці ідуць павольныя разважаньні Бродаўцаў.

Прыпомніце ў аповесьці першы малюнак, дзе Пракоп шукае нітэркі, з якой падрабязнасьцю апісваецца, як Пракоп „лавіў гвазды па адным за іх тонкія дрынгалястыя сьпіны сваімі каструбаватымі, назграбнымі пальцамі“. Альбо, калі аўтар пачынае падрабязна пералічваць кладкі, якія ляжаць на гразкай вуліцы Броду. Нават даходзіў да таго, што амаль не пералічае кожную дзірку ў рашатні з азяроду, што паложана замест кладкі на вуліцы: „ ... Азяродная рашэціна... Па ёй вельмі добра ісьці: яна гладкая, абчасаная некалі. Толькі часам можна зачапіцца нагою, можна чуць спыткнуцца“.

Тут мы выразна адчуваем клапатлівага, дбайнага гаспадара, які падлічае і ўлічвае кожную дробязь, які нічога ня выпусьціць са свае ўвагі. Такая-ж часта прымітыўная сялянская дэталізацыя ў малюнку, калі аўтар па-

ясьняе, што азначае, што Пракоп меў рубель пра ўсякае здарэньне: „Канешна, калі Пракоп казаў „рубель“, гэта ня значыць, што іменна рубель, капейка ў капейку. Чырванец, другі мог быць у Пракопа. Сотня рублёў магла быць“...

Цікавым момантам сялянскага гаспадарлівага рацыяналізму зьяўляюцца развагі Пракопа аб жонцы Яўгеня:

„А яна—працавітая дзяўчына. А гэта—галоўнае. Гультая возьмеш—ні табе спакою, ні табе адхланьня ня будзе. А яна, калі што якое,—за плугам зможа пайсьці, за касою“.

У паказе С. Баранавых і з пункту погляду гэтае сялянскае мэтазгоднасьці ўся вёска Брод выходзіць, калі выбірае члены сельсавета. Не глядзяць на працаздольнасьць, ці грамадзкую актыўнасьць.

„Так што кожны няхай папабегвае“.

„— На пабягушкі ніякага сумненьня такоўскага не патрэбна“ і намагаюцца выбраць найбольш вольнага ў гаспадарцы чалавека: „Адзін па дзесяць разоў будзе служыць, а другі будзе хадзіць пазакладаўшы ў кішэню рукі, як якісь асэсар“.

Гэты сялянскі рацыяналізм, сялянская мэтазгоднасьць адчуваецца ўсюды. Калі Яўгень чуе сьпевы птушак і майскіх жукоў вясной, дык і то ў яго ўсплывае думка, што было-б куды больш мэтазгодна, каб замест гэтага птушкі, жукі хоць што-небудзь ды рабілі:

„Каб, здаецца, рабілі яны аснову, каб пакідалі за сваім лётам маленькую хоць найцянюткую павуціну, зблыталі-б... збэрсаным быў-бы ўвесь сьвет дашчэнту“.

Гаспадаркасьць і моц выражаецца і ў гэтым „портрэце“ Пракопа.

„Стоячы ад парога на тры крокі, шырока роўнамерна расставіўшы свае ногі—нібы зьбіраючыся штосьці цяжкае падпіраць, якое во-во павінна было рушыцца“...

А якая павольнасьць, якая бесклапотная ўпэўненасьць чуецца ў гэтых радкох:

„...Узяўшы свой нос у два пальцы, папнуўшыся і ўзмахнуўшы рукою, а потым патрымаўшыся за штаны гэтымі самымі пальцамі, нібы памацаўшы іх засмугеленую якасьць, Яўгень казаў...“

У эпізодзе, дзе Яўгень з Пракопам дзеляць гаспадарку, найбольш поўна паказаны гаспадарскія інтарэсы селяніна Пракопа:

„— Мне гэты маленькі пабелены чыгунчык, гэнам... а ты бяры вялікі аплятаны гаршчок. Ён вельмі вытлушчаны і вельмі добра абваран. Аплецен—як камень, вечны.

„— Я вазьму дзежачку:—на мяне аднаго. А табе—вялікая дзяжа.

— „Вазьмі сабе складаны нож з касьцянымі тронкамі, а мне будзе дубоваю калодачкаю, што Атрахім надоечы зрабіў“.

Гэтае-ж мы бачым у лісьце Пракопа да сына Гіляра:

„Конь мне прышоўся, а яму—стрыгун. Няцікавы будзе конь з стрыгуна. Аўчын было тры вырабленых і дзьве ў вырабатку. Дык мне дзьве

вырабленыя, а яму адна—і тая сыскаць. Я аддаў Бірку,—што ў выработку. Мае хвацкія аўчыны: з аднае могуць выйсьці плечы без падточак... Пасудак падзялілі і так і далей. Абразоў не захацеў дзяліць. Так што ўсе мне дасталіся...“

Сваю гаспадарскую паважнасьць героі аповесьці „Межы“ захоўваюць заўжды:

„Хацелася проста такі пець (Анісю. *А. К.*). Але не запеў: — пасароміўся сам перад сабою—палічыў за нейкую нясталасьць“.

Нават у каханьні—і то гаспадарка ня можа быць забытай. Яўгень так успамінае першую сустрэчу з Макрынай:

„Колькі мы тады перагаварылі на гэтай мяжы! – Блукалі думкі Яўгеня.—Я тут даў ёй маё слова... Яна загарэлася тады, як парэчка, як іскра... *Я не скасіў канюшыны ў той дзень*“. (Падкрэсьлена мною. *А. К.*).

Каханьне, то каханьне, а канюшыны такі і не скасіў!

Між іншым цікава, што гэтыя ўласьніцкія інстынкты Баранавых усяліў і ў комуністага Гіляра. Той, калі разважае, ці ехаць яму на сельскую гаспадарку ў вёску з гораду, мяркуе: „Ці варта гэта, ці будзе якая *выйгранка*“ (Падкрэсьлена мною. *А. К.*).

Ён як і бацька, як і брат, любіць тую прасторнасьць, неабмежаванасьць:

„Прыдзецца глыбока пусьціць плугі—хоць-бы сабе і да жоўтапёску. Няхай, каб адразу відаць была шырыня і прасторнасьць“.

Дзесяткі больш дробных вобразаў і думак, раскіданых па ўсяму твору, дапаўняюць выражэньне ідэалізацыі гэтай гаспадарлівасьці. Да прыкладу, такі вобраз:

„Каровы—мацеры на ланцугох. Кожная сама-сабе *гаспадыня*“ (Падкрэсьлена мною. *А. К.*).

* * *

Вобразы, параўнаньні, эпітэты, мэтафары, увасабленьні і іншыя стылістычныя элемэнты аповесьці С. Баранавых узяты з сялянскага асяродзьдзя і, як ня трэба, лепш паказваюць, што асноўная ідэя аповесьці не змагла яшчэ падпарадкаваць сябе ўсё, аж да самых дробных элемэнтаў аповесьці, паказваюць, што творчасьць С. Баранавых яшчэ моцна зьвязана з уласьніцкім сялянскім нутром асноўных мас сялянства, ад якіх і ў перамаганьні гэтага ўласьніцкага нутра і разьвіваецца творчасьць пісьменьніка. Гэтыя стылістычныя элемэнты дапаўняюць выражэньне тэй ідэалізацыі гаспадарлівай устойлівасьці селяніна, якая яшчэ адчуваецца ва ўсёй аповесьці.

Вось прыклады.

„Прыежджы перш быў зморшчыўся, *як салоны агурок*“.

„Марудна было вышчаўкнуцца яму (рублю. *А. К.*) з Пракопавых рук—хоць і сьлізкі ён, як *апараная апёнка*“.

Як *прамочанае пласконьне* барада“.

Быў ня *выбеленага зрэб'я* дзень. *Пражаным бобам* па скаварадзе было неба. Пахла сырнягом хвоі ды елкі".

„Конь лопаў заднімі *капытамі-кубкамі*".

Найбольш мерна адкладаліся думкі *сартырсванымі пластамі*. (Гэта відаць па аналёгіі з сартырованым сенам).

„Сонца... пырскала—рассыпала... свае праменьні, нібы хто шпурляў з ветрам *жмені залацістае пшаніцы*".

„Сьпелыя *яблачныя* скроні.

Зоры былі падобны на самую патрэбную ў гаспадарцы рэч на „*расплясканыя цяжкім абухам малатка плешкі цалёвых цьвякоў*".

„Тонкай *хваёва-лапатлівай кары* — вусы... На іхным полі, калівы *іністага сухастою*". (Тут цэлы бор на барадзе...).

„Белых, *як часнок* зубоў".

„Выпускаючы з-пад цыбука люлькі сінія *стружкі* дыму".

„Ішоў, віўся дым цэлымі густымі *пасмамі чэсаных пласконьняў*".
„Яна (Макрына. *А. К.*) тады загарэлася, *як парэчка*, як іскра".

„Дзень быў асыпаны *густым яблычным цьветам*, мяккім пахучым". (Якая паўнакроўнасьць, сьвежасьць!).

„Сонца расплёхала свае *малако* па столе Цімохавай хаты, — густою лужынаю".

Такім чынам увесь вобразны матарыял аповесьці Сымона Баранавых адрозьніваецца надзвычайнай сьвежасьцю. У гэтых вобразах, як і ва ўсёй аповесьці С. Баранавых, так як і ў яго мове чуецца моцная зьвязанасьць пісьменьніка з рэальным і матэрыяльным сьветам, поўнакроўнасьць і глыбокае жыцьцё — адчувальнасьць. Ніводзін вобраз ня носіць абстрактнага, містычнага характару. Усе яны ўзяты з конкрэтных сялянскіх бытавых абставін. Мы заўважаем, што ўсюды пісьменьнік да таго канкрэтызуе свае вобразы, што нават абстрактныя зьявы матэрыялізуе, канкрэтызуе, зводзіць да прадметнасьці.

Гэтая якасьць, ёсьць якасьць здаровага па свайму нутру пісьменьніка, які трымаецца ў абсягу характэрнай сялянскай конкрэтнасьці прадметнасьці, які зводзіць усё ў тым ці іншым сэнсе не матарыяльнае, не канкрэтнае, не яснае—да матэрыяльнага, конкрэтнага, яснага, параўноўваючы ці выражаючы гэтае праз найбольш зразумелыя і блізкія яму вобразы.

Вось прыклады:

„Найбольш мерна адкладаліся думкі *сартыраванымі пластамі*".

„*Рабіновы холад* прабег па целе".

„Гняло неважта цяжкае... асядала прыкрасьцю *непрамерзшых рабінягод*".

„А бацька... адным звагам як *напільнікам па іржаваму жалезу, пільгокаў яе нутро* тупымі словамі".

„І запаліўшы зрэнкі сваіх вачэй *фальшывым сьвятлом начнога чарвяка*".

„А Макрына *тугімі часойкамі* слала свае думкі“.

Гэтае-ж выражаюць і такія вобразы.

„Бачыла як скрозь туман—то сям, то там, *чынілася па блакітнаму небу кужэльная хмарнае валакно*“. (Цэлы вобраз кросен на небе).

„Тады вочы зрабіліся *глыбокаю студняю*“.

„Глядзела Натальля косым зіркам... на яе *паўшыя расою* вочы“.

„І гэтае чаканьне было такім доўгім, такім ліпкім, цягучым, бесканцовым, *круглым як вобад*“.

„Радасьць клалася на сэрца шчыльным пластом нябачным, але *тугім упрасаваным*“.

„Пераказанае ў гэты вечар (на сходзе ў Аніса. *А. К.*) тырчэла струшанкаю“ (Якая канкрэтызацыя).

„Юстыніна *раскудзеленая* злосьць“.

„Пераскакваў цераз яе словы нібы цераз *лужыны з дажджавою вадою*“.

„Бляшнявы месяц шпурляў праз кутавае вакно свае *ватовае* сьвятло“.

* * *

У Сымона Баранавых вельмі часта прарываецца сваясаблівы сялянскі прыметывізм у ацэнцы паступкаў, зьяў, людзей.

Так прадстаўнік цэнтру, які прыехаў кіраваць перавыбарамі сельсаветаў, з пункту погляду гэтага сялянскага прыметывізму характарызуецца: „Прыехаў той чалавек, што *перавыбірае*“.

А вось з пункту погляду гэтага прымэтывізму „портрэт“ другога прадстаўніка „мусіць аж з акругі“—як піша Баранавых.

„*На ём кручком зробленая рудая рубашка.* (Бачыце, іншай назвы гэтае рубашкі аўтар ня ведае. *А. К.*). Валасы зачэсаны назад. Як гаворыць відаць сьпераду залаты зуб... Часамі гаворачы адымае ад стала руку. Тады трымае яе далоньню ўверх, чуток прыкурчыўшы пальцы. Нібыта штось важыць у руцэ—хоча вызначыць яго каштоўнасьць“...

У гэтых развагах чуецца часамі сумыснае сялянскае „упрощенчество“ і затоенае недалюбліваньне ўсяго гарадзкога.

* * *

У аповесьці С. Баранавых паказальна тое, што мова аўтара амаль не адрозьніваецца ад мовы яго дзейных асоб. Прыпомніце, напрыклад, поўнае сялянскага прымітывізму апісаньне чалавека „што аж з акругі“. На ём кручком зробленая рудая рубашка“ і г. д.

Ды і наогул пісьменьніцкія адступленьні і апісаньні ў аповесьці амаль зусім адсутнічаюць. Усюды яны замяняюцца мовай дзейных асоб.

Гэтая блізкасьць мовы пісьменьніка да мовы дзейных асоб інакш нельга тлумачыць як органічнай зьвязанасьці пісьменьніка тым соцыяль-

ным асяродзьдзем, якое адлюстроўваецца ў аповесьці, ідэолёгічным прадстаўнікам якога і зьяўляецца пісьменьнік.

У С. Барановых шмат архаізмаў, провінцыялізмаў, — зьвязаных з народнай мовай. У гэтых архаізмах і провінцыялізмах пісьменьнік аддае ўвагу найбольш поўнагучным словам, найбольш вобразным па сваім зьмесьце, калі можна сказаць, найбольш выразным, „ощутимым“.

Вось некаторыя з іх: *каструбаваты*, вымеджаны, *целегаваты, каржыкаваты*, на цямочку, адным звагам, *выйгранка*, ціхата, пухнуць з галадэчы, даць дыхту, зьбілі стрыбу, *у дныск*, паскарабачаны твар, адыхтар бацечка.

Або: віхлець, *убэўтаць*, закажанець, *збэрсаць, расьпятушыць*, балабосьціць, *кардылячыцца*, гнэньбіць (Мяне цёнгле будзе гнэньбіць думка), *залататахкае, падшыхаць* (Ахвота падшыхае), шэрхнуць, *ашалапуціць* (ашалапуцілі Лявона), *узьеглію, дрэнчыць, размажжэрыў, узьюзьдзіўся*, вар'юецца і г. д. і г. д.

Або: фанцінка (Сьціраецца, як сухой фанцінкай), гамарняя шафа, біло ложка, *менсянжовая* спражка, мучан (Штаны афарбаваны ў мучане), *атожылкі* (Пчолы смокчуць атожылкі), *шарачковыя* штаны, *канчар* (Канчар абламаной жордкі), *вісус*, пелюсьці начовак, *гнушка* (Крышыла на гнушцы), і г. д. і г. д.

З граматычнага боку, з боку пабудовы сказу — ня толькі ў мове дзейных асоб, але і аўтара ўсюды імкненьне да шматслоўя, у якім, як нам здаецца, ляжыць жаданьне найбольш поўна выразіць тую зьяву, якую апісвае пісьменьнік, думку, рэч—ахапіць яе як мага паўней. Вось, напрыклад, як пачынаецца сьпіс „калякціўшчыкаў“, „сочиненный“ Яўгенам:

С ь п і с. Грамадіян вёскі Брод, што захэцелі, каб разам працаваць *на сваіх гаспадарках* (На сваіх гаспадарках, заўважце. *А. К.*) калякцівам, знацца“... І далей ўжо ідзе сьпіс.

Таму-ж заўжды ў аповесьці сустракаем замест—сход пра калектывізацыю „Сход *нашчот* калякціву“, „Гутарка *нашчот* жняяркі“, „Гурток *нашчот* палітыкі“ (Замест політычны гурток).

Таксама ўжываецца замест — запісваецца ў колгас — „*Упісуецца* ў колгас“, альбо „Загадаў усім прыходзіць *на запісю*“, і г. д.

Акрамя таго, амаль усе сяляне ў аповесьці імкнуцца найбольш „весомо“, грунтоўна (Пагаспадарску...) выказаць думку і таму кожны з іх ужывае сваю прымаўку: Лявон Махавік—ета, Карпусь—нацца. Іншыя часта ўжываюць—от бок, нагліца—пача, пача—немач і іншыя.

У мове Сымона Баранавых як і ва ўсёй вобразнай сыстэме чуецца моцная зьвязанасьць пісьменьніка з рэальным і матэрыяльным сьветам. Ні жаднай адзнакі ўпадачнай хвараватасьці, няўпэўненасьці, адорванасьці ад сьвету рэальных рэчаў, сялянскага бытавога ўкладу.

Ва ўсіх вузка-фармальных элемэнтах аповесьці „Межы“ (стылістыцы, мове і г. д.) мы бачым, што яны пацьвержаюць думку, выказаную намі

раней. Ня гледзячы на тое, што па сваей асноўнай ідэі пісьменьнік Сымон Баранавых вядзе масу сялянства на соцыялістычны шлях разьвіцьця і ў сваей аснове яго творчасьць выражае гэту ідэю, аднак, у яго фармальных элемэнтах мы маем пэўную неадпаведнасьць іх гэтай асноўнай ідэі.

Адбіткі дробна-буржуазнай псыхікі на ідэолёгі і пісьменьніка—парадзілі гэту неадпаведнасьць у фармальных элемэнтах.

Такім чынам, мы бачым, што няжжытыя яшчэ дробна-буржуазныя рысы сялянскай псыхікі, ад якіх адштурхоўваецца ў сваім разьвіцьці пісьменьнік, сказаліся на агульнай ідэі твору і ў сваю чаргу гэтая недастатковасьць у выражэньні рэволюцыйнай ідэі—парадзілі тыя зрывы, якія мы маем часткова ў вобразах людзей у конпазіцыі, стылістыцы —твору.

5

Агулам аб аповесьці Сымона Баранавых „Межы“ можна сказаць.

Пісьменьнік хоць сваім асаблівым шляхам, але змог сапраўды давесьці і паказаць, што ідэя колектывізацыі на вёсцы перамагла, што асноўная маса сялянства—серадняцтва пайшло ў колгасы.

Перамагла думка, што:

„...Гэтыя вузкія межы... Колькі займаюць сабою поля бяздай патрэбы. Для таго займаюць, каб аддзяляць не разьдзеленае ніколі. На „маё“ і на „тваё“. Дык што-ж гэта такое „тваё“ і „маё“? Хто мае права называць так?“

Гэтая думка аб непатрэбнасьці аддзяляць „маё“ ад „тваё“—канчаткова перамагла.

Аднак, перад пісьменьнікам стаіць вялікая задача перамаганьня свае сялянскае абмежаванасьці, замкнутасьці здолець паказаць, як на вёсцы сапраўды паўстае кляса супроць клясы, даць кіруючую ролю партыі, рабочых гораду і беднаты, у колектывізацыі вёскі, тады сымофор на шляху да пролетарскай літаратуры для С. Баранавых будзе, бязумоўна, адчынены.

25/I 1931 г.

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* У БелАПП'е організавалася творчая група пад назваю „Ўдарны пост". У групу ўвайшлі таварышы: З. Астапенка, П. Галавач, А. Куляшоў, В. Маракоў, Б. Мікуліч, Ю. Таўбін, С. Шушкевіч.

Праз агульную творчую працу, вучобу, самакрытыку—група імкнецца вынайсьці агульны творчы напрамак, адшукаць творчы мэтод пролетарскай літаратуры.

* Групаю „Ўдарны Пост" праведзены шэраг заняткаў, на якіх былі заслуханы творчыя справаздачы В. Маракова, Ю. Таўбіна, З. Астапенкі, А. Куляшова. Гэткім парадкам будуць заслуханы ў бліжэйшы час творчыя справаздачы і іншых членаў групы.

* Група „Ўдарны Пост" прымацавана да трох менскіх прадпрыемстваў („Пролетары", „Эльвод", „Фармазавод").

* Члены групы „Ўдарны Пост" працуюць зараз над гэткімі рэчамі:

— *Платон Галавач* піша роман „Ён". У романе падаецца тып сучаснага падхаліма.

— *Зьмітрок Астапенка* і *Юры Таўбін* пішуць аповесьць „Тры Кругі".

— *Юлі Таўбін* піша поэму „Таўрыда" пра перасяленьне яўрэяў на зямлю ў Крым.

— *Валеры Маракоў* здаў у друк аповесьць у прозе. Працуе над новаю поэмаю.

— *Аркадзь Куляшоў* напісаў і здаў для надрукаваньня ў часопіс „Узвышша" поэму „Крыўда" (пра імпэрыялістычную вайну).

— *С. Шушкевіч* здае кнігу вершаў „Паходні".

— *Б. Мікуліч* піша аповесьць пра колектывізацыю і ўдзел ў ёй дваццаціпяцітысячнікаў.

* *Ал. Кучар* распрацоўвае артыкулы пра творчасьць Кузьмы Чорнага і С. Баранавых.

* *Анатоль Вольны і Максім Лужанін* напісалі колектыўную аповесьць „Сьмерць БНР". Пасьля надрукаваньня ў пэрыодыцы, аповесьць выйдзе асобнай кнігай. У аповесьці ўскрываецца контррэволюцыйная чыннасьць нац.-дэмократаў у Савецкай Беларусі.

* 2-га лютага ў Доме Пісьменьніка *Цішка Гартны* чытаў сваё новае апавяданьне „Напевы сірэн". Запрошаны былі пісьменнікі, нарысісты, выкладчыкі літаратуры, літгурткі заводаў і інш.

* 5-га лютага ў Доме Пісьменьніка адбыўся творчы вечар БелАПП'у. Чыталі свае творы: *Юлі Таўбін*—„Экзамен" (вянок вершаў), *Зьмітрок Астапенка*—Новыя вершы і *Аркадзь Куляшоў*—„Крыўда" (поэма).

Вечар прайшоў жвава, пры актыўнай аўдыторыі.

* Беларускі Дзяржаўны Вандроўны тэатр, пад кіраўніцтвам народнага артыста рэспублікі тав. Галубка, вярнуўся з падарожжа ў Койданава. У Койданаве тэатр працаваў на працягу 5 дзён і абслужыў пастаноўкамі раённы зьезд саветаў. Былі пастаўлены п'есы: „Дыктатура", „Ярасьць", „Гальштук" і іншыя. Тэатр наведала каля 5000 чалавек.

* На перавыбарчых сходах рабочых абутковай фабрыкі, зав. „Энэргія" фабрыкі „Беларуска" і іншых аднагалосна прыняты дадатак у наказ

новаму горсавету аб уключэньні ў дзяржаўны бюджэт сродкаў на ўтрыманьне тэатраў рабочай моладзі і пабудовы ў 1931 г. у Менску Дому ТРАМ-аў.

* 3-га лютага ў Менск прыяжджаў з Масквы вядомы нямецкі рэволюцыянэр, комуніст, пісьменьнік, герой ордэну Чырвонага сьцягу—тав. Макс Гельц.

Тав. Гельц наведаў Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва і рэдакцыю „Зьвязды“, дзе ў гутарцы з работнікамі рэдакцыі цікавіўся політычна-гаспадарчым і культурным жыцьцём БССР.

Тав. Гельц выдае некалькі сваіх твораў на беларускай мове.

* У сувязі з абсталяваньнем гукавога атэлье і пераходу часткі фабрыкі на вытворчасьць гукавых карцін, працаўнікамі фабрыкі праяўляецца вялікая зацікаўленасьць да гэтай справы. Практычна гэта выяўляецца ў рэальнай дапамозе ў абсталяваньні гукавога атэлье і г. д.

Паступаюць каштоўныя рабочыя прапановы, як, напрыклад, прапанова опэратара Амольча, т. Рабава аб здыманьні гука на абодзьвух канцох плёнкі з наступным яе разрэзам усьцяж, што дае магчымасьць няскладанага монтажу негатыву і расход плёнкі на гука-запісу ў два разы.

Гітэльсон П. робіць спробы па здыманьні ў гукавым атэлье не палуватным сьвятлом, а дугавым пры пераменным току.

Пасьпяховае завяршэньне спроб дасьць магчымасьць адмовіцца ад пакупкі за мяжою палуватных нітралямп.

* Гукавой лябораторыяй фабрыкі Белдзяржкіно распрацаваны, пабудаваны і выспрабаваны новы спэцыцыяльны тып сіхронных мотораў сыстэмы т. Ахотнікава, якія пры выспрабаваньні далі вельмі ўдалыя вынікі. Два моторы гэтае сыстэмы, будучы ўключаны ў розных мясцох адзінай трохватнай гарадзкой сеці, не патрабуюць ніякіх паміж сабою спэцыяльных злучэньняў, што дае магчымасьць карыстацца мікрофонам на месцы здыманьня. Запіс робіцца гуказапісваючым сацыанарам, як знаходзіцца на самай фабрыцы.

Гэта сыстэма мотораў значна больш выгодная і надзейная мотораў чужаземнай фірмы „Макс Левэ“.

* У другой палове лютага мяркуюцца вечары, прысьвечаныя дэмонстрацыі падрахункаў і вынікаў праробленай працы экспэрымэнтальнай лябораторыі фабрыкі Белдзяржкіно ў галіне гукавых кіно.

На гэтых вечарох мяркуецца па каз асобнай програмы, запісанай на вынайдзеным т. т. Ахотнікавым і Машковічам апарацэ і паказ тэхнічных пераваг і дасягненьняў вынаходкі, а таксама дэмонстрацыя самых апаратаў. Т. т. Ахотнікаў і Машковіч зробяць даклады.

Вечары адбудуцца ў Менску і Ленінградзе з удзелам прадстаўнікоў з усіх кіно-фабрык Савецкага Саюзу а таксама партыйнай, рабочай, пісьменьніцкай, тэатральнай і радыётэхнічнай грамадзкасьці.

* Прэзыдыум Беларускай Акадэміі Навук камандыраваў двох прадстаўнікоў у Кіеў на конфэрэнцыю па мовазнаўстве.

* Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук праводзіла з 25 па 30 студзеня „пяцідзёнку краязнаўства“.

Мэта „пяцідзёнкі“—выкрыць контррэволюцыйны нацыянал-дэмократызм у краязнаўстве, зьвярнуць увагу савецкай грамадзкасьці на вялізарную ролю краязнаўства ў соцыялістычным будаўніцтве і ўцягнуць у краязнаўчую работу шырокія масы працоўных гораду і вёскі.

* У Менск прыехаў прадстаўнік Цэнтральнага Кіраўніцтва Дзяржцыркамі тав. Мілавідаў для перагавораў з мясцовымі організацыямі аб пабудове ў Менску капітальнага цырку—кіно-тэатру.

Прэзыдыум Гарсавету згадзіўся з прапановай кіраўніцтва Дзяржцыркамі аб пабудове такога цырку 50 проц. кошту пабудовы бярэ на сябе кіраўніцтва Дзяржцыркамі.

# УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Загул Зьмітро (член „Західньоі України) рэдагуе і нанова перакладае для ДВУ поўны збор твораў Гэнрыха Гайнэ ў 6 томах.

— Рыхтуе да друку пераклады твораў Гётэ (у дзесяці томах) і творы Шыльлера (у 6 томах).

— Выдае шостую кнігу сваіх поэзій і прозаічны твор „Моя Одисея“.

* Гірняк Пятро піша аповесьць „Прообраз майбутнього“ з часоў імпэрыялістычнай вайны і савецкай улады на Заходняй Украіне. Здаў зборнік апавяданьняў у ДВУ, а таксама аповесьць пра партызанскі рух на Чарнігаўшчыне пад назваю „Слухай, Десно“.

* Стэпанюк Іван выпусьціў першы зборнік поэзій „Струмують дні“. Падрыхтаваў зборнік апавяданьняў.

* Ірчан Міраслаў — здаў у друк трэцім выданьнем аповесьць „Карпатська ніч“. Выданьнем ДВУ выпусьціў том выбранай прозы „Напівдорозі“ і трэцім выданьнем п'есу „Підземна Галичына“. Скончыў новую комэдыю „Золоті мішкі“.

* У вялікім мітынгу протэсту харкаўскіх рабочых, які адбыўся ў кастрычніку м-цы м. г., супроць крывавых падзей на Зах. Украіне прымалі ўдзел пісьменьнікі Заходняй Украіны з прамовамі і чыталі свае творы. На мітынгу выступала пісьменьніца М. Сопілка, якая ў дзень протэсту прыехала з Львову.

* Суполка „З. У.“ дзесяты нумар сваёй часопісі прысьвяціла апошнім крывавым падзеям на Заходняй Украіне.

Выдававецтва „З. У.“ друкуе асобнай кніжкай матэрыялы і дакументы пра фашыстоўскі тэрор на Заходняй Украіне. Друкуе вялікі зборнік пра гэтыя падзеі пад назваю „Кривава книга“.

* У лістападзе (м. г.) у Харкаве адбыўся пленум Міжнароднага бюро рэволюцыйнай літаратуры. У процэсе працы пленум аднагалоснаю пастановаю перайменаваў пашыраны пленум Міжнароднага бюро рэволюцыйнай літаратуры на Другую сусьветную конфэрэнцыю рэволюцыйнай літаратуры.

Пашыраны пленум МБРЛ быў склікаsuccessfully з трох важных прычын: небясьпека імпэрыялістычнай вайны; літаратурна-політычная; і трэцяя — тыя значныя дужа істотныя зьмены, што адбываліся ва ўзаемаадносінах між пролетарскімі і дробна-буржуазнымі рэволюцыйнымі пісьменьнікамі, зьмены, пераважна выкліканыя бурлівым ростам пролетарскай літаратуры на Захадзе.

На пленуме было больш за 100 чужаземных дэлегатаў і гасьцей — прадстаўнікоў 22 краін. Акрамя таго, на пленуме былі прадстаўнікі ад усіх пролетарскіх літаратур Савецкага Саюзу, аб'яднаных ва Ўсесаюзным аб'яднаньні асоцыяцый пролетпісьменьнікаў (УААПП).

Урачыстае адкрыцьцё пленуму адбылося 6-га лістапада ў тэатры „Березоля“ з удзелам прадстаўнікоў ад шырокіх кол грамадзкасьці Харкава, рабочых, чырвонаармейцаў і г. д.

Пленум адкрываў прадстаўнік Украінскай сэкцыі МБРЛ, адказны сакратар ВУСПП т. Мікітэнка.

На пленуме працавалі камісіі: нямецкая, англа-амэрыканская, балканская, француская і ўсходняя.

Работа пленуму адбывалася тыдзень і праходзіла ў баявой атмосфэры сталіцы Украіны.

Конфэрэнцыя абрала орган Міжнароднага Аб'яднаньня Пролетарскай Рэволюцыйнай Літаратуры—МБРЛ.

У прэзыдыум МОПРЛ увайшло 25 асоб: т.т. Авербах, Серафімовіч, Панфёраў, Селіваноўскі (РСФСР, Бэла Ілеш (Вэнгрыя), Бэхер, Мархвіца (Нямеччына), Анры Барбюс (Францыя), Ясенскі (Польшча), Мікітэнка, Тэрэшчэнка (УССР), Вуачыдзэ (Закаўказьзе), Ліманоўскі (БССР), Вакалаў (Баўгарыя), Навамескі (Чэха-Славаччына), Майкл Голд, Магіл (Амэрыка), Сяо (Кітай), Эліс (Англія), Канагата (Японія), Ляйцэн (Латвія), Джэрманэтто (Італія), Сэлям (Эгіпет), Акоп Акопян (Арменія).

Сакратарыят МОПРЛ абраны такі: Авербах, Бэла Ілеш, Ясенскі, Мікітэнка, Генэральны сакратар — Бела Ілеш.

Конфэрэнцыя скончылася пад лёзунгам: „Няхай жыве пролетарская літаратура! Няхай жыве компартыя! Няхай жыве сусьветная рэволюцыя!

* Выдавецтва „Літаратура і мастацтва“ выдала ў гонар пленуму БМРЛ зборнік, у якім прымаюць удзел усе ўдзельнікі пленуму.

Зборнік мае на мэце адзначыць гістарычную дату ў літаратурным жыцьці Украіны: Міжнародны Зьезд пролетпісьменьнікаў на Украіне.

Акрамя мастацкага матэрыялу зборнік складаецца яшчэ з такіх разьдзелаў:

1. Літаратурна-творчыя пытаньні; 2. Стан заходня-эўропэйскай пролетарскай літаратуры і 3. Уражаньні ўдзельнікаў пленуму ад прабываньня на Украіне і ў СССР, і ад сустрэчы з сав. пісьменьнікамі; 4. Агульна-палітычныя пытаньні (пролетарская літаратура і небясьпека вайны, фашызм і літаратура).

Зборнік выданы на двух мовах—украінскай і нямецкай.

* Па пастанове Другой Сусьветнай конфэрэнцыі Рэв. Літаратуры 16-га лістапада (м. г.) выпушчана „Аднадзённая Літаратурная Газэта“.

Матэрыял для газэты падалі ўдзельнікі 2-ой сусьветнай Конф. Рэв. Літаратуры.

Газэта выйшла 20 тысячным тыражом.

* 4-га сьнежня м. г. споўнілася пяць год з дня сьмерці поэта, аднаго з заснавальнікаў літаратурнай організацыі пісьменьнікаў „Гарт“ у Харкаве, рэдактара органа Усеукраінскага ЦВК „Вісті“—Васіля Блакітнага.

* Да 5-годзьдзя сьмерці В. Блакітнага в-ва „ЛІМ“ выдала сэрыю музычных твораў пад назваю „Слова Комуна“. У сэрыю ўваходзяць такія поэзіі В. Блакітнага: 1. „Слова Комуна“—дуэт, муз. Ф. Багданава; 2. „Бийте, бийте в залізні груди“—солё барытон, музыка Багданава; 3. „Повстанте“—солё бас, муз. Багданава; 4. „Молоді привіт“—масавы хор, муз. П. Новасадзкага; 5. „Барабаны б'ють“—мяшаны хор., муз. К. Багуслаўскага.

— Выйшлі з друку: „Родзянський пісенник“—вып. 1. Пісьні будівніцтва; вып. 2 — „Чавунний сьпів“; вып. 3—„Червоні дні“. 1 сэрыя муз. твораў па ліквідацыі прарыву: „В груди прорива бий“.

* Рэжысэр О. П. Доўжэнка быў у чатырох-месячнай паездцы за мяжу. Вярнуўшыся ў Кіеў, ён выступіў з некалькімі дакладамі пра пэрспэктывы кінематографіі.

* Упраўленьне „Украінфільму“ ўхваліла абслугоўваць украінскае насельніцтва Казакстану з выключна ўкраінскімі фільмамі. Усе фільмы—як мастацкія, гэтак і палітасьветныя—будуць надсылацца ў Казакстан праз Саюзкіно. Аддзел Саюзкіно ў сталіцы Казакстану Алма-Аце сыстэматычна будзе прысылаць Украінфільму хронікальны

матэрыял з жыцьця украінцаў Казакстану. Для украінскага насельніцтва Казакстану Укртэакіновыдавецтву даручана выслаць 30 бібліотэчак з выданьнямі фото, тэа і кіно.

* Фабрыкі „Украінфільму“ сыстэматычна здымаюць будаўнічыя работы на Дніпрэльстане, у Харкаўскім трактарабудзе, а таксама работу па адбудаваньні і мэханізацыі Донбасу. Акрамя таго, фабрыкі Украінфільму маюць прыгатаваць ня менш 5 карцін навучальна-інструктарскага характару пра мэханізацыю Донбасу, а фото-сэктар Украінфільму мае організаваць сетку фото-корэспондэнцкіх пунктаў, якія будуць фіксаваць асобныя моманты процэсу мэханізацыі Донбасу.

* Упраўленьне „Украінфільму“ ўхваліла выдаць масавую фото-часопісь для шырокага абслугоўваньня рабочых прадпрыемстваў і колгасаў. Часопісь намечана выдаваць у Кіеве, паколькі тут ёсьць адпаведная тэорытычная, навуковая, тэхнічная, організацыйная і мастацкая база.

* Упраўленьне „Украінфільму“ склікае ў пачатку 1931 году шырокую ўсеукраінскую сужэтную нараду. На нараду будуць запрошаны прадстаўнікі пролетарскіх пісьменьнікаў, рабкораў, асабліва Донбасу, Дняпропятроўску і інш. вялікіх прадпрыемстваў, а таксама вялікіх саўгасаў і колгасаў.

* Да 25-годзьдзя рэволюцыі 1905 г. Кіеўская кіно фабрыка выпусьціла пяць фільмаў: „Генеральная репетиція“ (рэжысэр Былінскі, сцэнарыст Олейнычанка, опэратар Шэккэр, мастак Каплуноўскі); „Чорні дні“ (рэжысэр П. Долына, опэратары Ю. Воўчэнка і В. Філіпаў); „Фата Моргана“ (рэж. Б. Цягно, опэратар Д. Дэмуцкі); „1905 г. в сатирі та карикатурі“—мульціплікацыйны каротка-мэтражны фільм-сатыра (сцэнары В. Дзевяткіна, П. Каца і В. Левандоўскага); дакумантальны фільм „1905 рік“, дзе паказваюцца гістарычныя месцы падзей і помнікі рэволюцыі 1905 году (рэжысэр М. Макоцінскі, опэратар І. Лозіеў).

* У сьнежні м-цы мінулага году ў Донбасе праведзен „Тиждень україньскоі кінематографіі“. Для ўдзелу ў дэмонстраваньні лепшых карцін украінскай кінематографіі ў Донбасе—у Донбас выяжджалі рэжысэры, опэратары і інш. адказныя працоўнікі Украінфільму.

* Адэская кіно-фабрыка ў бліжэйшым часе выпускае:

„Двобій“—іґравы фільм. Сцэнары Ятка. Тэма—клясавая барацьба на сяле з часоў грамадзянскай вайны і соц. рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Рэжысэр О. Штрымак, опэратар М. Топчы, мастак С. Сімашкевіч.

„Солані хлопцы“—поўнамэтражны іґравы фільм на тэму—удзел комсамольцаў у соцбудаўніцтве. Сцэнары М. Заца, рэжысэр Г. Тасін, опэратар М. Бальскі, мастак Худнякоў.

„Бавоўна“—паліт-асьветны фільм. Сцэнары С. Комара. Рэжысэр — Б. Дутэрштэйн, опэратор—Г. Гохштэйн. Збор бавоўны зазьняты ў Херсоне.

„Сіль“ — політ-асьветны фільм. Рэжысэр Ю. Харків. Опэратар В. Горыцын. Зьёмку выварной солі на заводах і здабываньне каменнай солі праводзілі ў Славянскім і на Арцёмаўшчыне.

* Сцэнарысты А. Зац распрацоўвае сужэты „Шрами“ на тэму—барацьба за падвышэньне якасьці продукцыі.

— Асыстэнт сцэнарнай майстэрні В. Мікалюк распрацоўвае сцэнары „Пролетар“ на тэму—кулак на вытворчасьці.

— Асыстэнт П. Кучма працуе над сцэнарыем „Хто“ на тэму — тэхнічнае забесьпячэньне на вялікай вытворчасьці.

* У сувязі з заканчэньнем тэрміну міжнароднага конкурсу на проекты помніка Шэўчэнку ў Харкаве ў сьнежні (м. г.) адбылася вы-

стаўка проэктаў, на якой было больш за 100 экспонатаў. Бэгата проектаў паступіла з-за мяжы, асабліва з Нямеччыны.

* Да пленуму Міжнароднага Бюро Рэвол. літаратуры, які адбыўся ў лістападзе (м. г.) у Харкаве, Наркомасьветы разам з Таварыствам культсувязі з закардонам, разгарнуў быў рэпроспэкцыйную выстаўку ўкр. мастацтва.

Выстаўка была пабудавана так, што асобныя экспонаты праілюстравалі гісторыю разьвіцьця укр. мастацтва на фоне соцыяльна-экономічных і політычных процэсаў.

Матэрыял выстаўкі ахапляў разьвіцьцё украінскага мастацтва аж да нашых часоў і складаўся з твораў прасторавага мастацтва, мастацкай прамысловасьці, літаратуры і інш.

* Мінула трыццаць гадоў існаваньня Валынскага Дзяржаўнага музэю. У гістарычным аддзеле гэтага музэю ёсьць багата каштоўных экспонатаў з гісторыі Валыні, вялікія нулізматычныя колекцыі розных часоў з розных дзяржаў, портрэты вэявод, стараст валынскіх, рукапісы і іншыя матэрыялы, якія маюць вялікую гістарычную цікавасьць ня толькі для дасьледчыка Валыні, а і для шырокіх працоўных мас. У аддзеле мастацтва ёсьць 982 карціны. Шырока разгарнуў сваю работу геолёгічны аддзел, які абсьледваў каля 9.000 кв. кілёмэтраў плошчы Валыні. У ботанічным аддзеле ёсьць аранжарэя з багатымі жывымі расьлінамі з розных частак сьвету.

У ботанічным садзе ёсьць каля 150 розных іншакраёвых дрэў.

* Вяртаючыся за мяжу пасьля гадовага прабываньня ў СССР, наведаў Кеіў Ганэ Рэмэр. На Украіне Рэмэр сабраў матэрыялы пра сучасную песьню, карагоды, народныя гульні, чырвоныя гульні, чырвоныя вясельлі і інш.

Рэмэр запісаў каля 1000 народна-бытавых песень.

* Вытворчая мажлівасьць цяперашніх поліграфічных прадпрыемстваў Украіны не адпавядае тым вымаганьням, якія ставіць няспыннае ўзрастаньне культурнага ўзроўню мас. Таму СНК ухваліў з г. г. распачаць будаваньне ў Харкаве новай кнігаграфічнай фабрыкі.

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* Выходзіць у ГІХЛ з друку кніга выбраных пародый А. Архангельскага з шаржамі Кукрыніксаў і з прадмоваю Л. Аварбаха.

Комуна паэтаў МАПП падрыхтавала зборнік вершаў пра Чырвоную армію, які выпускаецца да гадавіны РСЧА.

Сэктар творчасьці народаў СССР ГІХЛ выпускае з друку кнігі нацпісьменьнікаў: апавяданьні М. Хвыльовага „Жыцьцё", роман Лопы Хан—„Падающий минарет" (другое выданьне).

Здадзены ў друк пераклады твораў украінскіх пісьменьнікаў: Мікітэнка — „Вухаганы"—зборнік апавяданьняў з быту бяспрытульных, Рачыцкі—„Шевченко в свете эпохі"—крытычны нарыс; Кірыленка—„Нацюк"—на тэму аб хлебанарыхтоўчай кампаніі і колектывізацыі на Украіне ў 1928—1929 г. і роман Яковенкі „Тры элемэнта"; Іван Ле—„Роман Межгорья" — пра соцбудаўніцтва ў Турксібе.

Рыхтуецца да друку зборнік выбраных вершаў украінскага поэты П. Тычыны.

* Выдавецтва „Фэдэрацыя" наметціла выпуск сэрыі аднатомнікаў „Старое и новое в литературных иллюстрациях". У гэтых зборніках будуць дадзены дарэволюцыйныя і пасьлярэволюцыйныя літаратурныя матэрыялы. Зборнікі будуць прадстаўляць адзіны твор па тыпу літмантажу: у іх увойдуць выбаркі з розных літтвораў і політычнага матэрыялу. Яны дастасованы ня толькі для масавага чытача, але і ў якасьці навучальных падможнікаў для школ.

* Выдавецтва „Фэдэрацыя" выпускае поўны збор твораў А. Серафімовіча.

У бліжэйшы час выходзіць з друку кніга Н. Ціханава „Кочевники" нарысы пра Туркестан.

Выходзіць з друку кніга В. Іцьціна—„Выход к морю" — пра морскую экспэдыцыю.

Выходзіць з друку — „Станица в огне"—П. Кофанава—пра соцбудаўніцтва.

С. Юрын выдае кнігу нарысаў пра колектывізацыю ў Крыме—„По нехоженной тропе".

Выходзіць з друку кніжка вершаў А. Чачыкава „Тысяча строк".

* ВОПКП выдае ўдарны літаратурна - мастацкі зборнік „Большевистская весна", прысьвечаны веснавой пасеўнай кампаніі. У гэтым зборніку прымуць удзел тт. Замойскі, Дарагойчанка, Батрак, М. Карпаў і інш. У ім будуць зьмешчаны апавяданьні, вершы, частушкі, абразкі, прысьвечаныя веснавой сяўбе. Выбрана рэдколегія ў складзе тт. Субоціна, Міхайлава і Тарпана.

Для ўдзелу ў веснавой засеўнай кампаніі на мясцох ЦС ВОПКП камандыруе шэраг таварышоў у розныя раёны РСФСР: Л. Коласа (Сярэдняя Волга), І. Батрака (ЦЧВ), Астрагорскага (Сібір) і інш.

У раёнах Масквы і вобласьці (Тула, Арэхава-Зуева, Падольск, Разань, Цьвер) з 1 па 8 лютага адбываўся пашыраны пленум райбюро МАПП і мясцовых АПП. У пленумах прымалі ўдзел рабочыя літударнікі, а таксама партыйныя, профсаюзныя і комсамольскія організацыі. Былі заслуханы даклады аб чарговых зада-

чах пролетлітаратуры, пра творчасьць рабочых літгурткоўцаў, аб працы райбюро МАПП і мясцовых АПП, справаздачы маппаўскіх творчых аб'яднаньняў і лепшых літгурткоў-ударнікаў, пра вопыт творчай працы на вытворчасьці.

Кіносэктар ЦС ВОПКП арганізаваў дзьве ўдарныя брыгады для працы над веснавым фільмам. Па прапанове цэнтральнай фабрыкі Саюзкіно распрацоўваецца тэма „От колхоза к коммуне“ (Агрогород).

Пры МАПП арганізавана беларуская сэкцыя, у якую ўвайшлі пролетпісьменьнікі: З. Бандарына, М. Гольдберг, Ул. Прыбыткоўскі, Губарэвіч і П. Шукайла.

2 лютага ў Маскве адчынілася Першая ўсерасійская конфэрэнцыя па дзіцячай літаратуры. Даклад на тэму „Дзіцячая кніга ў рэконструкцыйны пэрыод“ зрабілі тт. Крупская і Разін. Даклад пра політэхнічную кніжку зрабіў т. Розанаў, пра кнігу і падручнік—т. Сьвердлова.

Конфэрэнцыя адчынілася ў памяшканьні Маскоўскага Пэдагогічнага тэатру.

С. Мсьціслаўскі працуе над цыклам апавяданьняў з быту сучаснага Дагестану і над п'есай „Март“ (да 50-годзьдзя партыі „Народная воля“).

П. Нізавой канчае аповесьць „Полярнікі“ (радыё-станцыя на савецкай Поўначы); працуе над аповесьцю пра быт сучаснай провінцыі, скончыў кнігу нарысаў пра саматужнікаў.

К. Бальшакоў працуе над романам, які малюе пераход Чырвонай арміі з грамадзянскай вайны да соцбудаўніцтва.

П. Антакольскі падрыхтаваў да друку чацьвертую кнігу вершаў „Действующие лица“.

Ул. Кірылаў падрыхтаваў да друку зборнік выбраных вершаў.

Андрэй Новікаў скончыў аповесьць „Комбинат общественного благоустройства“.

Н. Ашукін у МТП выпускае з друку кнігу артыкулаў „Литературная мозаика“.

А. Чачыкаў працуе над перакладамі нацыянальных поэтаў; у Цэнтравыдаце выходзіць зборнік яго апавяданьняў „Коричневый бунт“ (на татарскай мове).

Аляксей Дзямідаў скончыў новы роман „Лес“, які малюе ўзорную лясную гаспадарку.

В. Іцын канчае роман „Страна будущего“.

К. Урманаў канчае аповесьць „Опрокинутая тишина“ на тэму пра колектывізацыю сельскай гаспадаркі.

Н. Чэртова піша апавяданьне „Лінотип“ пра работніцу з друкарні.

М. Кудраўцаў канчае апавяданьне „Кассир страха“ пра абываталяў, якія бачаць будаўніцтва соцыялізму толькі з акна.

М. Нікіцін працуе над аповесьцю „Пламенный кардинал“.

Г. Паўлаў скончыў аповесьць „Отделение Погодаева“ аб ударніках-чырвонаармейцах і працуе над апавяданьнем „Мистер Интервент“ пра новую ступень ударніцтва ў Чырвонай арміі ў дні процэсу над Рамзіным.

На заводзе імя Ўладзімера Ільліча адбыўся дыспут, арганізаваны літгуртком ударнікаў і прысьвечаны разбору кніг А. Ісбаха „Крушение“ і Б. Гарбатага „Наш город“. Выступалі рабочыя заводу, падкрэсьліваючы станоўчае значэньне абодвых твораў, паказваючы і на асобныя недахопы гэтых кніг. А. Ісбах расказаў рабочым літгурткоўцам, як ён працаваў над сваёю аповесьцю. Літвечар скончыўся выступленьнем паэтаў Ул. Лугаўскога і Ул. Наседкіна і рабочых поэтаў-літгуркоўцаў.

У клюбе ФОСП упяршыню ў Маскве быў нядаўна арганізаваны літаратурны вечар ленінградзкага чцеца Антона Шварца.

У сваю програму ён паспрабаваў укласьці гісторыю поэзіі XX стагодзьдзя. Першая палова програмы была адведзена сымбалістам. Першая частка програмы была дужа добра выканана Шварцам.

Другую частку артыст пачаў з кабацкіх вершаў Есеніна. Умела пададбранымі вершамі ён паказаў дваістасьць асобы Есеніна, які стаяў адной нагой у старым, другой у новым сьвеце.

Далей програма была пабудавана крыху дзіўна. Так, Шварц чытаў спачатку пролетарскіх паэтаў, потым лефаўцаў і закончыў конструктывістамі, як быццам лічачы іх найкоўшай літаратурнай плыньню.

Ён дужа добра прачытаў жартоўную „Гармонь", але ўжо „Трагедийная ночь" Бязыменскага пакінула жадаць лепшага. Маякоўскі таварышу Шварцу зусім ня ўдаўся. І ўрывак з „150.000.000" і „Во весь голос гучэлі, як дэклямацыя. Лепш за ўсё яму ўдаліся сымболісты конструктывісты і вершы Жарава.

У Дзяржаўным пэдагогічным тэатры 2-га лютага адбылося адкрыцьце 1-й Усерасійскай конфэрэнцыі па дзіцячай літаратуры. Конфэрэнцыю адкрыў прывітальным словам тав. А. С. Вышынскі.

Група піонэраў—дэлегатаў абласной конфэрэнцыі піонэраў і школьнікаў прачытала наказ пісьменьнікам. З прывітаньнем выступалі—А. Багданаў (ФОСП), А. Караваева (РАПП) і інш.

Рабочыя Опакаўскага трамвайнага парку выбралі ганаровым членам Маскоўскага савету румынскага пролетарскага пісьменьніка М. Кахана. Тав. Кахана—член кампартыі Румыніі з 1920 г., былы камандзір Чырвонай арміі Вэнгрыі ў 1919 годзе.

У лютым 1926 г. т. Кахана быў арыштаваны ў Румыніі і прысуджаны да 12 гадоў катаргі.

М. Кальцоў выбраны членам Моссавета ад колектываў трох выдавецтваў: „Огонька", Сельгасдзяржвыдавецтва і выдавецтва Мособлвыканкому.

Транспортны цэх заводу „Серп и молот" на сваім перавыбарчым сходзе ў Маскоўскі і раённыя саветы выбраў сапраўдным і ганаровым членам Маскоўскага савету Максіма Горкага, якому пасланы адкрыты ліст ад імя дзесяці з паловаю тысяч рабочых—„серпамолатаўцаў".

Сакратарыят ФОСП ухваліў мобілізаваць 120 пісьменьнікаў для непасрэднага ўдзелу ў правядзеньні веснавой сяўбы ў межах РСФСР і саюзных рэспублік. Літорганізацыям дана наступная разьвёрстка:

| | | |
|---|---|---|
| ВОПКП . . . . . | 40 | чалавек; |
| РАПП . . . . . . | 20 | „ |
| ВССП . . . . . . | 20 | „ |
| Усераскамдрам . . . | 20 | „ |
| „Кузьніца" . . . . | 10 | „ |
| „Перевал" . . . . . | 3 | „ |
| мясцком пісьменьнікаў . | 7 | „ |

Да перавыбараў Саветаў Гізам выпушчаны зборнік вершаў „Слово Моссовету",—гэта адзін з момантаў актыўнага ўдзелу пісьменьнікаў у кампаніі па перавыбарах саветаў. Выданы зборнік пад маркаю МАПП, але ў ім зьмешчаны рэчы і нямапаўскія: Н. Асеева, С. Кірсанава і інш.

Пачынаецца зборнік „Маршем ударника" венгерскага пролетарскага поэты А. Гідаша. Ударніцтва, соцспаборніцтва—асноўная тэма амаль усіх вершаў Н. Асеева, В. Гусева, М. Андрэева, Г. Тамашэўскай, С. Ліпкіна і А. Шуэйнберга. Акрамя таго ў зборніку ёсьць „Песня о металле" А. Жарова, „Кулак" Ул. Маякоўскага.

Адзіная прозаічная рэч—урывак з роману Ф. Панфёрава („Отчет в деревне"), таксама зьяўляецца ўдалым матэрыялам для чытаньня з эстрады. Сюды стасуюцца і поэма справаздачы „Стальная поступь" Сашы Краснага.

Асобныя строфы вершаў могуць быць з посьпехам выкарыстаны як лёзунгі ў час перавыбарчай кампаніі.

## ХРОНІКА ЗСФСР

### Грузія

* *Чхыквадзе П.*—пролетарскі пісьменьнік—напісаў вялікі роман у трох частках „Дырэктар трэсту“. Роман надрукован у часопісі „Пролетарулі Мцэрлоба“.

* *Машашвілі А.* — пролетарскі пісьменьнік і драматург—напісаў новую п'есу пра колгас.

* *Джуманідзэ С.* — пролетарскі пісьменьнік—напісаў п'есу з сялянскага быту.

* *Лорткінанідзе К.*—выдаў выданьнем Армендзяржвыдавецтва ў перакладзе на армянскую мову „Першая маці“.

* *Буачыдзэ Б.*—крытык — выдаў новую кнігу „Пытаньні рэконструкцыі мастацтва“.

* *Радзіані Ш.*—выдаў кнігу „Літаратурныя пытаньні“ (кніжка пра сучасную літаратуру).

* Гурток маладых пролетарскіх пісьменьнікаў, арганізаваны пры рэдакцыі газэты „Ахалгазрда Комуністы“ („Малады комуніст“), выдаў зборнік твораў комсамольскіх пісьменьнікаў.

* На дзесяцігодзьдзе савецізацыі рэспублік Закаўказьзя ўрад ЗСФСР ухваліў выдаць вялікую савецкую энцыклёпэдыю на грузінскай, армянскай і цюрскай мовах.

# ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

## Амэрыка

* Літаратурная прэмія Нобэля 1930 г. дасталася амэрыканскаму пісьменьніку Сінклеру Люіс. Сінклер Люіс (нар. 1885 г.)—адзін з выдатных мастакоў, раманістаў сучаснай Амэрыкі. Яго романы—гэта карцінная галярэя, дзе таленавіта пададзены быт і норавы Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў на сягоньня.

Першы роман Сінклера Люіса—гэта „Our mister Vrenn“ (1914 г.). Ужо гэты твор надзвычайна яскрава, рэзка і выгодна вылучае постаць аўтара сярод амэрыканскіх раманістаў.

Другім творам зьяўляецца—„The trail of the hawk“. (1915 г.)—гэта своеасаблівы варыянт авантурніцкага жанру, тыповога для амэрыканскага роману.

У трох наступных выдатных романах—„The Innocents“ (1917 г.) „Free Air“ (1919 г.), „Main strect“ (1920 г.)—пісьменьнік падае тыпы жанчын, якія змагаюцца за новае жыцьцё, задыхаючыся ў багне стандартызаванай вульгарнасьці сталіцы і асабліва провінцыі, дзе ўсё жывое і новае спатыкаецца гневам, абурэньням.

Затым ідзе шэдэўр Сінклера Люіса—„Babbit“ (1922 г.)—сынтэз усіх раней пройдзеных этапаў.

Гэты твор і здабыў сьмеламу, бязьлітаснаму мастаку, орыгінальнаму майстру стыля—Сінклеру Люісу прэмію Нобэля 1930 г.

Пасьля „Babbit-у“ Сінклер Люіс даў яшчэ шэраг твораў, як „Arrowsmith“ (1925 г.), „Elmer gantry“ (1926 г), „Theman who knew Covlidge“ (1927 г.) і „Godsworth“ (1929). Але гэтыя творы, як адзначае замежная крытыка, хоць і высокай мастацкай і соцыяльнай вартасьці, але ніводзіны з іх нельга паставіць вышэй „Babbit“.

## Нямеччына

* У Бэрліне (м. г.) вышаў роман Людвіга Рэна „Пасьля вайны“ („Noch dem Krig). У сваім артыкуле вядомы нямецкі крытык к. Вітфогель піша:

„Добры з пролетарска-рэволюцыйнага погляду роман мае ня толькі якасьць адбіваць сучаснасьць. Ён павінен, адбіваючы сучаснасьць, разам дапамагаць зьмяніць яе. З гэтага погляду Людвіг Рэн напісаў дужа добры роман.

* Вядомы драматург Эрнст Тольлер нядаўна напісаў і выдаў новую драму „Teuer aus den Fesseln“. Тэма—расстрэл у 1917 годзе маракоў рэволюцыянэраў Райхнетша і Кэніса.

* Аўтар роману „На заходнім фронце бяз зьмен“ Эрых Марыя Рэмарк выдаў аднача́сова на францускай, нямецкай, ангельскай і інш. мовах новы свой твор „Таварышы“ (Erich Maria Remargue Kameraden“). Гэты новы твор Рэмарка, таксама як і першы яго твор, падае жыцьцё франтовага салдата.

* Шырокавядомы ў рабочым коле поэт Поль Кёрнэр, які быў засуджаны на адзін год цытадэлі, адбыў свой тэрмін і меўся ўжо выйсьці на волю. Але замест гэтага ўлада замкнула яго ізноў у астрог, абвінавачваючы ў „рэволюцыйнай актыўнасьці“ як рэдактара рабочай прэсы.

* Нямецкі профэсар Е. Эльстэр апублікаваў дасюль невядомы артыкул Генрыха Гайнэ,—„Нямеччына і Францыя“; як заўсёды, нямецкі пісьменьнік з нянавісьцю піша пра тыранію і часткова пра жахлівыя дні панаваньня Людвіга XVIII і лютасьць Карла X.

* Фэлікс Майкэр у Лейпцыгу выдаў новым трохтомавым выданьнем крытычна апрацаваную Георгам Лассонам Гегелеву „Філёзофію рэлігіі“.

* На Франкфурцкім аукцыёне нядаўна прададзена карціна Стрындбэрга „На моры да ўсходу сонца“. Карціна датавана 5-га мая 1893 году. У той час Стрындбэрг жыў на самоце бліз мора і бачыў толькі рыбакоў.

* Вядомы рэжысэр Эрвін Піскатар падаў у Цюрынскі найвышэйшы суд скаргу на міністра ўнутраных спраў нацыянал-фашыста Фыха за тое, што той забараніў пастаноўку п‘есы „§ 218“. Суд разьвязаў справу на карысьць рэжысэра, зазначыўшы, што міністр ня ведаў зьместу п‘есы.

* Нядаўна ў Бэрліне адбыліся організацыйныя зборы „Lunge Volksbülme“—рэволюцыйнай часткі тэатральнага аб‘яднаньня „Volksbühne“, што знаходзіцца пад уплывам соцыял-дэмократаў. Новае аб‘яднаньне пачынае працаваць пад лёзунгам „Мастацтва—зброя клясавай барацьбы“ Програмную прамову агаласіў вядомы рэволюцыйны рэжысэр Піскатар

* „Чырвоныя рупары“ („Rotes Sprachrohr“—адна з лепшых пролетарскіх тэатральных організацый, якія ўваходзяць у склад „Саюзу Рабочых Тэатраў Нямеччыны“, сэкцыі „Міжнароднага аб‘яднаньня Рабочых тэатраў“.

Спэцыяльнасьць „Чырвоных Рупараў“—гэта т. зв. „Жывая Газэта“, якую яны колектыўна ствараюць. Тэкст цэлай п‘есы мусіць паўстаць, як рэзультат колектыўнага апрацаваньня проблемы ўсім колектывам, і мусіць быць насычаны палітычнай актуальнасьцю і служыць вызваленчым змаганьнем рабочых. Выступленьні „Чырвоных Рупараў“ маюць заўсёды популярнасьць і дужа ўплываюць на рабочую аўдыторыю.

Організацыя гэта, ня гледзячы на рэпрэсіі з боку ўлады, разьвіваецца надзвычайна шпаркім тэмпам, прыцягваючы шмат пролетарскай моладзі.

У самым Бэрліне працуе аж 6 розных колектываў („Rote Blusen“, „Kolonne links“, „Ketzer“, Stürmer“, „Nieter“ і інш.), якія сваю дзейнасьць моцна зьвязваюць з пролетарскім рухам.

Органам гэтых колектываў ёсьць „Rotes Sprachzohr“, што выходзіць штомесячна ў Бэрліне і падае лепшыя ўзоры іхніх п‘ес.

* У Кельне знайшлі партытуру опэры композытара М. Офэнбаха „Марыелла“; сюжэт—эпоха вялікай францускай рэволюцыі.

### Польшча

* Памёр Уладыслаў Оркан (Францышак Смэрчынскі)—трэці з выдатных сялянскіх пісьменікаў маладой Польшчы.

Оркан пачынаў літаратурную чыннасьць пад лёзунгам натуралізму і дакумантальнасьці з устаноўкаю на соцыяльную проблематыку.

Яго першыя творы, сабраныя ў двух томах пад назваю: „Novelle“ („Новэлі“) і „Nad urwskiem“ („Над прорваю“), досыць характарызуюць нэонародніцкую з соцыяльным напрамкам аўтараву тэндэнцыю. Аўтар паказвае соцыяльна-супольныя адносіны сялян.

У кнізе апавяданьняў Оркан выводзіць страшную долю сялянскага пролетара, нявольніцкую пакору безьзямельнага або малазямельнага сялянства.

У поэзіях-жа Орканавых, сабраных у томе „Ztejsmutneg Ziemi“ галоўным мотывам—нэндза горскага селяніна.

Вобразы і зьявішчы ў творах Оркана—гэта натуралістычныя замалёўкі, якія ідуць ад уласнага назіраньня.

Далей творы Оркана пачынаюць набываць тон соцыяльнай праграмнасьці.

Узмацненьне рэакцыйных настрояў сярод буржуяў пад уплывам падзей 1905—6 году знайшло моцны водгук і ў Оркана. Характарным для гэтага можа быць драматычны фрагмэнт—„Афера“, дзе аўтар падае з'ідэалізаванага земляўласьніка-дэмократа, шмат дбае аб сялянскай галоце.

Цэлую ідэолёгічную эволюцыю Оркана можна прасачыць на параўнаньні яго юнацкіх твораў з пазьнейшым, артыстычна вытрыманымі творамі. У пазьнейшых творах можна бачыць артыста, майстру буржуазнага эстэта, але колішняй шчырасьці ня знойдзеш.

Літаратурная рэакцыйнасьць ішла побач з рэакцыйнасьцю палітычнаю. У часе вайны Оркан браў удзел у пропагандзе організацыі легіёнаў.

### Югаславія

* У Белградзе з 1928 году выходзіць часопісь „Новая літаратура“. Сярод супрацоўнікаў гэтай часопісі ёсьць—Барбюс, Бэхер, Горкі, Сінклер, Серафімовіч, Вайскопф і інш.

У часопісі шмат падаецца перакладнага літаратурнага матэрыялу і артыкулаў па пэдагогіцы, гісторыі і інш.

* У Любліне пачала выходзіць на славянскай мове часопісь „Воля“.

* У Любліне організавалася Суполка рэволюцыйна - пролетарскіх пісьменьнікаў, поэтаў і журналістаў.

### Чэха-Славаччына

* У верасьні м-цы (м. г.) мінула дзесяць гадоў з дня ўтварэньня Цэнтральнага органу компартыі Чэха-Славаччыны „Rude Pravo“ („Чырвонае Права“).

З гэтае прычыны газэта 14 верасьня выдала юбілейны нумар. У ім шмат падана цікавага матэрыялу пра перасьледваньне газэты. За дзесяць год цэнзура выкрэсьліла 156.688 радкоў. Здаралася, што двойчы на месяц „Rude Pravo“ забаранялі. Акрамя таго, газэце давялося аплаціць паўмільёна крон штрафу і судовых выдаткаў.

* Рабочы тэатр Чэха-Славаччыны адсьвяткаваў першы „Дзень пролетарскага тэатру“. На мітынгу было больш 1000 рабочых.

*Рэдакцыйная колегія*: **А. Менскі, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот.**

*Выдавец*: **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЗЬМЕСТ

БДВ

ТЭЛЕФОН РЭДАКЦЫІ 17-09
ТЭЛЕФОН БЮРО ПАДПІСКІ 17-12

АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ і ПЭРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

# ПАДПІШЫСЯ НА 1931 ГОД

АДЗІНЫ Ў БССР ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВЫ ЧАСОПІС ТЫПУ ЛЕПШЫХ ІЛЮСТРАВАНЫХ ЧАСОПІСАЎ СССР

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА

## У „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ" НА ПРАЦЯГУ 1931 ГОДУ БУДУЦЬ ЗЬМЕШЧАНЫ

**АПАВЯДАНЬНІ:** Авалава, З. Бядулі, С. Баранавых, Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Каваля, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, К. Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**ПАЭМЫ І ВЕРШЫ:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Багуна, Алеся Звонака, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таўбіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**НАРЫСЫ І ФЭЛЬЕТОНЫ:** Бяліна-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Х. Шынклера.

**МАЛЮНКІ І ФОТО:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Волкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Мазэлева, Ул. Семянякі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых карэспандэнтаў.

УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" ДАЕ Ў ГОД: ЗВЫШ 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" БУДЗЕ ВЫСЬВЯТЛЯЦЬ: самыя шырокія праявы жыцьця, рэконструкцыйнага пэрыяду і магутнага соцыялістычнага наступу па ўсім фронце сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 к.**

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: аддзелам падпісных і пэрыядычных выданьняў БДВ, Менск, С[illegible]кая, 79, усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі пашто[illegible]а-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажывецкай каапэрацыі.